## У НУМАРЫ:





Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
При перадруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 06.05.2011. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 13,89. Тыраж 2504 экз. Заказ 1121. Кошт нумара ў розніцу 10000 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru** **http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**



# Прывітанне!

***Т**ак, я не ўпершыню вітаю вас, сябры, са старонак часопіса «Маладосць». Але першы раз — як галоўны рэдактар гэтага выдання. Калі мы рыхтаваліся адзначыць у гэтым нумары юбілей Барыса Сачанкі, я натрапіла на яго ўспамін пра першую сустрэчу з «Маладосцю» і яе галоўным рэдактарам А. Кулакоўскім. І прыгадала, як сама больш за дзесяць гадоў таму, саромеючыся, пагрукала ў дзверы кабінета Генрыха Далідовіча і Казіміра Камейшы — тагачасных кіраўнікоў часопіса. Успомніла, і як спяшалася на кожную сустрэчу з заўсёды ўсмешлівай, прыязнай Раісай Андрэеўнай Баравіковай. Яны сапраўды ўмелі выслухаць, даць карысную параду, пахваліць і нават пакрытыкаваць так, што хацелася пісаць лепш, цікавей, каб толькі апраўдаць давер тых, хто паверыў у твае здольнасці… Сёння я ўдзячная лёсу за тое, што ў мяне паверыла і кіраўніцтва рэдакцыйна-выдавецкай установы «Літаратура і Мастацтва». Мне лягчэй рабіць першыя крокі, таму што я ведаю, як ісці гэтым шляхам. Мне пашанцавала на Настаўнікаў. У «Маладосці» ёсць традыцыя адказнасці перад сваім аўтарам і сваім чытачом. Гэтая традыцыя падтрымліваецца, незалежна ад таго, хто займае крэсла рэдактара. Я не проста так вырашыла змясціць на вокладцы менавіта гэтыя радкі Барыса Сачанкі — Пісьменніка, Настаўніка і Журналіста. Для мяне яны — той маяк, які не дазволіць збочыць з правільнага шляху, нават тады, калі давядзецца выбіраць паміж тым, што правільна, і тым, што лёгка. Я таксама вучуся — напрацягу сваіх няпоўных трыццаці гадоў — быць Пісьменнікам, Настаўнікам і Журналістам. Ведаеце, што аб'ядноўвае гэтыя прафесіі? Уменне слухаць і… не баяцца: сваіх чытачоў, вучняў і герояў. Ужо з гэтага нумара вы можаце заўважыць пэўныя змены ў часопісе, пакуль невялікія, але патрэбныя, бо менавіта маладосць — самы прыдатны час для перамен! З другога паўгоддзя зменіцца не толькі нашая вокладка, але і напоўненасць часопіса. Галоўнымі застануцца творы маладых, але ў той жа час мы плануем больш увагі надаваць літаратурнай крытыцы і творчай вучобе, супрацоўнічаць з Інстытутам мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, часцей перакладаць з іншых моў і распавядаць пра падзеі ў сучаснай маладой літаратуры, а таксама гутарыць з маладымі творцамі і айчыннымі класікамі. Акрамя таго, мы ўжо зараз запрашаем вас да ўдзелу ў конкурсе, прысвечаным 120-годдзю Янкі Купалы і Якуба Коласа. Такім чынам, кожны нумар «Маладосці» мусіць адкрываць новую зорачку ў беларускіх літаратурных нябёсах, каб па выніках года пабачыў свет зборнік лепшых «адкрыццяў "Маладосці"». Калі ж у вас ёсць прапановы, то і вы, сябры, можаце прыняць удзел у тым, каб зрабіць часопіс яшчэ лепшым. Пішыце нам!*

*Да таго ж, вельмі радасна, што гэты месяц у беларускім літаратурным календары пазначаны юбілеямі: Барыса Сачанкі, Васіля Віткі і Міхася Башлакова! А значыць, у нас з'явілася нагода яшчэ раз перагарнуць старонкі іх кніг і ўявіць, як яны — таксама некалі ўпершыню — прыходзілі ў рэдакцыю часопіса «Маладосць»!*

*Вітаю вас!*

*Вашая Таццяна СІВЕЦ*



*Кірыл Сыцько нарадзіўся ў 1990 годзе ў Лідзе. Скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.*

Кірыл СЫЦЬКО

# НА ДАСВЕЦЦІ

* * *

Калісьці зрэзаў цноты ружу,
Ты быў шчаслівы, як дзіцё...
Карункі ў вокнах, звонку — сцюжа,
А тут — віно і забыццё...

І ты яе кахаў бязмерна
І мроіў: будзе так да скону,
І так аддана, шчыра верыў
Крывіцкай вернасці іконе.

Мінула два тысячагоддзі,
Сядзіш, углядваешся ў бель,
А сэрца думкай карагодзіць,
Што ружа зрэзала цябе...

* * *

Цяжка ўставаць на дасвецці.
Ў лужынах талай вады
Хай ненароджаны вецер
Цалуе твае сляды.

Можа, паставіш мне помнік
Там, дзе пастаўлены крыж?
Бачыш, змяшалася поўня
З пылам закінутых ніш.

Топяцца зоры з дасвеццем
Ў лужыне талай вады.

**СЫСУ**

Не сыдзе алкаголь з крыві —
Хутчэй, кроў сыдзе з алкаголю

І паструменіць па зямлі
Як сімвал сонца, ідал болю.

А творцам наймацней баліць
За ўсе пакуты Беларусі,
І смагу зноў не наталіць —
Старыя запякуць укусы.

І давядзецца ім сканаць —
Хто зоркаю, а хто — каметай...
Па Беларусі ўсёй стаяць
Як ідалы, крыжы паэтам...

* * *

Неба як джэм,
Намазанае на лусту хлеба.
Глядзі не парэж язык
Аскепкамі зораў,
Яны больш не жывыя —
Маленькія кавалачкі
Шкла ад елачных цацак,
Толькі цудаў не будзе,
Бо Дзед Мароз
Памёр.

Светлавое поле
Вакол пагоркаў
На салдацкіх могілках
Падкажа, што
Тут пахаваны
Бог...
...Выпі і спі спакойна...

* * *

Поўня. Слёзы на вейках. Імжыць,
І неба ў вечным палоне...
Рэжуць нажы
па псіхічнай мяжы
Халодным распадам палонія...

Ужо надакучыў
бліскучы
карніз,
Бо ён — бутафорыя сонца.
Устаў... Паляцеў... Толькі
Тварам уніз —
Па венах бруіцца
стронцый.





*Таццяна Стадольнік нарадзілася ў горадзе Докшыцы Віцебскай вобласці. Вучылася ў Барысаўскім педагагічным каледжы, пасля — у Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя М. Танка. Працавала настаўніцай, цяпер — карэспандэнт у рэдакцыі докшыцкай раённай газеты «Родныя вытокі». У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.*

Таццяна СТАДОЛЬНІК

*АПАВЯДАННІ*

# ВЫРАТАВАНАЯ КАХАННЕМ

*Восень хутка мяняла свой настрой.* То ўспыхнуць яркія фарбы пад промнямі сонца, то зашарэе, зашуміць за акном, і толькі дажджавыя бізуны шлёгаюць па шкле, робячы размытым усё наваколле, як на японскіх гравюрах. За такімі капрызамі прыроды Яна любіць назіраць. Скрыжаваўшы рукі і паклаўшы далоні сабе на плечы, ненасытна ўглядалася Яна ў цяжкае, як бы металічнае неба, лавіла вачамі маланку, што ўзмахвала за акном шырокімі крыламі, услухоўвалася, як шыпіць, захліпаецца вада, і неслася ў думках некуды далёка…

Іх знаёмства было нечаканым, але да смеху банальным. У перапоўненым аўтобусе сустрэліся позіркамі, перакінуліся некалькімі дзяжурнымі фразамі пра надвор’е і развіталіся, толькі адначасова крадком азірнуліся, каб паглядзець услед новаму знаёмству, усміхнуліся і пакрочылі кожны сваёй дарогай. Калі сутыкнуліся зноў на мітуслівай, люднай вуліцы, у вачах абаіх нібы ўспыхнула па сонцы. Размова закруцілася сама сабой, як быццам сустрэліся даўнія сябры. Ціхая прагулка па восеньскім парку, потым гарачая гарбата ў прыдарожнай кавярні, пяшчотны дотык яго моцнай рукі — і ўсё паплыло, закруцілася, панеслася ў нейкім несупынным беспаваротным бегу, сплятаючы словы, дыханні, думкі і лёсы.

Іх незямному каханню, здавалася, ніштo не перашкаджала: яна маладая рамантычная натура, у вечных пошуках эмоцый, ён сур’ёзны, статны, усім забяспечаны і нежанаты. Але чым мацней злучала іх пачуццё, тым большай трывогай і збянтэжанасцю поўніліся Яе вочы. Ён заўважаў гэта, але ў адказ на пытанні Яна толькі моцна-моцна прыціскалася да яго.

Тэрмін яго камандзіроўкі заканчваўся, заўтра яму трэба было вяртацца ў Салігорск. З Ёй пра ўсё дамовіліся: Яна звальняецца з працы, вырашае пытанні з продажам кватэры, і ён сустракае Яе праз два тыдні, у чацвер, на вакзале ў Салігорску. Гэты час цягнуўся для яго, здавалася, цэлую вечнасць, тым больш Яе разгублены голас у тэлефоннай слухаўцы, абарваныя фразы сялілі ў душы трывогу.

У чацвер Яна не прыехала… Яго мабільны стаў чырвоным ад бясконцых пустых гудкоў: Яна не адказвала. У гэты ж дзень ён ірвануў у Мінск у спадзяванні высветліць, што здарылася, але дарэмна. З працы Яна і сапраўды звольнілася, кватэру прадала і пакінула горад у невядомым напрамку, толькі наказала суседу, каб той перадаў чалавеку, які прыйдзе, што яе не трэба шукаць і што яна ўсё зрабіла свядома. Час нібы спыніўся для яго ў вечным чаканні. Ён сто разоў асудзіў і прабачыў Ёй, але ўсё роўна чакаў. Толькі праз два месяцы ў паштовай скрынцы знайшоў ліст без зваротнага адраса і зразумеў, што гэта ад Яе.

«Прывітанне, мой любы, — расплыліся ў вачах тонкія радкі. — Я разумею, родны, што прычыніла табе шмат пакут, але павер, я не магла інакш. Лекары сказалі, што я смяротна хворая. Колькі мне засталося, я не ведаю і ведаць цяпер не хачу. Я жыву толькі табой і дзякую табе за тое, што падарыў мне шчасце не думаць пра смерць. Я не магла быць з табою і бачыць, як ты пакутуеш ад немагчымасці мне дапамагчы, я не магла дапусціць, каб ты бачыў, як я згасаю на тваіх вачах, станаўлюся непрыгожай. І яшчэ адна навіна: я цяжарная. Упэўнена: Бог пабераджэ мяне дзеля дзіцяці. Яно — маё выратаванне. Каханне да цябе — мае лекі. Не хвалюйся: калі што, табе дадуць знаць, дзе яго знайсці. Прабач, іншага выйсця я не бачу. Не шкадуй мяне, я шчаслівая! Ты заўсёды са мной. Зразумей, даруй, калі зможаш. Не шукай...».

…За акном ужо пасвятлела. Нясмелае сонца асвяціла мокрыя кроны дрэў. Вераб’і пілі з лужын блакіт. Сцёбаючы доўгай галінкай па гэтых лужынах, па сцяжынцы весела шлёпаў маленькі хлопчык. «Вось нягоднік, і калі паспеў выскачыць?» — апрытомнела яна і пайшла хуценька клікаць сына.

Ён і Яна.

# ЗАЎТРА БУДЗЕ НОВЫ ДЗЕНЬ

— *Мама, мамацка, тата зноў будзе біцця?!* — прыціскаючыся да маці, перапуджаным голасам пытае хлапчук.

— Не, мой харошы, тата зараз будзе спаць, не бойся, — супакойвае Яна і сама не верыць у свае словы. — Заўтра будзе новы дзень і ўсё будзе добра.

Цалуе сына, ласкава гладзіць яго па галоўцы дрыготкай рукой. Малы пацiху засынае, уздрыгваючы кожны раз ад вар’яцкіх крыкаў у суседнім пакоі. Ён даўно ўжо прывык спаць пад такі «акампанемент». «Малы яшчэ, сон бярэ сваё», — думае Яна.

— Цябе не хвалюе, паскуда, што я буду курыць сёння? — прыблізіўся да дзвярэй дзіцячага пакоя п’яны крык. Яна выскоквае за дзверы, каб ён не пабудзіў дзіця, выскоквае на свае пакуты, пад брудны град абраз і пагроз. «Як дагадзіць яму сёння? Відаць, зноў надоўга».

— Я зараз збегаю, пазычу ў каго, не крычы, не будзі малога, пачакай.

Яна на хуткую руку накідвае куртку і ледзь паспявае выскачыць з хаты. Там, у хляве, Яна схавала дзве цыгарэты, на ўсякі выпадак (такое вынаходніцтва не раз выратоўвала Яе).

«Але ж, Божа, як не хочацца ісці ў хату. Перачакаць, можна крыху перачакаць, — прыходзіць у галаву выратавальная думка. — Малы спіць, толькі б не будзіў».

Ля хаты, у самай цемры, стаіць лаўка, на ёй добра, спакойна, не вельмі чуваць калючыя словы, што далятаюць з хаты. У Яе няма слёз, няма крыўды на яго, толькі

жаль, напэўна. Ён жа ведае, што Яна яго не кахае і ніколі не кахала... Як у тумане прайшло іх вяселле. Стаяла пад вянцом з адным, а бачыла другога: вось Яна ідзе і моцна сціскае руку маладога статнага мужчыны, Ён пяшчотна цалуе Яе ў скронь, не саромеючыся мінакоў; вось Ён кружыць Яе на руках, а Яна смяецца, смяецца… Ён быў заўсёды побач, той адзіны, надзейны, каханы. Ён быў… таму што страшная аварыя забрала яго ў Яе, таму што яго не стала.

А Яе жыццё не скончылася, не. Трэба было жыць, гадаваць сына — адзіную радасць, частачку незямнога кахання, што Ёй давялося зведаць, трэба было плаціць за кватэру. Трэба было — і Яна круцілася ў коле магчымасцей на выжыванне. Працавала на рынку, калі-нікалі дома рабіла эскізы рэкламных заставак (па спецыяльнасці Яна дызайнер рэкламы).

Яна і не заўважыла, як гэты, другі, уклініўся ў Яе жыццё. Бачыла яго некалькі разоў, па выхадных, калі прыязджала да бацькоў. Ён з'яўляўся ўсяго на нейкі момант, як прывід з таго жыцця, калі Яна была каханай, патрэбнай, самай найлепшай. З'яўляўся і знікаў, пакідаючы толькі балючую горыч ад гэтых сустрэч.

— Не выдумляй, дурніца. Ідзі, пакуль бяруць. Каму ты патрэбна з «хвастом», — не скупілася на парады маці. І Яна пайшла, хутчэй не пайшла, а Яе павялі, а Яна не пярэчыла. Хутка справілі вяселле — і вось Яна жонка чужога, нялюбага. Толькі потым Яна даведалася, што Яе новы муж — кадзіраваны алкаголік, нікчэмны, слабы чалавек, якому зусім не патрэбна была жонка, а толькі нянька і прыслужніца, якая будзе ўсё жыццё ўдзячна яму за тое, што не пакінуў Яе з «хвастом» на волю лёсу.

Холад цемры сціскае ўсё мацней. У хаце, здаецца, стала ціха. «Колькі часу прайшло? — Тры гадзіны — яшчэ нічога». Клямка на дзвярах не зачынена — ды Ёй і зусім сёння «пашчасціла». Ціхенька пераступаючы раскіданае па падлозе адзенне і рэчы, Яна пракралася міма яго ложка. Ён ляжаў нераспрануты, закінуўшы галаву, праз адкрыты рот вырываўся ненатуральны храп, які напаўняў пакой моташлівым перагарам. «Вось ён, прывід майго шчасця, — кальнула ў сэрца знаёмая думка. — Як выратаваць ад яго сына? Але нічога, заўтра будзе новы дзень… А зараз — спаць».

# САМАЯ, САМАЯ...

*Хто можа доўга адкрыта глядзець у вочы свайму дзіцяці?* Я вам зайздрошчу. Я толькі на імгненне, а потым — цяжка. У іх столькі чысціні і шчырасці, столькі веры ў маю дасканаласць, што баюся задыхнуцца ад страху быць выкрытай. Мілыя родныя блакітныя вочкі з хітрынкай. Глядзяць праніклiва, дапытліва. Колькі сілы ў іх, даверлівасці! Зараз расплачуся і прызнаюся, што я нашмат горшая за тую, якой сябе падаю.

Раніцай бясконца:

— Не круціся! Вазьмі правільна лыжку! Ну колькі паўтараць! Паглядзі, як я трымаю!

Хвілінай пазней:

— Прычашыся! Ну што за мурза! Паглядзі на маму!

Праз імгненне:

— Дзе партфель? Забыўся?! Канечне ж! Усё я павінна памятаць! Ну калі ж ты ўжо навучышся сачыць за сваімі рэчамі?

І наўздагон:

— Не шморгай нагамі! Папраў шалік! Глянь, цягнеш па зямлі пакет! О-о-о! Ну што за разява! І ў каго такі?

Адправіла! Ух! На працу.

Дзень пралятае ў хвіліну. І што новага? А нічога. Так не хацела — але абразіла. Так трымалася — але нахлусіла. Так ста（ралася — але ўсё ж улезла ў плёткі. Так стрымлівалася — але насварылася. Так спяшалася — а нічога не паспела! Не дапісана, не даздадзена, не выканана, на душы цяжар — не атрымалася. Ні ў справах, ні ў думках. Ну і што. Хто мне скажа, што я дрэнная? Ага, паспрабуйце! У мяне адукацыя! У мяне пасада! У мяне сям'я! У мяне сын!

— Ну як ты сябе паводзіў? Нармальна?! А чаму не добра? Восем?! А чаму не дзесяць? Пабіліся з Максімам!!! Вось гэта нумар! Будзеш пакараны! Мне за цябе сорамна! І тату ўсё раскажу. Ён табе пакажа камп'ютар!

Пад вечар ужо стамілася:

— Ідзі за стол, ну ко-о-о-лькі гукаць! У пакоі гармідар! Ану прыбярыся зараз жа і ідзі вячэраць! Не круціся! Не разлівай! Не крышы! Не…

— Дзякуй, мамачка, так смачна прыгатавала. Ты ў мяне самая лепшая! Я цябе люблю.

О, Божа! Ты зноў гаворыш са мной вуснамі майго сына.

…Не сціскай так моцна, анёлачак мой, я зараз задыхнуся. Не глядзі так, сынок, я зараз расплачуся. Заўтра ўсё будзе па-іншаму. Я пастараюся. Абяцаю. Ты такі яшчэ маленькі, але наколькі вялікі ў сваёй любові і шчырасці!

Схаваць вочы. Не бачыць. Пацалаваць у лоб — панацэя ад споведзі. Нельга! Шкада яго, не вытрымае расчаравання: мама ж самая самая... Без варыянтаў. Шкада сябе: хто ж яшчэ так наіўна будзе верыць у маю бязгрэшнасць.

А так хочацца, каб хто-небудзь верыў. Так працей верыць самой...



*Маргарыта Аляшкевіч нарадзілася ў 1985 годзе ў Мінску. Скончыла факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, там жа — магістратуру. Супрацоўнічае з газетамі «Універсітэт», «Звязда», друкавалася ў газеце «Літаратура і мастацтва», часопісах «Тэксты», «Маладосць» і іншых.*

Маргарыта АЛЯШКЕВІЧ

# СУСВЕТЫ РАСТУЦЬ, БЫ ГРЫБЫ ПАД ДАЖДЖОМ

* * *

Мне ў лесе стрэўся добры рыцар,
ён ведаў шлях і смешна падаў,
каб толькі пані не сумецца,
што пані пешка й вершнік — ён.
А потым ён вярнуўся ў цемру.
Нашто здалася мне карона?
У ёй няможна басаножыць
і ў вочы добрыя глядзець.

**МАРАКАТЫ-2**

Ёсць Божы дар — а ёсць і пакаранне
за ганарыстасць. Гэта як праз шкло
глядзець на торты — слінкай пацякло,
але не спраўдзіцца жаданне, паяданне.

І вось, табе дазволена глядзець,
і бачыць, і назваць інгрэдыенты —
а не куснуць! З танталавай дыеты
я вар'яцею — і муштрую хэнць.

**ПА МАТЫВАХ БІЛІ ХОЛІДЭЙ — «DETOUR»**

Будзе ўсё, як ты хочаш:
ты скажаш трываць — я стрываю,
калі б нават нябёсы ты мне перакладваў на плечы.
Хто памерае, спраўдзіць — мне то будзе ношкаю лепшай,
чым сусвет без цябе, поўны смутку ад краю да краю.

Будзе ўсё, як ты хочаш:
пакінуць ты скажаш — пакіну,
хай зямля і нябёсы сыдуцца ў даўгім пацалунку,
а хто супраць, хай змотваюць вуды й пакуюць клункі —
ты мой пан і сусвет, і табе я адзінаму вінна.

Будзе ўсё, як ты хочаш,
а скажаш — не будзе нічога
з гесперыдавых яблыкаў, хліпкіх карыятыд.
Безгаловай змяёй з гораў курчыцца ў долы дарога,
Ныюць сцёртыя плечы і сцёрты, пусты краявід.

* * *

Змяркаецца, і сонная дзяўчына
на рукі мне кладзецца, як лілея
на ціхую ваду. Святлее —
на вуду месяц вылавіў жуду.
З дзяўчынай на руках я гэткім чынам
Да раніцы, бы па вадзе, іду.
А зраніцы яна расплюшчыць вочы —
І нават «добры дзень» мне даць не схоча.

## (МІГРЭННЫЯ МЕЛОДЫІ)

Загула галава, нібы звон, нібы звон, апусцела,
каб званар малады тузаў нітку й язык балбатаўся.
Мой званар — як скала, і ля ног яго звонкія хвалі
пакідаюць дарункі марскія ды прагную пену.

Нарастае трызвон, нібы той, хто жыве на званіцы,
тоўстай мухай зялёнай заблытаўся ў зыкавы ніткі —
кожны выбрык званы забіраюць, ваколіцам кажуць,
аж пакуль тая муха бязвольна між іх не аціхне.

Неадчэпна гудзе галава, мне і звон, і званіца,
бяскрыдлатая бессань, што мухі падлічвае ў носе.
Хай званар, малады і прывабны, у галасе гэтым
не пачуе адзінага голасу, болю майго.

**ЛЕС-3**

Дзе сусветы растуць, бы грыбы пад дажджом,
ходзіць хлопец з касой, ходзіць хлопец з кашом,
нейкі дзядзька з вядром і шчэ з бензапілой —
ім хапае ўсім тром, іх цярушыць дажджом,
а мяне ў гэты лес не пушчаюць.

Ты прамочыш нагу, ты зламаеш руку,
там мядзведзь з берлагу, поўны вулеі вос,
разаб’еш сабе нос, абрасцеш, як какос,
ну, цішай (не магу!), мы грыбоў табе воз,
калі хочаш, прыдбаем, красуля.

Дзе сусветы растуць, там буцвенне і тхло,
там і плесня, і песень паўнютка вядро —
не маё, і шкада, бо маё быць магло.
На кірмаш ты пайшоў, нагой туп, грашмі хлоп,
а гандляр табе тыцне дулю.

Будзе мыся спяшацца па гонкіх ствалах,
будзе мокра зязюля куваць па складах,
будзе проса дажджу выспяваць у слядах.
Цішыня павучыных натчэ апранах —
штосьці спеліць, кагосьці чакае.

Надзея СТАТКЕВІЧ



***«...Найперш — станоўчае, прыемнае: рукапіс сведчыць, што ў яго аўтара, Надзеі Статкевіч, ёсць, як кажуць, іскра Божая, талент празаіка. Пра гэта сведчаць многія эпізоды, апісаныя свежа, неардынарна. Аўтар у дастатковай меры ведае і адчувае XVIII стагоддзе, у якім жывуць яго героі. Галоўнае, што раман ёсць. І ён аказаўся лепшы, чым, прызнаюся, мне думалася спачатку...»***

*Адам МАЛЬДЗІС*

# ПАПЯЛІШЧА

## *Раман*

*Надзея Статкевіч нарадзілася ў 1986 годзе ў вёсцы Арэхаўка Магілёўскай вобласці. Скончыла магістратуру гістарычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта. Цяпер — навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі. Друкавалася ў часопісе «Маладосць».*

### *УСТУП*

Дзень быў настолькі спякотны, што вуліцы Менска апусцелі і толькі ўвечары зноў павінны былі ажыць, напоўніцца звычайным бразгатам і гоманам. Такое надвор'е трывала ўжо другі тыдзень. Яшчэ не так даўно здавалася, што і марыць няварта было пра доўгачаканы дождж, але хмары, якія цяпер зганяў сюды бадзяга-вецер, пасля поўдня абяцалі выратаванне.

Адзінокая фурманка пад'ехала да будынка Менскай гімназіі і спынілася ля брам. Коні ленавата стрыглі вушамі ды адмахваліся хвастом ад надакучлівых аваднёў. Чалавек, які сядзеў у ёй, цярпліва чакаў, пакуль адчыніліся дзверы гімназіі, і на ганку з'явіўся юнак. Убачыўшы бацьку, ён замахаў рукамі і кінуўся з прыступак да яго. Мужчына прыгарнуў сына да сябе і доўга не адпускаў.

Старэйшы Офенберг быў моцнага целаскладу і даволі высокі. Яго валасы ўжо кранула сівое павуцінне, але ў чорных вачах яшчэ не згас агеньчык, што сведчыў пра моцную прагу да жыцця. Апрануты ён быў сціпла, як жыхар правінцыі, але ахайна. Ян быў вельмі падобны да бацькі. Пра такое звычайна гавораць: «Усе кропачкі пабраў». У яго быў той жа колер вачэй, русыя валасы і лёгкая смуглявасць скуры, толькі вось позірк іншы: дзікаваты, асцярожны і дапытлівы, як у ляснога кацяня.

Фурманка павольна пацягнулася ў накірунку Барысаўскага тракту, Ян жа зірнуў на небасхіл і сказаў бацьку:

— Загадай вазніцы паганяць: дождж хутка пачнецца.

Пасля ўздыхнуў і дадаў:

— Ох, каб і ў нас ім трохі палі памачыла! Як там у Клічаве? Усё добра?

Бацька кіўнуў і чамусьці заўсміхаўся.

Ян засмуціўся.

— Я нешта не так сказаў?

— Наадварот, я рады, што ты не забыўся на хатнюю навуку. Добрым гаспадаром будзеш.

— Такое не забываецца.

— Але ж Стэфан з два тыдні, як прыехаў дахаты, але пра гаспадарку ў мяне нічога і не спытаў. Важдаецца са сваімі чарцяжамі дзень і ноч, а іншае яго не цікавіць.

Ян засмяяўся:

— А памятаеш, як аднойчы павёз нас у Асіповічы, каб паказаць чыгунку? Вось з таго моманту вочы ў яго толькі гэтым і гараць. Цяпер інжынерам хоча быць, у Інстытут пры Імператары паступаць рыхтуецца. Гаварыў тое?

— Гаварыў.

— Ну ці ж гэта дрэнна?

Бацька схіліў галаву.

— Я справу Стэфану хацеў перадаць, ды, напэўна, ты будзеш працягваць маю працу[1].

Ян змяніўся.

— Я планую заняцца медыцынай, бацька.

Цэзара здзівілі словы сына. Ён ведаў пра захапленне юнака, але ніколі не думаў, што той возьмецца за гэта сур'ёзна. Ян жа нават і не збіраўся тлумачыць. Ён загадаў вазніцы спыніць каля кніжнай лаўкі, выскачыў і падышоў да шыльды. Да яго падскочыў юнак у форме гімназіста і незадаволена буркнуў на вуха:

— Офенберг, каб цябе распёрла! Колькі можна прымушаць сябе чакаць? Кіраўнік гуртка называецца! У цябе што здарылася?

— Я з'язджаю дахаты.

— У Клічаў?

— Так.

— А як жа гурток?

— Шмат хто з нашых раз'язджаецца, так што пакуль прапаную адпачываць. Спадзяюся, за некалькі месяцаў запал не пройдзе?

Тут да кнігарні падышлі два жандары. Юнакі пераглянуліся.

— Ужо год з часу замаху прайшоў, а гэтыя ўсё шнырaюць[2]. Брыдота! Ты, дарэчы, назву гуртка з хлопцамі абмеркаваў?

Ян нічога не адказаў, а ўзяў дубец і на пыльным гасцінцы напісаў словы «Kółko samokształceniowe».

Гімназіст прачытаў і кіўнуў у знак згоды.

— Мне падабаецца. Якраз тое, пра што і гаварылі на апошняй сходцы. Тады да сустрэчы.

— Бывай.

Ян ужо накіраваўся да фурманкі, калі раптам таварыш падбег да яго, схапіў за рукаў і шапнуў:

— Слухай, даўно хацеў спытаць. Я тут уведаў… Табе Нікадзім Офенберг кім даводзіцца?

---

[1] Цэзар Офенберг быў арандатарам мястэчка Клічаў Ігуменскага павета Менскага ваяводства (цяперашні г. Клічаў Магілёўскай вобласці).

[2] Маецца на ўвазе замах і забойства цара Аляксандра II у 1881 г.

— Дзядзькам.

— Ён пасля апошняга паўстання ў Сібір высланы, і частку маёнтка ў вас пасля спісалі, так?

— Адкуль ведаеш?

— Я і не такое ведаю. Гэта так, удакладніць хацеў. Ты, мабыць, праз яго такім стаў. Адвага, Афенберг, або мёд п'е, або кайданы трэ, га?

Ён больш нічога не стаў выпытваць і пайшоў прэч. Ян вярнуўся да фурманкі, зноў усеўся насупраць бацькі і сустрэў яго дапытлівы позірк.

— Хто гэта быў?

— Мой сябра.

— Та-а-к, а чаму ж не пазнаёміў?

— Прабач, ён спяшаўся. Ты ўжо быў у Завішаў[1]?

Цэзар пранікліва пагледзеў сыну ў вочы.

— Хочаш змяніць тэму размовы? Старога вераб'я на мякіне не ашукаеш.

Ян спахмурнеў.

— Не, проста пытаю.

— А ты ведаеш, што Іван непакоіцца за цябе? Ён падазрае, што ты ўдзельнічаеш у студэнцкіх хваляваннях.

— Яму падалося.

Бацька адмоўна пакруціў галавой.

— Не думаю. Ён разумнейшы за нас абодвух і больш асцярожны, але я перашкаджаць не буду. Ты мужчына і сам выбіраеш свой шлях... Між іншым, дзе твае рэчы?

— Стэфану аддаў. Пакінуў толькі падручнікі.

Ён наўмысна спыніўся, паглядзеў на бацьку і працягваў:

— Ты летась абяцаў, што распавядзеш пра гісторыю роду. Я хацеў бы нарэшце пачуць усю праўду.

Бацька памаўчаў хвіліну, пасля зняў з пальца правай рукі сыкгнет і падаў Яну. Юнак пакруціў яго ў руцэ і вярнуў.

— Ведаеш, што значыць слова сыкгнет?

— Пярсцёнак з радавой пячаткай.

— Так. Вось на гэтым — легенда роду Афенбергаў. Слова «афенберг» па-нямецку значыць «адкрытая гара». На срэбным полі нашага герба іх дзве, і яны ўказваюць на мясцовасць паходжання. Ты пра гэта павінен ведаць.

— Курляндыя.

— Менавіта. Наш продак, Іван Эбегард Фрэдэрык Юрый фон Афенберг, меў маёнтак Дайневічы ў Браслаўскім павеце. Па тэстаменту ён перайшоў да сыноў Дамініка і Сцяпана.

— Сцяпан пасля пераехаў у Рэчыцу і заняў пасаду скарбніка з падтрымкі свайго сябра менскага ваяводы Крыштапа Завішы.

— Правільна.

— Але чаму?

— Час быў такі... Палякі называюць яго «хатняй вайной». Пасля яе засталося папялішча на месцы Вялікага Княства Літоўскага.

Ён задумаўся і зноў паўтарыў:

— Канфлягратa[2]...

---

[1] Адзін з самых багатых і ўплывовых родаў Менскага павета, сябравалі з Афенбергамі.

[2] Папялішча (лац.).

— Раскажы.

Цэзар зрабіў паўзу і працягваў:

— Даўно гэта было. Хоць і моцнай была наша краіна, але падмурак быў з гнілля. Кароль, быццам лялька ў руках хітрага акцёра, танчыў на сцэне Рэчы Паспалітай, а магнаты і шляхта грызлі адзін аднаму горлы. Журботная, бы ў самотнай роспачы, чулася на прасторах краю песня жалейкі. Ты ведаеш гісторыю мінулага стагоддзя?

Ян кіўнуў і адказаў:

— Дзяржава тапілася ў бязладдзі…

## Частка I

1739 г.

Дзверы сянец адчыніліся, і туды ўвалілася ў мокрым ад снегу кажушку малое дзяўчо. Яно паволі пасунулася ў хату, дзе завіхаліся маці з бабуляй, і прабубнела:

— Матулечка, усё зрабіла! Калі?

— Пачакай, доню. Вунь ідзі да дзеда на печ пагрэйся. Мы мо хутка ўправімся.

Малая скінула лапці і пачала караскацца на печ. Там яна заўважыла старога, які сапеў пад вуркатанне коткі. Дзяўчына падсела да яе, схапіла хвост небаракі і моцна сціснула, ды так, што тая з лямантам саскочыла долу. Дзед прачнуўся, і Зуліся, як заўсёды, сваім дзіцячым паўкрыкам, папрасіла расказаць ёй казку.

— Вось жэўжык, а спаць калі буду? — прабурчаў дзед.

Але малая не сунімалася:

— Дзеду, а хто сёння прыйдзе? Мамка казала, што дзядкі.

— Дзяды, — выправіў стары. — Продкі нашыя прыйдуць. Твая матка з бабуляй сёння гатуюць вячэру, каб сустрэць іх і пачаставаць.

— Калі ж прыйдуць? — перапыніла Зуліся.

— Крыху пазней. Пойдзем, нас маці кліча.

Дзяўчынка шпарка саскочыла на падлогу і ўселася на лаву, а дзед патупаў у сенцы і адчыніў дзверы.

— Святыя дзяды, ідзіце сюды! — клікаў ён кагосьці з цемры.

Малая ж усё паглядала ў бок стала, дзе так смачна пахлі бліны з мёдам. Дачакаўшыся, калі дзед сядзе першы, Зуліся ўладкавалася і хуценька ўзяла адзін, але адчула яго позірк і страпянулася: «Во даўбешка, забылася пра канон! Дзед жа гаварыў з яго пачынаць вячэру! Вось ён зараз дасць за гэта лыжкай па лбе!»

Стары паківаў галавой і паставіў лучыну, прыпаленую ў печы, у келіх з зернем. Уся гэтая святочнасць захапіла дзяўчынку. Яна зачаравана сачыла за дзедавымі рухамі і словамі. Не пыталася ўжо, чаму ён зачэрпвае лыжкай з кожнай міскі і кладзе пасярод стала, чаму туды ж лье гарэлку, і пры гэтым гарыць лучына. Увесь час стары ўспамінаў памерлых продкаў, гаварыў з імі, раіўся. Бабуля і маці слухалі, што ён казаў, часам самі прасілі даведацца ў продкаў пра будучы ўраджай ці падсабіць з надвор'ем улетку. Спачатку малая слухала ўважліва, але потым, забыўшыся на ўсё, пачала са смакам есці бліны. Даведаўшыся, што ежа пасярод стала продкам, малы зух лыжкай зачарпнула кашы і вываліла ў кучу:

— Я таксама хачу пачаставаць дзядоў!

Наеўшыся, дзяўчынка саскочыла з лавы, падзякавала і пашыбавала да палацяў. Зморaная, Зуліся ўскочыла туды і праз некалькі хвілінак ужо сапела носікам. Не чула яна, як котка шмыгнула на печ, зачапіўшы дзедавы лапці, і рыпнулі дзверы, ці то ад ветру, ці то ад таго, што, як і абяцаў стары, у хату завіталі Дзяды. Паступова святло ад лучыны згасла, а вугельчыкі ў печы пачалі смылець.

На двары ў гэты час разгулялася завіруха. Дзве постаці ішлі па замеценым ёй гасцінцы ў бок вёскі. Ад холаду меншы з падарожнікаў ужо не адчуваў лытак і механічна апускаў ногі ў гурбы. Здавалася, што яшчэ не выняў нагу з такога мяккага, але халоднага сумёта, а злы вецер з крышталікамі лёду ўжо паспеў яго зацярушыць. Нарэшце яны дакандыбалі да хаты на ўскрайку, і старэйшы пастукаў у дзверы. Спачатку ціха, а потым усё гучней і гучней ён ляпаў змерзлай далонню, пачакаў і пачаў грукаць ізноў.

Да дзвярэй падышоў хтосьці і, трошкі памарудзіўшы, адшчапіў крук. Яны са скрыпам расчыніліся, і чалавек убачыў старога, які стаяў на ганку з віламі ў руках.

— Хто ты? — спытаў ён. — І што табе трэба?

— Упусці нас, дзед. Наша фурманка зламалася, і больш ісці мы не можам, — прагучаў уладны голас.

Стары пачухаў патыліцу.

— Адкуль мне ведаць, хто ты такі. Шмат цяпер па нашай зямлі ўсякіх немцаў ходзіць.

— Пачакай, халоп, пакажу і нямчура, і ляха! Ды гары яно гарам, толькі вазьмі хлопчыка, ён нічога кепскага не зробіць, — настойваў чужынец.

— Я не халоп! — раззлаваўся стары Тарас.

— Тады пусці нас, братэньку! — умольваў чалавек.

Было відаць, што ён вельмі непакоіцца за малога, бо той ледзь трымаўся на нагах. Чалавек злаваўся, крычаў на гаспадара, які ніяк не хацеў іх упусціць. Але калі стары паглядзеў на малечу, то прыгадаў сваю Зулісю і расчыніў дзверы:

— Уваходзьце…

Яны зайшлі ў сенцы. Там пахла пылам і капустай, якая была складзена тут у куце, бо ў склепе яе ў такое надвор’е захоўваць было нельга. Насупраць дзвярэй стаяў мех з яблыкамі, накрыты грубай ільняной коўдрай. Усялякія чыгуны, збаны і збаночкі, цэбры і ражка мясціліся на лаўках. Там жа стаялі вялікая ступа і жарнавы, на сцяне віселі лазовыя лапці, кошыкі і сушаныя травы.

Хлопчык так змёрз, што не мог расшпіліць кажух і вінавата лыпаў чорненькімі бліскучымі вачыма, спрабуючы сцягнуць з рук мокрыя, аблепленыя снегам і кавалачкамі лёду рукавіцы. Мужчына спрытна пачаў завіхацца каля яго, не звяртаючы ўвагу на зледзянелыя пальцы. Ён узяў рукі малечы, дзьмух на іх і расціраў ва ўласных вялізных мядзведжых далонях.

— Можаш яго занесці на печ і сам застацца там, а я пайду спаць на палаці, — са спачуваннем сказаў дзед, зірнуўшы на хлопчыка.

Чужынец усміхнуўся, узяў у ахапак малога і панёс да печы. Там ён асцярожна паклаў яго на дзяружку, нагрэтую ад камянёў, памацаў лоб, каб не было хоць жару ў малечы, і шапнуў:

— Спі, Феліцыян, спі. Цяпер Зюзя не дастане нас.

Малы не чуў гэтых слоў. Стаміўшыся ад цяжкага падарожжа, хлопчык адразу заснуў. Шляхціц жа яшчэ доўга варочаўся і ўздрыгваў.

Вецер суняўся, і на двары ціха падаў снег. Светлае акенца было адзіным маяком у наваколлі, але і агеньчык знік, калі дзед пагасіў лучыну. Змрок ахутаў абшар.

* * *

Зулiся салодка пазяхнула і расплюшчыла вочы. У хаце было цёпла ад натопленай печы, а смачны пах варанай капусты прыемна казытаў нос. Дзяўчынка счула хаду маці, якая спяшалася хутчэй управіцца, каб потым не выходзіць на марознае паветра, і нечы незнаёмы голас. Ён зацікавіў малую, і тая, на дыбачках, каб не нара-

біць грукату і не спужаць незнаёмца, вызірнула з-за сцяны. Незнаёмец сядзеў за сталом. Перад ім стаяла капуста ў алавянай талерцы, мяса, хлеб і келіх з медавухай. Госць жа з апетытам згрызаў з косткі мяса і паспяваў яшчэ ўстаўляць слаўцо-другое ў размову з гаспадаром, які плёў кошык.

— Ух і смачная ў вас медавуха! — крэкнуў Офенберг. — А вяндліна сама ў роце тае!

— Частуйцеся, — адказала Адарка.

— Я б еў і еў, гаспадынька! Ды з вялікай яды няма вялікае наўды: не забагацееш, ды запузееш.

— А ты паскачы, братка, а пасля зноў пачастуйся! — пакпіў стары.

— Ужо я табе братка, а з вечара яшчэ гаварыў, што нямчур, — рагатаў чужынец, — я ж тутэйшы, толькі прыехалі мы сюды здалёк. От, стары пень, неўзлюбіў мяне!

— Не крыўдуй. Не разбярэш жа ў поцемках, — апраўдваўся дзед.

— Не, пачакай, не мані, — паківаў галавой чужынец. — Вось праўду скажы: каб я яшчэ слова якое ляпнуў, пагасцяваў бы паміж вачэй тымі вілкамі? Ух, стары чорт! Ух, каб ты імі рыбу на тым свеце лавіў!

— Святыя бацечкі, ці я наўмысна?

— А то не! За тое цябе пан Езус на нябёсах яшчэ пажурыць ды медавухі не дасць.

— Ну прабач. Давай абдымемся!

— Давай!

Дзед саскочыў са слончыка і адкінуў кошык, а госць споўз з лавы, ледзь не зачапіўшы чыгун, і абодва пачалі божыцца, што цяпер яны будуць таварышамі, і «сам чорт іх не зможа развесці або пасварыць».

Жанчыны пасмейваліся з іх размовы, але не ўмешваліся. Цётка Адарка мяшала свінням, а старэйшая гаспадыня стаяла каля печы і падкладвала сушняку, каб паставіць пячы буракі і нагрэць вады для госця. Яе спрытныя пальцы хутка перабіралі ад рэштак бацвіння рэпу, якую пасля склала ў чыгун і заліла вадой. З-пад хусткі на маршчыністы твар старой выбіліся сівыя валасы. Тыя пасмы яна ўвесь час запраўляла за вушы кулаком, каб не расцерці па іх попел, у які былі запэцканы тонкія высахлыя рукі.

Зуліся непрыкметна пазірала з-за печы і сама ледзь не кісла са смеху: такі дзіўны быў гэты чужынец. Ён сядзеў на маленькім слончыку і разглядаў дзедавы кошыкі. Гледзячы на яго, можна было упэўніцца, што не перавяліся на зямлі волаты. Рукі Сцяпана былі амаль у два разы таўсцейшыя, чым ножка таго ж слончыка, а шырокія моцныя плечы падужаліся б і з дубам. Маленькія вочкі хаваліся за пульхнымі шчокамі, але адтуль ззялі, смяяліся, хоць у іх глыбіні ўсё ж была туга.

Увесь час чужынец размахваў рукамі, штосьці спрабуючы растлумачыць, і моршчыў лоб, калі жартаваў. Адзеты ж быў па-дарожнаму, але не як звычайны пілігрым. Гэта быў шляхціц, пра што сведчылі шабля і стары сыкгнет, што блішчэў на руцэ.

Офенберг нешта апавядаў пра знаёмага шляхцюка, якому «пад мухаю» (дарэчы, выжлукціў, напэўна, не адзін келіх медавухі) «давялося сустрэцца з гусаком, а ён, ёлуп, падумаў, што курыца, і пачаў дражніць. Потым уцякаў ад «чортавай птушкі» аж за тры вярсты, пакуль яе не з’еў сабака. Толькі чамусьці па апісанню той пасвіўся на лузе і меў дужа моцныя, бы з камення, капыты…»

Тут Зуліся не вытрымала і зарагатала. Звонкі дзіцячы смех ляцеў, як птушка, па хаце, адгукаўся ў кожным куточку. Незнаёмец спачатку не зразумеў, што здарылася, але потым убачыў яе і сам схапіўся за жывот.

— Што гэта тут за мыш такая з’явілася, га? Пакажыся! Ну, чаго рагочаш, птушанё малое?

Зуліся падышла бліжэй.

— Ух, якая лялька-прыгажунька! Мабыць, добрая будзе нявеста. Вось глядзі, праз год дзесяць буду ў цябе на вяселлі скакаць ды медавуху піць, — жартаваў дзядзька.

Дзед зірнуў на іх і паклікаў унучку.

— Зуліся, ідзі снедаць, а потым пакорміш цялё.

Малая ўселася на лаву, падсунула міску і пачала сёрбаць капусту, шыбуючы нагамі пад сталом.

— Зуліся, я што табе казала? — гукнула дзяўчынку маці. — Зноў чарцей на назе гушкаеш? Вось паселяцца ў хаце і будуць на цябе злыя сны насылаць!

Дзяўчынка супакоілася, але толькі на кароткі час, бо ёй было цікава: як гэта нячысцік сядзіць у яе на назе, але такі лёгкі, як аблачынка.

— Эт, не крыўдзіце мне малую, — заступіўся чужынец. — Чорт усюды, дзе ёсць медавуха, толькі ж бабы надта баіцца. Ёсць у мяне для цябе падарунак, лялька!

Чалавек злез са слончыка і пацёгся да свайго клунка. Там з кракталнем пачаў шукаць штосьці.

— Цьфу ты, кадук яго пабяры, во схаваў! — пракрактаў ён.

— Дзядзечка, не плюйцеся, — засмяялася дзяўчынка.

— Чаму ж гэта?

— Нельга. Дзед гаварыў, што як плюешся, то ў пекле будзеш лізаць катлы.

— То мана!

— Не. Ён учора, калі галавешка з печы ўпала, сказаў, што госці будуць, а вы тут сядзіце — значыць праўда.

— Ну добра. Паверу, бо жаніцца з магілай не надта хочацца, — рагатаў чужынец. — Але глядзі сюды, — і ён выняў гліняную свісцёлку. — Купіў для Феліцыяна, але ён цяпер не грае.

Шляхціц паднёс яе да вуснаў і падзьмуў. Прыгожая і журботная мелодыя напоўніла пакой, быццам заспявала, заплакала птушка.

— Трымай, гэта табе.

Зуліся асцярожна ўзяла цацку, нібы тая жывая і можа зляцець з далоняў. Птушка была прыгожа размаляваная фарбамі: на крыльцах стракацелі чырвоныя і чорныя пёркі, зялёны хвосцік тапырыўся, як у пеўня, а шыйку мастак аздобіў жоўтым колерам.

— Прыгожая. А вясёлыя песенькі яна ўмее спяваць?

— А то як жа. Няхай Феліцыян табе лепш пакажа, бо ў мяне не атрымліваюцца. Ён так і гэтак можа.

— Дзе ж ён?

— Напэўна, пабег кудысьці ў лес. У вас такія прыгожыя мясціны, а дубравы аж з нябёсамі шэпчуцца!

Зуліся накінула кажушок і выбегла на двор.

— Вось зух малы! Бач ты, паляцела. Гора мне з ёй: якое хлапчо як дзяўчо, а гэта дзяўчо як хлапчо. Ну, няхай сабе бяжыць. Святая Магдалена[1] яе апякунка: без бацькі расце з братам.

Ён апусціў вочы і зноў прыняўся плесці кошык.

[1] Марыя Магдалена з’яўляецца апякункай дзяўчынак-сірот.

* * *

Калі малая адчыніла дзверы, то не ўтрымалася і заплюшчыла вочы. Снег ззяў на сонцы так ярка, што было цяжка на яго глядзець. Маленькія сцежкі, прачышчаныя дзедам праз намеценыя гурбы, вялі да хлявоў, веснічак і на вуліцу. Дзяўчынка з надзеяй зірнула ў бок склепа, дзе ў яме пад навесам звычайна спаў сабака. Там нікога не было, бо Туган збег яшчэ тры дні таму і не вярнуўся. Дзед казаў, што той быў стары і пайшоў паміраць у лес, але Зуліся не хацела даваць веры. Яна яшчэ ўчора ўвечары, каб не бачыла маці, лазіла ў падпечак і марна гукала Тугана. Дзяўчынка сумна паглядзела і пайшла па сцежцы на вуліцу.

Дзве спуджаныя сарокі зляцелі з яліны, калі ўбачылі яе. На другім баку гасцінца каля студні стаяў нехта і ўважліва разглядаў яе.

— Чаго лыбішся? — незадаволена буркнула Зуліся. — Ты Феліцыян?

— Так, — усміхнуўся ён.

Офенберг падышоў бліжэй да студні і паклаў далонь на лёд, які намёрз там ад пырскаў з вядра.

— Не глядзі туды, там Жалезная баба[1] жыве. Вось зацягне да сябе…

Феліцыян засмяяўся:

— Смешная, як жа яна мяне схопіць? Не дацягнецца сюды.

— Падскочыць і схопіць сваім жалезным круком. Мне дзед сказаў, каб не падыходзіла блізка.

— Маніш! У нас гавораць, што Жалезная баба ловіць дзяцей, якія заходзяць адны ў палі і агароды, каб ірваць боб ці гарох.

— Не, яна сядзіць у студні!

— Дурніца, кажу табе, што яе там няма!

— Сам дурны. Я параіцца хацела, а ты тут цвялішся. Каб цябе кот узбрыкнуў!

Зуліся пакрыўджана надзьмула шчочкі і збіралася пайсці, калі Феліцыян схапіў яе за світку, каб затрымаць.

— Ды не крыўдуй. Што хацела спытаць?

— Як шчупак за нос цікаўных кусае. Адчапіся!

Яна пабегла па сцежцы ад студні, але не ўтрымалася на лёдзе і ўпала. Феліцыян падбег да яе і дапамог падняцца.

— Пабілася?

— Лытка баліць, — паскардзілася малая. — Учора яшчэ горай было, калі з зэдліка ўпала. Матуля сказала, што мяне Божачка пакараў, бо раніцай гарлач з малаком разбіла. Толькі тады котка нашкодзіла, а я атрымала бярозавай кашы.

— Нічога, я тваёй котцы хвост за гэта скручу. Пойдзем да таго камня. Ты трошкі пасядзіш, і боль сціхне.

З гэтымі словамі ён узяў яе за руку і павёў да вялізнага шэрага камня, які ляжаў недалёка ад студні. Зуліся ўселася на крайчык і паклала далоньку на халодны камень.

— Гэта фурманка маладых.

— Ты пра што?

— Мне дзед расказваў. Аднойчы гэтым гасцінцам праязджалі фурманкі з вяселля. Паніч закахаўся і насуперак волі бацькоў захацеў ажаніцца. Асабліва лютавала маці: увесь час кляла дзяўчыну, бо мусіла заручыць сына з іншай. На гэтым месцы яна паабяцала нячысціку душу, каб толькі не было вяселля. Затрымцела полымя, і фурманкі ператварыліся ў камяні. Вунь глядзі, ляжаць шэрагам адзін за адным.

[1] Персанаж беларускай міфалогіі.

— А што з людзьмі?

— Усе ператварыліся ў ваўкалакаў. Ходзяць цяпер каля вёскі зграяй з апушчанымі галовамі. Выюць, каб хто-небудзь зняў праклён, бо хваробы іх не бяруць.

— А як расчараваць?

— Гэта складана. Калі ўбачыш іх, то зайграй на скрыпцы вясельную песню або перакінь суконны пояс ці граблі.

У гэты момант гаспадыня паклікала малых, каб не мерзлі больш на двары.

У хаце было цёпла. Сцяпан з дзедам сядзелі каля агню і, убачыўшы дзяцей, узрадаваліся:

— А вось нашы жэўжыкі! Вы дзе так доўга былі? Мы ўжо думалі, што ў пекла праваліліся. Ідзіце да нас, пагрэйцеся і дайце нагам спакой.

Дзеці падышлі да печы. Зуліся першая ўселася каля яе і пачала глядзець на полымя. Феліцыян прымасціўся каля яе і таксама назіраў, як танчылі гарэзлівыя агеньчыкі на галавешках.

— Ды нікуды сёння не пойдзеце, — працягваў угаворваць стары госця. — Зараз сцямнее. З рання трэба было збірацца.

— Паедзем, — настойваў Офенберг. — Жывым не быць, калі час згублю!

— Табе што, дождж за карак ілье? Забыўся, як учора малы ледзь не скалеў? Упершыню на Асяніны такі мароз, быццам зіма пачалася. Не паспееце да змяркання дайсці да бліжэйшага мястэчка.

Пан зіркнуў спадылба, і дзед зразумеў, што хоць той нічога і не скажа болей, але зробіць па-свойму.

— Слухай што, — вымавіў ён. — Збіраўся паехаць праз тыдзень, але дапамагу табе, бо хлопца шкада. Паеду заўтра ў Кулішкі і давязу вас да мястэчка, а там ужо знойдзеце фурманку.

— Гэта мне падабаецца! Так бы адразу! — ажывіўся той.

Гаспадыня паклікала мужчын да стала і паставіла груцу, а малым пачала пячы аладкі, бо тая рошча, якую яна замясіла для хлеба, выбегла з дзяжы.

— Зуліся, не сноўдайся пад лапатай, — прыкрыкнула яна на дачку, якая шмыгнула, каб дастаць місу з мёдам. — Расці не будзеш. Бяры вось аладкі ды частуй госця.

Дзеці дзялілі аладку пароўну і ласаваліся, мачаючы ў мёд. Выбіралі соты, клалі ў рот кавалкамі і жавалі так, што трашчала за вушамі. Пад’еўшы, яны выцерлі рукі і палезлі на печ. Там было цёпла ды ўтульна, але цёмна. Прыемна пахла сушанымі грушкамі і яблыкамі, з якіх зімой гаспадыня варыла смачны ўзвар. Стаяў мех з гарбузовымі семкамі, дзедавы лапці ляжалі ў куце, а каля іх котка ўладкоўвалася спаць на клунку з курынымі пёркамі. На сцяне віселі мяхі з цыбуляй, аборкі і старое рыззё.

Дзяўчынка запрыкмеціла котку і паглядзела на Феліцыяна. Той зразумеў яе позірк і пачаў ціхенька падкрадвацца да жывёліны, якая не бачыла іх змоўніцкіх поглядаў і працягвала мыцца. Яе прыгожая карычневая шэрстка з бела-жоўтымі плямамі ўся была ў пыле. Відаць, дзесьці ў кутку злавіла мыш і цяпер, сытая, прыбіралася. Хлопчык падцягнуў да сябе пусты мех. Крадучыся, ён на момант затаіўся, потым знянацку падскочыў і накінуў на котку, а Зуліся хуценька завязала аборкай.

Дзікі лямант падняўся ў хаце, быццам там сядзела не адна котка, а сто звар’яцелых чарцей. Мех пачаў падскокваць і вішчаць. Спуджаныя дзеці адхінуліся, а ён зваліўся з печы на падлогу. Падбегла маці і развязала аборку, а спалоханая котка выскачыла і знікла ў падпечку.

— Зуліся! Я цябе ў казіны рог скручу! — закрычала жанчына. — Чаго цябе чэрці дрэньчаць?

Дзед з госцем рагаталі, а малыя спужаліся і сядзелі ў кутку, як мышы пад мятлой.

— Глядзі мне ў наступны раз! — пагразіла ёй маці. — Зачыню цябе ў склепе з пацукамі, пашкадуеш тады.

— Ніколечкі! Яна мяне драпае ды шыпіць, — апраўдвалася дзяўчынка.

— Цётка Адарка, гэта я, — стаяў гарой за сяброўку шляхціц, — не лайцеся на Зулісю.

— Бог бацька, ведаю, хто шкоднік. Яна кожны раз ёй на хвост становіцца, а тут з мехам выдумала!

— Не, гэта я! — настойваў хлопчык.

— Хопіць, лепш кладзіцеся спаць. Сіл маіх не стае на гэтае дзіцё!

Зуліся ледзь не плакала. Феліцыян падсеў да яе і пачаў супакойваць:

— Што гэта вы тут шэпчацеся? — пачуўся голас старэйшага Офенберга, які, крэкчучы, поўз на печ.

— Справы ў вас швах. Ну і выдумалі сабе забаву!

Феліцыян узрадаваўся яго з'яўленню.

— Татка, раскажы Зулісі байку. Толькі смешную, каб больш не плакала, — папрасіў хлопчык.

— А думаеце, нашто я сюды залез? Пра што хочаце пачуць?

— Я пра ведзьмакоў люблю, — шморгнула носікам малая.

— От, якая спрытная! А слёзкі твае дзе? Ужо згубіла? Што б вам такое пра ведзьмакоў? Во, ведаю! Дык слухайце...

* * *

Феліцыян прачнуўся, бо нехта тармасіў за плячо.

— Падымайся хутчэй, толькі не пабудзі Зулісю — шаптаў Сцяпан малому, які сонна лыпаў вачыма. — Едзем…

Сані стаялі запрэжаныя, і дзед Тарас аглядаў папругу. Каля яго сноўдаўся госць, якога зацікавіла распісаная дуга.

— Садзіцеся ўжо ў сані, паедзем, — запрасіў гаспадар.

Цётка Адарка падскочыла да яго з вярэнькай.

— Бацька, гэта на дарогу. Там хлеба паклала, вяндліны ды цыбулі, а малому сушаных чарніц — не еў жа з ранку.

Стары ўзяў лубяны кораб і паклаў пад сена.

— Прынясі бараніцу, няхай ногі закрыюць.

Жанчына прынесла вялікае аўчынае пакрывала і захутала ім хлопчыка.

— Цёпла?

Той кіўнуў галавой.

— Грэйся, доўга ехаць…

Дзед развярнуў каня на двары і павёў да брам.

— А каб цябе воўк, дарогі не бачыш?! — вылаяўся ён, калі сані зачапілі слуп ад паркана.

Калі сані мінулі брамы і выехалі на гасцінец, стары заскочыў у іх і тузануў лейцы:

— Но-о, косю! Каб цябе!

Праз нейкі час яны заехалі ў лес. У гэтым некранутым каралеўстве марозу гулялася сонейка. Быццам россып дыяментаў, бліскацеў снег, а вакол стаяла такая цішыня, што можна было пачуць, як рыпяць пад капытамі мільярды сняжынак. Усё навокал: дрэвы, кустоўе, імшастыя пні ды бугры спалі моцным вусцішным сном.

Раптам елкі і сосны расступіліся, і вялізная паляна адкрылася вачам. Пасярод, як напамін пра штосьці страшнае, стаяў крыж.

— Што гэта? Могілкі? — спытаў Сцяпан.

— Ды не, вёска раней тут была, якую шведы спалілі, — адказаў дзед.

А потым дадаў:

— А можа, расейцы, бо палілі і рабавалі не горш. Старыя людзі казалі, што так яны шышоў[1] вынішчалі.

Ён трохі памаўчаў і зноў пачаў распавядаць:

— А колькі расейцы пазганялі нашых халопаў і рамеснікаў да сябе. Яны нават пасля падпісання міру люд не вярнулі: вёскі пустыя стаялі[2]. Кажуць, сталі нашы мужыкі халопамі іх халопаў[3].

Стары плюнуў і працягваў далей:

— Я гэтую вайну не памятаю, бацька ўсё расказваў. А вось іншую, калі ў хаўрусе разам з расейцамі супраць шведаў ваявалі, добра ведаю. Гэтыя шведы трохі дзіўныя. Ніколі не чуў, каб нашы жаўнеры з сабой жонак у войска бралі[4]. Хіба нельга самому порткі памыць? Мы аднойчы да лагера з хлопцамі падкраліся, каб паглядзець на іх жанчын. Аж бачым — ідуць да рэчкі з бялізнай, сакочуць па-свойму, а як убачылі нас — завішчалі. Ну, мы лахі пад пахі і дадому.

Дзед пачасаў бараду.

— Шмат курганоў у нас пасля засталося. Кажуць, там шведы пахаваны. Хто пасмялей, нават капалі, ды нічога не знайшлі. Старыя шапталіся, што шведы былі чараўнікамі[5]. Нашы мужыкі куды збожжа ні закапаюць, каб ім не аддаваць, усё роўна знаходзілі. Ай, цьфу ты, каб іх! Ну, чаго маўчыш, вазьмі вярэньку і пакармі сына.

Сцяпан дастаў хлеб, адламаўшы кавалак і падаў Феліцыяну. Хлопчык адкусіў і адчуў у роце гаркаваты прысмак.

— Хлеб з жалудамі? — спытаў Сцяпан, які таксама пакаштаваў акраец. — Цяжкі год сёлетні?

— З іх. Але ў нас гавораць: «Не бяда, што ў хлебе лебяда, а бяда, калі хлеба няма». А каб цябе! Ледзь цягнешся, воўчае мяса! — прыкрыкнуў ён на каня.

— А коней я добра даглядаю, дык пан Незабытоўскі прыняў да сябе. Пчол трымаю і не галяк. Бочачкі, кашы з лубу раблю, дачка з жонкай дапамагаюць, мне

---

[1] Так называлі партызанскія атрады падчас вайны 1654—1667 гг. з Расеяй. Па загадзе 1658 г. маскоўскія жаўнеры ў Прыдняпроўі цалкам спальвалі вёскі ў партызанскіх зонах.

[2] У чарговым трактаце 1672 г. пасля Андрусаўскага замірэння асобныя пункты агаворвалі вяртанне шляхты і вызваленне мяшчан, купцоў і рамеснікаў, але ніводным словам не згадвалі сялян.

[3] Разасланыя па ўсім царстве, беларускія шляхціцы і мяшчане неслі службу ў самых далёкіх астрогах Сібіры, а вывезеным з Беларусі сялянам і ліку не вялося. Іх сялілі ў малалюдныя раёны і пераводзілі ў халопства. Адзін толькі баярын Барыс Марозаў вывеў у свае вотчыны пад Маскву тысячы беларускіх мужыкоў з сем’ямі, зрабіўшы іх халопамі ўласных халопаў.

[4] Войска Карла XII было бадай што адзінае ў тагачаснай Еўропе, у складзе якога вялікая частка афіцэраў хадзіла ў паходы разам з жонкамі і дзецьмі.

[5] Падставы для веры сялян у чарадзействы шведаў былі наступныя: з пачаткам кожнай чарговай вайны беларускі люд хаваў жыта ў так званых хлебных ямах. Але шведы добра ведалі законы тэрмадынамікі. Яны выходзілі раніцай і шукалі мясціны, дзе не было расы (жыта выдзяляла цяпло), потым капалі і заўсёды дакладна знаходзілі схаванае зерне.

больш і не патрэбна. Сярмяга не знявага, а жупан не вялікі пан. Беднасць не адбярэ ў чалавека ні годнасці, ні розуму.

— Ат, жыццё розных гасцінцаў падкіне. Мяне яно караваямі не частавала. Няўжо няма на свеце праўды?

— Некалі мо і была, але заржавела.

— А чуеш, братку, як наша зямелька енчыць? Мая Айчына далёка, але я палюбіў гэты край, як родны, бо тут так хораша, быццам жыў сам Бог. Жыў, але пакінуў… Нашто? Хіба тут яго не любяць? Паглядзі ўвечары на неба, там убачыш знічкі. Гэта імёны вашых славутых людзей. Калі жыве памяць пра продка, то яго імя зіхаціць на небе, а калі забылі — зорка падае, бо нашчадкі ўжо не ведаюць, кім быў і што зрабіў для Айчыны. Дык ведаеш, братку, кожную ноч бачыў, як падаюць вашы знічкі. Гэта згубіць народ, таму заклінаю: памятайце, рабіце ўсё, каб не знікалі. Хоць лавіце іх на далоні і прыбівайце туды цвікамі. Разумееш? Калі заходжу ў цэрквы, там стаіць безліч свечак. Не магу глядзець на іх, бо здаецца, што гэта капае не воск, а льюцца слёзы.

— Час цяпер іншы, не тое, што ў мае гады. Памятаеш, братэньку, як пры каралі Яне Сабескім жылося? Той быў добрым гаспадаром.

Сцяпан згодна кіўнуў галавой:

— Праўду кажаш. Гэта не Сасы[1]. Адзін быў «нямым д’яблам» — нічога не разумеў і не гаварыў па-нашаму. Другі дурань. Гаспадарства наша ледзь шведам і расейцам не прадаў. А трэці — пудзель у парыку, якога цяпер трываць даводзіцца, са сваімі французскімі выбрыкамі паноў пры двары на вушы паставіў. Упартаму і дурному хоць кол на галаве цяшы, а ён усё сваё.

— Дык гэта не самая вялікая бяда, васпан. Народ яго не хоча ўжо слухацца, а магнаты даўно за роўнага не лічаць. Радзівілы, Агінскія сабе, а Пацы, Вішнявецкія, Сапегі і іншыя, не пералічыш, на сябе цягнуць, рвуць край на кавалкі. А на сеймах што робіцца?! Гэта наша пагібель, чуе маё сэрца.

— Сплюнь, братку, будзем прасіць Пана Бога, каб змілітаваўся з нас. Бо калі Айчыну страцім, то ў слязах патонем.

Офенберг уздыхнуў і павярнуўся да хлопчыка.

— Табаку носам важыш? Паспі, ехаць доўга.

Хлопчык зашыўся ў мяккае пахучае сена, і праз некаторы час звёў вочы. Снілася малому лета, водар рамонкаў на лузе і спеў жаўрука. А там, высока-высока ў небе, ляцеў бусел. Зямля пад моцнымі крыламі была поўная жыцця, маладосці, а бусел ляцеў і ляцеў…

* * *

Данута выйшла на двор і ўзяла ў рукі начоўкі з бялізнай. Вузкая пакручастая сцежка бегла да ракі. Дзяўчына пакрочыла па ёй, уважліва гледзячы пад ногі, каб толькі не наступіць на гадзюку, што любілі выпаўзаць сюды і грэцца на сонейку. Каля ракі сустрэла Зулісю, якая рвала крапіву ў кошык. На шыі ў яе віселі каралі з ягад арабіны, якія, напэўна, зрабіла зусім нядаўна, налыгаўшы на тонкую і моцную травінку чырвоненькія бусінкі.

Недалёка хадзілі дзве дзяўчынкі і збіралі кветкі ў букет. Кожная старалася знайсці прыгажэйшую, чым у сяброўкі, хутка зрывала, падбірала да букету і ішла шукаць новую. Рвалі нават чартапалох, хоць той няшчадна калоў маленькія пальчыкі, але надта ж карцела пахваліцца лепшым букетам.

[1] Дынастыя саксонскіх курфюрстаў на троне Рэчы Паспалітай.

Зуліся падышла да Дануты і кіўнула ў бок дзяўчынак.

— Як мы, калі былі малыя.

— А ты і цяпер не дужа вялікая, — засмяялася тая.

Зуліся надзьмулася, але раптам штурхнула за руку і прапанавала:

— Давай навыперадкі!

Не дачакаўшыся адказу, яна рванулася ўперад і паляцела да ракі. Па вузкай сцежцы праз крапіву, якая парасла на лузе, яны дабеглі да берагу і спыніліся над стромай.

Над Вольсай вісела аблачынка з туману. Яе хвалі павольна каціліся і пеставалі жоўценькі берагавы пясок. Данута ступіла на кладку і азірнулася на сяброўку, але тая і не думала ісці да яе. Тады дзяўчына ўзяла начоўкі з ручнікамі і пачала мыць.

— Халодная вада? — пацікавілася Зуліся.

— Анягож. Сама ведаеш: пасля Іллі заўсёды так. Спускайся да мяне!

— Ну-ну, ужо палезла.

Данута засмяялася і кінула на бераг вымыты ручнік. Дужыя рукі пачырванелі ад холаду, але яна, не зважаючы ні на што, спрытна мыла і разгінала спіну толькі дзеля таго, каб кінуць чысты ручнік на бераг. Зуліся хапала яго і клала назад у начоўкі. Данута часам пазірала і смяялася з таго, як сяброўка ўварочвалася ад пырскаў. Калі засталося толькі два ручнікі, яна ўзяла большы і, размахнуўшыся, кінула Зулісі, але ён не даляцеў і плёхнуўся ў ваду. Данута войкнула і пабегла па беразе за ім.

— Вазьмі галіну і падчапі яго! Каб ты за Кастусём сваім так бегала, як за гэтым ручніком, дык я б даўно ў дружках на вяселлі сядзела! — крыкнула ёй сяброўка, якая стаяла на беразе і трымалася за бакі ад смеху.

— Лепш дапамажы!

— Сама кідала — то і лаві! Бяда вялікая!

Урэшце Данута падхапіла ручнік, выкруціла апошні і падышла да сяброўкі. Яна ўзяла начоўкі і пакрочыла па сцежцы, якая вяла да хат праз кустоўе.

— Чула, што ўчора дзядзька Антось выбрыкнуў? — запытала Зуліся.

— Не.

— Сказаў сваёй Ганне, што пойдзе паіць каня да ракі, а сам з дзедам Піліпам сівухі налізаўся. Прыцёгся дадому, а цётка аж рукамі плёснула. «Паіў каня? — пытае. «Паіў.» «Дык чаго морда сухая?» А дзядзька не разгубіўся і кажа: «Бо да вады не дастаў!» Пасля, канечне, пашкадаваў, бо Ганна сябе ў крыўду не дасць. Бедная тая дамова, дзе вала бадае карова!

Дзяўчаты засмяяліся.

— Слухай, чаму Змітрок раптам да дзеда прыехаў? — дапытвалася Зуліся.

Данута паціснула плячамі.

— Чорт яго ведае! Можа, да Ульяны?

— Ды не, — яна засмяялася. — Бачыла, як замітусіўся Кастусь, калі яго запрыкмеціў? Куды толькі ціхмянасць падзеў? То падсядзе да цябе, кветку сарве, то слаўцо на вушка шапне. Ніколі яго такім не бачыла!

Данута змахнула рукой валасы з твару і пакрочыла шпарчэй. Зуліся дакранулася да начовак:

— Дапамагчы?

— Ды не. Хутка прыйдзем.

Зуліся памаўчала і зноў пачала:

— А каго з іх выбрала б, каб сватоў заслалі?

— Гарбузоў усім хопіць.

— Маніш. Ох, Данутка, разам дзвюх сарок за хвост не ўтрымаеш!

— Ды даліся мне яны! Адзін — вады не замуціць, як мыш пад мятлой сядзіць. Другі — млын пусты, бы вуж круціцца, усё нечага не хапае!

Зуліся зарагатала:

— Прыгледзься лепей! У Кастуся справа гарыць у руках, гаспадар добры і чалавек нядрэнны. За ім не прападзеш.

Дзяўчына нізка схіліла галаву і прыкусіла вусны. Яна прыслухалася да строкату конікаў. Вецер кранаў валасы, спрабаваў шаптаць нешта на вушка і цалаваў дзявочыя вусны. Зуліся глядзела і любавалася прыгажосцю сяброўкі, чакаючы, але тая не адказала.

Калі падышлі да паркана ля хаты Дануты, сяброўка дапамагла адчыніць веснічкі і пакрочыла да сваёй. Маці на двары не было, таму Зуліся хацела ўжо пайсці ў хату, як заўважыла, што засталіся непамытымі ўчарашнія бочкі і гладышкі з-пад заквашаных летась агуркоў, якія вынесла са склепа ўчора і забылася на іх. Дзяўчына падхапіла вядзерца з вадой на заваліне і плюхнула ў кожную бочку, затым адарвала травы і прынялася церці закарэлыя за ноч дошкі. Мыла доўга, пакуль не забалела спіна. У хату ісці ўжо не хацелася, таму пачала шукаць вачамі, дзе б сесці адпачыць.

Недалёка стаяла яблыня. Дзяўчына падышла да яе і легла на капу пад навесам з галля. Уважліва ўглядалася ў халоднае блакітнае неба, па якім ляцелі хмары. Праз прагалы між лісця, што толькі пачало жаўцець, неяк па-восеньску нясмела і сумна ўсміхалася сонца…

Калі прачнулася і расплюшчыла вочы, то заўважыла, што за ноч капы паменшала. Трава пад ёй утапталася і сселася. Дзяўчына вылезла з ямы, пастрасала з сукенкі сухія сцяблiны, якія калолі ў спіну, і павольна пакрочыла па траве басанож, адчуваючы прыемную прахалоду ад кропель расы. На полі скуб канюшыну Рукас. Ён заўважыў, што гаспадыня прачнулася і павярнуў галаву ў яе бок, нібы чакаючы, пакуль яна наблізіцца.

— Ну, Рукас, праведаем дзеда?

Сказаўшы, схапіла ў адну далонь лейцы і грыву, другой узялася за хрыбет і лёгка ўскочыла на рысака. Яна ўдарыла босымі пяткамі каня па баках, на што той затрос грывай і перайшоў у галоп.

Ліпень сёлета развітваўся дажджамі. На працягу тыдня яны насыцілі рэкі, і тыя панеслі ваду далей, пазрываўшы кладкі і хісткія масты. Такое няшчодрае на іх лета перад апошнім сваім месяцам, здавалася, вырашыла выліць усё. Зуліся скіравала Рукаса да броду. Цяпер вада спадала, пачалі высыхаць берагі, і непрыемны пах рыбнай лускі ды гнілых водарасцей казытаў нос. Трава была аблеплена цінай, пяском і бітымі ракавінкамі. Хвалі ракі, якія даставалі вешніцы да босых пятак, схавалі частку берага з кветкамі незабудак, і трава, быццам водарасці, абвівала ногі і чаплялася за капыты каня. Між зялёных лістоў трыпутніку плавалі чародкі маленькіх рыбак, нават прапоўз рак. Дзяўчына засмяялася з гэтай недарэчнасці: Васілька з сакам аблазіў усе камяні і затонні, а тут жа трэба толькі руку працягнуць і схапіць рака за вусы.

На выгане яе сустрэў дзед.

— Мы з Васількам ужо думалі, што не прыедзеш, — сказаў ён.

Зуліся саскочыла з каня, зняла лейцы і пусціла пасвіцца разам з табуном.

— Штосьці здарылася? — спытала дзяўчына.

— Гурта жарабілася.

— Ой, якая яна малайчына! Дзе жарэбчык? Прыгожы?

— Ляжыць на выдме каля арэшыны.

Зуліся пайшла да кустоўя. Там адпачываў жарэбчык, падсунуўшы пад сябе доўгія і тонкія, як жэрдкі, ногі. Гурта стаяла побач і аблізвала яго сваім шурпатым языком. Малы матляў галавой, незадаволена фыркаў, але не падымаўся.

— Чаго ж ён ляжыць? Вось пястун! Зараз я яго падыму, добра?

Яна пачала казытаць жарабя, потым ціхенька пахлопала па спінцы, паварушыла шэрстку, узяла за вушы, асцярожна іх тузанула. Нарэшце малое не вытрымала і паднялося.

Зрабіўшы першы свой крок, жарэбчык ледзь не ўпаў. Ступіў другі, завагаўся і паглядзеў на Зулісю. Здавалася, тонкія ножкі-жэрдкі вось-вось не вытрымаюць цяжару цельца, і ён упадзе.

Жарэбчык тым часам падышоў да рамонка, тыцнуўся ў яго мордай і чхнуў.

— Расці вялікі, — засмяялася дзяўчына. — Дзеду, ты казаў, што я магу даць яму імя. Няхай ён будзе хуткі — Вецер.

Дзед кіўнуў галавой.

— Добра.

Зуліся выцягнула руку і паклікала:

— Вецер, ідзі сюды!

Стары ўважліва паглядзеў на яе локаць і надзьмуўся.

— Зуліся, што ў цябе з рукой? Яна здзёртая. Зноў з Рукана звалілася?

— Не! — спужалася дзяўчына. — Гэта… Гэта я на яблыню лазіла, бо на верхавіне яблыкі смачнейшыя.

— Глядзі мне! Я цябе ўжо папярэджваў!

Каб перавесці размову, Зуліся спытала:

— А дзе Васілька?

— Вудзіць недзе. Яшчэ з рання пайшоў.

— Я пайду да яго.

І ўскочыла ў чарот, які рос каля ракі, як сцяна паміж ёй і выганам. Там можна было схавацца ад пільных дзедавых вачэй. Спачатку яна ішла па сухім, але чым бліжэй падыходзіла да берага ракі, тым вузейшай станавілася сцежка, і босыя ногі тапіліся ў чорна-зялёнай твані.

Праз густы чарот не было відаць ракі, сцежка часам гублялася, але, ведаючы ўсе хованкі, якім аддаваў перавагу брат, яна хутка знайшла патрэбную. Па ёй выйшла да месца, дзе рака звужалася, а берагі былі злучаны хісткай кладкай, калі яе можна так назваць, бо гэта былі два бервяны, звязаныя аборкай. Месца тое было глыбокае, рыбнае, і Васілька заўсёды кідаў туды падкормку.

Пра гэтую таямніцу не ведаў ніхто, акрамя Зулісі і Жданца, з якім часта Васілька хадзіў па рыбу.

Сёння хлопец вудзіў адзін, і ў торбе ўжо ляжала пяць ладных акунёў ды дзве колюшкі.

Зуліся асцярожна падкралася і хацела напужаць брата, але калі падышла бліжэй, хлопец папярэдзіў:

— Цішэй! Як мядзведзь сюды тупаеш! Зараз яшчэ аднаго злаўлю і пойдзем дахаты.

Зуліся села побач.

— Ты нават не азірнуўся, а пазнаў. Вушы на патыліцы маеш?

— Дык хто, апроч цябе, так гучна крочыць? Як знайшла?

— Ой, то невялікая бяда! Яблыкі хто еў, калі сюды па сцежцы ішоў?

А потым дадала:

— Чаго ў сад да старой Войцехі лазіў? І не аднеквайся, такія ў дзеда не растуць. Сваіх мала?

— Там смачныя, а ў нас адно кіслоцце. Ды і нашто ёй яблыкі — зубоў усё роўна не мае?

— Маці дазнаецца — атрымаеш бярозавай кашы.

— Не твайго носа палоса! Можа, сама раскажаш?

— Ведаеш, што маўчаць буду, — буркнула дзяўчына і зазірнула ў торбу. — Ух, якія ладныя! А колюшкі котцы?

— Угу.

Зуліся асцярожна дакранулася кончыкамі пальцаў да гладзі вады. Халодныя хвалі прыемна казыталі іх сваімі грабеньчыкамі.

— Васілька, дазволь павудзіць.

— Адчапіся! Бачыш, зараз кляваць будзе.

— А я тады рыбу паскрабу.

— Не дам! Ідзі адсюль. Прычапілася, як дзядоўнік!

— Я толькі аднаго злаўлю.

— У той раз цэлы мех налавіла! Можа, забылася, як вуду мне зламала?

— Дык вось ты які? — надзьмулася Зуліся.

Яна падскочыла да брата, спіхнула яго і засмяялася:

— Пакупайся!

Але сама не ўтрымалася і звалілася следам у ваду. Васілька правёў па роўнядзі рукой, каб усе пырскі паляцелі на Зулісю, і зарагатаў. Дзяўчына адказала тым жа. Мокрыя, як пасля дажджу, яны папляліся на бераг. Пясок, сухі і непрыемны, ліпнуў да ног і калоўся. Тонкі шматок засохлай ціны з куклянкамі і водарасцямі ляжаў на беразе. Васілька тузануў яго і пацягнуў да вады.

— Нашто ён табе? — здзівілася Зуліся. — Пакінь.

— Гэта ж вадзянік. Вылез, мусіць, з затоння пагрэцца і заснуў, а сонца прыпякло, вось і засох. Калі ў ваду закіну, то ажыве і дапамагаць мне будзе: рыбу ў сетку загоніць ці патануць ёй не дасць.

— Дурны. З нячысцікамі толькі млынары водзяцца.

— І бортнікі, сама казала.

— Наш дзядуля не такі.

— Адкуль ведаеш? Шмат чаго людзі гавораць.

— А ты слухаеш.

— Ціха, вунь ён ідзе.

Дзед Тарас падышоў бліжэй і, зірнуўшы на ўнукаў, схапіўся за бакі ад смеху.

— Каб рыбу есці, трэба ў рэчку лезці! Тады нашто вам вуды? Можа, уюноў пасвіць ці шчупакоў бараніцца?

— Ды гэта Зуліся, — штурхнуў сястру хлопец.

— Зноў Зуліся! Воўк кожны год ліняе, але нораву не змяняе. Ну, паказвай торбу! Колькі навудзіў?

Васілька паднёс яму ўлоў. Стары крэкнуў:

— Ух, ну нічога. Няхай Зуліся адвязе дахаты, а ты можаш застацца і павудзіць яшчэ. Зуліся, скажаш матцы, што прыеду заўтра ўвечары.

— Дзеду, а можна і мне застацца? — папрасіла дзяўчо.

— Не. Лепш заўтра зранку прыедзь мне падсабіць.

Зуліся надзьмулася, але не стала пярэчыць і накіравалася да табуна, каб злавіць Рукаса.

* * *

Пыл курэў пад капытамі коней і аблокамі звісаў над зямлёй. Па шляху ехалі два вершнікі. Звярнуўшы з гасцінца, яны з’ехалі на вузейшую сцежку. Яна прывяла да ракі, з зарослымі чаротам і аерам берагамі. Ля вады коні спыніліся, каб здаволіць смагу, а потым праз брод пайшлі ў бок вёскі.

Вершнікі былі апрануты сціпла. Абодва ў шэрых кунтушах, падпярэзаных доў-

гімі пунсовымі паясамі, а ў іх, каб выглядалі больш шырокімі, было ўкладзена па ручніку. Спераду ж быў прывязаны «гуз», што, нібы бохан хлеба, абвісаў ледзь не да каленаў. Коні пад імі ішлі павольна, цяжка. Відаць, доўгі шлях ім прыйшлося пераадолець.

— Дзе пераночым, браце? — запытаў раптам Няміра. Я ў гэтую вёску ніколі не заязджаў. Чаму не пажадаў застацца ў пана Незабытоўскага, калі прапаноўваў?

— Думаў, што паспеем даехаць да Кулішак. Я заўсёды там спыняюся ў Хмаркоўскіх. Яны старога роду і да таго ж гасцінныя гаспадары. Спынімся тады ў Старым Боры. Тут знаёмы майго дзядзькі жыве.

— Ну, калі так, то я згодны.

Панічы заехалі ў вёску, якую з боку рэчкі не было бачна з-за хмызняку. Хаты стаялі насупраць адна адной, выходзячы пасадам да ракі, але тут, на ўскрайку, гэты парадак збіваўся, і астатнія вокнамі глядзелі на лес. Нікога не было на вуліцы, толькі з аднаго двара выйшла жанчына і накіравалася да студні. Пакуль яна набірала ваду, Феліцыян пад’ехаў бліжэй.

— Пані, дзе тут двор Тараса Валашэвіча?

Цётка Адарка ўважліва паглядзела на шляхціца.

— Нашто вам?

— Спынімся на два дні ў яго. Нам пан Незабытоўскі параіў сюды заехаць.

— Гэта мой бацька.

Жанчына ўздыхнула, падхапіла вядро і пайшла да брам.

— Ідзіце за мной. Бацька сёння не вернецца: паехаў на выган.

— Дазвольце толькі, цётка, нам не ў хаце, а ў садзе заначаваць. Ноч цёплая, у пуні не змерзнем.

— Як паніч сабе хоча. Зараз прынясу чаго пасцяліць.

На двары было хораша, свежа. Прыемна дыхалася лясным паветрам, да якога далучаўся водар кветак, сярод якіх у траве гучна стракаталі конікі. Вецер асцярожна дакранаўся да лісточкаў бяроз, ашчадна гладзіў кветкі ільвінага зеву, якія жоўтым дываном густа раслі перад брамамі. Недзе выў сабака, чуўся стук дзятла, і сэрца прасілася ператварыцца ў апошні промень сонца, каб яшчэ раз перад захадам убачыць хараство наваколля, што тапілася ў чырвані. Маладыя шляхціцы пайшлі ў сад.

— У пуні яму захацелася! — прабурчаў Якаў. — Дурань! Яснавяльможны будзе спаць у пуні! Дзе твая годнасць? Мала таго, што едзем у такім адзенні, як апошнія халопы, дык і тут ты не па-людску робіш. За намі не сочаць, і я лічу, што не трэба больш прыкідвацца!

Ён сарваў з галіны яблык, укусіў і адразу выплюнуў:

— Фу, кіслоцце адно! Аж у роце расце.

Сябра ўсміхнуўся, падышоў да іншага дрэва і падняў ападак.

— Хіба такія цяпер рвуць? На, вось гэты пакаштуй.

Якаў з недаверам паглядзеў на пагрызены восамі ападак, але адкусіў і ажно чмякнуў:

— Салодкае!

— Канечне. Тыя плады, што птушкі і восы ядуць, заўсёды смачныя.

Пуня стаяла за хлявом, напалову запоўненая сенам. Хлопцы пераглянуліся і абодва з разбегу заскочылі туды. Яны закапаліся ў мяккае сена і так ляжалі доўга. Пахла полем і кветкамі, а яшчэ пылам і дурнап’янам. Якаў прыціх і ўтаропіўся ў зорнае неба.

— Глядзі, Феліцыян, зоркі, як раскіданае зерне. Вунь тую я б хацеў падарыць сабе.

— Нашто?

— Ат, была б замест ліхтара.

— Дурань. Калі б не маніў, то ўсё праўда была б.

Якаў перакульнуўся на другі бок і паглядзеў на неба, туды, дзе ззяла адзінокая зорка.

— А што там за самая яркая?

— Мілавіца. Так нашы халопы зорку Венеру называюць.

— Прыгожа, мне нават так больш падабаецца. Глядзі, які месяц ладны сёння!

Феліцыян усміхнуўся:

— Мне дзядзька жарт пра яго распавёў. Кажа, бачыў, як каля дзвярэй карчмы п'яненькі цыган ляжаў і на месяц лаяўся: «Дарма ў Бога хлеб ясі! Свеціш, але не грэеш!»

— Што-што, а ў карчму мне ўжо не трапіць, — уздыхнуў Якаў і пацёр бок, які не пакідаў балець.

— Ты там пабіўся з Рыгорам?

— Ну. Біўся, — рагатаў ён. — Я яму як даў... я толькі ўставаць, а ён мне яшчэ раз! Твой дзядзька расказаў?

— Ага. Гаварыў, абодва п'янымі былі, добра, што шаблі ў вас пазабіралі, дык на кулакі перайшлі.

— Што яшчэ? Пакпіў з нас? Я ж яго ведаю.

— Сказаў: «Бульба з булкай біліся, бульба булцы як дала — булка сплюшчылася!»

Якаў пакрыўдзіўся:

— Гэта пра мяне так?

Феліцыян зарагатаў і адказаў:

— А пра каго яшчэ? Рыгор на булку не вельмі падобны, а больш на гарбуз.

— Фу, не гавары пра яго! Каб яму лёгенька iкнулася, свінні той! Уцёк я тады; каб не, то даў бы ўсім дыхту!

Тут сябра не ўтрымаўся і схапіўся за бакі ад смеху.

— Калі б не ўцёк, то сёння б на тваіх хаўтурах поліўку еў!

Якаў не адказаў. Ён паглядзеў на Феліцыяна, які ўтаропіўся ў зорнае неба. Той заўважыў погляд і сказаў:

— Спі, заўтра ехаць рана.

— Сам чаго не спіш?

— Ды так.

Тут Феліцыян не ўтрымаўся і спытаў:

— Чуў, як твой бацька казаў, бы збіраецца на святога Роха[1] на кірмаш?

— Ведаю.

Сябра аж падскочыў і са здзіўленнем паглядзеў на Якава.

— А каб цябе заняло! Чаму тады не сказаў?

— Нашто? Сам пакуль не ведаю, што за пава. Бацька не толькі прыгажуню шукае, але і пасаг каб добры быў. Я так сказаў: «Калі паненка прыгожая, то пасагу не шмат трэ, а калі няўдалая, ды яшчэ і рабая, то трэба накінуць грошыкаў на рабаціннe». Я ж даўно з бацькам наконт панначкі адной гаворку вёў. Вельмі ж за сэрца схапіла яна, бо ў вёсцы, што на пасаг бацькі даюць, гавораць, не толькі пшаніца, але і цыбуля ў полі, дзе не пасадзі, добры ўраджай дае. Таму сэрца цягнецца да… ўрадлівай глебы!

---

[1] На святога Роха паны і паненкі ездзілі на кірмаш, дзе рабілі змовіны і дамаўляліся пра пасаг.

Ён зноў улёгся і на гэты раз неспадзёўкі захроп, як кавальскі мех. Офенберг жа яшчэ ляжаў і глядзеў на небасхіл. Там прыгожа ззялі зоркі, і адна з іх, самая яркая, нібы падміргнула яму.

* * *

Хата Панасавай Галінкі знаходзілася на ўскрайку вёскі каля лесу. За агародамі да яе стужкай падступала рэчка, на супрацьлеглым беразе якой кожны вечар збіралася моладзь.

Полымя вогнішча, такое яркае і чароўнае, з гучным трэскам жэрла галіны сушняку. З розных бакоў паляну абступаў хмызняк і рачны чарот, таму было страшна нават паварушыцца ці адысці ад вогнішча ў чорную цемру. Таму хлопцы вызначылі паміж сабой чаргу, згодна з якой, калі заканчвалася галлё, па двое ішлі за ім. Аднак кожны стараўся расказаць нешта такое, каб напужаць дзяўчат, а тыя, верачы іх узятым з галавы байкам, аж вішчалі ад жаху. Пасля перавялі гаворку на аповеды пра скарбы, і палахліўкі крыху сцішыліся.

— Мой бацька гаварыў, што чуў, як сарока скарб знайшла, — уставіў сваё слаўцо Змітрок, зух і лапатун. — Пасвіў нейкі пастух каля лесу кароў, — працягваў ён, — аж бачыць — сарока корпаецца ў зямлі. Патрашчыць сабе на галінцы, потым зляціць на зямлю, возьме ў дзюбу штосьці і нясе ў гняздо. Чалавеку, вядома, цікава стала. Падышоў, а там убачыў манеты.

— У Мікулішках, гаварылі, свіння аднойчы скарб вырыла, — сказала Данута.

Змітрок пакруціў галавой.

— Маніш.

— Не, я таксама чула, — запярэчыла Галінка. — Свіння вырыла яму, а калі гаспадыня падышла закапаць, то знайшла бот з некалькімі дукатамі.

— Вось каму пашанцавала! — уздыхнуў нехта.

— Лепш было, калі б яшчэ адзін бот знайшла! І купляць не трэба, — засмяяўся Адась.

— Не маркоцься, — падміргнуў яму Змітрок. — Заўтра тваю з хлява выганім!

Усе засмяяліся. Тут Зуліся заўважыла двух незнаёмых хлопцаў, якіх сустрэла ўвечары каля лесу. Яна нахілілася да Галінкі і спытала:

— Што тут тыя два панічы робяць?

— А ты і не ведаеш? У вашай жа хаце спыніліся! Улляна іх убачыла і сюды запрасіла.

— Я толькі ад дзеда прыехала, нават у хату не заходзіла. Ух, Улляна! Скажы калі ласка, якая хуткая!

— Яшчэ як! Вунь, Міхась з яе погляду не зводзіць, а яна страляе вочкамі таму чарняваму. Макам перад ім рассыпаецца, ды толькі патрэбна яму як леташні снег. А вось бялявы, здаецца, той на яе вока паклаў.

Зуліся прыгледзелася да панічаў. Сапраўды, Якаў упадабаў Улляну. Нават калі спрачаўся са Змітраком, то краем вока пазіраў на яе.

— Ды лухта ўсё, — запярэчыў ён. — Скарб знойдзе толькі бязвінны чалавек. Мне расказваў дзед пра старога Бялуна. Бывае, ідзе чалавек паўз жыта, а ён выходзіць адтуль. Сам маленькі, слабы і просіць уцерці нос. Чым нос вытраш — туды за дабрыню золата і насыпле.

— Гэта Дзедка, — перапыніла Зуліся. — Стары з чырвонымі вачамі і рудой барадой.

— Можа, і так, — паціснуў плачыма Якаў, — толькі не чуў я пра рудую бараду.

Ён зірнуў на Улляну, перахапіў яе погляд і, задаволены, пачаў распавядаць далей.

— Мне яшчэ расказвалі, як крот дапамог знайсці скарб. Аднойчы халоп хадзіў па сваім полі і бедаваў, што крот нарыў шмат. Раптам бачыць — нешта блішчыць. Падышоў бліжэй — залаты дукат. Яго крот наверх выкінуў.

— А я вось заўтра пайду па агародах шукаць скарбы, праўда, Улляна? Ды на твой абавязкова завітаю. Калі цябе спаткаю, лічы — знайшоў, — зноў уставіў свае тры грошы Змітрок.

— Прыходзь, калі ляйчына пад хвост трапіла. І свінню сваю вазьмі. Можа, пашанцуе, — засмяялася дзяўчына.

— Усе чулі? Яна сама мне спатканне прызначае! Заўтра не зможаш адмовіцца, — пачаў заляцацца хлопец, адным вокам цікуючы за Данутай.

— Ці не перад дажджом ты, Змітрок, разгуляўся? З брахні ў нас не мруць, ды брахунам веры не даюць! — сказала і павярнулася да яго спінай.

Гучны рогат заглушыў адказ хлопца. Ён збянтэжыўся і больш нічога не гаварыў, толькі зірнуў употай на Дануту, але тая адвярнулася і сціснула вусны.

Зуліся тым часам паглядзела на Феліцыяна. Той усміхнуўся, дзяўчына пачырванела і ціхенька адвярнулася. Крыху пачакаўшы, яна падышла да Дануты і нешта шапнула ёй.

— Адна пойдзеш? — здзівілася сяброўка. — Можа, правесці?

— Не трэба.

Калі Зуліся знікла, Феліцыян таксама звярнуўся да Якава:

— Я пайду.

— Куды? Пачакай, дождж за карак не лье, пазней разам пойдзем.

— Ды чаго мне тут сядзець?

— Ну-ну, сапраўды, — падпікнуў паніч. — Тая ж дзеўка толькі што адсюль збегла. Ідзі, можа, зловіш.

Сябра ўсміхнуўся і нічога не адказаў.

Зуліся ішла па мяккім дарожным пыле. Ночы пасля Іллі[1] былі яшчэ не зусім халодныя. Але хутка павінна было пачацца жніво, а далей — вераснёвая імгла, калі ўжо босай не выйдзеш на двор. Не чуваць было і птушак, якія пасля Афінагена[2] заціхлі да самай вясны. Дзе-нідзе жоўценькія лісточкі на дрэвах, водар спелых яблыкаў у паветры, пах вільгаці і жыта, калоссе якога ўжо нізка схіліла галаву да глебы — усё сведчыла пра набліжэнне восені.

З такімі думкамі крочыла па сцежцы, калі раптам нехта гукнуў яе. Дзяўчына азірнулася.

— Ці не страшна ісці адной дахаты? — спытаў Офенберг.

—Ніколечкі. Хіба чорта кульгавага трэба баяцца? Гавораць, соўваецца тут часам ды дзевак казыча.

Феліцыян усміхнуўся:

— Далёка твая хата?

— Не, а паніч далёка збіраецца?

— Ды мне туды, куды і панне.

— Чула б гэта мая маці. Добра б дубцом пачаставала! Але ж дзе сам паніч спыніўся?

— У Тараса Валашэвіча, ведаеш такога?

---

[1] Прысвятак у народным календары (2 жніўня).

[2] Прысвятак у народным календары (2 жніўня).

— Як жа не ведаць. А шаноўны не круціць носам, калі начуе ў хаце таго, хто нейкім ліхам жыве каля халопаў?

— У пуні.

— Што?

— Начую.

— У пуні? — засмяялася дзяўчо. — Што гэта за пан, калі ў пуні спіць?

Зуліся паправіла расплеценую касу і адкінула на плячо. Краем вока юнак цікаваў за ёй і мілаваўся. Вабілі малінавыя вусны, адкрыты пранiклiвы позірк, русыя доўгія валасы, якія кранула сонечная пазалота, і плаўная нетаропкая хада дзяўчыны.

— Чаму ж адна да хаты ідзеш?

— Сяброўкі каля вогнішча засталіся, — адказала яна.

— Сама ведаеш, не пра іх гаворка ідзе. Ці такая ганарліўка не падпускае і блізка хлопцаў?

— Лепш ніякі, чым абыякі.

— Пакрыўдзіць жа можаш.

— Вас паспрабуй яшчэ чым пакрыўдзіць!

Калі яны дайшлі да хаты, ён спытаў:

— Заўтра прыйдзеш да ракі?

— Нашто пану ведаць?

— Можа, яшчэ пабачыць хацеў.

— Дык няхай глядзіць цяпер. Каб на два дні хапіла!

Шляхціц замаўчаў і апусціў вочы.

— Добра, — згадзілася Зуліся. — Ведаю, што васпан шукае Тараса Валашэвіча. Пакажу тады, як даехаць да выгана. Ранкам буду чакаць паніча на беразе рэчкі каля дуба.

Феліцыян кіўнуў.

— Добрай ночы.

— Добрай.

Толькі цяпер дзяўчына падумала пра тое, што рабіць. Феліцыян чакаў, і Зулісі прыйшлося зайсці ў суседскі двор. Добра, што лайдак-сабака спаў, таму, зайшоўшы за свіран, схавалася, а калі шляхціц пайшоў, пабегла дахаты. Пералезшы праз паркан, накіравалася праз агарод да дуба, дзе так салодка спалася ўчора ў капе. Яна зноў зашылася ў мяккую пахучую траву і паглядзела на небасхіл. Сярод зорак сёння на ім з’явіўся тоненькі серп маладзіка. Прыгадаўшы, што на новы месяц можна варажыць, яна пачала калупаць сена пад правай нагой, захапіла трошкі пылу пад сенам і кінула ў рукаў са словамі:

Маладзік малады,
Твой рог залаты!
Сасніся мне той,
Хто будзе мой!

Сказаўшы тое, паклала, як малая, рукі пад галаву і заплюшчыла вочы.

* * *

Як толькі Васілька з’явіўся на двары, Адарка пацерла рукі: «Ну, зараз пачастую цябе бярозавай кашай!»

Хлопец нічога не заўважыў і панёс рыбу ў склеп, каб пастаяла ў холадзе і не сапсавалася за дзень, пакуль збярэцца пачысціць. Жанчына адламала некалькі сцяблін крапівы каля паркана і падышла да сына. Васілька ўжо паставіў сак у хлеў

і зачарпнуў коўш вады з цэбра на заваліне. Шухрай павярнуўся, каб нешта сказаць, толькі замест гэтага разявіў рот і выпусціў яго з рук.

— А ну падымі! — загадала Адарка.

Васілька павольна пачаў нахіляцца да зямлі, але не адрываў вачэй ад крапівы. Ён намацаў рукой коўш і паклаў на заваліну.

— Мама, во рыбы налавіў, — прамармытаў ён. — Ды ракаў трохі.

Жанчына пагразіла яму крапівай.

— На рыбу ты са Жданцом увечары пайшоў, а вось што днём рабілі?

Хлопец не адказаў і схіліў галаву.

— Ну, чаго маўчыш?

Васілька заўважыў, што праз пералаз сярод бярвенняў за ім назірае Жданец. Гэта ён учора падбухторыў залезці ў гарох да пана, які жыў у Куліках. Адарка ж убачыла, што сын не збіраецца адказваць, і загаварыла сама.

— Сёння праязджаў чалавек і распавёў, што два хлопчыкі залезлі ў яго агарод.

Васілька зразумеў, што адпірацца няма чаго. Ён памкнуўся назад, абапёрся аб паркан спінай і пачаў апраўдвацца.

— Мы толькі ў далоні нарвалі.

— Ат, чэрці лазатыя! Ды чаго вы туды наогул пацёгліся? Ці не казала надоечы табе, каб не хадзілі ў Кулікі?

Васілька гучна шмыгнуў носам і выцер рукавом кашулі слёзы. Адарка яшчэ больш раззлавалася, плюнула і сцебанула яго па нагах.

— Палезеш, я цябе навылет бачу. Зноў гэты гад печаны, Жданец твой, падбухторыць, а ты лупня заробіш!

— Мамка! — узмаліўся Васілька.

— Добра, — уздыхнула маці, — ідзі ў хату і паеш. Увечары зноў на рыбу пойдзеш?

Хлопец матнуў галавой. Ён адразу і не паверыў, што так лёгка ўсё абышлося і пакасіўся ў бок пералазу. Жанчына таксама заўважыла Жданца і прыгразіла:

— А ты што смяешся? Бягом дахаты, а то пакажу, дзе горкі перац расце! Няма на цябе добрага дубца!

За плеценню адразу пачуўся вэрхал, і Жданец кулём выляцеў адтуль.

Ужо ўвечары, сядзячы ў чоўне, яны абмяркоўвалі сваю вылазку і дубец Васількавай маці.

— Што, ногі не шчыпле? — пацікавіўся Жданец.

— А чаго ім? Звыклыя. Я вось заўчора на арэшыну лазіў, дык зваліўся ў малiннік, падзёр лыткі, а на наступны дзень хадзіў, быццам нічога і не было.

Ціха было навокал, лодка павольна плыла па вадзе.

— Каб яго чорт! — не вытрымаў Васілька. — Навошта ж гэты пан скардзіцца ездзіў?

— Скнара. Але добра яшчэ, што не пайшоў судзіцца ці не пабіў.

— Дык жа не такі багаты, каб за жменю гароху спрачацца. Такі пан, што ў саломе спіць, а зубамі блох б'е.

Васілька цяжка ўздыхнуў:

— Каб не тупік, то не дагнаў бы нас.

Тут каля лодкі гучна плюхнула хвастом рыбіна.

— От, гэрва, каб яе! Смяецца ж з нас!

Жданец схапіў падсачак і нахіліў да плыні.

— Пакладзі: сплыла даўно. Тое вадзянік здзекуецца.

— Юрась з Хомкам яго ўчора бачылі ў затонні, калі ўвечары купаліся.

— Маняць.

— А мо і не. Казалі, што скура блішчыць, пуза, як бочка, ногі качыныя, а барада доўгая-доўгая.

— Дурні. У наступны раз сустрэнеш — па вуху дай кожнаму. Не бачылі яны нікога.

— Што, можа, не падобны?

— Падобны, але жывымі не вярнуліся б: пасля захаду сонца вада адпачывае, таму нельга купацца, бо вадзянік гэтага не любіць.

— А можа, у яго і так тапельцаў хапала?

— Хапала ці не, але ўсё роўна не адпусціў бы. Ды і жыве ён пад млынам твайго бацькі, а не ў затонні.

— Ага, мне татка таксама казаў, — згадзіўся хлопец. — Сам бачыў, як ён перад Вадохрышчам на двары калёсы пераварочваў, абы вадзянік не ўзяў. Яму той патрэбны, каб дзетак сваіх звезці, пакуль крыж святы ў ваду не апусцілі, а то памруць.

— Можа твой бацька сябруе з ім? Стары Цімох бажыўся, што бачыў, як ён у час першых замаразкаў апускаў пад кола млына кавалак сала.

— Дык жа патрэбна, — пачаў апраўдвацца Жданец, — каб калёсы не рыпелі. А не дасі сала — усе замазкі з бурсаў і восяў павылізвае! Твой жа дзед — бортнік, дык таксама мог вадзяніку душу прадаць. Так пра ўсіх бортнікаў і млынароў гавораць.

— Адкуль мне ведаць, — Васілька пацiснуў плячамі. — Добра, не сярдуй.

Жданец адвярнуўся і сядзеў мочкі, а Васільку карцела спытаць.

— Слухай, праўда тое, што твой бацька аднойчы на Купалу спёк хлеб, асвяціў у царкве і з’еў, а цяпер ніколі праз гэта не патоне?

— Не ведаю. Я аднойчы таксама спытаў у яго.

— Ну?

— Па шыі атрымаў.

— І нічога не расказваў?

— Трохі. Распавёў, што на Купалу ўсе вадзянікі каля млына збіраюцца, дурэюць, колы круцяць. Можа, пайсці калі паглядзець на іх?

— То можна. Толькі чаго раней не сказаў? Цяпер прыйдзецца наступнага лета чакаць.

Човен бязгучна плыў па рацэ. За апошнія дні вада паспела трохі сысці, і цяпер кустоўе па берагах было аблеплена ссохлай цінай.

Смярдзела рыбай і вільгаццю, але прысутнічаў і пах хуткай восені. Ён звычайна з’яўляўся нечакана і невядома адкуль. Лета пакідала зямлю незаўважна. Толькі тады можна было зразумець, што лета прайшло, калі нешта незвычайнае было ў паветры: ці то водар спелых яблыкаў у садзе, ці то холад з ночы, а, магчыма, проста блізкі подых зімы, якая неўзабаве хутка і восень зменіць.

Васілька дзівіўся, што ён можа адчуваць гэта, разумець нябачную сувязь, незаўважную нітачку штогадовых змен. Ён яшчэ раз увабраў паветра ў грудзі, паглядзеў на Жданца і спытаў:

— Адчуваеш пах?

— Які?

— Дык ты не чуеш?

Жданец прынюхаўся:

— Смярдзіць дужа рыбай, што тут незвычайнага?

— Ат… Сцюдзёна сёння. Хутка холад пачнецца: шчупак бярэ прыманку толькі з глыбіні.

— Ага, — пагадзіўся Жданец і налёг на вясло.

* * *

З пачаткам жніўня ночы сталі даўжэйшымі. Ілля нарабіў гнілля, прынёс белыя ранішнія туманы і астудзіў хвалі рэк. У зялёных шатах дрэў прабіваліся залатыя косы, што нагадвалі пра хуткі прыход замаразкаў і надакучлівых дажджоў. Вецер зрываў жоўтае лісце, кружыў яго ў паветры і губляў на прагалах у лесе, налыгваючы на ігліцу ялінак. Нагуляўшыся ўдосталь, ён сціхаў, а залатыя пёркі плаўна апускаліся на ваду. Імклівая рачная плынь пасля несла іх за сабой, вірыла і тапіла хвалямі.

Вечарам дзед Тарас сядзеў каля вогнішча. Каля яго ляжалі прыгатаваныя на кошыкі драўляныя жэрдачкі і лазовыя пруты. Стары ўзяў адну жэрдку да сябе, пакруціў у руках, прыцэньваючыся, і пачаў габляваць з яе лыжку. Так доўга сядзеў маркотны і падкладваў сушняк у агонь. Зірнуўшы ўверх, ён ўбачыў самотны ветах[1], які дагараў на цёмным небе. «І я хутка... — падумаў стары. — Ад смерці няма зелля».

У гэты час затрашчала кустоўе, і з боку рэчкі вышлі два хлопцы. Абодва бялявыя, танклявыя, як маладыя клёнікі, але ў аднаго вочы шэрыя, як небасхіл увесну, а ў другога — зялёныя і з хітрынкай.

Сябры неслі ламачча да вогнішча.

— Ну што, ірадава племя, налавілі рыбы на вячэру? Добра, што не з пустымі рукамі да вогнішча прыйшлі.

Адзін хлопец наблізіўся да дзеда і паказаў яму торбу.

— Рукамі лавілі каля дуба ў траве, дзе рака з берагоў выйшла ў час залевы.

— Ух, ты! Малайцы. Застанешся, Васілька?

Хлопец матнуў галавой:

— Угу. Позна зараз ехаць, хутка чэрці на кулачкі пабяруцца[2].

— Тады і Жданец няхай застаецца. Каля вогнішча ўсім месца хопіць.

Сябры пачалі грэць далоні каля полымя. Васілька дастаў з торбы сліву і падаў старому.

— Дзед, бяры.

— Каля бору нарвалі? А вушы баба Волька не скруціла? Еш сам. Я да Спасу не ў рот, гэта вы, маладыя…

Ён перакрывіўся і дадаў:

— Зялёная ж яшчэ, кіслоцце.

Васілька паціснуў плячыма і пачаў збіваць бакі слівы аб тоўстую галіну. Потым укусіў і, крывячыся, высмактаў кіслы сок. Задраўшы галаву, хлопец зірнуў на зорнае неба, дзе гэтай ноччу густа падалі знічкі.

— Дзеду, — спытаў ён, — а чаго сёння цмокі на небасхіле разлёталіся?

— Ат, кадук іх бяры, табе не ўсё роўна? Нейкаму пану скарб носяць. Хціваму, напэўна, бо ніяк ён не здаволіцца.

У гэты час на небасхіле зноў успыхнула знічка і згасла.

— Глядзі! Цмок золата панёс. Ох, каб да мяне ў хату! — уздыхнуў Жданец.

— Чаму золата, можа срэбра?

— Не, золата, бо след жоўты.

Каля вогнішча ляжалі два вялікія сабакі. Жданец ніяк не мог прымасціцца бліжэй да цёплага полымя, бо пабойваўся іх. Васілька назіраў за ім і пасмейваўся ў рукаў.

Над іх галовамі ўзвышаўся доўгі шост з насаджаным на яго конскім чэрапам, які ўкапаў сам дзед Тарас, калі на гэтым полі пачалі пасвіць коней. Недалёка стаяў

---

[1] Месяц у апошняй чвэрці.

[2] Існавала вераванне, што апоўначы чэрці ўчыняюць паміж сабой кулачную бойку.

табун, а за ім таксама палілі вогнішча. Пастухі вартавалі з двух бакоў, бо мінулай ноччу Кумяган — нячысцік у абліччы чалавека і каня — адвёў ад табуна лепшую кабылу і замучыў. Малодшы конюх бажыўся, што бачыў цень з чалавечым тулавам, але конскай галавой і капытамі, які пагнаў кабылу да лазняку і пачаў душыць, а калі паспелі туды дабегчы, дык Кумяган уцёк, а кабыла здохла. Пан Незабытоўскі лютаваў, крычаў, што пастухі самі чагосьці далі коням, каб здохлі, але тыя жагналіся і спуджана глядзелі ў бок стайні. Той плюнуў і пайшоў адтуль, загадаўшы добра глядзець статак, бо ў наступны раз усіх пакараюць на стайні.

Дзед паглядзеў у той бок, дзе знаходзіўся табун. Не верыў ён аповеду Міхася. Яго сястру пан ажаніў не так даўно са сваім вазнічым. Не проста вяселле наладзіў, шапталіся, што хацеў схаваць цяжарнасць дваровай халопкі. Міхась жа мог атруціць коней, бо падавалася дзіўным, што здохлі самая лепшая ў табуне кабыла і рысак, панскі ўлюбёнец.

Стары павярнуўся да хлопцаў і сказаў:

— Васілька, схадзіце разам са Жданцом, паглядзіце жарэбчыка, а я дапяку рыбу.

Хлопцы падняліся і пайшлі да табуна. Васілька ішоў першы, за ім — Жданец, якому не хацелася адыходзіць далёка ад вогнішча.

— Васіль, а Кумяган жарэбчыка таксама задушыць, як тую кабылу? — спытаў ён.

— Не, адвядзе ў бок лесу, а там ваўкі з’ядуць.

— Дык чаго яго пастухі не заб’юць?

— Гэта пачвара да каня вельмі падобна, масць лёгка мяняе, ты нават не здагадаешся, што ў хлеў упусціў.

— А Канькач[1] таксама коней душыць?

— Не, гэты добры, дапамагае. Дзед казаў, што ён зёлкі коням падмешвае ў корм, ад якіх яны дужэюць і растуць.

Жарэбчык спакойна ляжаў і нават не спужаўся, калі дзеці падышлі да яго.

— Ляжыць, пойдзем назад, — кіўнуў сябру Васілька.

— Ага, адтуль так рыбай пахне! Засмажылася, напэўна.

Дзед ужо выцягваў рыбу. Ён асцярожна выкалупаў яе з гарачага вуголля, развярнуў ліст дзядоўніку, у які абгарнуў, каб не насыпала попелу, і з асалодай удыхнуў водар.

Дзеці падселі да вогнішча і ўзялі па рыбіне.

— Смачная, — аблізнуўся Жданец. — Зараз бы Цішку ёй падражніць. Маці кажа, што пакуль годзіка не споўніцца, яму нельга есці, а то маўчаць, як рыба, усё жыццё будзе.

Дзед засмяяўся і паклаў яшчэ сухога галля.

— Старыя так гаварылі, а яны благога не параяць. Раней і людзі былі іншыя — моцныя, як дубы, і высокія, як сосны.

— Асілкі? — спытаў Васілька, і вочы ў яго заблішчэлі.

— Так.

— Мусіць, яны зёлкі чароўныя елі, то і былі дужымі?

Дзед засмяяўся:

— Не. Кажуць, даўней у людзей былі чортавы рэбры, бы абручы. З таго такая моц.

— А чаго цяпер іх няма?

— Зніклі. Згінулі праз сваю ганарлівасць. Захацелі аднойчы падужацца з Богам, і ён за гэта пакараў: ператварыў у малых кволых людзей.

[1] Разам з Кульмяганам з’яўляецца персанажам беларускай міфалогіі.

— Вось дурныя! От, былі б мы, каб не яны, асілкамі! Я тады мог зайсці ў самае глыбокае возера і рыбу рукамі лавіць!

Стары не ўтрымаўся і плюнуў:

— Дурны ты, Васілька! Зусім з глузду з'ехаў са сваёй рыбай, толькі пра яе і думаеш.

— А ўзімку што есці будзем? Так я хоць карасёў насушу, ды і пост хутка — маці сама скажа, каб налавіў.

— Як сабе хочаш, толькі не забудзься мне лазы нарэзаць і лыка надраць, каб узімку кошыкі і лубянкі плесці.

Стары зірнуў на Жданца. Той, скурчыўшыся, драмаў каля сабакі. Дзед усміхнуўся і шапнуў унуку:

— Бач, цяпер і не баіцца. Вочы ў страха па яблыку. Прымгні і ты, а раніцай абодвух падыму — падсабляць будзеце.

Сам дзед Тарас не клаўся. Ён сядзеў і ўглядаўся ў цемру, дзе стаялі коні, прыслухоўваўся да кожнага шоргату чароту, стракатання конікаў і трэску сушняку ў вогнішчы.

Ціха шапталася лісце, люляла, і вочы самі пачалі зліпацца. Тады стары плюнуў і пачаў хадзіць вакол. Агледзеўся, нацягнуў на лоб саламяны капялюш і дзівіўся сабе, як гэта малым, якія ляжалі зусім блізка каля агню, не пячэ. Доўгім дубцом ён падсунуў галіны ў вогнішча. У самога яго гарэлі твар і рукі, але як толькі адыходзіў ад полымя, то налятала такая хмара камароў, што прыходзілася зноў вяртацца на сваё месца.

«Ат, каб вас кадук, крывасмокі, — падумаў ён. — Чуеце ўжо, што хутка перадохнеце, калі халады прыйдуць, то і чапляецеся. Зусім пашалелі!»

Нейкі цень прабег сярод коней і раптам знік, калі пастухі, што сцераглі з другога боку, падняліся агледзіць табун.

Хоць з узростам зрок у Тараса стаў горшым, але стары ўсё заўважыў, прыкмеціў, і нядобрая думка з'явілася ў галаве. Ён укінуў у вогнішча галавешку, якая выкацілася адтуль, і прамармытаў сабе: «Трэба будзе заўтра пагутарыць з Міхасём».

* * *

Калі ў пуню трапіў першы сонечны прамень, Феліцыян расплюшчыў вочы. Побач варочаўся Якаў, які вярнуўся з гадзіну назад, стомлены паваліўся на мяккае сена ды захроп на ўсе засаўкі.

Як толькі Феліцыян пачаў варушыцца, сабака, які ляжаў у нагах гаспадара, таксама прачнуўся, расплюшчыў спачатку адно вока, потым другое, навастрыў вушы і слухаў, што далей будзе рабіць чалавек. Феліцыян саскочыў на зямлю і выбраўся з пуні. Сонца сляпіла бляскам прамянёў, прымушала жмурыцца і хаваць вочы, якія яшчэ не прызвычаіліся да святла.

Навокал усё прачыналася. Нейкая казяўка на каменьчыку распраўляла крылы. А вось жук, які сядзіць на камні, паспеў паснедаць і чысціць доўгія вусы, але праляцела ластаўка, і няма яго, толькі вусы і засталіся. Адзін з промняў упаў на лісцік трыпутніка. Кропля расы, што ляжала на ім, заззяла мільёнам рознакаляровых агеньчыкаў, а потым згасла, калі цень аблокаў раптам заслаў сонца. Феліцыян адвязаў каня і павёў па сцежцы праз гароды да ракі.

Над поймай узвышаўся вялізны дуб. Ні адзін лісцік ні шапацеў на ім. Ён раскінуў свае таўшчэзныя галіны па-над пагоркам, а верхавіну цягнуў у неба, і, здавалася, нават чапляўся за бялюткія бакі аблокаў. На зрэзаным трэшчынамі ствале выразна былі бачныя дзве маршчыны, якія напоўніла жывіца брудна-рудога колеру.

Феліцыян правёў па ім далонню, дакрануўся да трэцяй, што выходзіла з самой верхаліны.

Офенберг падышоў да самага берага. Вада ў рацэ была празрыстая, як шкло. Было нават бачна, як над жоўтым дном плаваюць чароды верхаводак. На грэбнях хваль бегалі павучкі, а каля берагу ім нешта шаптаў чарот. Магутны Божа, ты перанёс часцінку раю на зямлю!

Ён некалькі хвілін стаяў у захапленні перад дываном з квецені лугу, пакуль не пачуў крокі. Шляхціц азірнуўся і ўбачыў Зулісю.

— Падабаецца? — спытала яна.

Дзяўчына схілілася над кветкамі і асцярожна правяла рукой па блакітных пялёстках.

— Я кожны дзень сюды прыходжу, каб паглядзець на іх.

— Не рвеш?

— Не. А навошта? Яны ў збане пастаяць і высахнуць, а так усё лета вока цешыць будуць.

Яна накіравалася па сцежцы да дуба, дзе быў прывязаны Рукас, і хадзіў конь шляхціца. Дарогу ёй заступіў Парбус. Сабака ўважліва паглядзеў на незнаёмага яму чалавека, але не загырчаў. Феліцыяна гэта здзівіла.

— Прыгожы сабака. З такім не страшна і сярод ваўкоў.

Дзяўчына выцягнула руку, каб пагладзіць. Сабака натапырыўся, але дазволіў дакрануцца да чорнай шэрсткі.

— Ты яму спадабалася, бо нават не скаліцца.

— Не баюся, таму і ён не хвалюецца, што магу скрасці твайго каня. У мяне таксама быў такі.

— Што з ім здарылася?

— Васпану сапраўды цікава?

— Я ж сам спытаў. Або гэта таямніца?

— Збег кудысьці і не вярнуўся. Дзед гаварыў, што так усе сабакі робяць, калі прадчуваюць блізкую смерць. Я малая была і не верыла гэтаму, чакала.

— Прыйшоў?

Яна пакруціла галавой.

— Не.

— Нават пасля таго, як палезла ноччу яго ў падпечак гукаць?

Зуліся здзіўлена зірнула на яго:

— Адкуль паніч тое ведае?

Феліцыян усміхнуўся.

— Сама калісьці расказала.

Тут усё пранеслася перад вачымі паненкі: Асяніны, святло лучыны, казачны Дзед Барадзед і цацка, якую ён падарыў, а пасля хлопчык каля студні, чырвоныя вуглі ў печы ды помста котцы. Яна зірнула на юнака, чые чорныя вочы цікавалі за ёй.

— Паніч дагэтуль памятае?

— Так. А ты, бачу, забылася.

Коні ішлі нага ў нагу, чмыхалі і неспакойна стрыглі вушамі. Побач з рысаком Феліцыяна бег Парбус. На зямлі, вільготнай ад ранішняй расы, заставаліся вялікія сляды яго моцных тоўстых лап. Коні ўвайшлі ў раку. Яны пілі паволі, быццам хацелі толькі памачыць пысу, і нервова адбіваліся ад аваднёў. Вершнікі цярпліва чакалі, калі яны спатоляць смагу.

Вада ў гэтым месцы была невысокая і, з-за хуткай плыні, халодная. Бераг разбілі колы калёсаў, якія нярэдка рабілі тут пераправу, каб звярнуць у бок гасцінцу, што

вёў да Менска. Блізка знаходзілася і кладка, ды яе б ніхто нават не знайшоў, каб не тоненькая нітачка — сцежка, пратаптаная бабамі да суседняга лесу.

Зуліся адкінула лейцы і саскочыла ў раку. Яна пачала адганяць куслівых мух і аваднёў, пакуль Рукас піў. Пасля набрала ў далоні вады і пырснула на конскую морду. Дзяўчына засмяялася, абняла яго, але ногі ў холоднай вадзе змёрзлі, таму яна выйшла на бераг. Рысак пайшоў следам.

Феліцыян не вытрымаў і крыкнуў:

— Чым ты яго прычаравала? Ідзе следам, як сабака!

— Можа і так, — адгукнулася Зуліся, гладзячы конскую шыю, — толькі не бізуном, як ты, а пяшчотай.

Яна выпрасталася і паказала яму далоні.

— Паглядзі, паніч! Пяшчота далоняў — мацней за чары!

І зноў засмяялася.

«Чараўніца, — падумаў Феліцыян. — І няхай не адмаўляецца, што не варажыла ніколі. Бачыў я такіх!»

Дзяўчына тым часам ускочыла на Рукаса і паклікала Феліцыяна. Надвор’е пачало псавацца, небасхіл зацягнула хмарамі. Сонца схавалася, а вецер пачаў кідацца, як шалёны. Вада пацямнела, завірыла, і хуткія хвалі з’явіліся на роўнядзі Вольсы.

Вершнікі пагналі коней праз поле. Хмары цяпер закрылі ўвесь небасхіл. Раптам бліснула маланка, і за ёй палілося з неба. Зуліся прытулілася да шыі Рукаса і паспрабавала расплюшчыць вочы, але з-за моцнага ветру, павевы якога да болю рэзалі зрэнкі, яна нічога не бачыла. Мокрыя валасы прыліплі да твару, а дзяўчына ўсё гнала каня галопам. Яе нагнаў Феліцыян, крыкнуў, каб не скакала так хутка, але яна не паслухалася і спынілася толькі тады, калі Рукас дамчаў да лесу. Зуліся саскочыла на зямлю, дабегла да дуба, што рос каля сцежкі, прытулілася і закрыла твар далонямі. Феліцыян кінуўся да яе і накрыў разам з сабой буркай.

— Ну што ты так дрыжыш? — шапнуў ён спалоханай дзяўчыне. — Спужалася?

Яна кіўнула.

— Смешная. Чаго тут баяцца? Навальніца хутка скончыцца.

Дзяўчына дзікавата зірнула на яго.

— Пярун забіць можа!

— Што? У старых багоў верыш? — Феліцыян праніклiва паглядзеў на яе.

Зуліся спужалася:

— Не!

— Чаму тады галаву схіліла?

Зуліся скурчылася, вінавата зірнула спадылба і адказала:

— Усе так у вёсцы гавораць. Калі град ідзе, то што-небудзь вострае за ганак выкідваюць. У Кулішках малым да года пасму валасоў абразаюць, каб Перуна не баяліся.

У гэты момант зноў пачуліся грымоты.

— Вой! — спужалася дзяўчына і ўткнулася ў хлапечае плячо.

Феліцыян ахутаў яе буркай і засмяяўся пра сябе.

— Чаго зубы скаліш? — буркнула дзяўчо.

— Перуна твайго прыгадаў. Чым жа цябе заб’е?

— Стрэламі.

— Ці ж гэта стрэлы?

— А што яшчэ?

— Агонь.

— Не, — пакруціла яна галавой, — стрэлы. Я летась бачыла выгарэлыя сляды

на хляве, у які маланка трапіла, дык на стрэлы былі падобны. Каменныя стрэлы забіваюць, а агонь спальвае. Вось так.

— А грымоты? Таксама Пярун весяліцца?

— Ён. Два велізарных жарнавы трэ, адтуль такі гук.

Яе дзіцячая наіўнасць і шчырая вера ў забабоны падабаліся Офенбергу. Феліцыян глядзеў і дзівіўся простай і ненайгранай прыгажосці дзяўчыны. «Калі б ведалі ўсе паненкі, — думаў ён, — што краса тады становіцца яркай, калі яны перастаюць страляць вочкамі і пра яе нават не здагадваюцца. Гэтая ж і не ведае, а сама прыгажэйшая за Венеру».

— Чаму ж ён так злуецца?

— Пярун не злы, а толькі чорта забіць хоча. Часам можа ў чалавека ненаўмысна трапіць. Людзям, у каго ён пацэліў, на тым свеце лепш жыць.

— Добры дзядок, значыць?

— Ды не дзядок! Ён прыгожы, велічны, валасы чорныя, а барада доўгая і залацістая. Яшчэ жонка ў яго ёсць.

— Няўжо?

— Ага. Грамаўніцай клічуць.

Яна стала папраўляць валасы, потым выцерла твар рукавом мокрай сукенкі, якая прыліпла да тонкага стану. Раптам дзяўчына паглядзела на яго і замаўчала.

— Ты чаго спужалася?

— Нашто лыбішся? Адвярніся!

Яна пачала выкручваць палы сукенкі, паглядаючы час ад часу на шляхціца, які стаў спінай.

— Баішся мяне?

— Не.

— Чаму ж?

— Няўжо, вашамосць, хочаш напужаць? Над жыватом халопаў пан мае ўлады, але ж я не з іх. Мой прадзед за службу вялікаму князю атрымаў герб і званне.

— А жывяце з халопамі.

Дзяўчына не адказала нічога. Яна паправіла сукенку і наблізілася.

— Творца ўсіх з адной гліны ляпіў. Паспрабаваў бы ты зараз рукі распускаць, то і каб халопкай была, не пабаялася б. Чула я пра адзін выпадак і табе раскажу, каб ведаў, што годнасць не ад тытулаў залежыць. Ведаеш жа пра вайну нашага Княства са шведамі?

— А то не!

— У гэтыя часы і было. Войска ў вёску суседнюю зайшло, каб фуражу ўзяць. Аднаму жаўнеру наша дзеўка прыглянулася. Што далей было б, ведаеш сам, ды халопка пачала прасіцца, каб адпусціў. За свабоду абяцала расказаць сакрэт бессмяротнасці. Жаўнер не верыў, і тады яна прапанавала самому пераканацца: ссячы ёй галаву. Па яе словах, галава павінна была адрасці.

— І як?

— Ён паслухаўся і ссек.

Офенберг з недаверам зірнуў на яе:

— Няўжо на самай справе чараўніцай была?

— Не, шляхціц. Яна не была чараўніцай, і галава не адрасла.

Дзяўчына сумна ўсміхнулася і апусціла галаву.

— Але і я такія «чары» прыняла б грэхам на душу, каб...

Феліцыян усміхнуўся:

— Не ведаў, што ты такая. Прыvarажыла мяне, чараўніца.

Офенбергу здалося, што менавіта гэтую дзяўчыну ён бачыў у сне ў жытнім полі ў вянку з валошак. Паніч нахіліўся да тонкіх малінавых вуснаў і пацалаваў іх.

* * *

Над поймай Свіслачы ўзышло сонца. Яно афарбавала плынь у пунсовы колер і схавалася за шатамі. Два шляхцічы сядзелі на беразе і назіралі за ўзыходам нябеснага дыска. Якаў устаў і падняўся да выгарэлай зямлі каля ракі, дзе гэтым летам агонь выеў слой торфу аж да чырвонай гліны. У ямах яшчэ нічога не паспела вырасці, а попел прыбілі кроплі ўчарашняга ліўню. Юнак нахіліўся, узяў адтуль жменю зямлі і сціснуў яе ў далоні. Паміж яго пальцаў пацяклі па скуры кроплі рудога колеру.

— Феліцыян, глядзі — як кроў!

— Дурань.

Якаў падышоў да вады, каб змыць бруд. Ён апусціў руку ў халодную плынь і, спужаўшыся, адскочыў. Яму падалося, што хвалі афарбаваліся спачатку ў пунсовы, а пасля ўжо ў руды колер.

Феліцыян заўважыў, што сябра перасмыкнула, і паспрабаваў яго супакоіць.

— Гэта гліна, Якаў. Зямля гарэла, агонь спыніўся на пласце гліны. Паехалі!

Панічы знайшлі брод і пераехалі раку. Недалёка цягнуўся гасцінец і знікаў у гушчы лесу. Якаў нацягнуў лейцы свайго рысака і азірнуўся ў бок вёскі. Яна пачала «ажываць»: дзе-нідзе рыпелі веснічкі, паілі скаціну, тапілі печы, і нізка схіляў над студняй галаву журавель.

Яны мінулі Стары Бор. Гасцінец доўга слаўся праз лес і вывеў да гаці. Неабдымнае балота падступала з усіх бакоў. Тонкая сцежка насцілу з бярвенняў разбівала чорна-зялёнае люстэрка багны. Хто ведае, колькі сялянскіх жыццяў зжэрла за стагоддзі гэтая чортава пастка. Халопаў зганялі на рамонты такіх шляхоў ледзь не кожную вясну, радзей — летам, а часам будавалі ўзімку, калі замярзаў багністы грунт, і тады ледзяная вада ўразалася ў чалавечае цела, як лязо шаблі.

Якаў пад’ехаў бліжэй і скасавурыўся на мост.

— А іншага шляху няма? Тут бярвенні старыя, то і глядзі — пойдзеш да шайтана ў госці.

Феліцыян кіўнуў.

— Тры чвэрці да смерці. Ездзіў калі шляхам ад Мазыра на Князь-возера?[1]

— Не. Чаму пытаеш?

— Я там быў. Ад Дзякавіч да Азяран трынаццаць вёрст цягнеца адна суцэльная гаць. Калі едзеш, то яна хістаецца пад нагамі.

— Цьфу, — скрывіўся Якаў, — хутчэй бы выбрацца адсюль. Нават вёскі тут як нежывыя. На абшарах паміж Бярэзінай і Друццю толькі рэха і пачуеш.

— А што ты хацеў? Глеба там бы каменне, балоты. Расейцы пад бокам — калі вайна, то туды ў першую чаргу сунуцца. Няшчасная зямля — як мёдам намазана для іх.

— Гэта я мёдам памазаны, — віскнуў Якаў, адбіваючыся ад камароў. — Няўжо яшчэ не перадохлі? Ух, крывасмокі, каб вас агонь спаліў! Ну дзе там хоць якая карчма?

— Ты спачатку на сухое выедзь, а пасля ўжо карчму шукай. Думаеш, яна табе пасярод гаці стаяць будзе?

Якаў прыціх, паглядзеў на чорную ваду і плюнуў.

---

[1] Адна з найбольш старажытных дарог, што праходзіла па глухіх, менш абжытых раёнах Прыпяцкага Палесся.

— Не здзіўлюся, калі тут з чортам сустрэнемся. Слухай, чаму тая халопка сказала, што нам два броды ехаць?

— Так шмат дзе гавораць. Шлях вызначаюць не вёрстамі, а колькасцю пераправаў — брадоў.

— Цёмныя людзі. Яны ў жыцці, акрамя балот, нічога і не бачылі.

— Балот тут сапраўды шмат. Мой дзядзька расказваў, што ў часы апошняй вайны са шведамі[1] тыя дайшлі аж да Пінску. Карл XII упадабаў горад, але быў здзіўлены бясконцым морам балот і рэк. Я сам бачыў надпіс на вежы езуіцкага калегіума ў Пінску, які ён надрапаў на сцяне: «Non plus ultra»[2]. Гэты дзівак лічыў, што далей няма нават кавалачка зямлі. Такі ж дэвіз, дарэчы, быў і на гербе Гішпаніі, пакуль не адкрылі Амерыку.

— Спадар Карл пралічыўся, — усміхнуўся Якаў.

Нарэшце яны выехалі на сухое. Цяпер шлях ляжаў праз лес, густы і цёмны. Падарожнікі ехалі моўчкі, пакуль не пачало змяркацца, і неба зрабілася блакітна-чырвоным. Хмары нібы аддзяліліся ад яго, плылі, здавалася, зусім нізка. Нібы сарамлівыя дзяўчаты, схілілі галовы палявыя валошкі, ім знізу ўсміхаліся рамонкі. Паўсюль адчуваўся пах мёду, які дурыў галаву водарам так, што хацелася спыніцца, легчы на ложак з кветак і заснуць, захлынуцца п’яным зеллем мядовых траў.

Насустрач з лесу выйшаў халоп, а за ім цягнулася падвода. Упрэжаная худоба ледзь перастаўляла капыты. Гаспадар з бледным высахлым тварам і шэрымі вачыма, босы, у простай світцы трымаў у руках дубец. Патрэбы ў такой грознай зброі не было, але ён упарта падганяў бедную жывёлу.

Калі халоп убачыў шляхціцаў, то спыніўся зняў саламяны капялюш і нізка схіліўся ў паклоне. Юнакі накіравалі сваіх рысакоў да яго.

— Можаш разагнуць спіну, а то ад такіх паклонаў хутка пераломіцца, — сказаў Якаў. — Чаму не шкадуеш сваю скаціну?

— Яна не мая, — ён бліснуў ікламі, — суседа.

Якаў пагардліва паглядзеў на яго.

— Чый?

— Хвядзько. Князя Радзівіла халоп, сам з Асіповічаў.

— Ведаеш, дзе тут бліжэйшая карчма?

Хвядзько пачухаў патыліцу.

— Якая? Заезная ці незаезная? Панічу патрэбна на ноч спыніцца ці гарэлкі выпіць?

— Дурань, не бачыш, што вечарэе? Канечне, заезная!

Хвядзько зноў пайшоў па розум.

— То гэта недалёка. Калі проста паедзеце па шляху — праз дзве вярсты ўбачыце карчму на скрыжаванні, якую клічуць Астатні Грош. Калі ж яснавяльможныя паны праз вярсту звернуць улева, то заедуць да Ёханавай карчмы. Гаспадар там лепшы, ды і ў сівуху вады не дабаўляе, як Зэлян.

Шляхцічы завярнулі рысакоў і памкнуліся проста па гасцінцы. Праехаўшы з вярсту, яны звярнулі па шляху ўлева, і гасцінец ператварыўся ў сцежку. Праз нейкі час сябры натыкнуліся на старую хату, што стаяла на выжарыне. Яна была больш падобна да вялізнага спарахнелага грыба, чым да карчмы, з-за нізкай, ледзь не да зямлі, саламянай страхі. Сама хатка стаяла на паляне, абкружаная старымі ялінамі. Двор здаваўся невялікім, але акуратным. Праз якіх дваццаць крокаў была студня, за ёй — фурманка і сані пад павеццю. Спрытнасць і цягавітасць гаспадара былі бачны ва ўсім.

Юнакі накіравалі коней да карчмы. Насустрач ім выбег сабака з прастрэленай лапай і пачаў кідацца на коней, спрабуючы ўкусіць. Рысакі натапырылі вушы і

---

[1] Маецца на ўвазе вайна 1700—1721 гг.

[2] Далей нічога няма (лац.).

неспакойна перабіралі нагамі. Якаў раззлаваўся, дастаў крамянёвае ружжо і пацэліў у сабаку. Той завішчаў, і тут прагучаў яшчэ адзін стрэл амаль каля яго вуха. Шляхціц спалатнеў і паглядзеў на Феліцыяна. Сябра кіўнуў у бок адчыненых дзвярэй хлява.

— Стралялі адтуль. Трымай падрыхтаванае ружжо.

Якаў кіўнуў і павярнуў каня. Феліцыян паехаў следам.

Раптам зноў пачуўся свіст кулі, і паляцелі трэскі з дрэва, ля якога спыніўся Якаў. Ён нацягнуў лейцы і заўважыў, што трава каля студні запэцкана крывёй. Пясок на двары быў стаптаны дзясяткам коней. Юнак кіўком папярэдзіў Феліцыяна.

Людзі, якія затаіліся ў хляве, больш не стралялі, але цішыня была напружаная, нібыта вось нешта здарыцца.

Тут Якаў падняў руку і крыкнуў:

— Гэй, хто б там ні быў! Мы не разбойнікі, у нас добрыя намеры!

За дзвярыма пачулася перашэптванне, нешта затрашчала, і грубы мужчынскі голас гаркнуў:

— Які чорт вас сюды прывёў? Прэч!

Юнакі пераглянуліся.

— Мы хочам спыніцца ў карчме да раніцы.

У хляве завязалася валтузня, пасля ўсё сціхла, і да іх выбег стары. Ён паваліўся на калені перад панамі і пачаў прасіць:

— Я гаспадар карчмы. Не злуйцеся, яснавяльможныя! Мы стралялі, бо думалі, што вы разбойнікі.

— Што тут здарылася? Чаму кроў каля студні?

Карчмар схапіўся за валасы і зароў:

— Мы мірныя людзі, нікога не чапалі, а тут... — ён ледзь гаварыў, — разбойнікі ўчынілі наезд. Гора ў нас, паніч. Затапталі коньмі нявестку маю. Каб не гэта, дык зімой сыну памочніка нарадзіла б.

З-за дзвярэй выйшаў малады бялявы хлопец са страшнымі вачыма, якія блішчэлі нянавісцю. У руках ён трымаў стрэльбу. Якаў акінуў яго вокам і спытаў:

— Гэта ты так страляеш? Вельмі добра.

Хлопец надзьмуўся і прамармытаў:

— Каб страляў на ўсю моц, то, ваша мосць, не хвалілі б мяне.

Якаў аж пачырванеў ад злосці.

— Што?! Ды ты... — Якаў у шаленстве схапіў шаблю, але руку перахапіў стары.

Ён зноў упаў на калені і пачаў прасіць:

— Змілуйся, васпан! Сын не ведае, што гаворыць, бо яго вуснамі Люцыфер завалодаў! Гора ў нас, вось і ашалеў.

Якаў павярнуў каня і пад’ехаў да карчмы. Сын гаспадара не зводзіў з яго вачэй і моцна сціснуў стрэльбу ў руках. Феліцыян тым часам нахіліўся да карчмара і ціха шапнуў:

— Скажы сыну, каб прыціх, а то ў цябе ў хаце другую труну ставіць прыйдзецца.

Ёхан памаўчаў, а пасля дадаў:

— Не ў добры час вы прыехалі. Гора ў нас, каб яшчэ чаго не здарылася.

— Пагражаеш?

— Як магу? Але ці да твару заставацца такім панічам у хаце з нябожчыцай?

Офенберг ухмыльнуўся.

— Калі б захацеў, то ты труну б вынес на двор, а мы адпачылі б у хаце.

Стары яўрэй нізка пакланіўся, а Феліцыян паскакаў прэч. Карчмар жа паваліўся на зямлю, сціснуў у кулаках пясок і завыў.

Карчма, якую арандаваў у князя Радзівіла габрэй Зэлян, сярод тутэйшых называлася Астатні Грош і знаходзілася зусім недалёка ад гасцінца. Хата дзялілася сенямі на дзве паловы. Злева жыў арандатар з сям'ёй, там жа можна было выпіць куфаль піва ці кварту сівухі. З іншага боку спыняліся на начлег пастаяльцы, з якіх пад такую ласку звычайна пападалі купцы і шляхта. Халопаў Зэлян не любіў, але большую частку прыбытку забяспечвалі менавіта яны, бо па загаду князя Радзівіла яго халопы павінны былі піць сівуху толькі ў корчмах, што належалі магнату, і да таго ж устанавіў норму, нават для тых, хто не меў гэтай звычкі.

Калі падарожнікі ўвайшлі, то там яшчэ было некалькі чалавек. Стары цыган сядзеў каля дзвярэй, а за ім заліваў у сівусе горыч пастух. Асобна ад усіх у куце прымасціліся два панічы і, напіўшыся ўдрызг медавухі, часалі языкамі.

Як толькі гаспадар убачыў новых кліентаў, то адразу падскочыў да іх і, лісліва ўсміхаючыся, вымавіў:

— Шаноўныя паны, запрашаю! Чым частаваць спадарства?

Якаў усеўся на лаву і крыкнуў:

— Медавухі прынясі!

Гаспадар пакорліва пакланіўся і выйшаў, каб узяць з кладоўкі пітво. Тым часам з далёкага вугла, дзе сядзелі шляхціцы, пачуліся крыкі.

— Браточкі! Пахвалёны пан Езус! Хто вы?

— Князь Офенберг і пан Няміра, — спакойна адказаў Феліцыян. — З кім я маю гонар гаварыць?

— Паны Ракутовічы. Вядзём коней на кірмаш. А ваш шлях куды вядзе?

— У Варшаву.

— О! То няблізка. Няхай дапамагае Бог!

У шляхцюкоў ад колькасці выпітай медавухі язык ледзь паварочваўся, таму іх цікавасць хутка згасла. Праз хвіліну яны наогул захраплі на лавах.

Якаў грэбліва зморшчыўся і прамовіў:

— Шарачкі[1]. З тых, хто крычыць пра годнасць, а самі ў лапцях гной на поле возяць.

— Адкуль ведаеш?

— Па іх адразу відаць. Што за час! Цяпер нават халоп, калі займее грошы, можа набыць герб. Чуў пра «Кнігу хамаў»?[2]

— Ну.

— Зусім нядаўна судзіліся пан Уняхоўскі і пан Выбіцкі: першы другога халопам абазваў. Суддзі і не ведалі, што «яснавяльможныя» паміж сабой дамовіліся. Выбіцкі наскроб грошыкаў, падкаціўся лісою да нейкага пісара ў канцылярыі, і той каля яго прозвішча слова «nobilis» падпісаў. Ведаеш, што значыць?

— А то!

— Вось так, братка! Як толькі справа была зроблена, то Выбіцкі падкупіў Уняхоўскага, каб той спрэчку пры сведках пачаў. Абодвум прынеслі ў прысутнасці сведак «позву», справа пачалася, а суддзі куды ў першую чаргу звернуцца? Канечне, у канцылярыю, а там усё зроблена. У якасці «довадаў слушных» Выбіцкі ім нейкія паперы прынёс і перамог. Яму далі выпіску пра гэта з судовых кніг з подпісамі і пячаткамі. Цяпер во павай ходзіць. Каго ліслівым слоўцам да сябе наблізіць, каму грошай пазычыць...

---

[1] Шарачковая і загонная шляхта была больш беднай і жыла ад працы сваіх рук або служыла магнатам.

[2] Кніга, дзе запісаны прозвішчы тых людзей, якія незаконна называлі сябе шляхтай. Напісана ў XVIII ст. у сувязі з павелічэннем колькасці падманаў.

— Дзе ты чуў тое?

— Сарока на хвасце прынесла! Пан Уняхоўскі з маім бацькам любіць сівухі пасля ловаў выпіць. А як нап'ецца, то языком, што мятлой, чэша!

З каморы прывалокся гаспадар з медавухай і вяндлінай. Ён змахнуў рукавом крошкі са стала і паставіў пачастунак.

— Я чуў, як пан гаварыў, што едзе да самай Варшавы. Ці не слухачамі[1] на сейм вас адправілі?

— Не твайго носа палоса, — прабубнеў Якаў, запіхваючы ў рот вялікі кавалак мяса. — Прынясі яшчэ кіўбасы!

Той паслухаўся, зноў пацёгся ў каморку, але калі вярнуўся, то працягваў дапытвацца.

— Што новага ў свеце, паночкі?

— Шмат чаго. За ноч не раскажаш. А вось тут у цябе пад бокам...

Карчмар навастрыў вушы і адхіліў руку з бутэлькай ад келіха, з-за чаго пітво палілося на стол.

— Глядзі, куды льеш! — крыкнуў Феліцыян.

Зэлян схамянуўся і пачаў выціраць.

— Нешта здарылася? — спытаў ён.

— У карчме, якая ў лесе стаіць, сёння хаўтуры.

— Божа міласэрны, — войкнуў той, — няўжо Ёхан памёр?

— Ды не, нявестку разбойнікі коньмі затапталі.

Тут з боку дзвярэй, дзе сядзеў пастух, пачуўся голас.

— А ты рады, поскудзь, чужому няшчасцю. Усе ведаюць, што і з чортам не збаішся звязацца, абы табе добра было.

Карчмар аж падскочыў.

— Сядзі ціха, Андрэй, — прашыпеў ён.

— Нечага мне рот затыкаць! І так пра тваю разбаўленую сівуху маўчу. У Ёхана добрая гарэлка, не тое, што ў цябе. Ды і чалавек ён, а ты — змяюка!

— Чаму ж да яго ў карчму не пайшоў, га? — аскірзнуўся Зэлян.

— Сам ведаеш. Ты арандатар у князя Радзівіла, а ён загадаў, каб на дукат кожны месяц халопы гарэлкі ў яго корчмах выпівалі.

Андрэй павярнуўся і накіраваўся да дзвярэй, плюнуўшы ў бок гаспадара. Зэляна аж перакруціла, і ён зароў:

— А не баішся, халоп, што твае словы князю перадам?

— Я ўжо нічога не баюся. Прапаў мой век, як макаў цвет.

Ён зрабіў яшчэ некалькі крокаў і шапнуў на вуха карчмару:

— Сцеражыся, воўчая падаль, бо чырвоны певень на тваёй страсе запяе, калі ў мужыкоў апошнюю світку здзіраць будзеш і дурнап'ян з гарэлкай разбаўляць.

Карчмар затросся ад злосці, але прамаўчаў, і дзверы за селянінам зачыніліся.

— Гарласты халоп, — сказаў Феліцыян. — Што ў яго за бяда?

— Князь жонку з дачкой прадаў за картачны доўг. Яснавяльможны ўсё чуў?

Феліцыян кіўнуў.

— Тады чаму не адсек галаву гаду?

— Да такой гадзюкі ў мяне больш павагі, чым да ліса. Ты ідзі пасцялі, пойдзем адпачываць.

Зэлян крыва ўсміхнуўся і махнуў рукой.

— Прашу ісці за мной.

---

[1] Да сярэдзіны XVIII ст. соймы праводзіліся адкрытыя, і шляхціцы, не абраныя пасламі, маглі прысутнічаць як слухачы, але не мелі права выступаць.

Яны прайшлі ў правую частку карчмы, дзе на глінабітнай падлозе ляжалі падрыхтаваныя кулі з саломай.

— Накорміш коней, — загадаў Феліцыян. — Што стаіш?

— Я магу, калі паніч жадае, за невялікія грошы павартаваць коней, — сказаў ён і кіўнуў у той бок, дзе сядзеў стары цыган. — Добрыя ў вас коні, некалькі вёсак каштуюць.

Офенберг адмоўна пакруціў галавой.

— Ты майго сабаку бачыў?

— А то не! Такога ваўкадава не заўважыць цяжка!

— Дык ён ужо трох такіх пагрыз, а да коней нікога не падпусціў.

— Цыган?

Феліцыян прымружыўся і гаркнуў:

— Карчмароў!

Зэлян вышчарыўся, але не пярэчыў і пайшоў прэч.

Сябры ўладкаваліся на саломе. Яна смярдзела сівухай і ванітамі. Цяпло, якое ішло ад печы, яшчэ больш узмацняла непрыемны пах і не давала заснуць. У куце пеў цвыркун, пішчэлі мышы. У цемры маленькі пакой ператварыўся ў суцэльную бездань змроку, які ціснуў сваёй маркотай і пачуццём першабытнага жаху. Ні адбітак полымя свечкі ў іншым пакоі, ні агеньчыкі зорак, што відаць былі з вакенца, не маглі яе перамагчы. Тым часам гаспадар прыцягнуў з другога пакоя тых двух п'яненькіх панічаў і паклаў недалёка на падлогу без саломы.

— Я дам параду пану, — звярнуўся ён да Феліцыяна. — Ён мне не верыць, а я не веру гэтым двум пастаяльцам. Калі пан хоча працягваць сваё падарожжа ў ботах, то няхай іх пакладзе пад галаву і спіць.

Ён так сказаў і пайшоў прэч.

* * *

Жаць пачыналі з малітвай. Потым шэптам прасілі Спешку-Спарышку[1] абдарыць спорам у працы, каб лёгка жалася. Жанчыны бралі калоссе ў сцёртыя далоні, зразалі і клалі ў снапы. Дзяўчаты жалі моўчкі, не разгінаючы спіны, а жанчыны час ад часу зачыналі песню. Тужлівая, яна ляцела далёка над полем, ды толькі хутка абрывалася. Мужыкі ж слухалі іх і бурчалі: «Як на магілкі ідзяце». Дзядзька Антось, не вытрымаўшы, гаркнуў, што грошы заплоціць, абы маўчалі. Сказаўшы тое, адразу пашкадаваў, перахапіўшы позірк жонкі.

Тыдзень таму ніхто не верыў, што будзе так горача, бо дажджы ішлі амаль кожны дзень. Цяпер жа спякота стаяла нясцерпная, і жнеі часта падыходзілі да барылкі з вадой. Маладуха Марта бегала больш за ўсіх, але не спатоліць смагу, а да калыскі з малым. Дзіця пакутавала ад спякоты, раўло, як не ў сабе, і гэтым раздражняла ўсіх. Бедная Марта не ведала, што рабіць. Яна прытуляла яго да грудзей, люляла і гушкала, але малое не сунімалася. Каб жаць пачалі на тыдзень раней, быў бы яе Ягорка жытнікам[2].

Жалі штодзень ад усходу сонца і да змяркання. Не прыйсці ж было нельга, бо гайдукі, прыстаўленыя, каб назіраць за працай, добра выконвалі ўсе даручэнні пана Незабытоўскага. Нават за невялікую правіну ці затрымку ў ход ішоў бізун. А праз два тыдні панскія палі былі пустыя. Мужыкі звезлі снапы, і толькі «барада» на межах, абвязаная стракатымі стужкамі, нагадвала пра тое, што не так даўно тут каласілася жыта.

[1] Персанаж беларускай міфалогіі.

[2] Дзеці, якія нарадзіліся ў полі без дапамогі павітухі.

Дзяўчатам жа свая радасць. Шукаюць у жыце падвойны колас і варожаць на замужжа. Рабілі і па-іншаму. Зажынаючы апошні сноп, яго не звязалі, а пакінулі для варажбы. Дзеўкі падбягалі з бакоў і хапалі кожная сабе па жмені аўса. Сабраўшыся, яны глядзелі, у каго зерня болей, тая і выйдзе за багатага жаніха. Пасля прыйшла чарга сярпоў. З віскам і рогатам дзяўчаты бралі ў рукі і кідалі за сябе, а потым кружыліся вакол Дануты, чый серп упаў бліжэй за ўсіх, — знак таго, што яна першая гэтай восенню замуж пойдзе.

Старыя бабы тым часам пачалі раіцца, каму надзець дажыначны вянок.

З гурта дзяўчат яны часцей пазіралі на трох: Улляну, Галінку Панасаву і Дануту. Бабы спрачаліся, старая Войцеха злавалася, нават крычала, а ёй не хацелі саступаць. Яна была падобна на вялікую чмяліху сярод іншых жанчын, усё жужжала і бурчэла, пакуль, нарэшце, на тое пагадзіліся. Войцеха адразу ажывілася, заміргала маленькімі вачыма і расплылася ў задаволенай усмешцы. Жанчыны паклікалі Улляну і адзелі ёй на галаву вянок, у які прыгожа былі ўплецены кветкі і стужкі. Апошні сноп жыта дзяўчаты таксама аздобілі кветкамі, потым надзелі спадніцу, завязалі паверх каласоў хустку і з песнямі панеслі на панскі двор.

Па дарозе Войцеха настаўляла Улляну: — Ты ж глядзі, каб усё добра было. Усміхайся пану і яго жонцы.

Улляна кіўнула, а старая раптам нахілілася і шапнула:

— Яшчэ кажуць, што паніч малады прыехаў, ён у пранцузаў вучыўся. Можа, таксама выйдзе, дык не стой, як слуп, сама ж ведаеш. Будзь з ім ласкавая, бо і выбралі цябе таму, што не будзеш стаяць з адкрытым зевам, калі пан ці пані чаго запытаюць.

Пад гукі дажыначных песень жнеі ішлі па гасцінцу:

Прачыста маці ішла зажынаці
У чыстае поле з пшоным пірагом.
З пшоным пірагом, з залатым сярпом.
У левай руцэ пшоны піражок,
У правай руцэ залаты сярпок:
Я раз разну — я сноп нажну,
Я і два разну — я капу нажну!
Сноп ад снапа — на валовішча,
Капа ад капы — паўтараста крокаў!
Меншы святочкі носяць снапочкі,
Святы Ганны бабкі стаўляюць,
Святы Барыс бабкі злічае…

Так дайшлі да агароджы. Далей пачынаўся парк, у сэрцы якога стаяў маёнтак. Тут жанчыны змоўклі і ішлі няўпэўнена і асцярожна. Высокія ўязныя брамы абвіў павой, і сваім таўшчэзным ствалом злучыў не горш за жалезныя пруты агароджы. За брамамі пачынаўся брукаваны чырвоным каменем шлях, які вёў да самага маёнтка праз алею са стройных ліп і вязаў. Яны стаялі на невялікай адлегласці, каб не зацяняць дагледжаныя кусты руж паабапал.

Жней сустрэлі самі гаспадары ў акружэнні дваровых людзей. Пан Незабытоўскі з жонкай і дзецьмі чакалі на ганку маёнтка. Данута глядзела на пані Марыю і дзівілася яе прыгажосці. Залацістыя валасы былі ўплецены ў складаную прычоску, якая ёй вельмі пасавала. Адзета пані была па апошняй модзе, у якую зусім нядаўна ўвайшла рагоўка — спадніца з палатна, да якой падшываліся тры абручы з кітовага вуса. Іх дазвалялася насіць толькі шляхцянкам. Абручы тыя не былі круглыя, як на бочцы, але прыплюшчаныя, падоўжаныя — накшталт авальнай ванны. Пані апранула спачатку падшытую спадніцу, пасля рагоўку, а на тую ўжо была ўсцягнута

сукенка блакітнага колеру з залацістай вышыўкай. Такога ж колеру былі і шаўковыя чаравічкі, упрыгожаныя спражкамі і вышыўкай. Яна трымала на руках маленькага Станіслава, а побач з імі стаяла гувернантка і лагодна ўсміхалася, калі выхаванец, як маленькі француз, вымаўляў завучаныя чужыя словы.

Пан Міхал не ўхваляў змен, якія адбываліся не толькі ў фасонах адзення і прычоскі, а і ў палітыцы дзяржавы. Гэта можна было заўважыць па яго знешнім выглядзе, дзе быў падкрэслены сармацкі дух. Кароткі суконны кунтуш з шасцю вялікімі гузамі ў форме пладоў глогу быў падпярэзаны слуцкім поясам і апрануты паверх пунсовага жупана, на якім пад шыяй блішчэлі срэбныя гузікі з дробненькімі рубінамі, асаджанымі па баках. Галава пана была старанна выгалена, і пакінуты толькі чуб, але затое аж да плячэй звісалі доўгія вусы. Незабытоўскі трымаўся годна, з гонарам. Часам ён паглядаў на дзяцей, падміргваў ім і ўсміхаўся. Было бачна, што яго весяліў сялянскі звычай.

Усе кропачкі маці ўвабрала ў сябе маленькая Людовіка. Такія ж бліскучыя малахіты вачэй, золата валасоў у доўгай касе, пераплеценай стужкамі і аздобленай шаўковымі кветкамі, сціплы позірк. Дзяўчынка стаяла побач у жоўценькай сукенцы і не адрывала вачэй ад Улляны і вянка.

Альберт быў падобны да бацькі. Толькі колер валасоў — русы ў пана Міхала і бялявы ў сына — быў адзіным адрозненнем паміж імі. Альберт быў гожым, але ўся прыгажосць знікала, калі ўважліва зазірнуць у вочы: нахабны і пусты погляд быў накіраваны ў бок Улляны.

Старая Войцеха заўважыла гэта і штурхнула ціхенька Агату:

— Бач ты, а нашыя дзяўчаты не горшыя за пранцузкіх! Паніч з Улляны вачэй не зводзіць!

Тая кіўнула ў знак згоды і дадала шэптам:

— Калі б Улляна была панскай дачкой, то ад шляхцюкоў адбою не было б.

— Ну, не за таго яе матку аддалі: сям'я не бедная была, а ўсё да гэтага Марціна хілілася.

— Дык цяпер жа добра жывуць, у гаспадара залатыя рукі.

— Калі б за панскага гайдука пайшла, што таксама залёты строіў, то бліжэй да паноў была б. А цяпер што?

— Кахаюць адно аднаго.

— Ат, — Войцеха махнула рукой.

У гэты момант пані Марыя паклікала дзяўчат. Яны абступілі гаспадыню і пачалі вадзіць карагод. Пані кружылася разам з імі і спявала. Музыкі стараліся: гудзела дудка, ёй падыгрывалі жалейка і трашчоткі, звонка пелі дзяўчаты. Пан Міхал не хаваў свайго здзіўлення, смяяўся і плёскаў у далоні, а малая Людовіка падбегла да маці і закружылася разам з ёй. Яе падхапілі пад рукі жнейкі і павялі ў карагод. Калі ж пані стамілася і спынілася, дзяўчаты скончылі танчыць. Улляна падышла і адзела ёй на галаву свой вянок, а пану аддалі «бараду». Гаспадыня пачала раздаваць жнейкам пернікі. Маленькая Людовіка стаяла каля маці, пасля нарэшце падышла і папрасіла:

— Падары і мне вянок.

Пані Марыя ўсміхнулася і перадала Улляне свой вянок, які тая адзела на галоўку дзяўчынцы.

— Maman, peut-elle rester chez nous comme une domestique?[1] — папрасіла яна ў матулі.

Жанчына падумала крыху і адказала:

[1] Мама, можна яна застанецца ў нас служкай?

— Il me semble, que oui, mais veux-tu vraiment qu'elle reste dans notre domaine? Tu as une gouvernante déjà[1].

— Oui, mais elle m'apprend le français, cette fille jouera avec moi. Elle m'apprendra à tresser une couronne si belle qu'elle a sur sa tête[2].

Пані Марыя зірнула на мужа. Ён кіўнуў, і тады жанчына звярнулася да Улляны:

— Застанешся ў маёнтку.

Людовіка запляскала ў далоні і абняла маці, узрадаваўшыся, што ў яе з'явілася новая цацка. Улляна разгублена агледзелася і пабялела. Халопы схілілі галовы і маўчалі. Хто ж будзе пярэчыць панскаму загаду? Але ніхто і не заўважыў, як нядобрым бляскам загарэліся вочы Альберта.

* * *

Ад попелу Паўночнай вайны Менск доўга не маглі адмыць цёплыя дажджы, якія лілі свае слёзы над спустошаным і разбураным горадам. Эпідэмія чумы, ці чорнай смерці (так клялі яе ў кожным доме), скасіла ў першым дзесяцігоддзі так, што вуліцы былі пустыя. І ажываць горад пачаў у другой палове стагоддзя: прыкметна адбудаваўся і пашыраў свае межы за кошт забудовы ўскраін у напрамку трактаў, якія ішлі на Вільню і Барысаў. З тых напрамкаў сцягваліся выгнаныя адтуль вайной гандляры ды халопы, якіх гарадское паветра рабіла свабоднымі ад паноў і арандатараў.

Так прайшло амаль паўстагоддзя, і на вуліцах зноў замітусіліся людзі. На рынкавай плошчы быў чутны крык гандляроў: колькасць «душ» рамеснікаў ужо перавалілі за тысячу, тым больш, што сярод іх не ўлічваліся прамыслоўцы, да якіх належалі мяснікі, вінакуры, піўвары, медавары, рыбаловы, фурманы і іншыя. Уся гэтая брація складала добрую палову, калі і не большасць, агульнага ліку ўсіх жыхароў.

Менскія купцы вялі буйны гандаль і далёка за межамі горада. Астатнія мяшчане займаліся дробным гандлем. Ім належалі невялікія крамы ў дамах, рознага тыпу лаўках, хоць для шмат каго такі гандаль быў дадатковым заняткам да гаспадаркі. Большасць жыхароў, як і раней, мелі агароды, сады і нават трымалі свойскую жывёлу.

Для ўсіх жыхароў горада важнае значэнне мелі два кірмашы, якія праводзіліся штогод. На летні кірмаш з'язджаліся ў асноўным сяляне са збожжам, быдлам, вясковым сукном, хлебам, драўляным і гліняным посудам, а таксама прыганялі коней. За адзін дзень плошча напаўнялася народам, гулам, крыкамі, але на наступную раніцу ўсё знікала, быццам нічога і не было. Мясцовыя гаспадыні не шкадавалі грошай на соль, алей і селядцы, што гандляры прывозілі ў вялікай колькасці і мелі неблагі прыбытак. Мужчынская ж палова біла рэкорды, скупаючы тытунь, жывіцу і дзёгаць. Вывозілі ж воск, мёд, шчаціннe і мясцовае футра, а менскія купцы закупалі лён, пяньку, зерне, лясныя матэрыялы і рагожы, адначасова змяніўшы напрамак вывазу. Шляхі ў Вільню, Гродна, Крулявец і Гданьск ажылі, і на іх заварушыліся, як мурашы, людзі. І ў дзень, і ў ночы там рыпелі колы шматлікіх фурманак на шырокіх гасцінцах.

Зусім па-іншаму адбывалася вясной. На гэты кантрактовы кірмаш прыязджала шляхта не толькі з усяго Вялікага Княства, але і з Украіны. Яны заключалі кантрак-

---

[1] Мне здаецца, што так, але, Луіза, ты сапраўды жадаеш, каб яна засталася ў нашым маёнтку? У цябе ўжо ёсць гувернантка.

[2] Так, але ж яна вучыць мяне французскай мове, а гэтая дзяўчына будзе гуляць са мной. Яна мяне навучыць плесці такі ж прыгожы вянок, як у яе на галаве (фр.).

ты на продаж, здавалі ў заклад ці арандавалі зямлю. І гэты кірмаш прымаў гасцей тут аж на працягу некалькіх тыдняў.

Феліцыян спыніў каня і агледзеўся. Стракаты натоўп мільгаў перад вачыма, навокал мітусіліся людзі, крычалі гандляры і купцы. Офенберг спешыўся і пакрочыў да палаца Завішы. Хоць цяпер яго шлях ляжаў да Нясвіжа, дзе яны павінны былі сустрэцца з Якавам, паніч вырашыў наведаць старога сябра. Той даўно запрашаў да сябе.

Завіша быў добрым сябрам іх сям'і і вельмі гасцінным чалавекам. Часам, канечне, яна пераходзіла межы. Аднойчы ён нават загадаў схаваць каня Офенберга, калі дазнаўся, што той мае намер вяртацца ў Рэчыцу. Феліцыян тады б затрымаўся надоўга, калі б не дзядзька.

— Госць у дом — Бог у дом! — вітаў гаспадар, які сам выйшаў насустрач госцю.

Феліцыян сціснуў яго ў абдымках.

— Служба, братка.

— Ох, ну і схапіў жа! Мядзвежыя абдымкі. А, можа, гэта я ўжо стары? Што новага раскажаш?

— Здаецца, як было, то і засталося.

— А ў нас учора вядзьмарку судзілі. Цёмныя людзі, але што з іх возьмеш? Калі з-за «чараў» здараецца шкода, духоўныя суды прылічваюць тое да крымінальнага злачынства. Падасць ім які дурань пратэстацыю з пералікам зробленых чараўніцамі шкод, і пачынаецца катаванне.

— Гэта калі віну не прызнае?

— Так. Бачыў калі-небудзь такі працэс?

— Не. Я чуў, дарэчы, што яны не плачуць.

— Дурное. Лічыцца, быццам чараўніца не можа выціснуць з сябе слёз. А калі дзеўка проста напужалася да смерці? Я сам не выціснуў бы і слязінкі! У Княстве хоць не спальваюць, як у Кароне.

— Думаеце, што суд вады, які бядачка праходзіць, лепшы? Кажуць, справядлівая вада не прыме саўдзельніцу д'ябла, і вядзьмачка некаторы час не будзе тануць нібыта з-за таго, што павінна быць лёгкай, каб магла на мятле лётаць на Лысую гару. А іх жа завязваюць так, што некаторы час на вадзе змогуць утрымацца. Правую руку з левай нагой і наадварот. Атрымоўваецца накшталт чоўна. Калі на аборцы асцярожна спусціць на ваду, то…

— Не нашай галаве аб гэтым балець, — абарваў яго Завіша. — Пан Бог дапаможа невінаватым, а нас могуць яшчэ і асудзіць…

Феліцыян прамаўчаў і падышоў да стала, дзе былі раскіданы паперы.

— Тут і чорт нogі зламае!

— Ат, то быў заняты справамі! Вось ты на свежую галаву скажы. Як напісаць: «пан брат» ці «прыяцель»?

— «Пан брат» пішацца толькі нашаму брату, а вось «прыяцель» — якому мешчаніну ці купцу. Гэта значыць, не яснавяльможным. У Княстве толькі які Радзівіл ці Сапега можа дазволіць сабе нават да пана напісаць «прыяцель», але тое яны…

— Не кажы! Ды тут такая справа… Учора яшчэ пісаў да аднаго «мой ласкавы», а сёння «братку», бо той раптам з плебея яснавяльможным стаў.

Феліцыян кіўнуў:

— Сказаў, як звязаў! Такі ўжо час. Давялося некалі чуць пра Багуслава Радзівіла? Дык той, маючы да будучага маршалка Трыбунала, але не ведаючы, хто будзе выбраны, паслаў агента з двума лістамі. Адзін з братэрскім тытулам, другі — з прыяцельскім. Наказаў жа так: «Глядзі! Калі хто роўны мне будзе, ці з каралём звязаны, то аддасі першы канверт. Калі паніч які — то таму і другога хопіць!»

— Бач ты! Выкруціўся, гад печаны!

— Я і не здзівіўся. Зараз наогул — шляхціц без тытулу, як сабака без хваста.

— А то не! Нават сыноў саноўнікаў вітаюць па званню бацькі, а ўнукі не грэбуюць тытуламі дзядоў!

— Хамы! Тыя іх у бітве здабывалі, а тут нейкі вісус для ўласнай пыхі. Цяпер за грошы, прычым і не такія вялікія, не толькі тытул стольніка, падчашага ці падстоліча, але і мечніка са скарбнікам набыць можна. Давай, братку, лепш пра што больш прыемнае пагаворым.

— Маеш рацыю. Мне вось хутка адзін татарын павінен кабылку прывесці!

— Парода?

— Ахалтэкінская.

— Ух! Шыкуеш!

— Але. З блакітнымі вачыма, далікатная, ды рэзвая. А тэмперамент — агонь! Калі ўбачыў яе, то адразу думкай каб купіць загарэўся.

— Гавораць, імчаць яны хутчэй за сокала.

— Праўда. А яшчэ верныя, як сабакі.

Завіша задаволена ўсміхнуўся.

— Дарэчы, добра, што загаварыў пра сокалаў. Хачу падарыць табе, сябра, дрэмлюга[1].

— Шчодры падарунак, браце.

— Для цябе нічога не шкада. Пайшлі, пакажу табе яго, ды адначасова паглядзіш збраёўню.

Ён падхапіў Офенберга пад руку і павёў у наступны пакой.

* * *

Над бездапаможнай зямлёй схілілася залітае чырвонаю юхаю неба. Стомленае сонца вісела над лесам. Яго косы з вялікай неахвотай падалі на ссохлую траву, верхаліны дрэў і адлюстроўваліся ў брудна-жоўтым шкле рачной плыні. З ёй перашэптваўся чарот, а пасля абвяшчаў усе таямніцы наваколлю, на што раззлаваныя хвалі круцілі віры, але не паспявалі адпомсціць і разбіваліся аб бераг пенай.

На лузе паміж лесам і рачулкай ляжаў юнак. Недалёка скуб траву конь і стрыг вушамі, нецярпліва пазіраючы час ад часу на гаспадара, але чалавек, паяднаўшыся духам з прыродай, не звяртаў ні на што ўвагі. Рукі Офенберга былі раскінуты ў бакі, спіна адчувала мяккую траву, а пальцы ног, вызваленыя ад скураных ботаў, казытаў вецер. Слабасць разлілася па ўсім яго целе, але праз некаторы час адпусціла.

Над ім плылі кліны гусей, самотна кірхалі і знікалі ў далячыні. «Не сядзіцца ім нешта, — падумаў ён. — Навошта так рана? Здраднікі! Маглі б застацца яшчэ крыху». Феліцыян паспрабаваў падняцца, але не змог і паваліўся на траву, згубіўшы прытомнасць.

Прачнуўся ён ад праніклівых павеваў ветру. Цемра авалодала наваколлем, а чорныя хмары вірыліся на небасхіле. Неба падзялілася на дзве паловы: чырвоную і чорна-шэрую, і першай імкліва меншала. Вецер падымаў пыл, кідаўся ў розныя бакі і выў. Да яго падышоў Парбус, вільнуў хвастом і пачаў лізаць твар.

— Добра, Парбус, рушым.

Праз якую гадзіну яны пад’ехалі да Нясвіжа, і Феліцыян цяпер стрымліваў рысака, шукаючы сярод камянічак карчму. Праехаўшы колькі, ён нарэшце ўбачыў адну, саскочыў і пачаў грукаць у дзверы.

[1] Адносіўся да ліку драпежных птушак, якіх выкарыстоўвалі на паляванні.

Адчынілі не адразу. Карчмар стаяў з каганцом у руках і лыпаў вачыма, чакаючы, што скажа шляхціц.

— Чаго стаіш?! — гаркнуў Феліцыян. — Дай прайсці! Чаму так рана зачыняеш?

— То ж у такое надвор’е ніхто і не прыйдзе, — пачаў апраўдвацца бядак.

— Скажы жонцы, каб ставіла на стол.

— Адзін я.

— То сам.

Гаспадар знік, а паніч усеўся на лаву і стаў чакаць. Праз некалькі хвілін ён прыцёг бутлю медавухі і вяндліну. Шляхціц задаволена рохкнуў і накінуўся на паедак. Карчмар паглядзеў на яго, пасля некуды выйшаў і вярнуўся з боханам хлеба і кіўбасамі. Офенберг кінуў кавалак мяса сабаку і паглядзеў на гаспадара.

— Напаі майго каня і дай яму аўса.

— Ужо зрабіў.

— Ух, шухрай! — здзівіўся шляхціц.

— Люблю, каб быў парадак, — адказаў карчмар.

— Як тваё імя?

— Пётр.

— А гаспадыня дзе?

— Памерла. Тры зімы мінула.

— Дык жа чаго кукуеш? Узяў бы сабе маладуху.

— Не хачу. Чорт з гэтымі бабамі! І без іх дрэнна, а з імі яшчэ горш.

Шляхціц засмяяўся і зноў запытаў:

— Што мне раскажаш пра Радзівіла?

Пётр насцярожана зірнуў на яго.

— О, мой пане, ён цяпер у Альбе.

— А гэта далёка адсюль?

— Няўжо паночак не ведае Альбу? Адкуль жа ты такі? Там уся банда сядзіць цяпер.

— Не прыедуць сюды?

— Хто ведае? То знікаюць, то з’яўляюцца нечакана. Нап’юцца гарэлкі, а пасля людзей пужаюць, на конях па палях гойсаюць і пасевы топчуць.

Раптам у дзверы нехта загрукаў, і Пётр пайшоў, каб адчыніць. У карчму ўварваўся п’яны мешчанін і, схапіўшы гаспадара, прыставіў да шыі нож.

— Грошы давай і медавухі.

Пётр аж самлеў і не мог паварушыць языком. Злыдзень абвёў поглядам пакой і заўважыў Феліцыяна. Той трымаў падрыхтаванай крамянёвую стрэльбу і глядзеў на яго. Гэта спужала апошняга. Ён папяціўся да выхаду, прыкрываючы сябе карчмаром, штурхнуў ногой дзверы і выскачыў на двор. Пётр, не да канца зразумеўшы яшчэ, што здарылася, утарапіўся на паніча. Той схаваў зброю і працягваў вячэру, быццам нічога і не было.

— Весела тут у цябе. І часта так госці заходзяць?

— Здараецца.

Феліцыян глянуў на Пятра і ўсміхнуўся:

— На, выпі сам. Ну і выгляд маеш!

Карчмар прысеў на падлогу і хлебануў медавухі.

— Дзякую. Не забудуся на такі ўчынак, яснавяльможны пане.

— А што ты мне зробіш? Медавухай напоіш?

— І медавухай. Я просты карчмар, не роўня пану, але ўсё можа стацца, яснавяльможны. Адбудзеш, пане, ноч тут, а раніцай ужо едзь да Радзівіла.

Калі на наступны дзень пачало світаць, шляхціц выехаў у кірунку Альбы. Трапіўшы туды, напачатку ён не мог прыйсці ў сябе ад пачуцця захаплення. Феліцыян чуў пра такую задумку Радзівілаў, дакладней, Сіроткі[1]. Па яго волі гэты кавалак балота працай халопаў змаглі ператварыць у часцінку нябёсаў на зямлі, праклаўшы сетку каналаў і адбудаваўшы палацы. Кожны з рода стараўся ўнесці штосьці сваё, і Альба прыгажэла з кожным годам: разрастаўся парк са шматлікімі алеямі і павялічвалася колькасць палацаў і альтанак.

Спакваля сцежка давяла да самага сэрца парка. Першы ў гэтым годзе снег, які выпаў гэтай ноччу, прыемна шарбуцеў пад нагамі. У гэтым зацішным месцы, якое атачалі ставы, узвышаўся палац. Офенберг агледзеўся, але навокал нікога не было відаць. Тады ён вырашыў усё ж зайсці ўнутр і пакрочыў да ўваходу.

Дзіўны роспіс сцен здзівіў яго. Тут усё было ў цёмных фарбах. Нехта спрабаваў накіраваць чалавечую душу, якая трапляла сюды, на развітанне са светам і імкненне да злучэння з вечнасцю. Сцены ўпрыгожвалі малюнкі на рэлігійную тэму. Мэбля была прызначана менавіта для адпачынку. Тут паўсюль панавала забыццё і спакой. Феліцыян крочыў далей і спыніўся ў цэнтральным пакоі, дзе каля каміна ў мяккім крэсле нехта сядзеў. Чалавек альбо не пачуў крокаў, альбо на такую дробязь, у параўнанні з дасягнутай нірванай, ён проста не хацеў звяртаць увагі. Шляхціц павярнуўся, каб выйсці, калі раптам пачуў глыбокі выдых. Чалавек заварушыўся і голасна сказаў:

— Пачакай.

Феліцыян застыў.

— Падыдзі сюды, пане каханку.

Феліцыян наблізіўся і стаў з боку каміна. Перад ім сядзеў не хто іншы, як сам Пане Каханку. Магнат працёр вочы і ўтаропіўся ў госця, робячы для сябе нейкія заўвагі. Ён аглядаў шляхціца з ног да галавы і пры гэтым шкроб за вухам.

— Хто ты?

— Феліцыян Офенберг.

Пане Каханку пайшоў па розум і праз некаторы час зноў загаварыў.

— Чуў пра твайго дзядзьку. Гэта ён быў у хаўрусе з Сапегамі падчас вайны са шведамі?

— Так, толькі чаму вашамосць узгадвае тое, што быллём парасло?

— Праўду кажаш, забудземся на гэта. Адкажы лепш, ці падабаецца тут?

— Вельмі. Як трапіў, то адразу падалося, што ў рай завітаў. Прыгожа ў Альбе, спакойна.

— Гэта цяпер спакойна, — усміхнуўся Радзівіл. — А ведаеш, дзе мы знаходзімся?

Госць адмоўна матнуў галавой.

— Гэта Эрміторыум — палац для адпачынку і паяднання з вечнасцю. Адзін з першых будынкаў, які загадаў закласці мой дзядзька пасля падарожжа ў Гішпанію. А што, мы не бяднейшыя за каралёў! Можам сабе такое дазволіць!

У гэты момант яго распірала пыха, і Радзівіл цяпер здаваўся іншым. Куды толькі падзеліся былыя заспакаенне і рахманасць.

— Сам кароль пазбягае да мяне ездзіць, бо яму сорамна за сваю галечу ў параўнанні з намі! Што такое гаспадарская скарбніца супраць прыбыткаў з маіх маёнткаў! Калі захачу — зраўняю з зямлёй гэтыя палацы, адбудую новыя і не збяднею!

---

[1] Мікалай Радзівіл Сіротка.

Апошнія яго словы былі прыглушаны тупатам. У пакой убег натоўп шляхты. Не адну пару жалезных лапцяў стаптаў чорт, каб сабраць такую кампанію. Яны кінуліся ў ногі свайму гаспадару.

— Браце, мы прыйшлі па цябе. Годзе быць у самоце і роспачы. Жыццё ж адно, дык нашто сябе гноіць жыўцом?

Радзівіл зарагатаў. Ён ускочыў, падняў руку і зароў:

— У Кансісторыю!

— У Кансісторыю, — рэхам паўтарыў звярыны гул.

Пане Каханку паблажліва ўсміхнуўся і, падхапіўшы Феліцыяна пад руку, павёў з палаца. За імі паплялася іншая шляхта.

— Дык ты не сказаў, пане каханку, якая справа прывяла да мяне.

— Павітаць цябе прыехаў, князь.

— Добра, добра, пане каханку, — мармытаў Радзівіл. — Можа, хочаш у войска наша запісацца?

— Іншая справа ёсць. Хацеў бы з таварышам маім пабачыцца, які тут ужо некалькі месяцаў служыць.

— Хто ж гэта?

— Якаў Няміра, яснавяльможны пане.

Радзівіл пацiснуў плячыма.

— Добра, я нікому не замінаю. Толькі пакінеш нас не раней чым праз тыдзень. Такая мая воля. За гэты час агледзься, а тады мо і застанешся. Дужа мне пан спадабаўся. Паболей бы ў войску такіх жаўнераў мець.

Ён павярнуўся і крыкнуў:

— Чулі, браткі? Загадваю шанаваць яго і крыўды не чыніць! А хто не паслухаецца — будзе мець справу з самім Радзівілам!

Паны выкрыкнулі:

— Віват, Пане Каханку! Віват, Радзівілы!

— То добра, — кіўнуў той і звярнуўся да Феліцыяна. — А цяпер можаш пашукаць свайго таварыша.

Ён вызваліў руку шляхціца і пайшоў далей, а за ім пацёгся гурт з гучнымі выкрыкамі і праслаўленнямі.

Другі палац значна адрозніваўся ад таго, дзе яны не так даўно былі. Па праўдзе, ён быў поўнай супрацьлегласцю. Тут паўсюль стаяў гоман, чуліся крыкі і п’яная лаянка. У адным куце шляхта гуляла ў карты, у другім — таньчылі. Некалькі шляхцюкоў паселі вакол бочкі, а адзін нават асядлаў яе і, назюзюкаўшыся, голасна спяваў. Наўкол ціснула на вушы страляніна, рогат, віск жанчын, чаго Офенберг не любіў. Ён агледзеўся і заўважыў знаёмы капялюш. За сталом у кампаніі маладых шляхцюкоў сядзеў яго таварыш.

— Якаў!

— Братка! Ці ж гэта ты?! Адкуль?

— А як жа! — усміхнуўся Феліцыян, — павінен жа я ведаць, як сябра маецца. А то ж сам не з’яўляешся. Як паехаў ад мяне, так і знік! Ганьба!

— Выбачай, то ж зусім закруціўся. Шаноўнае панства, — звярнуўся ён да кампаніі, — то мой братка, лепш і не скажаш. — Пётр Феліцыян Офенберг. За яго і ў агонь пайшоў бы!

— Віват! — п’янымі галасамі закрычалі паны.

— Няхай пан вып’е з намі!

— Сядай, Офенберг!

— Не, я забяру ў вас майго брата, — умяшаўся Якаў. — Шмат чаго трэба сказаць. Ды і агледзець тутэйшыя мясціны не перашкодзіць.

— Пакідаеш нас?

— Не, браткі, яшчэ прыйду, каб нагнаць вас з келіхам.

— Тады вяртайся хутчэй. А пасіліш?

— А то не! Хіба толькі віно можа скончыцца.

— Ды не, у Радзівіла віно не скончыцца нават тады, калі пачнём ліць у рэкі.

Яны выйшлі ў парк. Якаў скурчыўся ад холаду і паглядзеў на Феліцыяна.

— Мелі ўчора забаву. Пад вечар Радзівіл загадаў запрэгчы сані на першы снег і прынесці парася ў мяху. Сабраліся ўсе, паселі і паехалі па лясным гасцінцы. Парсюк вішчыць, а на гэты віскат ваўкі за намі бягуць! Во гэта была ўцеха! Вазнічы ледзь са страху не памёр, каб іх, гэтых дурных мужыкоў! Адзін нейкі паніч, праўда, скінуўся з возу, ды піць менш трэба было. Шкада, што ўжо не зможа паслухаць такой рады, бо ваўкі пасля за намі і не гналіся. Каб яго — сапсаваў забаву!

Ён шпурнуў ботам каменьчык і сплюнуў.

— Я маю намер застацца тут, — пачаў ён, — але ў Радзівіла могуць служыць людзі толькі са старажытнага роду. Ты сам разумееш, што я не магу гэтым пахваліцца. Мой род не такі старажытны, але верна служыў сваім каралям і Айчыне!

Ён захлынаўся ад гневу.

— Мяне не прынялі, і ўсё праз Пяшкевіча. Гэта ён адмовіў, а патрэбна поўная згода ўсіх... Тут чыя сіла, таго і праўда. Гной сабачы!

— І што будзеш рабіць?

— Выклікаў яго на дуэль. Адклалі, праўда, на заўтрашні дзень, бо сёння ноччу вяртаемся ў Нясвіж.

— Пасля такой п’янкі ты і ружжо не зможаш трымаць, не тое што пацэліць!

— Змагу. Гэта абраза!

— Я іду з табой!

— Добра. Буду цябе чакаць. А цяпер мне нешта блага, адвядзі спачываць.

Ён сапраўды ледзь трымаўся на нагах. Феліцыян, у якога сэрца балела за сябра, падхапіў яго і пацёг на сабе назад у палац.

* * *

Раніцай Офенберг крочыў па парку і ўглядаўся ў твары антычных фігур. Ён дурэў: падыходзіў бліжэй і доўга стаяў, спрабуючы адгадаць іх настрой. Сонца свяціла ярка, але зусім не грэла. Здавалася, што гэтае белае кола стала такім жа халодным, як і тонкі лёд на лужынах. Пажоўклая брудная трава дзе-нідзе выбівалася з-пад снегу. На ім ляжала і лісце, якое яшчэ не паспела зусім абляцець з дрэў з-за ранняй зімы. Да дуэлі Якава было яшчэ далёка, таму шляхціч вырашыў забіць час, шпацыруючы. Ноччу быў пераезд у Нясвіж, таму цяпер не мог заснуць. Сябра ён не будзіў, хоць шкадаваў, бо патрэбна было б і таму дурню правеяць п’яную галаву перад тым, як пачне страляцца. Калі ж адыходзіў, загадаў слузе паведаміць, калі пан Няміра прачнецца, і цяпер быў спакойны, што не прапусціць той час.

Сцюдзёнае паветра рэзала глотку, але Феліцыян дыхаў ім да болю ў галаве, спрабуючы адагнаць дурныя думкі. Калі паніч звярнуў увагу на далягляд, то ўба-

чыў, што да яго нехта бяжыць. Феліцыян дадаў кроку і пайшоў напярэймы. Але гэта быў радзівілаўскі служка, які, калі наблізіўся, кінуўся ў ногі і забалабоніў:

— Ягамосць жадае бачыць пана!

— Пан Караль?

— Так. Загадаў не марудзіць і ісці.

Феліцыян завагаўся, і служка зноў паваліўся на калені.

— Паночку, ён жа раззлуецца, а мяне засякуць бізуном. Няхай паніч сходзіць.

— А што, твой гаспадар не ў гуморы?

— Лютуе! Посуд са снеданнем скінуў на падлогу, сабачку свайго любімага з пакою выпендзіў, кухара на стайні загадаў пакараць.

— Здарылася нешта?

— Сон дрэнны прысніў... Схадзі, паночку, можа з табой супакоіцца. Толькі вашумосць бачыць жадае.

Феліцыян з неахвотай пакрочыў за халопам. Калі яны падышлі да пакояў Радзівіла, вушы скруціла ад лаянкі, якой гаспадар частаваў служку. Словы ён казаў па-халопску, з пенай на вуснах, не баючыся, што могуць пачуць іншыя госці.

— Дык як жа ты, лайна, так умудрыўся?! Я ж казаў толькі пастрашыць!

— Пане...

— Каб ты здох, гніда! Дзе цяпер такога кухара знайду? Маўчыш? Ці можа сам будзеш смажаных паўлінаў гатаваць?

— Пане, то не мая правіна.

— А чыя?

— Дык ён на яго накінуўся!

— Хто? — Радзівіл нервова засмяяўся. — Кухар на мядзведзя?

— А не... Я...

— Ты?

Пане Каханку губляў над сабой кантроль. Служка ж ўвесь скурчыўся, прыгнуўся, бы ўрос у зямлю і ад перапуду не мог сказаць ані слова. Радзівіл хацеў быў яшчэ нешта крыкнуць, але, паглядзеўшы на небараку, махнуў рукой і загадаў сваім гайдукам:

— Кіньце да таго мядзведзя. Калі ўратуецца — Бог яго беражэ, а не — сам вінаваты.

Служка паваліўся непрытомны на падлогу, а гайдукі пацягнулі яго пад рукі на двор. Радзівіл павесялеў і абвёў вачыма залу. Калі ён заўважыў Офенберга, то задаволена ўсміхнуўся і пакрочыў насустрач.

— Браце! Ты ж не супраць, што паслаў па цябе? Угледзеў, што бадзяешся па маім парку, і вырашыў — нядрэнна б было скампанавацца. Не спіцца мне нешта. Зусім жахі змарылі, няма паратунку. Ды не пра гэта будзем гаварыць... Раскажы, ці падабаецца табе палац?

Феліцыян кіўнуў.

— Багата тут. Пастараўся, ты, князь.

Пане Каханку, відавочна, задаволіў такі адказ. Ён накруціў вус на палец і смачна крэкнуў.

— То вып’ем, братка. За Радзівілаў! За Айчыну!

— Як за такое не выпіць?

Радзівіл павярнуўся і клікнуў служак:

— Віна нам! Самага лепшага!

За дзвярыма замітусіліся, пасля пачуліся крокі і праз хвіліну ў пакой некалькі служак укацілі бочку віна.

— Вып'ем, пане каханку. Жыццё адно, дык нашто ж яго псаваць пошукам цноты? Гавары, за што будзем піць.

Феліцыян узяў келіх, панюхаў і адчуў, як адразу пацякла слінка. Віно, сапраўды, было адно з лепшых.

— Вып'ем за наша гаспадарства, каб слава пра яго ішла, як і ў ранейшыя часы, а народ жыў пры сваіх вольнасцях. Sto lat!

— Sto lat!

Яны выпілі, і князь зноў напоўніў келіхі.

— Ты прыйшоўся мне даспадобы. Хачу паказаць пану палац.

З гэтымі словамі Радзівіл жэстам загадаў ісці за сабой.

Такая раскоша была толькі ў палацах каралёў. Шляхціц ішоў следам і ад захаплення не мог вымавіць і слова. У спальных каралеўскіх пакоях стаялі драўляныя канапы, зэдлі, абітыя зялёным атласам з вышыўкай. Вісела карціна «Зняволенне Еўропы Юпітэрам», люстра з дзвюх пласцін у рамах разной працы з пазалочанымі перлінамі. У каралеўскім кабінеціку абіўка была ўжо з кармазавай адамашкі з залатымі пазуменцікамі вакол. Фіранкі такой жа адамашкі, падшытыя крашанінай, нехта неахайна завесіў, таму тут быў паўзмрок. У аўдыенцыяльным пакоі ў сцяне стаяў камінчык з белага мармуру. Два крэслы з парэнчамі разной працы, столік чырвонага дрэва на чатырох ножках, апраўленых у медзь, два столікі, выклееныя залатым сукном, і крэслы, вышываныя шоўкам рознымі кветкамі, усё было часткай аднаго інтэр'ера. Выходзячы з гэтага пакоя ў залу, пры самых дзвярах Радзівіл спыніўся і паглядзеўшы на левы бок у самы кут, паказаў на гадзіннік. Ён быў нябеснага колеру, лакіраваны золатам з надпісам на цыферблаце: «spilen, schlagen stiler».

— Іграць, біць цішэй, — пераклаў гаспадар і пайшоў далей.

У зале ўсе сцены былі пакрыты абіўкай шпалернай працы з гісторыі войнаў і перамог князёў. На стале ляжаў вялікі дыван, былі расстаўлены паўсюль два дзясяткі крэслаў лахваўскага[1] вырабу, вышытых кармазынавым аксамітам. Адтуль яны трапілі ў пярэдні пакой, а далей яшчэ ў тры. Чацвёртай была зала, сцены якой былі абабітыя кармазынавым плісам. Тут Радзівіл упаў на старую вялізную драўляную канапу, абітую ўверсе пазалочаным палатном, і задаволена ўсміхнуўся, зірнуўшы на госця.

— На другі паверх не павяду! — выдаў ён. — Стаміўся! Заўтра прыйдзеш — пакажу альбо службу свайму загадаю.

Князь разлёгся на канапе і дадаў:

— Цяпер можаш ісці ў парк, а я тут пасплю. Нікому не гавары, дзе я. Можа, так хоць адпачну ад іх. Зрэб'е!

Офенберг пачаў спускацца па прыступках і раптам прыгадаў, што павінен быць зараз разам з Якавам. Унутры ад той думкі пахаладзела, і сілы на момант пакінулі яго.

Феліцыян пабег да месца сустрэчы, але зразумеў, што ўжо позна. З таго боку пачуўся стрэл. Дым не даваў разгледзець нічога, а калі рассеяўся, то шляхціц не мог стрымаць крык:

— Якаў!

[1] Лахва — старажытнае мястэчка ў Мазырскім павеце, дзе была вядомая мануфактура плеценай мэблі.

Сябра імгненне стаяў нерухома, пасля ногі падкасіліся, і ён паваліўся на зямлю. Феліцыян падбег і схіліўся над ім. Твар Якава пакрыўся кропелькамі поту, ён пабялеў, а вочы ўтрапеніліся ў блакітны небасхіл.

— Мабыць, паміраю, браце, — захрыпеў юнак.

— Ды не, — шаптаў Феліцыян. — І не думай. Паваляешся трохі ў ложку і зноў гоцаць будзеш.

Якаў крыва ўсміхнуўся:

— Хлусіш. Скажаш бацьку, быццам я сам не захацеў вяртацца.

Феліцыян заскрыгатаў зубамі:

— Я адпомшчу!

— І не думай. Яго раздавіць цяжка. Калісь прыйдзе мароз і на крапіву, а вось душу помстай не супакоіш. Ты лепш… — яму было цяжка дыхаць, — … сына … Якавам. І выхавай так, каб быў не такі, як я…

Шляхціц глыбока ўдыхнуў паветра, і галава з залацістымі пасмамі валасоў схілілася на калені сябра. Феліцыян закрычаў, падняўся з зямлі і ўбачыў Пяшкевіча, які разгублена пазіраў на яго.

— Ты! — Офенберг намацаў стрэльбу і крок за крокам пачаў набліжацца да спуджанага паніча.

Грымнуў стрэл, і поле зацягнула дымам. Феліцыян ляжаў на халоднай зямлі і адчуваў млявасць па ўсім целе. У левым баку, амаль там, дзе калацілася сэрца, балюча пякло, быццам нехта прыклаў да скуры гарачае вуголле. «Няўжо паміраю?» — падумаў ён. Так хацелася ўстаць і пайсці далей, адпомсціць за сябра, але вочы засцілӑў туман. Панічу на момант здалося, што ён ляжыць у жытнім полі. Перад вачамі з'явілася Зуліся, схілілася над ім і ўсміхнулася. «Зноў твая варажба, красуня. Уратуй мяне, чараўніца», — падумаў шляхціч.

***Працяг будзе***



Аляксандр Далімаеў нарадзіўся ў 1951 годзе ў вёсцы Пустынкі Сенненскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў Белдзяржуніверсітэт. Працуе ў навукова-даследчым інстытуце ў галіне воднай экалогіі. Друкаваўся ў часопісе «Маладосць», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва».

Аляксандр ДАЛІМАЕЎ

# АДДАЦЬ СЯБЕ ВЫСОКАЙ МЭЦЕ

## РАНАК

Хмараў колер фіялетавы,
шум грымотаў адгучаў.
А ў разрывы так прыветліва
і так радасна вачам

залатымі, ярка-белымі
промнямі надзеі новай
льецца ранак… Шчасце мелі б мы
без святла зямной любові?

* * *

Шукаю, што ў сабе любіць,
з люстэркам вытвараю жарты.
Ужо да блазну я не варты…
Але гады гатоў забыць,

калі стрымаць не можаш часам
спалох цікавасці ўлюбёнай,
у рад маё з тваім імёны
збліжаючы ў размове нашай.

* * *

Я хацеў напісаць аб вясне,
як дзяцінства вяртаецца ў сне,
як ад вуснаў тваіх я нямею —
толькі сёння аб гэтым не смею…

Кожнай раніцай іх сустракаю:
брудных, хворых, у ціхім адчаі.
Ды няма на іх вопраткі цэлай.
Бляск шалёны ў вачах адзічэлых.

Вочы з болем душы апускаю,
хоць не дзіва сустрэча такая.
Працьма ў пастцы ў зялёнага змея.
Хто ў іх каменем кінуць пасмее?

Хіба толькі не ўцерпіць старая
боль і крыўду, якую трымае
на віно, што пра мужа і сына
столькі горкіх у сэрцы ўспамінаў.

Зноў ударыць няпрошана ў вушы,
не кранаючы сонныя душы,
векапомны жаночы праклён –
твары скрывіць аскомаю ён.

З лепшым сябрам і проста знаёмым
п’ём, хварэем пахмельным сіндромам,
выхваляемся выпітым зеллем,
бесшабашнай гульбой на вяселлях.

Даўкі смак спакушае язык.
Прыгубіў — і турботы не ў лік.
Больш няма весялосці пагрозы.
Ты дабрэй і смялей, чым цвярозы.

Раз, другі ў захапленні нявінным —
пакаціліся з горкі драбіны.
І не слухаюць возніка коні:
неадольна да краю іх гоніць.

Не пад Богам жывём мы забытым,
не алей у лампады наліты!
Да канца, да свістка, да магілы
абдымацца нам з Бахусам міла.
Сцёршы пот, адчыніў я вакно —
даўка пахла ў паветры вясной.

* * *

Што тое шчасце? Астраўкі
ў пустэчы выпаленай гора.
Да мэты крочыць напрасткі,
пакуль не стаў слабым і хворым.
Узлёт душы неўтаймаванай,
хоць ты адрынуты і гнаны.
Спакою велічнага лішак,
калі жывым з нягодаў выйшаў.

Дзяцей даверлівых за рукі
павесці ў свет на тыя ж мукі,
якіх не абмінуў і сам.
Расчулена па валасах
пяшчотных гладзіць. Дзеля іх,
хоць плёну сам з таго не зведаў,
быць першым прыкладам з усіх,
зноў верыць у жыццё без бедаў.

Не зачыняць пачуццям дзверы,
але і ведаць страсці меру.
Ахвярай зрэшты каб не быць
распуты, свой не прапусціць
час прасвятлення: як патрэбна
жыць, каб нуды да скроняў срэбных
не ведала душа на свеце —
аддаць сябе высокай мэце!

## ПАЧАТАК ВОСЕНІ

Дзень сённяшні — дзвюх пораў сведка,
смарагд і золата змяшаўшы,
барвовых, ярка-жоўтых метак
на кроны дрэў параскідаўшы.

І ўсё ж ускінуты на неба
пагляд, у глыб бяздоннай сіні.
Міжвольная душы патрэба —
у далеч мкнуцца, да святыні.

Той круг заганны абмінаю,
забыўшых смак вады і хлеба.
І ў адзіноце пазіраю
ў празрыстую бяздоннасць неба.



*Павел Саковіч нарадзіўся ў 1941 годзе ў Оршы. Скончыў гістфак БДУ. Працаваў у рэдакцыі «Чырвонай змены», Міністэрстве культуры, Белсаўпрофе, рэдакцыі часопіса «Полымя», цяпер — у альманаху «Вожык». Аўтар дзесяці кніг прозы, паэзіі, сатыры і гумару, твораў для дзяцей. Лаўрэат літаратурных прэмій імя Кандрата Крапівы (2001) і Васіля Віткі (2010).*

Павел САКОВІЧ

# ЗЯЛЁНЫЯ ПАЦЕРКІ

***Абразкі***

## КАЗАЧНІКІ

Здавалася, што навальніца грукоча недзе далёка. І раптам хлынуў моцны лівень. Я скокнуў пад страху канюшні. Стаю, азіраюся. Пад страхою стаяў ужо дзед Кузьма з Васілём — унукам. Я ведаў дзеда — заядлага чытача вясковай бібліятэкі, жартаўніка і выдумшчыка. Звычайна ён і хвілінкі не памаўчыць, асабліва калі побач з ім унучак. А тут стаяць абодва прыціхлыя і задуменна глядзяць на пухіры на лужынах.

Раптам раздаўся раскацісты гром. Васілёк аж скалануўся, прыліп да дзеда...

— Ну што ты, дурненькі, — пагладзіў плячо ўнука Кузьма. — Гэта ж Ілья прарок на нябесным іпадроме трэніруецца. Новыя калёсы аб'язджае, фаэтон па-іхняму. Мабыць, да алімпійскіх гульняў рыхтуецца.

Над галавою святлела, хмара сплывала далей. Гром пагрымеў і заціх. Бліснула сонца...

— Во, патрэніраваўся і пайшоў распрагаць, — сказаў Кузьма.

— Ужо распрог! — радасна затузаў дзеда за руку ўнук. — Вунь бачыш, дугу зняў!

І хлопчык паказаў на вясёлку.

## ЯК ЧАРОМХУ Ў ЯР САГНАЛІ

Калі бачу белыя кусты чаромхі на дне глыбокіх, змрочных яроў, мне робіцца ніякавата. Няўжо яна тут сама пасялілася? Любіць чаромха пакрасавацца на сонечных, адкрытых месцах: і цвету больш, і ягады спеюць лепш. Ды людзі, відаць, прымусілі... Убачаць прыгажуню там, дзе лягчэй дастаць, і давай абломваць. І так — з году ў год, аж пакуль не зганяць уніз. Пачне яна зноў наверх выбірацца, ды дзе там — чалавек мацнейшы. Так і адседжваецца па ярах.

І ўсё ж не здаецца, супраціўляецца чаромха чалавеку. Захоча нехта букет наламаць, схопіць галінку, круціць, гне — адарваць не можа. А пацягнецца да яе губамі, каб адкусіць — і адчуе ўсю накопленую чаромхай горыч.

## ПАЗНАЁМІЛІСЯ

У кожнага быў свой занятак. Жанчына з малым сынам акучвала бульбу, а шпачыха збірала побач чарвякоў і насіла іх пісклявым, ненажэрным птушанятам. Раптам адно шпачанё захацела апярэдзіць сваіх сясцёр і брацікаў, рванулася насустрач маці і выпала з доміка. Распластаўшы, нібы ў палёце, крылы, неслух бездапаможна павіс на кусце бульбяніку.

— Ах ты, гора маё! — разагнула спіну жанчына. — І так часу няма, а тут яшчэ жаўтароцік гэты...

Крыху пабурчэўшы, яна адшукала драбіну, прыставіла яе да яблыні, сунула за пазуху птушанё і палезла наверх, да шпакоўні. «А што гэта шпачыха не лямантуе? — падумала жанчына. — Маўчыць, нібы вады ў рот набрала». Зірнула ўгору, а тая, аказваецца, сядзіць з чарвяком у дзюбе на доміку. Выцягнула шыю, толькі лапкамі ад нецярпення перабірае. Нарэшце жанчына пасадзіла птушанё ў шпакоўню.

— На, ды глядзі лепш... Цяжка мне лазіць, бачыш? Я ж табе не пажарнік!

Шпачыха схамянулася, скокнула ў домік. Сунула неслуху чарвяка, потым ушчыкнула яго недзе ля «вуха» і прыкрыла крылом. Паназірала жанчына за шпачыхай, уздыхнула і лагодна, даверліва, нібы з суседкай, падзялілася адвечнай мацярынскай думкай:

— Усе яны, падшыванцы, аднолькавыя.

А сынок стаіць унізе, слухае, назірае і шчасліва ўсміхаецца. Ён вельмі рады, што маці ўратавала шпачынага «падшыванца».

## БЯЗДОМНІЦА

Да пачатку кінасеанса заставалася яшчэ паўгадзіны, і я зайшоў у парк. Быў халаднаваты кастрычніцкі вечар. На адной з лавак я ўбачыў маладую жанчыну. Непадалёку ад яе сядзела котка. Я сустракаў яе тут і раней: то была котка-бяздомніца. Хто ведае, як усё атрымалася... Гаспадары маглі з’ехаць з кватэры і забыцца на старую мурку, а з новымі жыльцамі яна не паладзіла, ці ў іх ужо была свая котка. А можа, яна жыла з добрай, ціхай бабуляй, пакуль не засталася адна. Ці нарадзілася дзе-небудзь на гарышчы, ды так і не мела ніколі свайго прытулку...

Пра бяздомніцтва нагадваў яе даволі адзічэлы выгляд, нячэсаная поўсць. У коткі былі худыя, доўгія, нібы ў ганчака, ногі, але заморкам яе не назваў бы. Летам у парку вадзіліся мышы, заставаліся, відаць, аб’едкі — сям-там валяліся ў кустах бутэлькі.

Я стаў назіраць за коткай. Прылізаўшы на баку шэрстку, яна пазяхнула, пацягнулася, потым паслініла лапу і пачала свой вячэрні «намаз»... Раптам узмацніўся вецер. Сырая лістота пасыпалася на зямлю, трапляючы на спіну коткі. Яна страсянула іх, але два лісты засталіся на карку. Котка ўстала, выгнула спінку, і нечакана яе скаланула ўсю, як здараецца са старымі, калі іх раптам кідае ў дрыжыкі. І гэтак няўтульна зрабілася ёй на душы, так захацелася дамашняй цеплыні, так недарэчна, мабыць, прыгадалася пяшчотнасць гаспадыні, што яна, павагаўшыся крыху, накіравалася да жанчыны.

Котка не адважылася падысці адразу, а спачатку залезла пад лаву. Потым вельмі асцярожна, нясмела прытулілася да жаночай нагі і ледзь-ледзь пацёрлася аб яе бокам. Жанчына здрыганулася і, убачыўшы котку, адпіхнула яе абцасам. Котка прыняла штуршок за належнае, але не адышла, села побач, нібы ёй было цяплей каля ног. А жанчына заспяшалася, схапіла сумку і ўжо на ходу сказала:

— Вось бадзяга, каўбасу пачула!

Ад яе слоў на душы застаўся прыкры асадак. Не адчула жанчына, што каўбаса тут зусім ні пры чым...

## ХЛЕБ-СОЛЬ

— Э-э, заспаў, заспаў, — сказала баба Наста. — Пайшла наша Цясюшка ў поле, малачка набіраць. Ледзь сонейка ўстала, так і пайшла.

З малым я прыехаў у вёску позна, і ён доўга не мог заснуць — так хацеў пабачыць жывую карову. І цяпер во скрывіўся — гатовы расплакацца.

— Вам гасцінчык Цясюшка пакінула, — бабуля падала гарлач яшчэ цёплага малака. — Угаворвала яе пачакаць вас, ды, бачыце, не згадзілася...

Малы захныкаў.

— Не плач, — супакоіла яго старая, — пасля абеду пойдзем разам даіць.

— Бабуля, а чаму карову назвалі Цясюшкай? — спытаў хлопчык, калі яны ішлі да статка.

— Ніякага імя не прыдумалі, звалі «цёсь-цёсь». От і Цясюшка...

Карова згледзела іх здалёк, падняла галаву, натапырыла вушы. «Цёсь! Цёсь!» — паклікала гаспадыня і дастала з кішэні акраец хлеба. Цясюшка падбегла трушком, узяла з рук кавалак хлеба, пачала жаваць і з цікаўнасцю разглядваць малога. Відаць, ён спадабаўся ёй, бо далася пачухаць за вухам. Харошая Цясюшка, чорная ў белых лапінах, а на ілбе зорачка.

Бабка прысела з даёнкай каля каровы, пачала даіць. Але нешта Цясюшцы не спадабалася. Яна прыўзняла нагу, каб не абярнуць пасудзіну, і адышлася.

— Вось так заўсёды. Трошкі не ў нораў — і ходу. Але не выбіла вядро ні разу, — нібы паскардзілася ўнуку баба.

З кавалачкам хлеба яна зноў падышла да каровы. На гэты раз Цясюшка паводзіла сябе мірна і дала поўнае вядзерца сырадою.

Вечарам усе разам страчалі Цясюшку з поля. І вось паказаўся статак. Над каровамі вісела невялікае воблачка пылу. Лысухі, стракаткі ішлі запаволена, крыху з ганарком. Каля кожнага двара іх чакалі дарослыя, дзеці. Бабуля дала ўнуку лустачку хлеба, пасыпаную крупінкамі солі. Па твары хлопчыка можна было здагадацца, што ён крышку хвалюецца. Вось і Цясюшка. Яна радасна мыкнула, і перш чым зайсці ў вароты, глэмнула з рук малога хлеб-соль.

Баба Наста пагладзіла ўнука па галаве і сказала:

— Так заўсёды сустракаюць дарагіх гасцей — хлебам і соллю.

## КАМАРЫНАЕ ТАВАРЫСТВА

Аднойчы красавіцкім днём я ўбачыў за акном «талаку» маладых камарыкаў. Яны былі слабыя, бесталковыя і, здаецца, дрыжалі ад холаду. Мне стала шкада іх, і я расчыніў акно, каб даць ім схавацца ад ветру. З усіх камарыкаў толькі некалькі заляцелі ў пакой. Астатнія ж упарта «таўклі мак». Рэдкія парывы ветру падхоплівалі іх і кідалі на шыбы, так што чуўся нават жаласлівы піск. Процістаяць ветру камарыкі не маглі, але як бы далёка не раскідвала іх, яны тут жа збіраліся ў кучу.

То былі першыя ўрокі камарынага таварыства. Маленькія істоты спяшаліся прайсці гэту навуку — ці доўгі камарыны век — і змагаліся з ветрам. Хоць я ведаў, што праз нейкі час пачну лаяць гэтых дакучлівых істот, але цяпер назіраў за імі з сімпатыяй і спачуваннем.

## АСКОМА

У старога Міхея паўз плот расце шмат вішань. А ўрадлівыя! Паспеюць — лісця не відаць. Суседскі хлопчык падгаварыў аднойчы майго пляменніка Сашку залезці на вішні. Міхей некуды пайшоў, і на дзвярах дома вісеў замок.

Сябры спачатку елі ягады, седзячы на дрэвах, «стралялі» адзін у аднаго костачкамі. Потым напакавалі кішэні вішнямі, саскочылі ўніз, пералезлі праз плот, а тут — насустрач Міхей!

Таварыш-хаўруснік ламануў убок, а потым даў і добрага дзёру. Сашка спачатку кінуўся следам. У Міхея адразу закралася падазрэнне, ён павярнуў за хлапчукамі і наддаў ходу. Сашка прабег крыху і нечакана спыніўся. Яму стала сорамна ўцякаць ад старога, знаёмага чалавека.

— А-а, гэта ты... — толькі і сказаў Міхей, пазнаўшы Сашку. І больш — ні слова, нават адтапыраныя кішэні не памацаў, павярнуў назад.

Сашка пастаяў, пастаяў і падаўся следам за ім. Ішоў і ўсё больш запавольваў хаду. Потым спыніўся і вытрас вішні з кішэні.

— Ты што ж гэта? Нарваў, то ўжо еш... — азірнуўся на яго Міхей.

— Ай, ад іх толькі аскома, — адказаў Сашка і з палёгкай уздыхнуў.

## УЮН НА БУКСІРЫ

Невялікая плаціна перагарадзіла рэчку. На водазліве ляжалі змацаваныя скобамі шпалы. Вада пакрывала плаціну менш чым на паўметра, але плынь была даволі моцнай. Гэта адчувалася па кусціку нейкай зялёнай травы, які прырос да замшэлай шпалы.

Не прыкмеціўшы, акрамя кусціка, нічога цікавага, я збіраўся пайсці, як раптам на воднай дарожцы мільгануў уюн. Няйначай зазяваўся, і яго падхапіў паток. Уюн, аднак, імгненна павярнуўся супраць цячэння і з усяе сілы заюрыў хвастом. Ён павольна набліжаўся да краю плаціны, але неўзабаве стаміўся, і, прысмактаўшыся да асклізлай шпалы, замёр. Потым уюн паспрабаваў пераадолець плаціну яшчэ раз. Тугі струмень зноў падхапіў яго, і ён ледзь паспеў кінуць «якар» на тым жа месцы.

Прайшло некалькі хвілін. Для новага рыўка ўюну, відаць, не хапала сіл. Тут мне трапіў на вочы гладкі, доўгі, на палец таўшчыні, прут. Я ўзяў яго і пачаў асцярожна набліжаць да ўюна...

Кажуць, той, хто топіцца, за саломіну схопіцца. Так і ўюн. Крыху счакаўшы, ён прысмактаўся да прута. Я асцярожна «павёў» яго супраць цячэння. Неўзабаве ўюн апынуўся па другі бок плаціны. Ён адразу пайшоў на глыбіню і нават не зірнуў на свайго памочніка. Ды я і не чакаў удзячнасці: гэта ж не казачная залатая рыбка, а звычайны ўюн.

## БАЦЬКОЎСКІ САД

Прачнуўшыся сонечным ранкам, я ўскокваў з ложка і басанож выходзіў у наш гародчык. Над духмянымі кветкамі, градамі з укропам, гуркамі і памідорамі, кустамі агрэсту, парэчак курылася лёгкая пара. Апетытныя вострыя пахі прыемна казыталі ў носе. Я праходзіў паміж град, абтрасаючы каленямі халаднаватую расу, нахіляўся, зрываў і кідаў у рот жменьку ягад, вылушчваў стручкі салодкага бобу, гароху. Яны былі такія халодныя, што ад іх, здавалася, пачынаў мерзнуць і пакрываўся гусіны-

мі пупышкамі мой жывот. Паспытаўшы нашча ўсяго патроху, я выходзіў з густых ранішніх ценяў і ўсаджваўся на лаву пад вокнамі хаты. Ад нагрэтых сонцам шалёвак патыхала, нібы з печы, цяплом. Я хутка саграваўся, абсыхаў, а потым з'яўлялася маці і клікала снедаць.

Тут, у садзе, агародзе я часцей за ўсё бачыў маці, вяртаючыся з гульні ці са школы. Яна заўважала шмат чаго цікавага і часта клікала мяне, каб паказаць якую-небудзь рэдкую птушку, незвычайнага жука ці смешную кузурку. Зрэдку прабягаў па садзе спушчаны з ланцуга Шарык, зганяючы з наседжаных пыльных лежбішчаў кур, ды ляніва праходжваўся паблізу кот Васька. Як толькі ў садзе з'яўлялася маці, і Шарык, і Васька, і куры адразу знаходзілі паблізу нейкі занятак. Маці быццам не звяртае на іх увагі, але раптам уздыме галаву і скажа:

— Ану, давай за Васькам паназіраем: бач, як хвастом круціць? Нездарма гэта...

Сапраўды, задраўшы галаву і неяк весела, гарэзліва пазіраючы па баках, кот накіраваўся да дзялянкі з памідорамі. Я асцярожна пайшоў за ім. Абнюхаўшы буйны памідор, які звісаў з таматнага куста, Васька раптам лёг пад ім на спіну. То заднімі, то пярэднімі лапамі кот спрытна пачаў круціць і разгойдваць яго, пакуль той не пляснуўся яму на жывот. Васька пачаў з ім гуляць, і тут я заўважыў маці. Яна спяшалася да нас, размахваючы гнуткім прутом. Я крыху адступіў назад. Так, на ўсякі выпадак...

— Ты што ж гэта, кот-абармот, робіш? — хоць голас маці быў строгі, сярдзіты, у мяне разам адлягло ад сэрца, і ўжо з вясёлым спачуваннем я пазіраў на Ваську. — Ці табе іншых месцаў для гульні мала? Во запру ў хлеў, то хоць з мышамі пазнаёмішся!

На месцы Ваські я драпануў бы да плота. Кот жа, не зводзячы вачэй з маці, крутануў хвастом і, нібы завёўшыся, сарваўся з месца і галопам прамчаў між радкоў цыбулі. Высокія зялёныя стрэлкі, што тырчалі ва ўсе бакі, весела зашархацелі і пачалі гучна лопацца. Васька ўскочыў на плот і адтуль ужо, усеўшыся на слупок, пачаў уважліва назіраць за маці. Яму, гарэзліваму, маладому, відаць, проста хацелася звярнуць на сябе ўвагу гаспадыні. Нават сварку яе, строгую, але не злосную, з прыхаванай смяшынкай у голасе, кот слухаў з нейкай пачцівасцю, нерухома. Сваім вінаватым выглядам ён выказваў поўную пакорлівасць і паслухмянасць. Толькі ў жоўтых хітраватых вачах яго па-ранейшаму свяціўся вясёлы агеньчык...

Асабліва любіў я наведваць бацькоўскі сад верасеньскай парой. Калі мы з сястрой і братам доўга не прыязджалі, маці часта нагадвала ў лістах, што яблыкі пераспелі і хутка пападаюць з дрэў, паб'юцца...

І вось я зноў хаджу па сонечным ціхім садзе, а маці расказвае пра кожнае дрэва: адкуль яно, калі пасаджана, па колькі давала яблыкаў.

«Для нас стараюцца, — думаю пра бацькоў, — хоць і ведаюць, што наўрад ці хто з нас застанецца жыць тут пасля іх...»

Спыняемся ля апортаўкі, і маці паказвае вялізны чырванабокі яблык. Відаць, ён даўно прызначаны для мяне. Яшчэ са жніўня маці пачынае прыкмячаць найлепшыя плады: «Для Міхася, для Зоі, Толіка». Сама ж, вядома, выбірала што-небудзь з ападкаў...

Тут жа, пад яблыняй, паспытаў садовы гасцінец. Працягваю яблык маці, але яна паспешліва адводзіць руку: «Што ты, няма чым!» Я зусім не ўпэўнены, што яна не можа ўкусіць спелы яблык. Проста такая ўжо наша маці... Падыходзім да антонаўкі, пад якой раскідана некалькі яблыкаў. Здаецца, нават зямля набрыняла іх вострым пахам. Я бяру ў рукі па цяжкаму духмянаму яблыку. Нашу іх, любуюся і штохвіліны нюхаю. А маці глядзіць на ўсё з ціхай усмешкай.

Потым, спахапіўшыся, яна пакідае мяне, ідзе дахаты. Крочыць сонечным, у павуцінні, садам, і я слухаю шоргат стомленых матчыных ног па бульбяніку, ды яшчэ — як часта б'юць па зямлі пераспелыя яблыкі...

## МАРУСЬКА

Нашы суседзі трымалі казу. Звалі яе Маруська. Яна была дзікаватая і не прызнавала прыстойных паводзін. Каза магла без дай прычыны баднуць гаспадыню, залезці ў чужы агарод і шалёна супраціўляцца, калі яе выганялі. Маруська цярпець не магла прывязі і хадзіла, дзе ўздумае.

З заміраннем сэрца, азіраючыся, заходзіў Янка ў суседскі двор. Ён любіў хадзіць да старых, таму што побач з іх домам стаяла высокая разгалістая таполя. Часам хлопчык прыходзіў да бабы Веры і пытаўся: «Можна мне залезці на дрэва?» Яму падабалася, што зверху далёка бачна і ўсё выглядае зусім інакш. Залазіў Янка на таполю і без дазволу. Гэта калі раптам з’яўлялася каза. Яна падыходзіла ціха і толькі зрэдку ўдавалася пачуць лёгкае цоканне капыткоў. Маруська аглядвала Янку сваімі жоўтымі, як медзякі, вачамі і, злёгку нахіліўшы галаву, выстаўляла наперад рогі. Дзіцячыя нервы здавалі, і хлопчык кідаўся наўцёкі. Да сваіх весніц яму звычайна дабегчы не ўдавалася: штуршок ззаду перакульваў на траву. Маруська спынялася, і грэбліва фыркнуўшы, вярталася ў свой двор.

Шчыра кажучы, Маруськіны «кухталі» Янка цярпеў без асаблівай крыўды. Куды больш абурала яе нахабная звычка адбіраць яду. Бывала, выскачыць ён на вуліцу з лустай хлеба, а Маруська тут як тут. Яна падыходзіла да малога і забірала хлеб. Праўда, частка адабраных хлебных скарынак, акрайцаў вярталася іншы раз кубкам салодкага малака. Тады, у пасляваенны час, гэта было добрым пачастункам, таму амаль ніхто з дзяцей не скардзіўся на казу.

Маруська была цікаўнай, як і ўсе яе суродзічы. Тата расказваў Янку, што ў іх вёсцы козы не раз станавіліся ахвярай сваёй цікаўнасці. Ваўкі карысталіся гэтай іх слабасцю. Варта было шэраму вытыркнуцца некалькі разоў з кустоў, і каза ішла высветліць, хто гэта з ёю гуляе ў «жмуркі».

Падобны выпадак адбыўся з Маруськай. Аднойчы зайшла яна ў чужы двор. Пахадзіла, паскубла траву, і тут раптам з дальняга кутка забрахаў сабака. Каза спалохалася і, не азіраючыся, пабегла прэч. Потым, сярдзіта пакруціўшы хвосцікам, Маруська павольна пайшла назад. Яна хацела пабачыць таго, хто яе так напалохаў. Нервова паскубваючы траву, каза пачала набліжацца да хаты. Убачыўшы нарэшце сабаку, Маруська не адступіла... Яна пакінула поле бою з крыху абскубанай барадой, але з пачуццём абароненай годнасці.

Неўзабаве Янка з бацькамі пераехаў у Мінск. А праз некалькі гадоў вярнуўся, каб пагасцяваць у цёткі. На другі ж дзень яму давялося сустрэць Маруську. «Ці пазнае?» — з хваляваннем падумаў ён. Здаецца, пазнала. Схіліўшы галаву набок, яна ўтаравілася на Янку сваім сонечным вокам. Ён працягнуў ёй кавалак хлеба, але каза ўспомніла пра даўнюю сваю перавагу над ім і пагрозліва наставіла рогі.

Цяпер у Янкі хапіла сілы, каб утрымаць казу. Ён узяў яе за рогі і адчуў, як Маруська пастарэла. Яна і не спрабавала памерацца сілай, а свой выпад зрабіла па звычцы, бо яе амаль ніхто ўжо не баяўся. І тут Янка раптам «спалохаўся», як раней: выпусціў рогі, павярнуўся і пабег. Не хутка — як уцякаюць дарослыя ад дзяцей. Каза дагнала яго і мякка пхнула ў калені. Ён спатыкнуўся, а Маруська ваяўніча і радасна забляяла.

Янку таксама стала прыемна, што змог парадаваць старую казу.

## ЗАЙЦЫ-ПАДАРОЖНІКІ

Аднойчы вечарам я вяртаўся аўтобусам з камандзіроўкі. Перада мной сядзела бабулька з унукам. Хлопчык зрэдку пра нешта пытаўся ў яе, углядаўся ў акно ці проста сачыў за дарогай. Раптам на павароце фары высвецілі зайца. Падобна было, што ён не вельмі спалохаўся. Неўзабаве заяц схамянуўся, прыбавіў бегу, але адчуўшы, што мы не даганяем, зноў пайшоў лягчэй. Здавалася, касы спяшаўся па нейкіх сваіх справах, і не ўступаў дарогу, таму што справа і злева цягнулася балота, і яму зручней было бегчы па бальшаку. Нарэшце вадзіцель не вытрымаў: заміргаў падфарнікам і на павышанай скорасці пачаў абгон.

— Ну і зайцы пайшлі, — весела сказаў ён, — па бальшаку курсіруюць! А нельга ж ім — без стоп-сігналаў. Непарадак...

Хлопчык, які аж устаў з сядзення, каб лепш бачыць зайца, раптам папрасіў:

— Дзядзечка, асцярожна! Ён жа яшчэ і касы!

## ВОСЫ

Толькі-толькі пачалася вясна. Яшчэ і кветак няма, і трава нядаўна з'явілася, а матылі ўжо радуюць вока. Слабыя, вялыя, быццам пасля хваробы. Восам таксама, відаць, не церпіцца на свет з'явіцца: іх жа салодкае жыццё чакае! Вось толькі памыліліся яны з прагнозам. Раптам пахаладала, зацерушыў снег. Спыніліся, застылі ў бярозах сокі. Коцікі вербалозу не хацелі распранаць і скідваць свае шалупінкі-дублёнкі. Шпакам, жаўранкам і тым было цяжка, але выручалі іх дзюбкі ды лапкі. А восы? Нацярпеліся яны гора. Ад голаду, холаду загінула шмат. Найбольш кемлівыя ў норы, цяпліцы, аранжарэі схаваліся. Перачакалі непагадзь, а потым зноў на волю павыляталі.

І вось што я аднойчы ўбачыў... Нясе дзяўчына перад сабой букет нарцысаў. Радасная, шчаслівая. Можа, маці ідзе віншаваць з днём нараджэння? Нос яе ў жоўтым пылку — зрэдку нарцысы нюхае. А вакол кветак дзве асы завіхаюцца. Не прагнала іх дзяўчына, пашкадавала... Раптам, адкуль яна толькі ўзялася, напаўзла хмара, узняўся вецер, пайшоў дождж. Што ж цяпер будзе з восамі? Гляджу, сядзяць сабе хоць бы што! Аказваецца, дзяўчына парасон раскрыла. У адной руцэ парасон трымае, а ў другой — нарцысы з восамі.

Ішоў дождж, а мне ўтульна, цёпла зрабілася на душы. Напэўна, як восам у букецiку.

## СМАРЧОК

Ледзьве прыгрэе сонца — яго грыбніца, нібы на дражджах, пачынае расці, пузырыцца, пакуль не выльецца ў мудрагелістую форму. Калі не выйшаў смарчок у стройнага франта з элегантнай шапкай, дык толькі з-за паспешлівасці жыць, быць на зямлі першым. І хоць яму далі крыху зняважлівую назву — смарчок, колькі захаплення і радасці прыходзіць да грыбніка, які яго раптам знойдзе! Несамавіты выгляд смарчка акупляецца «наварыстым» грыбным пахам.

З усіх грыбоў ён нараджаецца першы. Разумнік. Нездарма ў яго так многа звілін на шапцы.

## ПЯСТУН

Ну і далікатныя ж гэтыя махавікі! Ледзь дакрануўся — на скуры сіняк ад пальцаў. Хоць і грыб, а ўсё ж непрыемна неяк. Таму сарваў — і ў кошык адразу.

Не дай Бог, была б у людзей такая скура!

Мікола ЧАРНЯЎСКІ



Мікола Чарняўскі нарадзіўся ў 1943 годзе ў вёсцы Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт БДУ. Працаваў на Беларускім радыё, у часопісах «Бярозка» і «Вясёлка». Аўтар шматлікіх паэтычных кніг для дзяцей і дзвюх кніг прозы. Лаўрэат літаратурных прэмій імя Янкі Маўра і Васіля Віткі, прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі.

# ТРЫЯЛЕТЫ

* * *

Лепш навучыцца позна, чым ніколі.
Ёсць праўда ў гэтым, глыбіня свая.
Забудзеш іх — цяжэй тады ўдвая.
Лепш навучыцца позна, чым ніколі.

Каму даверыцца: жыццю ці школе?
Навука — больш прыдатная — чыя?
Лепш навучыцца позна, чым ніколі.
Ёсць праўда ў гэтым, глыбіня свая.

* * *

Сумленнасць наша за багаццем не ўзрастае:
Яго нажыць сумленна — не для ўсіх.
І колькі нас, скалечаных такіх?
Сумленнасць наша за багаццем не ўзрастае.

Хоць ёсць душа, ды ўжо яна пустая.
Грызе яе, як шашаль, нейкі звіх.
Сумленнасць наша за багаццем не ўзрастае:
Яго нажыць сумленна — не для ўсіх.

* * *

Зязюля разбудзіла сад на золку,
А ў нас надзею: будзе добры дзень.
Усход, бы ў горне, распаліў агмень.
Зазюля разбудзіла сад на золку.

Хто выткаў на траве з расы вясёлку,
Сыпнуў у вокны промні сотняй жмень?
Зязюля разбудзіла сад на золку,
А ў нас надзею: будзе добры дзень.

* * *

Як зёлкі лета, сум збірае верас,
Свой мёд раздаўшы пчолкам і чмялям.
У задуменнай цішыні палян,
Як зёлкі лета, сум збірае верас.

Хоць не хацеў бы ў сон асенні верыць,
Ні ў пацеры дажджу, ні жураўлям,
Як зёлкі лета, сум збірае верас,
Свой мёд раздаўшы пчолкам і чмялям.

* * *

Дзіцячы смех — званочак жаўрука,
Які душу, як сон-траву, разбудзіць.
Яго пачуўшы, заміраюць людзі.
Дзіцячы смех — званочак жаўрука.

Ён не ў нябёсах — у тваіх руках,
Яго, як птушку, можна лёгка спудзіць.
Дзіцячы смех — званочак жаўрука,
Які душу, як сон-траву, разбудзіць.

* * *

Сарока вучыць пераймаць малое,
Насіць навіны на сваім хвасце.
Ці кемлівым, ці здольным падрасце?
Сарока вучыць пераймаць малое.

То зашыпіць, то сыпане чаргою,
Хвастом трасе то плаўна, то часцей.
Сарока вучыць пераймаць малое,
Насіць навіны на сваім хвасце.

* * *

Бестурботна скача верабей,
Быццам неслух, быццам зух-крыўляка.
Хто з нас чуў, каб ён чырыкаў-плакаў?
Бестурботна скача верабей.

Хоць за час зімовы аслабеў,
Ды яму — зірнеш — бяды ніякай!
Бестурботна скача верабей,
Быццам неслух, быццам зух-крыўляка.

* * *

Я здымак твой у рукі ўзяў.
Чаму ты, сэрца, раптам зашчымела,
Чаму затахкала, чаму знямела?
Я здымак твой у рукі ўзяў.

Як успамін, скацілася сляза.
Чаму тады яна сцярпець сумела?
Я здымак твой у рукі ўзяў.
Чаму ты, сэрца, раптам зашчымела?

* * *

Галінка бэзу ў фортку зазірнула —
Святлом ліловым заліло пакой.
Духмяным воблачкам,
уквечаным вясной,
Галінка бэзу ў фортку зазірнула.

І памяць зноў у тыя дні вярнула:
Бягу за ім на экзамен ранічкой.
Галінка бэзу ў фортку зазірнула —
Святлом ліловым заліло пакой.

* * *

Бярыце мудрасць з маладосці
ў старасць —
Надзейны самы, залаты запас.
Жыццё багаццем спакушае нас, —
Бярыце мудрасць з маладосці
ў старасць.

Багацця прага — на сумленні нарасць.
Не цьмяняць мудрасць ні гады, ні час.
Бярыцэ мудрасць з маладосці
ў старасць —
Надзейны самы, залаты запас.

* * *

Калі збіраешся, мой дружа, закахацца,
Спачатку навучыся даравацъ,
У дробным дробнае распазнаваць, —
Калі збіраешся, мой дружа, закахацца.

Умей пачуццям, сэрцу давярацца,
Сумленню — не сумненням давяраць.
Калі збіраешся, мой дружа, закахацца,
Спачатку навучыся дараваць.

* * *

Жыць хочаш без пакут —
 не будзь зайздросным.
Жыць хочаш без пакут — душы даверся.
Глыбей зірні ў яе, як з сэрцам, зверся.
Жыць хочаш без пакут —
 не будзь зайздросным.

Прымай жыццё ў яго святле дзівосным,
Дзе б лёс ні пасвіў — у нізах, наверсе.
Жыць хочаш без пакут —
 не будзь зайздросным,
Жыць хочаш без пакут — душы даверся.

* * *

Вяргіні пунсавеюць пад акном —
Сваячкі найбліжэйшыя півоняў.
Пялёсткі цёплыя пагладжваю далоняй —
Вяргіні пунсавеюць пад акном.

Акно ім разнасцежваў хлапчуком —
Блукалі сны да рання ў іх палоне.
Вяргіні пунсавеюць пад акном —
Сваячкі найбліжэйшыя півоняў.



Андрэй ЖВАЛЕЎСКІ,
Яўгенія ПАСТАРНАК

# ГІМНАЗІЯ № 13*

***Раман-казка***

ЧАСТКА 1

## КЛЮЧ З ЧАТЫРОХ ЧАСТАК

Глава 9

### РУСАЛКА НА ГАЛЛІ

…Маша ўспыхнула, не знайшлася, што сказаць, і схавалася за Лёлю.

— Што яна сказала? — задумліва запытаўся Антон. — Што нам трэба рабіць?

— Капаць, — успомніла Люба.

— Цікава, у якім сэнсе? — адазваўся Антон.

— У глыбіню чацвёртага вымярэння… — прамармытаў Сеўка. — Чацвёртае вымярэнне — гэта час. Капаць у глыбіню часу? Нешта шукаць?

— Там, на ўзроўні вялікай бітвы… — задумліва прамовіла Маша. — Цікава, а якія тут былі бітвы? Хто-небудзь ведае?

— Я ведаю! — выгукнула Люба. — Дакладней, ведаю, хто ведае! У кладоўцы жыве дамавік, даруйце, Кладавік. Ён тут, мяркуючы па ўсім, шмат стагоддзяў, ён павінен памятаць бітвы. Тым больш вялікія!

— Ну пайшлі да Кладавіка, — уздыхнуў Антон.

* * *

Кладавік ужо чакаў іх, седзячы на парозе сваёй кладоўкі.

— Добры дзень, бацюхна-дамавік! — прывіталася Люба.

— Добры дзень, мілыя, добры дзень. Навошта прыйшлі-завіталі?

— Бацюхна-дамавік, ты ж усё помніш, усё ведаеш, — пачала Лёля. — Зрабі ласку, раскажы нам пра вялікую бітву.

— Вялікую бітву? — перапытаў Кладавік. — Ды я звычайны дамавік, я ў гэтыя справы не ўблытваюся.

— Але ж ты ведаеш, калі яна была?

— А як жа! — сказаў Кладавік. — Гэта ўсякі ведае.

— Праўда? — узрадаваўся Антон. — І калі ж?

— Ды, надоечы. Акурат перад тым, як вы да мяне зазірнулі…

І Кладавік паглядзеў на іх чыстымі, яснымі вачамі, але разумення ў вачах візіцёраў не пабачыў.

— Відаць, гэта не тая бітва, — няўпэўнена сказаў Антон.

---

* Працяг. Пачатак у № 1, 2, 3, 4 г. г.

Кладавік толькі паціснуў плячамі.

— А можа ты памятаеш, што тут у вайну было, а-а? — запыталася Лёля.

— У якую? — ажыўлена пацікавіўся Кладавік.

— Цяжка сказаць, — шчыра прамовіла Лёля, — нам патрэбна вялікая бітва. Мы не ведаем якая, не ведаем, калі яна была… Думалі, ты нам дапаможаш.

— Бацюхна-дамавік, не прымушай нас пакутаваць, дапамажы нам парадаю, — сказаў Мішка.

— О! — узрадаваўся Кладавік. — Вось жа можаце, калі хочаце! Парадаю — гэта не цяжка. Што парадзіць трэба?

— Парай, як нам прапытаць у цябе, калі тут бітва была, — змрочна сказаў Антон.

— Ды проста! — адазваўся Кладавік. — Я вам загадку загадаю. Адгадаеце — на любое пытанне адкажу. Дамовіліся?

— Дамовіліся, — уздыхнуў Антон і прабурчаў: — Можна падумаць, у нас ёсць выбар…

— Я просценькую, — пацёр рукі Кладавік і выдаў: — Размых, размых малу махнушку, пушчу белу галышку. Што гэта?

— Чаго-чаго? — вырвалася ў Мішкі.

Пасля хвіліны ачумелага маўчання Кладавік здаўся:

— Гэта варгі!

— А што гэта? — запыталася Маша.

— Ну як? — здзівіўся Кладавік. — Зімою, у мароз, што на ручкі апранаем?

— Пальчаткі…

— Рукавічкі…

— О! — узрадаваўся Кладавік — Дык гэта варгі і ёсць!

— Вой, — сказала Лёля, — ты нам што-небудзь прасцейшае загадай, а то мы такіх слоў не ведаем.

— Прасцейшае? — засмуціўся Кладавік. — Ну добра… Едзе арда, аглобля адна, а дугі ніводнай! Што гэта?

— Ну чаго вы маўчыце? — пакрыўдзіўся Кладавік. — Тут жа ўсе словы зразумелыя! Гэта ж рыдван з дышлем!

— Ведаеш, бацюхна-кладавік, — расхвалявалася Лёля, — відаць, у нас не атрымаецца з загадкамі. Будзь ласкавы, пашкадуй ты нас, дай іншае заданне, а-а?

— А хочаш, мы табе парадак у кладоўцы навядзём? — запыталася Люба.

— А то як жа! Вядома, хачу! — заўсміхаўся Кладавік. — А пакуль вы будзеце працаваць, я вам што-небудзь і распавяду.

Прыбіранне кладоўкі заняло некалькі гадзін. Усе добра-такі стаміліся, вельмі моцна запыліліся і пачулі неймаверную колькасць усялякіх гісторый з побыту сям'і, у якой жыў Кладавік. Перыядычна Лёля спрабавала вярнуць яго да тэмы:

— Раскажы пра бітву, а-а?

— А як жа! — паціраў рукі Кладавік. — Вось прыходзіць мужык пад раніцу дамоў, ледзьве ногі цягне, а гаспадыня мая яго качалкаю, качалкаю… Вось ужо была бітва дык бітва!

Але пад канец працы Кладавік раптам зрабіўся сур'ёзным і, пазіраючы на практычна ідэальны парадак, сказаў:

— Добра, даражэнькія, балбатаў я з вамі, балбатаў, ды што вінен, аддаць павінен. Думаў я, успамінаў, пра якую ж бітву вам расказаць… Ды не ведаю я адказу. Шмат войнаў я перажыў, многа гора бачыў… І дамы палілі — помню, і бомбы кідалі… Кажуць, дзесьці бітвы былі, але сам я не бачыў. Загойваць раны дапамагаў, ад гарачкі замаўляў. Аднойчы кошку асколкам зачапіла, яе дагледжваў. А так, каб нейкая бітва… Не помню, не ведаю…

Кладавік засмучана пакруціў галавою. Але Лёля вырашыла не здавацца.

— Можа, калі-небудзь даўно? — запыталася яна. — Нам сказалі, што мы павінны ў глыбіню часу капаць.

— Даўно? — задумаўся Кладавік. — Вох, не ведаю… Я тады яшчэ зусім малым быў…

— І што? — ажывілася Лёля.

— А і праўда ж! — узрадаваўся Кладавік. — Была! Была бітва! Я ж не падумаў, што гэта пра яе, ужо надта ж даўно…

— Ну?! — выгукнула Лёля.

— Дык гэта ж калі было! — паціснуў плячамі Кладавік.

— Калі?!

— Дык не ведаю! — усклікнуў Кладавік. — Я ж кажу, я тады яшчэ зусім хлапчанём быў, а колькі мне стагоддзяў стукнула, я ж не лічыў.

— Але ты нам раскажы што-небудзь, можа, мы разбяромся, — папрасіў Сеўка.

— Ды не ведаю я, што расказваць, — адгукнуўся Кладавік. — Тады вайна была, не тое, што пасля. Хто з кім, хто за што — незразумела… Жылі сабе, жылі… Потым набег нехта, усіх павыразаў, мужыкоў, хто не схаваўся, пасеклі… А хто? За што? То суседні князь, то другі суседні князь… Помню, што тады, як быццам, шмат князёў секлася… Сама ж бітва трошкі ў баку была, але нам тут хапіла. Кажуць, на рэчцы біліся, дык проста ўсе берагі былі крывёю залітыя…

— Крывавыя берагі Нямігі, — шэптам сказала Машка.

— Што гэта? — хутка запытаўся Антон.

— Бітва, — сказала Маша, — вялікая. Мы яе праходзілі. Першае згадванне Мінска ў летапісах. І яна апісана ў «Слове аб палку Ігаравым». І не глядзіце на мяне гэтак, я таксама не помню, хто з кім біўся! Але ў «Слове…» напісана, што нехта там праскочыў воўкам ад Дудутак да Нямігі… Памятаеце, мы калі ў Дудутках на экскурсіі былі, нам расказвалі?

Усе толькі паківалі галавамі, экскурсавода ў Дудутках ніхто не слухаў, усе куды больш былі заклапочаны пытаннем, дзеўбане страус з загарадзі Віцьку Пятрова насмерць ці проста пакалечыць.

— А ў якім годзе была гэтая бітва? — запытаўся Сеўка.

— У 1067, — ціха сказала Маша.

Усе замоўклі, уражаныя Машыным адказам.

— Ты гэта помніш? — запыталася Лёля ў Кладавіка.

— Ды не вельмі, — сціпла адказаў дамавік. — Вы мне лепш раскажыце, што ж там такое было, га-а?

Пакуль госці сутаргава згадвалі падручнік, блытана спрабавалі пераказаць, хто з кім і за што ваяваў, Маша ўспомніла пра «Слова аб палку Ігаравым» і прынесла кніжку.

— Вось, пачытай, — сказала яна Кладавіку. — Тут ёсць пераклад.

Але той, пабачыўшы старарускі тэкст, ледзь не праслязіўся.

— Ай, дзякуй! Ай, пацешылі! Вось, умелі ж пісаць, — уздыхнуў ён. — Ды я за гэтую кніжку ваш вечны даўжнік. Што трэба — смела прасіце. Але пасля. Спачатку пачытаю… Вы ідзіце пакуль…

І Кладавік пайшоў у самы дальні куток, ціха шавелячы губамі.

Глава 10

## РАЗРЫЎ-ТРАВА

Антон шлындаў па калідоры ад сцяны да сцяны, як заведзены. Астатнія паселі на падаконніках і панура за ім назіралі.

— Ды не мітусіся ты! — не вытрымала Лёля. — Хутчэй не будзе!

— Я гэтак думаю! — агрызнуўся Антоха, не перастаючы хадзіць туды-сюды.

— Пра што? — схамянуўся Сеўка. — Можа, дапамагу чым?

— Наўрад ці, — Волкаў нарэшце спыніўся. — Я нават не думаю, а так… успамінаю…

— Што-небудзь па праграме? — Цяпер ужо Маша ўзрадавалася магчымасці стаць карыснай.

Антоха пакруціў галавой. Усе ўжо спалохаліся, што ён зноўку пачне шлындацца па калідоры, але Волкаў стрымаўся. Гэта каштавала яму сур'ёзных намаганняў.

— Мне бацька расказваў… Калі школу будавалі, натрапілі на нешта… Пад зямлёю якраз… А на што — не помню, хоць здохні!

— Здыхаць не трэба! — заявіў Сеўка, саскокваючы з падаконніка. — Ты хоць бы помніш, дзе павінны былі школу пабудаваць? Па першапачатковаму плану?

Антоха пакруціў галавой з яшчэ большай шалёнасцю.

— Будзем разважаць лагічна! — цяпер ужо Сеўка выходжваў па калідоры.

Праўда, рабіў ён гэта павольна і вельмі паважна, так што амаль не раздражняў астатніх.

— У той бок, — Сеўка тыцнуў у напрамку ўвахода ў школу, — вуліца. Там і там — жылыя дамы. Іх раней, чым школу, пабудавалі, гэта дакладна. Значыцца, застаецца…

Сеўка спыніўся, даючы магчымасць Антону закончыць думку. Але думку закончыла нецярплівая Маша:

— Стадыён!

— Стадыён! — насмешліва працягнуў Мішка. — Дык ён за сценамі школы. Як мы туды выйдзем?

— Пад зямлёю! — Антоха рашуча сціснуў кулакі. — Так, Маша і Сеўка — самыя разумныя, яны застаюцца чакаць, пакуль Кладавік начытаецца і што-небудзь скажа. Астатнія — за мною!

Маша і Сеўка задаволена пачырванелі. Люба з ахвотнасцю саскочыла з падаконніка, Лёля з некаторым ваганнем рушыла за ёю. Мішка падазрона ўдакладніў, сціскаючы верную трубку:

— Куды?

— Табе спадабаецца, — усміхнуўся Антон.

* * *

— «Спадабаецца»! — прабурчаў Мішка, пралазячы паміж нейкай іржавай металічнай канструкцыяй і сырою сценкай. — І нічога мне тут не падабаецца!

Люба ўздыхнула. Ёй у падвале таксама даводзілася туга. Худзенькая Лёля і жылісты Антон лёгка прабіраліся ў самых вузкіх месцах, а вось Мішка з Любаю ўвесь час захрасалі.

— Не думаў, што ў нас такі заблытаны падвал, — не сунімаўся Мішка.

— Спакойна, — Антоха спыніўся. — Прыйшлі.

Усе ўтаропіліся на шэрую глухую сценку.

— Пустка — там, — Волкаў кіўнуў на яе.

— А мы тут! — уздыхнула Люба.

Мішка падыйшоў і ад душы пастукаў па сценцы трубкаю. Удары былі глухія.

— Ну вось, — сказаў ён незадаволена, — пайшлі, паглядзелі… Можам вяртацца.

— Сапраўды, Антон, — Лёля казала без ценю насмешкі. — А як ты збіраўся выйсці? Я думала, тут падземны ход…

Антоха раззлаваўся:

— «Думала»! Усе такія разумныя! Ніяк я не збіраўся выходзіць, хацеў на месцы разабрацца!

— Ты не засмучайся, — мякка сказала Люба, — давай уздоўж сценкі пройдземся, можа, і праўда, ёсць які-небудзь ход!

Антоха пасвяціў ліхтарыкам у адзін бок, у другі…

— Няма тут ніякіх хадоў! — гаркнуў ён і, не стрымаўшыся,ляснуў ліхтарыкам па сценцы.

Ліхтарык пагас, ярка мігнуўшы напаследак. Волкаў забурчаў ад бяссілля.

— Нічога! — яшчэ мякчэй сказала Люба. — Зараз асцярожненька выйдзем наверх, падумаем…

Антоха з нянавісцю паглядзеў на сценку. Трапіў у такое дурное становішча, а яшчэ так упэўнена за сабою ўсіх павёў! На што ён разлічваў? На ўдачу, відаць…

— Пачакай, — у Лёліным голасе раптам пачулася надзея. — А пастукай яшчэ раз.

Антоха з задавальненнем зноўку ляснуў па сценцы.

— А зараз трошкі ўбок…

Праз хвіліну стала зразумела, што Антоха прывёў свой атрад правільна: якраз там, дзе яны спыніліся, за сценкаю відавочна была нейкая пустата — удары паламаным ліхтарыкам гучалі гулка. У Антохі радасна забілася сэрца. Усё-ткі не зусім ён аганьбаваўся.

— І што? — скептычна ўдакладніў Мішка. — Будзем сценку ламаць?

— Ну, — Люба пачала вадзіць ліхтарыкам па баках, — стукнем чым-небудзь цяжэйшым, можа, і праломім!

Плямы святла пачалі шнарыць у цемры, адшукваючы падыходзячы таран. Нечакана Лёля затрымала прамень свайго ліхтарыка каля самай падлогі. Там, у шчыліне паміж сценкаю і падлогай, расла маленечкая кветачка.

— Нічога сабе! — Лёля прысела і дакранулася да кветкі пальцам, быццам правяраючы, ці не здалося гэта ёй.

Кветка аказалася сапраўднай, хоць і вельмі кволай.

— Які цуд! — сказала Люба, прысаджваючыся побач. — Гэта што?

— Каменяломнік, — адказала Лёля, працягваючы здзіўляцца. — Як гэта ён тут прарос?

Антон патрабавальна працягнуў руку:

— Дзяўчаткі! Вам аднаго ліхтарыка хопіць, каб гербарый сабраць? У нас жа тут, калі на тое пайшло, пільная справа! Сценку праламваць трэба!

Люба адразу ж уручыла свой ліхтарык Антоху, а Лёля працягвала гладзіць кветачку.

— А ведаеш, — сказала яна дзіўным голасам, — зараз мы сценку праломім. Без усялякага жалеза.

І з гэтымі словамі Лёля хутка (Люба нават ахнуць не паспела) сарвала кветку.

Яна паднялася з такім урачыстым выглядам, што ніхто ні пра што не стаў пытацца. Потым асцярожна падняла кволую расліну на ўзровень вачэй, усміхнулася… і раптам хвастанула кветкаю сценку.

Сеўка, калі б пабачыў вынік такога скарыстання флоры, кінуў бы хімію з фізікай і шчыльна засеў бы за батаніку. Таму што лёгенькая, амаль бесцялесная сцяблінка ўзарвала бетон не горш за фугас. Да шчасця, уся сіла каменяломніка скіравалася ў сценку, але яшчэ некалькі хвілін усім давялося круціць галавою, каб апамятацца.

— Нічога сабе кветачка! — Мішка пастукаў па спіне Любу, якая ніяк не магла адкашляцца ад узнятага пылу. — Дык, як, кажаш, называецца? Каменяломнік?

— А яшчэ разрыў-трава, — Лёля асцярожна паклала кветку, якая імгненна высахла, у кішэню.

— У наступны раз папярэджвай! — раўніва заўважыў Антон і першым пралез у разлом.

За ім шмыгнула Лёля, а вось далей здарылася затрымка. Люба яшчэ неяк уціснулася ў вузкі праход, а вось Мішка відавочна захраснуў.

Ён пыхкаў і стараўся скурчыцца, але ў яго гэта дрэнна атрымлівалася.

— Усё таму, — сумна пажартаваў Антоха,назіраючы за гэтым відовішчам, — што нехта надта ж многа есць.

— Нічога я не ем! — абурыўся Мішка, але ў яго голасе пачулася палёгка ад таго, што не давядзецца лезці ў гэтую незразумелую дзірку, у якой напэўна кішма кішаць розныя  небяспечныя дамавікі і іншая нечысць.

— Любка, Мішка, — скамандаваў Антон, — застаецеся тут. Калі праз… дзве гадзіны не вернемся, давядзецца вам пашыраць лаз і нас выцягваць. Лёля, пайшлі!

Ён павярнуўся да праходу, вельмі задаволены, што апошняе слова засталося ўсё-ткі за ім. Але ён памыляўся — апошняе слова сказала Лёля. Яна працягнула Любе кончык ніткі са шпулькі, якую сціскала ў руцэ:

— Трымай. Па ёй вернемся, калі заблукаем. А калі тузанём тры разы — тэрмінова прабівайцеся да нас!

* * *

Рухаліся яны вельмі павольна, абмацваючы рукамі зямлю паперадзе сябе, каб нікуды не зваліцца. Было вельмі душна і жудасна. І калі Лёля, якая ішла другою, адчула ў сябе на плячы нечую руку, у яе амаль у прамым сэнсе слова сэрца звалілася ў пяткі.

— Мяне забыліся! — сказаў, задыхаўшыся, Кладавік. — Ледзьве вас дагнаў.

— Чччаго ж ттты гггэтак палохаеш? — усклікнула дзяўчынка, з цяжкасцю пераводзячы дыханне.

— Выбачай, — хіхікнуў Кладавік, праціскаючыся наперад міма Антона з Лёляю.

— Ты ведаеш, што гэта за сутарэнне? — запытаўся Антон.

— Гэта яшчэ не сутарэнне, — сказаў Кладавік. — Гэтае потым ужо выкапалі. Сапраўднае сутарэнне нашмат ніжэй.

— А навошта гэтае капалі?

— Пабачыш! — сказаў Кладавік, агледзеўся і дадаў: — Пойдзем!

Метраў дзесяць давялося паўзці на карачках, потым зноў пайшоў спуск уніз.

— Дзесьці тут, дзесьці тут, — пачаў хваляваецца Кладавік, круцячыся на месцы, — вох, не помню дакладна, я малы быў… Малы быў! Значыцца, дзесьці ніжэй, я тады з цяжкасцю даставаў… А, вось!

Ён з любасцю расчысціў на сценцы нейкі каменьчык, які бліснуў золатам у промні ліхтарыка, і пачаў капаць з падвоеным стараннем. Літаральна праз некалькі хвілін ад зямлі ўдалося ачысціць кольца, сантыметраў дваццаць у дыяметры.

— Гэта ручка, — сказаў Кладавік. — Зараз патрэбна дзверы адчыніць.

Антон і Лёля пачалі вельмі асцярожна, каб не заваліць праход, разграбаць зямлю, цяпер ужо ачышчаючы дзверы. Тут глеба была зляжалая, вільготная, як быццам тлустая.

— Вы не перажывайце, тады людзі ніжэйшымі былі, дык і дзверы маленькія рабілі, — казаў Кладавік.

Ён прыкметна ажывіўся, зусім не выглядаў старэнькім дзядулем і сумленна працаваў нароўні з астатнімі.

Дзверы ачышчаліся марудна. Драўляныя, вельмі масіўныя, чорныя ад часу, на іх з цяжкасцю ўгадваўся ці-то ўзор, ці-то надпіс. Антону былі прыкладна па грудзі, зверху моцна закругленыя, таму больш нагадвалі люк.

— Ну што, гатовыя? — запытаўся Кладавік, калі ад зямлі быў расчышчаны ўвесь контур дзвярэй. — Зараз тузаем за кольца на сябе. Тры-чатыры! Яшчэ раз, тры-чатыры! І яшчэ раз, давайце, яны ўжо паддаюцца!.. Тры-чатыры!

Дзверы адчыніліся. І аказалася, што гэта ўсё-ткі не зусім дзверы, таму што, адчыніўшыся, яны проста вылецелі са сценкі праходу, як заглушка, цудам не адціснуўшы нікому ногі. Кладавік задаволена паціраў рукі.

— Ну вось і я дома! — паведаміў ён.

Антон падняўся, абтросся і пасвяціў ліхтарыкам у праём. Лёля паднімалася цяжэй, у святле ліхтара яе твар блішчэў ад поту і вочы здаваліся агромністымі.

— Вось умелі ж будаваць, га-а! — горда сказаў Кладавік.

Антон з Лёляю зайшлі ўсярэдзіну, у вялікі, амаль круглы пакой. Яго сцены, падлога і скляпенне былі выкладзены буйным каменнем, па баках у нішах засталіся каменныя лавы, пакрытыя гэткім жа чорным, як дзверы, дрэвам. У сценах чорнымі дзіркамі зеўрылі некалькі праходаў.

— А што там? — запытаўся Антон.

— Там клець, — сказаў дамавік. — Калі доўга тут сядзець, дык трэба ж і есці. А там, даруйце, прыбіральня выкапана.

— А як сюды траплялі? — запытаўся Антон.

— Раней ход ішоў з-пад царквы, што стаяла побач з дубам. Потым яго засыпала, а гэты, па якім мы паўзлі, мы зусім нядаўна пракапалі. У апошнюю вайну.

— Навошта? — запытаўся Антон.

— Людзей тут хавалі, як і тады.

— Калі тады?

Тут Антон заўважыў, што Лёля неяк дзіўна прысела ў кутку.

— Лёля, што з табою? — устрывожыўся ён.

— Спаць хачу, — ледзь чутна адказала дзяўчынка.

— Авохці-вохці мне, — загаласіў Кладавік, — паветра ёй мала. Вентыляцыю засыпала. Давай-тка яе адсюль выцягваць…

Шлях назад быў вельмі цяжкі. Уверх, а не ўніз, з Лёляю, якая засынала праз кожны метр і яе даводзілася выштурхваць альбо валачы за сабою. Праз нейкі час і Антон пачаў адчуваць, што сілы пакідаюць і вочы зліпаюцца.

— Вы пакуль дзверы выкопвалі, усе сілы страцілі, усё паветра выдыхалі, — пыхкаў Кладавік.

Антон сеў, прываліўся да сцяны і паспрабаваў аддыхацца. Яму ўсё часцей пачала лезці ў галаву маладушная думка — патузаць нітку, якую ён сумленна наматвае на руку. «Не пралезуць, — вяла падумаў Антоха, — вузка тут».

Лёля прыхінулася да яго, паклала галаву на плячо і правалілася ці-то ў сон, ці-то ў непрытомнасць. Антон ціхенька расшпіліў ёй каўнер на кофце, каб было не гэтак душна, і ў промнях ліхтарыка бліснуў сярэбраны медальён, знойдзены ў басейне.

— Вох, — зачаравана сказаў Кладавік. — Ну і справы…

Ён падыйшоў да дзяўчынкі, асцярожна ўзяў у рукі «няправільную адзіначку». Пацёр яе ў руках, сагрэў, пашаптаў. Медальён успыхнуў глыбокім блакітным святлом, быццам ажыў. А Кладавік узяў Лёліну руку і хутка накрыў ёю гэтае чароўнае ззянне. Рука сціснулася, і ўжо праз некалькі імгненняў дзяўчынка расплюшчыла вочы.

— Што са мною? — запыталася яна.

— Самлела, — пасміхнуўся Кладавік.

— Мне сніўся сон, — ціха сказала дзяўчынка. — Я ішла, ішла, мне было вельмі цяжка, я не магла дыхаць… А потым, калі стала зусім дрэнна, я пабачыла рэчку. Яна, як быццам сама прыйшла да мяне, абняла… узяла на рукі… І адразу стала так добра…

Лёля ўсміхнулася, села і агледзелася па баках.

— Як я сюды трапіла? — здзіўлена запыталася яна.

— Антон прынёс, — адказаў Кладавік.

— Антон? — перапытала Лёля.

Яна ўсё яшчэ была як зачараваная, дзесьці на мяжы явы і сну.

— У сне са мною побач быў воўк, ён дапамагаў мне ісці… Антон?

— Ну вось, — абурыўся Кладавік, — зараз гэтаму кепска… Што ж вы далікатныя такія? А ў яго ж такой чароўнай цацкі няма.

Лёля расціснула руку і паглядзела на медальён у сябе ў руцэ.

— Дык гэта ён мяне ўратаваў?

— Ага, — кіўнуў Кладавік.

— Так я аддам яго… — паспрабавала зняць упрыгажэнне Лёля.

— Не, — запярэчыў Кладавік. — Тут ужо кожнаму сваё. І ты не раскідвайся. Беражы.

— Антон, Антоха, уставай! — пачала тармасіць сябра Лёля.

Потым азірнулася, прысела побач з ім, узяла яго твар у далоні і… нават не пацалавала, а як быццам удыхнула нешта ў яго. Антон паволі ўзняў галаву:

— Ты як? — запытаўся ён у Лёлі.

— Нам трэба выбірацца адсюль.

Паднялася з каленяў і пачала хутка рухацца да выхаду. Антон, як у тумане, зірнуў на нітку ў сваёй руцэ, моцна тузануў яе… і з сумам паглядзеў на абарваны канец.

— Антон! — пачулася з калідора. — Ты дзе там?

Антоха адшпурнуў шпульку і з цяжкасцю пайшоў на голас.

Кладавік пакруціў галавой і прамармытаў яму ўслед:

— Вы ідзіце, ідзіце! А я там трошкі прыбяруся… Даўно трэба было…

І заспяшаўся ўніз.

* * *

Калі Антон з Лёляю вылезлі ў падвал, там ужо сабраліся ўсе астатнія і горача абмяркоўвалі, як жа ім сабраць выратавальную экспедыцыю. З'яўленне прапаўшых было ўспрынята крыкамі «Ура!» збоку Мішкі і слязамі шчасця збоку Машы, якая зараз жа павіснула на Лёлі.

— Лёля, Лёлечка, ну што там? Ну як там? Ну раскажы!

Антон даволі груба яе перапыніў:

— Цыц! Лёлі трэба даць гарачай гарбаты і паесці чаго-небудзь салодкага. І завядзіце яе куды-небудзь, дзе паветра свяжэйшае.

— А цябе? — запыталася Люба.

— Я ў парадку, — сказаў Антон.

І сеў каля сцяны з мараю толькі пра адно — паспаць…

Ён цьмяна памятаў, як выйшаў з падвала. Здаецца, яго нехта вёў. Ці нёс? Не, усё-такі вёў. Не за руку, а як быццам цягнуў на нябачнай нітцы. Часам ён на хаду правальваўся ў сон, і тады яму здавалася, што ён Іван-царэвіч вярхом на воўку.

Апамятаўся Антон у сталоўцы. Яны з Лёляю сядзелі побач, ухутаныя ў нейкія коўдры. Лёля ўжо адыйшла ад падарожжа ў сутарэнне, з апетытам нешта ўплятала. Антон зразумеў, што яго зараз вырве. Але не паспеў ён пра гэта падумаць, як побач з ім апынуўся Сталавік з вялікім кубкам у руках.

— На, міленькі, — мармытаў ён, падсоўваючы кубак Антоху, — гэта булёнчык, курыны. Самае тое, што табе патрэбна!

У Антона не было сіл спрачацца, і толькі таму ён узяў кубак. Зрабіў глыток. Булён аказаўся густым, наварыстым, з маленькімі кавалачкамі курыцы і зярняткамі рысу. Сталавік, як заўжды, меў рацыю — гэта было «самае тое». Адсёрбваючы гарачы эліксір, Антоха стаў прыслухоўвацца да размовы.

Уласна кажучы, гэта была не размова, а маналог Лёлі, якая расказвала пра сутарэнне. Усе астатнія глядзелі ёй у рот, забыўшыся пра поўныя талеркі.

— …і Антон мяне выцягнуў! Я апамяталася — а ён зусім белы ляжыць. Ну, я яго…

Тут Лёля зусім непрыкметна для астатніх запнулася. Антоха адчуўшы, як пачырванелі яго шчокі, паспешліва прыпаў да кубка, які вельмі трапна закрываў яго твар.

— … па шчоках папляскала, ён апамятаўся. Мы выбіраемся — а тут вы.

— А Кладавік? — амаль шэптам запыталася Маша.

— Не ведаю, — Лёля павярнулася за падтрымкай да Антона.

— Там застаўся, — буркнуў ён з-за кубка. — Парадак наводзіць.

— А падказку вы знайшлі? — прагна запытаўся Сеўка.

Было бачна, што яму ўжо даўно не дае спакою гэтае пытанне, але ён ніяк не мог знайсці моманту, каб задаць яго.

Лёля і Антон адначасова паціснулі плячамі.

— Дарэмна толькі па гэтых сутарэннях поўзалі, — панура сказаў Мішка і ўзяўся за лыжку. — Сцяну праломвалі…

Сеўка, які да гэтага часу выглядаў зажураным, схамянуўся:

— Дык я так і не зразумеў, — а што ж вы там узарвалі? Гэткую дзірышчу прабілі!

Люба патлумачыла, падсоўваючы да сябе талерку:

— Нічога не ўзрывалі. Гэта Лёля… кветачкай.

У Машы і Сеўкі вочы палезлі на лоб.

— Кветачкай? — здзівілася Маша.

Лёля засмуцілася і дастала з-за пазухі высахлую сцяблінку.

Сеўка з захапленнем першабытнага чалавека, якому паказалі кій, які страляў, утаропіўся на кветку.

— Правільна, што прыхапіла! Мы ж яе зараз вывучым! Мы ж такой узрыўчаткі забацаем!..

Але яго мары астудзіў Сталавік, што якраз прынёс Антоху новы кубак булёну:

— Ну-ну! У мяне ў сталоўцы, каб ніякіх «забацаем».

Тут ён заўважыў сцяблінку і ледзь не пляснуў рукамі.

— Ай-яй-яй, — ён не надта далікатна тыцнуў кубак Антону. — На, мілы, папі… Гэта ж разрыў-трава! Авохці мне!

Сталавік павярнуўся да Лёлі:

— Ты?

Лёля кіўнула, жуючы булачку.

— Ну а хто ж! — паківаў галавою Сталавік і зноўку ўтаропіўся на кветку.

— Даруйце! — Сеўка патузаў Сталавіка за рукаў. — А дзе яшчэ можна такіх кветачак нарваць?

— Табе — нідзе! Гэта толькі Лёля можа… ды і то… не кожны дзень!

Цяпер усе з цікавасцю прыслухоўваліся да Сталавіка.

— А гэтую, — Сеўка кіўнуў на засохлую разрыў-траву, — яшчэ можна неяк скарыстаць?

— Можна, — пагадзіўся Сталавік і трапятліва, двума пальчыкамі, узяў сцяблінку, — калі асцярожна.

І тут раптам столь адчувальна здрыганулася, як быццам полк велічэзных салдат рушыў па камандзе. Госці спалохана ўзнялі галовы. Сталавік паспешліва схаваў кветку ў кішэню.

— Уааауyaayayayaaa! — пачулася зверху, і ўдары, якія скаланалі перакрыцце, сталі частымі і хаатычнымі.

— Зноў пачалося! — прабурчаў Сталавік, прыкрываючы ежу на стале абрусам, які невядома адкуль узяўся. — Калі ўжо супакояцца?

— Ды хто гэта там? — без асаблівай надзеі на адказ запытаўся Антоха.

— Не трэба гэтага вам ведаць, — сардэчна параіў Сталавік. — Сядзіце сабе. Тут вас ніхто не пакрыўдзіць. А там… як-небудзь утрасецца!

Там, на другім паверсе, трэслася гэтак, што са столі пасыпалася тынкоўка.

— Так я і думаў. — Сталавік задаволена пагладзіў абрус, які ўратаваў ежу ад смецця, і растаў у паветры.

— А разрыў-траву?! — крыкнуў Сеўка ў прастору.

— Зраблю, зраблю, — адказалі адтуль.

Калі грукат і невыразныя выкрыкі наверсе спыніліся, нарэшце, удалося нармальна даесьці. Сеўка глытаў кавалкі, не разжаваўшы, бягом адвалок посуд на «брудны столік» і кінуўся ў калідор.

Адтуль ён прынёс план эвакуацыі школы пры пажары і шлёпнуў яго ў цэнтр стала.

— Таак! — задаволена сказаў ён. — Зарады можна закласці тут, тут, тут… і тут!

Сеўка рашуча тыцкаў у план, як маршал Жукаў, плануючы аперацыю «Баграціён».

— Тады фасад абваліцца стопудова! Я геній!

Сеўка адарваўся ад плана і горда агледзеў сяброў.

— А калі не абваліцца? — запытаўся Антоха.

— Абваліцца! Галоўнае, каб разрыў-травы хапіла! Сцяну падвала вы разбурылі? Разбурылі! Адным словам, выйшлі за межы школы! Што і патрабавалася…

І тут Сеўкін твар раптам выцягнуўся.

— Вой! — прашаптаў ён. — А навошта нам фасад абвальваць? Вы ж ужо сценку ў падвале прабілі… Вось там і вылезем.

За сталом спыніўся ўсялякі рух.

— Якія мы ідыёты… — журботна сказаў Антоха.

— Не, — тут жа ўмяшалася Лёля, — мы не ідыёты. Там і на дваіх паветра ледзь хапіла, вось мы і тармазілі.

— Але калі там некалі сядзелі людзі, як сказаў Кладавік, яны ж неяк дыхалі? — адазваўся Антоха.

— Дык вентыляцыю засыпала!

— Значыцца, яе трэба адкапаць!

— І хто пойдзе адкопваць? У цябе ёсць балон з паветрам? — запыталася Лёля.

— Сеўка, у нас ёсць балон з паветрам? — перапытаў Антон.

— Не, — адказаў Сеўка, — але можна што-небудзь прыдумаць. Давайце раз-

важаць лагічна: вецер дзьме з месца з высокім ціскам у месца з нізкім ціскам. Значыцца, нам трэба панізіць ціск у падвале. Альбо стварыць вялікае разрэджванне паветра ў сутарэнні, у ідэале вакуум, — потым, пасля таго, як мы адчынім дзверы, паветра само хлыне туды з агромністай хуткасцю.

Сеўка горда паглядзеў на сяброў, але штосьці ў іх тварах яго збянтэжыла, таму што ён рэзка перастаў фантаніраваць ідэямі.

— А можа, — прапанаваў Мішка, — проста дамовімся з кім-небудзь… з гэтых?

— З кім? — здзівіўся Антон.

— А не ведаю, — пацiснуў плячамі Мішка. — Хто ў іх тут за паветра адказвае? Якія-небудзь паветраныя?

І шырока, да хрусту ў сківіцы, пазяхнуў. Пазяханне — штука заразная. Праз хвіліну пазяхалі ўсе: салодка пацягвалася Любка; каротка шчоўкнула зубамі Лёля; Сеўка доўга не мог закрыць рот, нават зажмурыўся ад задавальнення; старанна захінуўшыся далонькай, пазяхнула Маша. Антон зразумеў, што і ў яго сківіцы нястрымна расціскаюцца, а вочы, наадварот, зліпаюцца.

— Так, зараз мы ўсе ідзём у спартзалу. Спаць, — паведаміў Антон. — Дзень быў цяжкі, а заўтра будзе…

І ўсё-такі сарваўся на пазяханне.

— …яшчэ цяжэйшы, — закончыў за яго Мішка.

— Можа, мы заўтра ўжо дома будзем, — летуценна сказала Маша.

Астатнія прамоўчалі, думаючы кожны пра сваё.

Спаў Антоха спакойна, зусім без сноў, але раптам сярод ночы яго як быццам штосьці штурхнула ў бок. Прачнуўся ён адразу, адным рыўком, і пабачыў, як Лёля ціхенька выходзіць са спартыўнай залы.

Антон падхапіўся, бязгучна злез з мата, у два скачкі перасёк залу і паспеў праскочыць у дзверы, якія зачыняліся. Лёлю ён нагнаў у канцы школьнага калідора, схапіў за руку, пацягнуў да сябе і загарадзіў дарогу.

— Куды? — грозна запытаўся ён. — Ката мы кармілі.

Лёля маўчала.

— Ты хоць разумееш, што адной швэндацца па школе небяспечна? Ты не вернешся, а мы нават не будзем ведаць, дзе цябе шукаць!

— Не крычы на мяне, — ціха сказала Лёля.

Антон хацеў сказаць яшчэ нешта суровае і справядлівае, але Лёля выглядала такой безабароннай і такой… дзіўнай… Паўзмрок у калідоры зрабіў яе вочы яшчэ большымі, а ўсмешку яшчэ больш загадкавай. І Антон зусім недарэчы ўспомніў, што яна яго пацалавала. І адчуванне ад пацалунку ўспомніў — як быццам пасля доўгай спякоты напіўся з халоднай крыніцы. Сварыцца расхацелася. Сыходзіць было неразумна. Што рабіць — Антон не ведаў.

— Я да Кладавіка, — парушыла маўчанне Лёля.

— Навошта?

— Не магу заснуць. Хачу ў яго запытацца пра гэты медальён. У ім нейкая сіла, але я не разумею якая…

— Думаеш, ён ведае?

— Ага.

— Я пайду з табою, — цвёрда сказаў Антон.

— А ты не баішся пакідаць усіх астатніх?

У гэты момант Антон больш за ўсё баяўся, што Лёля зараз пачне з ім спрачацца, а пра ўсіх астатніх проста не думаў.

— Там Залавік, — хутка знайшоўся Антон, — ён панаглядае.

Лёля некалькі хвілін вагалася, але потым уздыхнула і пагадзілася.

* * *

Кладавік сядзеў у вялікай каструлі, спусціўшы ногі паверх яе, і з захапленнем чытаў «Слова аб палку Ігаравым».

— Вох, рабяты, — сказаў ён, калі яны ўвайшлі, — вось умелі ж складаць. Прыгожа, цягуча, нікуды не спяшаючыся… Не тое, што цяперака…

— Добры дзень, Кладавік-бацюхна, — прамовіла Лёля. — Можна табе пытанне задаць?

— Чаму ж нельга? Можна! Я нават ведаю якое. Паветравод я прачысціў, дык цяпер можаце ісці ў сутарэнне.

Антон захіхікаў.

— Мішка меў рацыю, — прашаптаў ён Лёлі, — трэба было проста дамовіцца.

— Не, я не пра тое хацела запытацца, — сказала Лёля. — Гэты медальён, які на мне, ён нешта азначае?

— А як жа! — адказаў Кладавік. — Усё на свеце штосьці азначае. І не толькі на свеце, у цемрадзі таксама…

Ён паспрабаваў зноўку заглыбіцца ў кніжку, але Лёля здавацца не збіралася.

— У ім нейкая сіла?

— Ва ўсім ёсць сіла, — сказаў Кладавік трошкі раздражнёна, — толькі ёю трэба ўмець карыстацца.

— Я хачу навучыцца, — сказала Лёля.

— Значыцца, навучышся, — не пярэчыў Кладавік і схіліўся над «Словам».

— А ты мне дапаможаш? — запыталася Лёля і трошкі пацягнула кніжку на сябе.

— Дапамагу, — ён моцна ўчапіўся ў карашок.

— Дык дапамажы! — усклікнула Лёля, не саступаючы.

— «Дапамажы», «дапамажы», — прабурчаў Кладавік, здаючыся і загортваючы кніжку. — Толкам скажы, што табе трэба?

Лёля адпусціла «Слова» і склала рукі на грудзях.

— Дзядулечка! Раскажы, які гэта медальён, адкуль ён, якая сіла ў ім схавана? Чаму ты можаш ім карыстацца, а я не? Навучы, ты ж такі разумны!

Антоха зларадна падумаў, што гэтая дзяўчынка не толькі ім круціць, як хоча. Вось Кладавік — колькі стагоддзяў жыве, а ўсё роўна раставаць пачаў, як толькі Лёлін мядовы галасок пачуў.

— Охохо… — уздыхнуў Кладавік, адклаў кніжку і сеў больш зручна. — Ну вось давай разам падумаем… Вось у стары час, каб сказаць нешта чалавеку ў іншым горадзе, пасылалі ганца. Доўга гэта было, нязручна… А ганца то заб'юць, то абрабуюць. І вось схацелася б князю, каб толькі ён волю сваю сказаў, а ўжо тут жа ва ўсіх гарадах усе гэтую яго волю ведалі і выконвалі. І тут з'яўляешся ты, і ў цябе ў руках гэты твой, — ён пацёр лоб, успамінаючы слова, — мабільнік… Раскажаш ты князю, як ён працуе?

— Дык ён не зразумее… — сказала Лёля.

— О! Не зразумее, — сумна адказаў Кладавік. — А калі нават і зразумее, дык карыстацца тваім… мабільнікам не зможа, таму што ён там усё роўна не працуе. А нават калі і запрацуе, дык…

— Што? — не вытрымаў Антон.

— Дык заб'юць князя, — зусім зажурыўся Кладавік, — і мабільнікі яго спаляць. Таму што скажуць, што ўсё гэта справы нячыстага… Ты зразумела мяне?

Лёля кіўнула.

— О, гэтак яно, — сказаў Кладавік. — А дапамагчы, вядома, дапамагу, гэта заўжды…

Лёля ўздыхнула. Па тону Кладавіка стала зразумела, што дапамагчы, дык ён дапаможа… але як-небудзь пасля. Дзядуля-дамавік пацягнуўся, схаваў кніжку пад скрынку і падышоў да дзвярэй.

— Пайду я прагуляюся, а то ноч на двары, а я дома сяджу, — сказаў ён, і гучным шэптам дадаў Антону проста ў вуха: — Глядзі, беражы, такая дзяўчына ў цябе прыгажуня! Украдуць яшчэ!

Антон падумаў, што зараз ад збянтэжанасці праваліцца скрозь зямлю, але Лёля хмыкнула, і ён знайшоў у сабе сілы падняць вочы.

— Не такая ўжо і прыгажуня, — фыркнула Лёля.

— Не ўкрадуць! — нечакана для сябе сказаў Антон.

Рэшту ночы ён варочаўся, то правальваючыся ў сон, то выныраючы з яго. У сне Антоха ўжо не бег да невядомага ворага, а падкрадваўся па нейкаму адхону. Ён быў то воўкам, то яго спадарожнікам, а часам здавалася, што і тым і другім адначасова. Наперадзе чакала небяспека, але вельмі дзіўная. Нельга ні кідацца на яе, ні бегчы ад яе. Трэба прынюхацца…

## Глава 11

## КЛЮЧ. ЗЯМЛЯ

Раніца выдалася бурная. Прачнуліся ўсе ад шуму крылаў. Прычым па грукату гэта можна было параўнаць з пасадкаю верталёта. Пакуль заспаныя гімназісты спрабавалі зразумець, што здарылася, Антон ужо ўскочыў на ногі, але знерухомеў у нерашучасці. Так, выглядае, як нападзенне. Але чуццё, якому ён ужо прывык давяраць, казала, што небяспекі няма.

Хоць у спартыўнай зале адбывалася нешта зусім неверагоднае — некалькі вялікіх чорных птушак, растапырыўшы агромністыя крылы, абступалі Лёлін «ложак». Кожная птушка была памерам з цяля.

Адна з птушак — самая жвавая — спрытна сцягнула дзюбаю коўдру з Лёлі і радасна загарлапаніла грубым басам:

— У палон, у палон!

— О не-е-е! — заныла Лёля, але па голасу было зусім незразумела, чаго ёй больш не хочацца — у палон ці наогул уставаць.

Мішка зразумеў, што гэта не чарговы кашмар, а самая што ні на ёсць жахлівая рэчаіснасць, і цалкам аслупянеў. Астатнія толькі лыпалі вачамі ў такт крылам.

Антон напляваў на чуццё і схапіў гантэль, што валяўся ў кутку, каб як след трэснуць нахабную птушку, але Лёля сустрэлася з ім позіркам і ледзь прыкметна падміргнула. Антон спыніўся. Але гантэль на ўсялякі выпадак з рук не выпусціў. «Можа, — падумаў ён, — гэта ўсё-такі сон?»

У гэты час птушка з цяжкасцю ўзваліла Лёлю сабе на спіну і, прагінаючыся пад яе вагою, некалькімі ўзмахамі крылаў адвалакла на баскетбольнае кальцо.

— Тут у нас будзе гняздо, — паведаміла птушка, — і тут у нас будзе палон.

— Ха-ха-ха, — гучна і злавесна адгукнулася другая птушка, відаць, важак, — цяпер вы не пабачыце сваю палонную ніколі!

Лёля ў гэты час утульна ўселася на карзінцы і, прыхінуўшыся да шчыта, падобна, збіралася там дасыпаць. «Сон, — вырашыў Антоха. — Рэалістычныя сны сняцца мне ў апошні час».

І тут пачуўся жудасны лямант:

— Не-е-е!..

Гэта Маша нарэшце працерла вочы, пабачыла навокал страшных птушак, Лёлю ў палоне і рынулася на важака з кулакамі.

— Я табе пакажу, курыца абскубеная, — закрычала яна. — А ну зараз жа адпусці Лёлю!

— Вы мяне абразілі, мадам. Я — арол! — заявіла птушка і горда выцягнула шыю. — І я выклікаю вас на дуэль!

Арол матнуў галавой, і трэцяя птушка прычыкільгала да іх, спрытна выцягнула з-пад крыла прыгожы чахол з дзвюма бліскучымі шпагамі.

— Выбірайце! — прапанаваў арол.

Маша, не вагаючыся ні хвіліны, выхапіла адну шпагу і стала ў позу.

— У локшыну пасяку! — паведаміла яна скрозь зубы.

— Я яшчэ сплю? — шэптам запыталася Люба. — Ці Машку дзесьці падмянілі?

Нават Мішка выйшаў на імгненне са ступару і жаласна папрасіў:

— Антох…

Але Антон яго перапыніў, адкладваючы гантэль:

— Спакойна. Яны, падобна, самі разбяруцца…

У гэты час арол з Машаю скончылі серыю рытуальных паклонаў і рынуліся адно на аднаго.

— Вох, нічога сабе, — усклікнуў Сеўка. — А яны не пазабіваюцца?

Звон стаяў, як у кузні, нават іскры ляцелі. Антон таксама напружана сачыў за тым, як мільгацяць шпагі і як расчырванелая Маша парыруе ўдары. Праўда, прыгледзеўшыся, ён зразумеў, што арол нападае вельмі асцярожна, даючы дзяўчынцы перавесці дых і адскочыць на бяспечную адлегласць.

— Давай, давай! — закрычала з баскетбольнай карзіны Лёля. — Ма-ша, Ма-ша!

— А-рол, А-рол! — залямантавалі птушкі.

— Мы звар’яцелі? — запыталася Люба.

— А што, гэта выглядае большай неверагоднасцю чым кот, які размаўляе? — пафіласофску заўважыў Антон. — Але зразумець, што адбываецца, хацелася б…

Маша перайшла ў нападзенне, заціснула арла ў куток і эфектным рухам выбіла шпагу з аслабелага крыла.

— Ах, не дабівайце мяне, мадам, — заныў арол, — у мяне дома арлушы, інакш кажучы, арляняткі, карацей, гэтыя, кураняткі…

— Адпусці Лёлю! — грозна сказала Маша.

— Ага, вядома, вядома… — замітусіўся арол і закрычаў: — Адпусціце палонную!

Птушка ў гняздзе ўздыхнула, падставіла спіну, і Лёля акуратна спланіравала з «гнязда» проста ў рукі сваёй выратавальніцы.

— Калі вы яшчэ раз… — грозна пачала Маша.

— Усё-усё-усё, — сказалі арлы, — мы ўжо сыходзім.

Яны пераглянуліся, закурлыкалі, схапілі шпагу і паляцелі, шумна пхаючыся, каб пралезці ў дзверы.

— Што гэта было? — запыталася Люба.

— Птушыны грып. З бязглуздзіцай, — хіхікнуў Мішка. — А Машка ж, аказваецца, крута б’ецца…

Машка разгублена зірнула на бліскучую шпагу, якую працягвала сціскаць у руцэ, войкнула і дробна-дробна закалацілася. Шпагу, аднак, так і не выпусціла.

А ў кутку Лёля ўпотай перадала Залавіку здобную булачку, прыхопленую падчас вячэры.

* * *

За сняданкам Маша не закрывала рот ні на хвіліну:

— А я прачынаюся, і бачу… А потым ён — выпад, а я ў адказ… А ён мне, а я яму, а потым ён раз, і ўлева, а я раз, і ўправа…

Антон з цяжкасцю знайшоў хвілінку, калі Маша выпусціла з рук Лёліну руку і адыйшла ад яе хоць бы на паўкроку, і ціхенька запытаўся:

— Гэта ты ўсё прыдумала?

— Цсссс… — зашыпела Лёля.

— Лёлечка, я цяпер цябе нікуды не адпушчу! — заявіла Маша. — Калі яшчэ хто-небудзь асмеліцца табе што-небудзь зрабіць, дык я…

— Маш, ты лепей еш, — перапыніў яе Антон, — табе трэба сілы вярнуць. А то прыйдуць ворагі, а ты без сіл.

Маша ўткнулася ў талерку. Лёля сербанула гарбаты і пазяхнула. Тут жа побач апынуўся Сталавік, які прынёс ёй новы чайнік.

— Лепш гэтага папі, мілая, — сказаў ён, — а то калі паўночы гуляць, дык прачнуцца цяжка. Ды ты не чырваней, я што, не разумею…

У поўнай цішыні ўсе ўтаропіліся на Лёлю, якая свідравала Сталавіка суровым позіркам.

— Добра, добра, маўчу, маўчу, — сказаў Сталавік. — А Антоха ж нічога, спаць не хоча…

Антон грозна засоп.

— Ды маўчу-маўчу, — сказаў дамавік. — Дарэчы, вы тут учора падчас вячэры штучку забыліся.

Ён паклаў на стол скрыначку, здабытую з такой цяжкасцю ў кабінеце хіміі.

— Ды што яе браць, — сказала Маша і ўзяла скрыначку ў рукі, каб перадаць Антону, — яна ўсё роўна не адчыня… Вой, адчынілася…

Усе падхапіліся і стукнуліся ілбамі над адчыненым футлярам. У глыбіні ляжаў сярэбраны медальён, вельмі падобны да Лёлінага, але яшчэ больш дзіўнай формы — як быццам нехта пісаў літару «ка», але забыўся дапісаць апошнюю ніжнюю палачку.

— Які прыгожы… — зачаравана прамармытала Маша.

— Беражы яго, — папярэдзіла Лёля.

— Я магу яго ўзяць, ага? — Маша ажно падскочыла ад радасці.

— Ён твой, — тут Лёля спахапілася, — калі, канечне, Антон дазволіць.

Антон, сціснуўшы зубы, кіўнуў. Сталавік хіхікнуў, але зараз жа адвярнуўся, зрабіўшы выгляд, што выцірае стол.

— Так, расказваю план на сёння, — паведаміў Антон, пасля таго як аціхлі ўсе вохі ды ахі наконт новага медальёна. — Кладавік прачысціў паветравод, і мы можам спусціцца ў падзямелле. Усе, хто хоча, зразумела. Адтуль спрабуем выбрацца на паверхню. Калі ў нас гэта атрымліваецца, дык вяртаемся за астатнімі. Калі не атрымліваецца, дык… усё роўна вяртаемся. Хто ідзе?

Усе паднялі рукі.

— Тады наперад!

— Забыліся, забыліся! — закрычаў з кухні Сталавік. — Самае галоўнае забыліся!

— Што?

— Ды я ж вам разрыў-травіцы заварыў вашай.

Сталавік паставіў на стол яшчэ цёплую бутлю, заткнутую газетным коркам. У Сеўкі разгарэліся вочы.

— Вух ты! — выгукнуў ён. — Якая доза? І якая выбуховая сіла?

— Якая выбуховая сіла? — здзівіўся Сталавік.

— Ну скарыстоўваць яе як?

— Ды проста! — паціснуў плячамі Сталавік. — Пырснуць на якую-небудзь штучку, яна і расхінецца.

* * *

Другое падарожжа ў падзямелле аказалася больш простым. Ці-то Кладавік сапраўды трошкі прачысціў шляхі, ці-то паветра стала болей, ці-то ўпэўненасці ў сабе, але на гэты раз шлях здаўся Антону з Лёляй значна карацейшым. Падобна, працавіты дзядулька заадно прачысціў і сам калідор, таму што нават Мішка з Любаю праходзілі адносна свабодна, толькі дзе-нідзе трэба было прапіхвацца бокам. Цяжэй даводзілася Мішку, таму што ён яшчэ цягнуў некалькі рыдлёвак. За імі тупаў Сеўка, які крайне асцярожна нёс бутлю з настоем разрыў-травы. Замыкала экспедыцыю Маша з трафейнаю шпагай напагатове.

Дзверы ў каменную залу засталіся адчыненымі, і ўсярэдзіне было не душна, хутчэй халаднавата.

— Дзе будзем узрываць? — дзелавіта запытаўся Сеўка.

— Давай тут, — Антон паказаў на дальнюю ад дзвярэй сцяну, — а мы на ўсялякі выпадак там пастаім.

Антон вывеў усіх за дзверы і на момант выбуху загадаў усім зажмурыцца.

— Сеўка! — крыкнуў ён унутр. — Пачынай з самай малой дозы!

— Не вучы Мендзялеева гарэлку варыць! — адказаў Сеўка, але па яго голасе было зразумела, што і гэты бывалы эксперыментатар злёгку дрэйфіць.

— Увага… адна кропля!

Нешта булькнула, зашыпела…

— Вох… — пачулася з пакоя.

— Здаецца, — прашаптала Маша, — не выбухнула.

Усе як па камандзе кінуліся ў залу. Калі пасля невялікай штурханіны ў дзвярах экспедыцыя скупілася каля Сеўкі, перад ім мігцела марыва, якое хутка раставала ў святле ліхтарыкаў.

— І што гэта было? — запытаўся Антон.

— Гэта не ўзрыўчатка! — абурана адказаў Сеўка. — Гэта… галюцынаген нейкі!

І ўжо смела апырскаў сцяну настоем. Зноўку пачулася лёгкае шыпенне, і са сценкі, як галаграма, высунуўся суровы мужчынскі твар. Менавіта суровы, іншага слова і не падбярэш. Буйныя рысы твару, светлыя валасы, сабраныя ў хвост, твар закураны… Прывід быў жывы: твар хмурыўся, як быццам быў не вельмі задаволены тым, што бачыў перад сабою. Раптам губы бязгучна заварушыліся. Антон паспрабаваў пакратаць аб'ёмную карцінку, але рука прайшла наскрозь, а сама «галаграма» закалыхалася і пачала раставаць.

— Хто гэта? — ціха запыталася Люба.

— Гэта муляр, — адказала Лёля, — майстар, які клаў гэтую сцяну. Цяпер зразумела…

— Што зразумела?! — Сеўка ўсё яшчэ адчуваў сябе падманутым. — Ён жа сказаў, што калі пырснуць, рэч разломіцца!

— Не разломіцца, а расхінецца! — паправіла Лёля. — Іншымі словамі адчыніцца. Вось яна і адчыніла нам сябе… сваю душу…

Мішка нервова азірнуўся і мацней сціснуў медную трубку, з якой не развітваўся ўвесь гэты час.

— А што, — запытаўся ён, — усе гэтыя камянюкі… адушаўлёныя?

Лёля здзіўлена паглядзела на яго:

— Ва ўсіх рэчаў ёсць душа. І памяць. Ты не ведаў?

— Антынавукова! — запярэчыў Сеўка, але Антон астудзіў яго запал, памахаўшы перад носам ліхтарыкам.

— А ліхтарык на вечным рухавіку — гэта як, навукова?

Сеўка змоўчаў, але па яго твары лёгка чыталася ўсё, што ён думаў пра недарэчныя фантазіі ўсялякіх дзяўчынак і пра нядобрасумленных дамавікоў, якія замест узрыўчаткі вараць немаведама што.

— А я адчуваю, — ціха сказала Люба, пагладжваючы сцяну, — у іх нешта ёсць…

Сеўка раззлавана падняў бутлю, відавочна намерваючыся выліць усё, што было ў ёй, на падлогу, але Лёля паспела схапіць яго за руку.

— Пачакай! Гэта вельмі каштоўны напой! Ён нам спатрэбіцца! — спахапіўшыся, Лёля азірнулася за дапамогай да Антона. — Праўда, Антон?

Антоха ледзьве не сплюнуў. Ну чаму ён павінен падтрымліваць усе яе ідэі? Толькі таму, што яна… прывяла яго тады да прытомнасці? Але ўсё-такі ў словах Лёлі быў сэнс. Мяркуючы па ўсім, адвар мог для чаго-небудзь спатрэбіцца.

— Выліць заўжды паспеем, — сказаў ён сурова. — Ты лепш падумай, як наверх прабіцца.

— Без узрыўчаткі?

— Затое з Мішкаю і Любкай. Давай, прыдумляй!

Сеўка неахвотна аддаў бутлю Лёлі і кіўнуў Мішку з Любаю:

— Пайшлі.

Тыя пакорліва выйшлі з залы ўслед за Сеўкаю. Маша, якая ўвесь гэты час блукала па зале, падняла з падлогі нейкую штуковіну і працягнула Лёлі:

— А капні кропельку сюды! Цікава, што яно раскажа!

Лёля зноўку запытальна зірнула на Антона. «Ага, — мільганула ў яго думка, — можна падумаць, я ёй нешта забараніць магу!» Але, разгледзеўшы штуковіну, якая аказалася наканечнікам стралы, прысвіснуў:

— Ну, Машка, добрую цацку ты знайшла!

Лёля працягвала чакаць дазволу. Антоха адчуў, што, нягледзячы на ўсе доказы розуму, яму гэта прыемна.

— Ну капай… — сказаў ён крайне абыякава.

Лёля па неасцярожнасці не капнула, а плюхнула…

Машка завішчала і выпусціла з рук знаходку. Лёля ахнула. Нават у Антона ў роце перасохла.

Уся падземная зала імгненна запоўнілася людзьмі ў кальчугах і скураных даспехах. У першы момант здалося, што гэта не людзі, а монстры: з перакрыўленымі ў бязгучным ляманце ратамі яны кідаліся адзін на аднаго, секлі мячамі, білі шчытамі, булавамі, нават шлемамі — усім, што трапляла пад руку. З ран свістала кроў, ворагі, счапіўшыся, качаліся па забітых і параненых…

— Гэта вайна, — сказаў Антон, проста каб разагнаць цішыню.

У маўклівасці гэты кашмар здаваўся яшчэ больш жудасным.

Маша закрыла вочы далонямі:

— Гэта… гэта не вайна! Гэта… бойня нейкая! Не магу глядзець!

— А вайна — гэта заўжды бойня, — нечакана для сябе самога, неяк вельмі падаросламу сказаў Антон. — Гэта табе не кіно пра мушкецёраў.

І ён пачаў разганяць прывід рукамі, каб ён хутчэй знік.

Пасля першага вопыту яны сталі больш асцярожнымі. Антон адабраў бутлю ў Лёлі — да вялікай яе палёгкі — і загадаў пашукаць што-небудзь не такое небяспечнае. І больш цікавае. А самае галоўнае — што-небудзь падобнае да падказкі, як адсюль выбрацца.

Вельмі хутка Лёля натрапіла на дзіўны грабеньчык.

— Антон, давай на яго капнем! На ім нейкія знакі, — сказала дзяўчынка, круцячы ў руках знаходку.

Антон падыйшоў, крайне асцярожна нахіліў бутлю…

І з’явілася карцінка: хлопчык рагоча ва ўсё горла. Зводдаль сядзіць жанчына, якая трымае ў руках грабеньчык і сурова глядзіць на дзіцёнка. Потым не вытрымлівае і ўсміхаецца. Пасля нешта кажа.

— Эх, гук бы ўключыць, — прашаптала Лёля і пачала яшчэ больш уважліва ўглядацца ў карцінку.

Хлопчык перастаў рагатаць, падбег да маці і пачаў засяроджана тыкаць пальцам у грэбень, штосьці выразна прамаўляючы.

Лёля ажно прыўстала на дыбачкі, імкнучыся прачытаць па губах… і яе асяніла!

— Гэта літары! — прашаптала яна, — аз, букі, ведзі, глаголь… далей я не помню. На гэтым грабянцы алфавіт… Які цуд, гэты хлопчык…

— Іншымі словамі, карысці нам ад яго ніякай, — перапыніў яе Антон. — Давай шукаць далей.

— Цікава, а гэта што такое? — запыталася Маша, падняўшы з зямлі невялікі кружочак.

Кропля зелля — і з’явілася хата, цесна набітая людзьмі. Высокі барадаты мужык у доўгай кашулі трымае ў руках скрутак, на якім матляецца знойдзены Машаю кружок. У скрутку тэкст, напісаны як быццам па-руску, але мала што можна зразумець.

— Антон, сфатаграфуй гэта! Хутчэй! — закрычала Лёля, — потым прачытаем!

Антон выхапіў з кішэні тэлефон і зрабіў кадр. Яму тут жа стала ўдвая няёмка. Па-першае, з-за таго, што не яму прыйшла ў галаву ідэя сфатаграфаваць. Па-другое, што ён так ганебна-паспешліва кінуўся выконваць загад Лёлі. Каб супакоіць сябе, Антоха іранічна заўважыў:

— Пасля ў інтэрнэт выкладзем — рэальны фотаздымак вось такога стагоддзя! Наогул цікава, што там адбываецца? Хто гэтыя людзі? Распавёў бы хто…

Тым часам барадаты мужык пачаў чытаць скрутак услых, выклікаючы даволі бурную рэакцыю сходу.

— Трэба Кладавіка гукнуць, — сказаў Антон, — без яго не разбяромся. Лёля, схадзі-тка за Кладавіком, ён цябе паслухае…

— А чаго за мною хадзіць? — запытаўся Кладавік, вылазячы з цёмнага кутка. — Я ўжо даўно тут сяджу, любуюся… Эх, які быў час… Якія людзі…

— Які час? — зацікаўлена запытаўся Антон. — Якія людзі? Можна больш падрабязна?

— Час даўні. А людзі… простыя. Без гэтых цяперашніх… як гэта завецца… Тады жывы мужык — шчасце, жонка ёсць — шчасце, сын — шмат шчасця. Спраў процьма: поле ўзараць, жывёлу дагледзець. І за ўсё дзякавалі. І лішняга не прасілі. Бяда прыдзе, яны галавою страсянуць, памоляцца і наперад — далей жыць. І ніякіх табе дэпрэсій, як у вас модна…

Слова «дэпрэсій» Кладавік прамовіў з неперадавальнай агідай, быццам чарвяка выплюнуў.

— Ды ўжо, мы тут бачылі гэтых людзей, — Машу ажно скаланула ад успамінаў. — Мясарубка нейкая. Дзікуны!

— «Дзікуны», кажаш, — прыжмурыўся Кладавік. — Ану-тка, Антоха, капні сюды.

Кладавік падняў з зямлі маленечкую кніжачку. Нават не кніжачку, а вокладку, пераплёт.

Антон пацікнуў плячамі і капнуў. І адхіснуўся.

На яго насоўвалася раз’юшаная фізіяномія ў нацягнутай на вочы касцы з арлом, які раскінуў чорныя крылы. Фізіяномія нешта крычала яму ў твар. Потым як быццам камера трошкі ад’ехала, і стала бачна, хто гэта.

— Фашысцкі салдат! — усклікнула Маша. — Гэта ж зусім іншы час!

Салдат адышоў на некалькі крокаў. Перад ім на каленях стаяў стары. На яго грудзях жаўцела нашытая на пінжак шасціканечная зорка. Салдат размахнуўся і піхнуў яго ботам. Стары ўпаў, у яго з-за пазухі выпала кніжачка, якую зараз трымаў у руках Антон.

Салдат зноў штосьці закрычаў.

— Што ён крычыць? — запыталася Лёля зрывістым шэптам.

Ёй ніхто не адказаў.

Да старога падышоў мужчына ў цывільным, падняў яго за валасы з гразі, зарагатаў і плюнуў яму ў твар. Салдат зняў з пляча аўтамат і, не цэлячыся…

— Не! — закрычала Маша і кінулася на салдата, шалёна размахваючы шпагаю.

Прывід рассеяўся. Лёля, выцягнуўшыся ў струнку, глядзела на тое месца, дзе толькі што ляжаў стары, вялізнымі, поўнымі слёз вачамі. Маша ў апошні раз узмахнула шпагаю, запусціла ёю кудысьці ў куток і разраўлася.

Антон, не ведаючы што рабіць, пачаў гартаць кніжачку. Яна была спісана дробнымі незразумелымі значкамі.

— Не з таго боку гартаеш, — сказала Маша скрозь слёзы. — Трэба справа налева. Гэта сідур… яўрэйскі малітоўнік… У майго прадзядулі такі быў.

Маша ўзяла з рук Антона кніжачку, раскрыла наўгад.

— Мне бабуля расказвала, — сказала яна ціха-ціха. — У яе ўсіх забілі. Выцягнулі ў двор і запыталіся: «Юдэн?»…

Кладавік пакруціў галавой і прамакнуў вочы бародкаю.

— І ва ўпор усіх… — працягнула Маша нежывым голасам. — А бабулю выпадкова не дабілі… Потым суседзі выхадзілі…

— А хто быў той, другі? — запытаўся Антон у Кладавіка. — Ён жа, здаецца, не немец…

— Дык гэта ж Рыгор, стараста мясцовы! А ты думаў, толькі чужаземцы забівалі? Сволач, дзетачкі, гэта не нацыянальнасць…

— Пойдземце адсюль! — сказала Маша. — Я не магу болей…

Лёля падышла да Машы і абняла яе. Тая прыціснулася да сяброўкі і заціхнула.

— А ты кажаш — дзікуны… — уздыхнуў Кладавік. — Гэты стары колькі дзён там валяўся, яго хаваць не давалі. А Рыгор хадзіў міма і мачыўся на яго…

Маша заткнула вушы.

— Навошта ты ёй гэта расказваеш?! — прашаптала Лёля.

— Я не ёй. Я вам, — сказаў Кладавік. — Часу ж праляцела ўсяго нічога, стагоддзя не прайшло. Думаеце, вы вельмі змяніліся?

— Хто мы? — здзівіўся Антон.

— Людзі, — паціснуў плячамі Кладавік.

— А што потым? — хрыпла запыталася Маша. — Што потым было са старым?

— Тут недалёка стаяла царква, невялікая такая. І бацюшка, як яго звалі ўжо і не памятаю… Таксама старэнькі, але дужы. Ён ноччу старога і пахаваў. На праваслаўных могілках па праваслаўным абрадзе. Сказаў, што перад Богам усе роўныя, якая розніца якой веры… Рыгор усё дапытваўся пасля, хто асмеліўся пахаваць, але бацюшку не выдалі. А я яму гэты ход паказаў.

— Бацюшку? — запыталася Лёля.

— Ну так!

Кладавік ажывіўся і пачаў хіхікаць.

— Вой, смех быў з ім, ён пакуль у мяне паверыў… Усё хрысціў мяне, хрысціў… Думаў, што я згіну. Але пасля нічога, утаймаваўся.

Кладавік уздыхнуў.

— Святы быў чалавек! Столькі народу тут уратаваў… Ход мы з ім ад царквы пракапалі, тады падзямелле ўжо моцна паглыбілася…

— А ён выжыў у вайну? — запытаўся Антон.

— Не, — журботна сказаў Кладавік, — забілі.

Усе трошкі памаўчалі.

— Добра, — парушыў цішыню Антон, — гэта ўсё сумна… але нам трэба наверх прабівацца. Тут другога выхаду не было?

— Як жа не быць? — Кладавік відавочна ўзрадаваўся змене тэмы. — Быў. Вунь там! Толькі яго даўно засыпала. Амаль адразу пасля першай вайны… Калі я яшчэ хлапчанём быў…

— Першай сусветнай? — Маша шморгнула носам.

— Як гэта «сусветнай»? — здзівіўся Кладавік.

— Ну з немцамі ваявалі? — запытаўся Антоха.

— Не-е-е…

— З французамі? — прыйшла на дапамогу Лёля. — З палякамі? Шведамі?

— Ды з рускімі! — замахаў ручкамі Кладавік. — Даўняя вайна, кажу, была!

Усе здзівіліся. Маша нават шморгаць носам перастала.

— Беларусы з рускімі ваявалі? — здзівілася яна ўласным недахопам у гісторыі.

— Ды не было тады беларусаў, маларусаў, вялікарусаў, — узлаваўся Кладавік. — Усе былі рускія! Толькі князі розныя! Вось на мясцовага князя пайшлі тры браты з поўдня… Ды я вам пакажу…

Кладавік пачаў корпацца ў кутку. Маша замучана за ім сачыла. Антон вырашыў яе супакоіць:

— Калі рускія з рускімі, дык, відаць, не гэтак зверствавалі!

Але Маша ўпарта крутнула галавой:

— Я зразумела… Гэта пра бітву на Нямізе, так?

Кладавік як раз знайшоў тое, што шукаў, — баявую сякеру.

— Амаль, — сказаў ён. — Толькі спачатку Менск узялі. І гэтая сякерка там праславілася. Капні, унучак, сам пабачыш…

Маша спыніла руку Антона.

— Не трэба, — злосна сказала яна і раптам пачала шпарыць на памяць: — «На Нямізе снапы сцелюць галовамі, малоцяць цапамі булатнымі, на таку жыццё кладуць, веюць душу ад цела. Нямігі крывавыя берагі дабром былі ўсеяны — усеяны касцьмі рускіх сыноў». Не ўжо, нагледзелася!

Машу калаціла. Лёля асцярожна гладзіла яе па галаве і нешта нягучна шаптала, каб хоць трошкі супакоіць.

— Дык я ж і кажу, — паспрабаваў настояць на сваім Кладавік, — гэта не з Нямігі сякерка! Ёю Менск бралі!

Але ў Машы і на гэта знайшлася цытата:

— «А мяняне зачыніліся ў горадзе, і браты ўзялі Менск, пабілі мужчын, а жонак і дзяцей забралі ў палон і пайшлі да Нямігі»… Гэта ты нам глядзець прапануеш?!

Антон ніколі ў жыцці не бачыў Машу такой раззлаванай. Нават настырны Кладавік здаўся і прыбраў праклятую сякерку як мага далей. Але выгляд пры гэтым меў пакрыўджаны. Здаецца, яму схацелася зноўку вярнуцца ў сваю маладосць, няхай бы нават наўкол і лілася кроў…

— Дзядуля, — сказала Лёля, працягваючы гладзіць Машу, — а дзе той выхад, пра які вы казалі? Ну, з першай вайны?

Кладавік моўчкі тыкнуў у куток, супрацьлеглы адчыненым дзвярам.

— Значыцца, будзем капаць тут, — вырашыў Антон і хацеў было паслаць каго-небудзь за Сеўкаю і яго памочнікамі, але ацаніў, наколькі моцна Маша ўчапілася ў Лёлю, і зразумеў, што давядзецца ісці самому…

***Працяг у наступным нумары.***

***Пераклад з рускай Раісы БАРАВІКОВАЙ.***

Ян РАДВАН

# РАДЗІВІЛІЯДА,[*]

## або ПРА ЖЫЦЦЁ І ДЗЕІ, СЛАЎНЫЯ ПОДЗВІГІ БЕССМЯРОТНАЙ ПАМЯЦІ НАЙСВЯТЛЕЙШАГА ПАНА Мікалая Радзівіла, князя ў Дубінках і Біржы Віленскага княства, а таксама наймацнейшага ваяводы войскаў Вялікага Княства Літоўскага

### *Кніга першая*

Гук вашых бубнаў ды з вамі ў дзікунскія пусцяцца скокі!
Што вы стаіце! Калі хоць крыху засталася адвага
Марса айчыннага ў вас, — уздымайма на ворага зброю!
Тут не нарада цяпер — абуджэнне да бітвы патрэбна,
Моцная воля. А Бог Сам дае і мужоў, і адвагу».
Цяжка вяльможам усім гэта чуць, бо віну адчуваюць.
Скончыў прамову ваяр, выцер з твару пякучыя слёзы.
Толькі пасланец замоўк, па збянтэжаных вуснах магнатаў
Шэпт разнастайны пабег — так, як бура на моры сціхае:
Перш чым заціхнуць зусім, яшчэ трошку гамоніць, шапоча…
Просяць суцішыцца ўсіх — галасы замаўкаюць адразу.
Аўгуст, магутны кароль, са стальца прамаўляць пачынае:
«Вельмі б хацеў я раней вось пра гэта дачуцца, магнаты,
Перш, чым варожы натоўп свайго Марса прывёў у краіну,
Ды не цяпер, калі ўсё, можа, цалкам ляжыць у руінах.
Здзеклівы вораг пануе — о гора! — на землях айчынных.
Мноства бязвінных людзей праз нядбайнасць бяздзейную нашу
Мёртвымі сталі... Хіба яны жыць не хацелі?.. Юпітэр
Хай бы мяне пакараў — я б іх вырваў ад лютае смерці!..
Як жа цяпер бараніць ацалелую частку падданых,
Згінуць не даць ім і як ад ганебных кайданаў пазбавіць?
Зараз патрэбныя нам спланаваныя мудра рашэнні,
Подзвігі дзейсных мужоў... І цяпер я ў кароткай прамове
Выкладу планы свае. Прыхіліце ж уважліва сэрцы!
Маю я князя, паны: ён паходзіць з крыві Радзівілаў,
Слаўны герой Мікалай, найвышэйшы і родам, і справай.
Вось я рашэнне прыняў, што, зрабіўшы яго палкаводцам,
Людзям падтрымку пашлю. Дык збірайце ж у бітву імкліва
Мужныя войскі свае, узбраеннем адметныя слаўным!»
Так ён сказаў, і паны караля падтрымалі ўсе разам,
Войскі склікаюць свае, каб узняць супраць ворага раці.
Хутка збіраюцца ўсе, хто жадаюць адпомсціць за блізкіх,
Іншых кіруе на бітву цудоўная прага змагання.

[*] Заканчэнне Кнігі першай. Пачатак у № 1, 2, 3, 4 г. г.

Разам сышліся яны каля даўніх муроў Эрдзівіла,
Крэпасці слаўнай, якая Наваградкам годна завецца.
З моцнаю верай яны прамінаюць то крэпасці Слуцка,
То старажытны Мазыр, — а харугвы ў паветры лунаюць.
Вершнікі мчацца наўпрост, уздымаючы пыл да нябёсаў.
Сам Радзівіл, прыгажун, сярод іншых адметны, — у цэнтры.
Сэрца адвагай гарыць: то за войскам ён скача, то раптам
Войска абгоніць... Хутчэй ён імкнецца ў адкрытае поле —
Поле вайны... Вось з мяжы данясенне прыходзіць, што скіфы
Страхам ахоплены ўсе, адступаюць (хоць скрозь застаюцца
Жорсткай расправы сляды), бо нядобрая чутка данесла
Ворагам, што Радзівіл наступае, што войска літвінаў
Блізка Валыні цяпер!.. І пабегла дзікунскае племя,
Сполах іх гоніць назад, спадзяюцца на звыклыя ўцёкі,
Жыцці нагам давяраюць, як воўчая зграя, якая
Прагне на статак напасці, ды раптам ахоўнікаў бачыць, —
Тут і даюць лататы, ды нясуцца імкліва, як вецер.
Бачыць цяпер Радзівіл, што ўчыніў ненавісны нападнік.
Моўчкі пахмурны стаіць, моцны жаль абуджаецца ў сэрцы,
Рвецца ад болю душа навальніцай нязносных турботаў.
Слёзы гараць на шчаках, але ў думках — высокая мужнасць,
Сорам свядомы... «Няўжо мы з такою вялікаю сілай
Позна прыйшлі?.. Як ты мог, крывадушны, бязродны татарын,
Выступіць здрадна на нас! Што ж ён чыніць! — гаротна ўсклікае. —
Гоніць з айчыны ў палон жыхароў дабрадатнага Крыма!
Сталі рабамі цяпер суайчыннікі нашы і бачаць
Смерці сяброў, сваякоў... Адыходзячы з Вільні, не гэта
Я абяцаў каралю, але сотні каштоўных трафеяў!..
Сёння яшчэ немагчыма належна адпомсціць ардынцу,
Шчыра кажу, і бяру сабе ў сведкі высокае неба:
Я не ўхіліўся — о не! — ад ніводнай ліхой небяспекі,
Прагнучы вас ратаваць — вас, выгнаннікаў з мілай Айчыны;
Ворагаў мноства мяне не спалохала цяжарам бітвы,
Сам я стаяў на чале і змагаўся з усімі... Аднак жа
Бог — Усявышні суддзя — так прызначыў... Нічога не зробіш!
Гора! Якая ж зямля і якая ж вас доля чакае?..»
Гэтыя словы казаў, і каціліся слёзы па твары.
Так засталася тады незавершанай справа, хоць вораг
Кінуўся шпарка на ўцёкі і, страху набраўшыся добра,
Больш не рашыўся чыніць вынішчэнняў літвінам. Не мог ён
Войскам знішчальным сваім церушыць па шырокіх прасторах.
Скуль жа прыйшла перамога? Ад гэтага моцнага страху?
Можа, прызначыў так Марс?.. Хто б пра тое спытаў ваяводу!..
Аўгуст-кароль ацаніў мужны ўчынак свайго камандзіра:
Знакам пашаны за гэта аддаў пад яго кіраванне
Трокі, каб мог ён заняць сваё месца ў літоўскім сенаце,
Тытул высокі прыняў і назваўся цяпер ваяводам[1],
Каб прызвычаіўся быць абаронцам вялікай Айчыны.

[1] Глоса: За заслугі і апраўданы давер адораны ад караля Трокскім ваяводствам.

Ён апраўдаў той давер: дараваная доблесць квітнее,
Новыя тытулы болей натхняюць адважнае сэрца.
Так, як лампады жывуць і гараць толькі з росаў Палады[1],
Хутка ўздымаюць агонь ад алейнае вільгаці, — гэтак
Доблесць забытая чэзне, хвалёная доблесць квітнее,
Аж да нябёсаў ляціць ды вышэй за аблокі лунае.
Слава выдатнага мужа задумамі годнымі ззяе,
Шпарка ляціць да Фасіды[2], да чорнае брамы Калханта[3];
Дыбяцца прэч ад яе Мэатыйскія сонныя воды.[4]
Мір дабрадатны, прагнаўшы вайны ненавісную хмару,
Доўгачаканы, заззяў для народаў Сарматыі цэлай.
Ласкай сагрэў ён людзей; гадаванка спакою Цэрэра,
Добрая маці пладоў, ураджай падарыла багаты;
Лепшы з мінулых гадоў саступаў у шчадротах прыроды.
Шчасны араты тады караля аўгусцейшага славіў —
Аўгуста, з ім, Радзівіл, і цябе ён хваліў па заслугах.
Ата[5] бязбожная нас злым паглядам зракае знянацку!
Ах, ці трывае калі між смяротнымі штосьці надоўга?
Вось і літвінам яна пазайздросціла ў міры, ліхая!
Край распасцёрся Лівонскі пад небам сваім сямізорным[6],
Плодную мае зямлю і празрыстых азёраў багата,
Высяцца крэпасці там са спічастымі дахамі вежаў.
Тут панаваў Фюрстэмберг[7], князь з германскага племені родам.
Тыя германцы калісь, жыхароў перамогшы тутэйшых,
Землі і порты прысвоілі. Вось крыжаносец так званы
Стаў прыціскаць той народ ненавісным сваім панаваннем.
Племя ліхое! Яны караля шанаваць не хацелі,
Страху не мелі ў душы, пагарджалі свяшчэннай дамовай.
Тут быў пачатак вайны. І пачварная, згубная пыха
Цэлы народ прывяла да фатальнай бяды, заняпаду.
З войскам магутным магістр арцыбіскупа даўняе Рыгі
Цісне аблогай сваёй, а грашовых прэтэнзій — бясконца.
Вось, калі кінуты быў арцыбіскуп за краты нахабна,
Брат з брандэнбургскага роду, магутнымі продкамі слаўны[8],

---

[1] *Росамі Палады* — Ян Радван, хутчэй за ўсё, называе аліўкавы алей: аліва — свяшчэннае дрэва Мінервы.

[2] *Фасіда* — рака ў Калхідзе.

[3] *Калхант* — вяшчун у стане грэкаў пад Трояй.

[4] *Мэатыйскія сонныя воды*… Мэатыйскім балотам на старажытных картах называлася сучаснае Азоўскае мора.

[5] *Ата* — у старажытнагрэчаскай міфалогіі багіня, персаніфікацыя аблуды, падману, няшчасця.

[6] *Сямізор'ямі* называлі сузор'і Вялікай і Малой Мядзведзіцы, якія, у сваю чаргу, служылі паэтычным пазначэннем паўночных краін.

[7] *Фюрстэмбергам* Ян Радван называе Вільгельма Фюрстэнберга, магістра Лівоніі.

[8] *Брат з брандэнбургскага роду*… Маецца на ўвазе арцыбіскуп Рыжскі, маркграф Брандэнбургскі Вільгельм, родны брат Прускага герцага Альбрэхта. Абодва яны прыходзіліся стрыечнымі братамі каралю Жыгімонту Аўгусту. Вільгельм Фюрстэмберг, які прыняў лютэранства, каб супрацьстаяць спробам арцыбіскупа Вільгельма абараніць каталіцкую веру ў Лівоніі, абвясціў у 1556 г. вайну арцыбіскупу. Апошні закрыўся ў замку Кокенхаўз, аднак магістр учыніў аблогу, і арцыбіскуп быў вымушаны здацца. Магістр загадаў схапіць арцыбіскупа і кінуць яго за краты, дзе Вільгельм Брандэнбургскі прабыў амаль цэлы год.

Аўгуста просіць, каб той дапамог яму ў справе з прэлатам:
Вызваліць хоча яго ды пазбавіць ганебнай абразы.
Вось выпраўляецца Ланскі[1] па гэтым пытанні: ён хоча
Просьбай сваёй улагодзіць суровае сэрца магістра.
Толькі бясслаўны Крыжак, ненавідзячы мір і дамовы,
Права руйнуючы ўшчэнт, загадаў паважанага мужа —
Ланскага — жорстка забіць: як казалі, мячом яго сцялі…
Падае Ланскі на дол, паміраючы; хутка па целе
Кроў забруілася; вось галава ападае на грудзі,
Чэзне ў апалай руцэ прыгажосць міраноснага лаўра.
Іншых прагналі яны, абражаючы ў выразах брыдкіх,
Людзі без Бога ў душы… Закіпеў цяпер гнеў у літвінах,
Просяць яны караля, усклікаючы: «Зброю! Да зброі!»
Гучна адзін аднаго абуджаюць узняцца на бітву.
Вось і прычына вайны: што багі патрабуюць адпомсты.
Мірныя ўсе прапановы адрынуў крыжак. Але згоды
Гожы аліўны вянок каралю даспадобы, і міру
Больш за любыя трыумфы жадае кароль. Вось чаму ён
Зноў выпраўляе пасла з асяроддзя сенатараў годных,
Шлях — да таго ж ганарліўца, магістра з германскай душою.
«Мусіць ён брата майго абавязкаў фальшывых пазбавіць.
Не — значыць, будзьце гатовы! Калі пагарджае ён мірам,
Хай атрымае вайну! Будуць гора, і ліха, і страты!»
Чуючы біскупа, гнеўным агнём Фюрстэмберг разгараўся,
Злобай бясконцай палаў, і, калі б не заможнасць легатаў,
Белы іх сцяг, — мусіць, ён не ўстрымаўся б ад новых забойстваў.
Фурыі скачуць з вачэй, аж кіпіць у нянавісці дзікай.
З выразам годным штораз спалучаючы брыдкія словы,
Вусны нарэшце раскрыў і пачаў раззлавана прамову:
«Хтосьці з багоў ці з людзей да вайны заклікае Вільгельма?
Хтосьці прымусіў яго стаць варожым Лівонскаму краю?
Кажаце, Аўгуста брат, перанёсшы ліхія нягоды,
Нават паразу ў вайне, незаконна сядзіць у цямніцы?
Крэпасці, землі, Лівонія, Рыга — усім ён кіруе!
Нават мяне выдае ён тырану сармацкаму[2]. Гляньце:
Курыяў[3] нашых гатоў перадаць ён хоць прусам, хоць брату.
Мы выкрываем злачынствы, і гэта, маўляў, беззаконна?
Гневам нікчэмным, ліхім вы палаеце! Слухай, літвіне,
Думаеш, можа, што ты за звярамі ганяешся ў лесе?
Значыць, у гэтай зямлі, несумненна, ты знойдзеш пагібель.
Загадзя цяжка прадбачыць, каму дасць Вікторыя пальму…
Трэба вайну пачынаць? Пачынаю! Хай гэтак здабудзе

[1] Так у Яна Радвана (Lanscius); Мацей Стрыйкоўскі называе яго «Łączki».

[2] Магістр Вільгельм Фюрстэнберг у 1556 г. сабраў вальны сейм у Вендэне (Кесі, сёння — горад Цэсіс у Латвіі), дзе і было прынята рашэнне выступіць з вайной супраць арцыбіскупа быццам бы з прычыны таго, што апошні хацеў перадаць Ліфлянты польскаму каралю, а Курляндыю — брату, Прускаму герцагу.

[3] *Курыі* — адзін з найбольш старажытных патрыцыянскіх радоў Старажытнага Рыма. Тут выкарыстоўваецца як метанімічнае пазначэнне арыстакратаў.

Кожны сваё: хто паразу, а хто перамогу… Хай соліць
Кроў і мая, і маіх ваяроў сталь навостранай зброі.
Ногі мае не дранцвеюць ад гукаў паходнага рога.
Выпрабуй сілу сваю на пакрытым бранёю германцу:
Як ён трывае ў баі, як віхурай ляціць у атаку.
Я, Фюрстэмберг, хоць цяпер — на вайну, не баюся навалы.
Смерць не палохае нас!.. Шкадаваць жа літвінаў не будзем».
Аўгусту гэта крыжак перадаў як адказ ад магістра.
Той жа крычаў, бушаваў, з уласцівай германскаю пыхай…
Проста не ведаў яшчэ, што разгром іх — ужо неўзабаве…
Аўгуст-кароль адказаў міралюбна і вельмі спакойна:
«Што за народ! Праз вякі ён да нас непрыязны, варожы,
Тое, што добра для нас, — непрымальна для іх. Нам вось трэба
Варвараў перш пакараць, мусульманаў суровых, — ды мусім
Зброю цяпер павярнуць мы супроць хрысціянскага люду.
Раз беззаконны народ абражае свяшчэнную веру, —
Гэй, уздымаймася ўсе, мімаволі пазбудзьмася міру!
Мне даспадобы спакой, ненавіснае Марса аблічча.
Сумны зыход, Фюрстэмберг, несумненна, здабудзеш, ліхотнік,
Свет і пабачыць яшчэ, і пачуе пра гэткую ганьбу.
Трэба спыніць весялосць, уздымайце штандары, сарматы,
Вось пачалася вайна, дык пакрыйце ж лівонскія землі
Целамі ратнікаў. Ты ж, Радзівіле, вышэйшую ўладу
Будзеш над войскам трымаць: цябе гетманам я прызначаю.»
Так ён сказаў. Адусюль пачынаюць збірацца літвіны,
Моладзь найперш, у атрады злучаюцца з добраю зброяй.
Частка ідзе пехатой, а другія на конях імчацца,
Прагнучы ў бітву ўступіць, і нясуцца шарэнгамі коні,
Грукат ад іх капытоў прымушае зямлю здрыгануцца.
Аўгустаў бачны кляйнот: каралеўская гвардыя крочыць, —
Як на падбор малайцы, непахісныя духам адважным,
Быццам дэльфіны, якія гуляюць у водных глыбінях,
Потым збіраюцца ў статкі й нясуцца па сонечных хвалях.
Храбрых, бадзёрых байцоў Радзівіл уздымае на бітву.
Ён, з булавой Геркулеса, пры ўсіх нечаканасцях лёсу
(Бачна, што добрая кроў!) з вышыні прамаўляе загады.
Войскаў стотысячных раць у запале да Посвалі[1] крочыць,
Кожны маўкліва ў душы абуджаў справядлівага Марса.
З боку свайго Фюрстэмберг пад харугвамі Божае Маці
Войска выводзіць сваё, ваяўнічых германцаў атрады —
Кнехтаў у белым адзенні, пазначаным крыжам вялікім.
Вунь авангардны атрад, шчыльна дзіды самкнуўшы, выходзіць,
Быццам бы войска кентаўраў, за ім — цяжкаўзброеных шэраг.
Там, сярод бляску мячоў, сам магістр у цэнтры віднеўся:
Золатам ззяе, а вочы агонь выпускаюць зласліва.
Ярка, страката пад сонцам зіхцела лівонская зброя,
Следам пяхота ішла. Вунь змыкаюцца ў полі атрады,
Глянь, пад прыкрыццем шчытоў, і віхурай агністага Марса

[1] Посваль — сёння Pasvalys, горад на поўначы Літвы.

Посваль ахоплена скрозь… Як пчалінай парой меданоснай
Рой вылятае з вуллёў, — на шырокіх лівонскіх прасторах
Столькі ж было юнакоў — ды такіх, якіх варта баяцца,
Вельмі адважных, з усходу, адтуль, дзе радопскія[1] вежы.
Мецяць сцягі, што лунаюць пад ветрам, варожыя раці,
Дзеляць сваіх і чужых… Пачынаецца Марса сваволя,
Чуецца трубны сігнал ад Нязгоды ў плашчы разарваным.
Сам Усявышні Айцец абураецца несправядлівым
Гневам зямных жыхароў і цяпер, раўнаважачы чашы
Шаляў сваіх залатых, лёс лівонцаў цяжкі і літвінаў
Мудра ўскладае на іх, каб прысуд справядлівы прызначыць.
Толькі прарочая чаша лівонцаў спускаецца долу,
Нізка, да самай зямлі, а літоўская ўзносіцца ў неба.
Знак падае Усявышні, з ім разам — зямля і нябёсы.
Бойцеся ўсе! Ты ж, германец, цяпер атрымай па заслугах:
Ты зневажаеш дамовы ды толькі пра золата дбаеш.
Зараз Вікторыя ўсё ж, над самкнутым лунаючы войскам,
Горнецца больш да літвінаў, і чуецца іх лікаванне.
Войскі — адно і другое — панеслі б вялізныя страты,
Тысячы смерцяў, аднак, Радзівіл, твой разважлівы розум,
З Божае волі, абраў той бяскроўны трыумф, без забойства.
(Іншы які ваявода быў варты вось гэткае славы?)
Як жа пакорлівы князь шкадаваў літасціва і шчыра
Душы братоў-хрысціян, як рахмана той гетман аплакаў
Мноства забойстваў людскіх!.. Дый магістр, бліжэй падышоўшы,
Войскі навокал агледзеў і, страхам агорнуты моцным,
Стаў сумнявацца цяпер перад грозным абліччам літвінаў.
Гетман, заўважыўшы гэта (а быў ён мудрэйшы за іншых),
Добра абдумаў усё і прамовіў наступныя словы:
«Гучныя трубы свае вы суцішце, вайскоўцы, пакуль я
Буду да вас прамаўляць, ды пачуйце мяне, калі ласка!
Мноства шчаслівых народаў, магутныя ўсе валадарствы!
Што падштурхоўвае вас клікаць войнаў суровых чароды?
Што за вяшчун і які прадказальнік вас звабіў надзеяй,
Быццам бы Аўгуст, зямель валадар і шматлікіх народаў,
Можа паразу цярпець у вайне? Дык чаму ж вы ўсе разам
Самі з вайною прыйшлі? Супакойвае сіняе мора?
Чым дапаможа яно? Спадзявацца на мора не варта.
Край ваш Лівонскі цяпер на сцяблінцы павісне, калі вы
Свой не адменіце план, не адкінеце злосных намераў.
Што ж ты, вялікі Магістр, узвялічаны духам і лёсам,
Хочаш сваіх грамадзян небяспецы бясспрэчнай даверыць?
Гнеў твой, заганнасць твая спрычыняцца найперш, што лівонцы
Страцяць свабоду сваю. Пра цябе невялікі мне клопат:
Думаю болей пра тых, што загінуць у Марсавай сечы,
Матак шкадую ды ўдоў, не жадаю ахвяраў ваенных.
Лёс вам магчымасць дае, каб злучыцца з літвінамі разам
Мірна ў дзяржаве адной, — дык чаму б караля не прызнаць вам?

[1] *Радопскія* — фракійскія.

Гляньце на нашую раць! Хто ж вас лепш абароніць ад лютых
Ворагаў грозных такіх — неадольных, магутных маскоўцаў?
Кіньце ж вы зброю цяпер, ушануйце карону манарха.
Мы заклікаем пакуль, але ж можам і зброяй прымусіць!»
Так ён сказаў, і лівонцы адразу, як гай, загудзелі,
Разам агледзелі войска: стаяла яно паабапал
Свенты-ракі вельмі шчыльна і ззяла шматлікаю зброяй.
Потым усе падышлі да маркотнага ў сэрцы магістра,
Сталі навокал яго, толькі мір патрабуюць ды просяць
Аўгуста ўладу прызнаць, перадаць яму ўсе паўнамоцтвы.
Годна магутны кароль на стальцы залатым засядае.
Вось падышоў Фюрстэмберг да ракі і да лагера; разам
Трыста ліхіх скакуноў ён прывёў з табуна, а таксама
Лепшых герояў сваіх, у аздобным адзенні лівонцаў.
Выцягнуў да караля малітоўна бяззбройныя рукі,
З тварам, залітым слязьмі, уздымае пакорна правіцу,
Кажа: «Вялікі кароль! Атрымаў я цяпер па заслугах,
Сам я ў спакоі не жыў і табе не даваў супакою.
Можаш мяне пакараць… Я распальваў гаротныя войны,
Толькі спыніць іх не мог я, мізэрны… Адна ў мяне просьба:
Старасць маю пашкадуй, заклінаю я ўсімі багамі,
Выпадак злосны мой лёс і жыццё маё зганьбіў. Магчыма,
Літасць святая ў цябе засталася яшчэ да старога,
Вось і літвіны цяпер мяне бачаць з пакорнай мальбою».
Гэй! Саступіце вы шлях, о вялікія ў бітвах героі
Лацыя, Фіваў, Афін… Вы не ў міры былі пераможцы!
Спэцканы бурай крывёй трыумфальныя ўсе калясніцы!..
Першы з усіх Радзівіл непрыяцеля збавіў ад смерці,
Славу здабыўшы сабе, трыумфальныя вечныя лаўры.
Мудрая Слава раскажа пра гэта вякам старадаўнім,
Мужа імя назаве і хвалу заспявае ўрачыста.
Гэтак задума твая захіліла заслугі лівонцаў,
Рады раней не далі ім ні Віцень суровы, ні Доўмант…
Ты ж, пераможца славуты, здабыў свой трыумф без забойства!
Хто б прыпадобніць узяўся шматлікія дзеі героя,
Хочучы з мудрасцю Феба ў вяках захаваць гэты гонар?
З мужнасцю ў сэрцы ты змог пагарджаць нават смерцю; крывавы
Марс саступае дарогу вялікай тваёй перамозе.
Слава ляціць да цябе, каб узвысіць твой подзвіг; імкнецца
Свой трыумфальны вянец на чало паважанае ўскласці.

***Пераклад з лацінскай Жанны НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЙ***

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# НЭНУНІ: ЛЕГЕНДА І ПРАЎДА

## ПЯРСЦЁНАК РУБІНАВЫ. З АТРУТАЙ...



*Міхаіл Янкоўскі.*

Стаяла вясна. Сібірская вясна. З лёгкім марозам, ядраным паветрам, што, здавалася, сваёй свежасцю абпальвала ўсё нутро. Спыніўся, акідваючы позіркам наваколле, быццам бачыў усё ўпершыню: далёкія горы, якія патаналі снежнымі вяршынямі ў белых клубах аблокаў, блізкі кедрач, што рос паабапал дарогі ўперамежку з соснамі. Падумалася: «А яны ж гэткія, як і на радзіме». Чамусьці раней, за гады, праведзеныя ў астрозе, такая думка не прыходзіла ў галаву, а цяпер, на свабодзе, не хацела адпускаць ад сябе.

Згадка аб радзіме выклікала іншую, больш прыемную і разам з тым змрочную. Успомнілася маці, якой, як ведаў, ужо няма. Сам напамінак аб найдаражэйшым чалавеку ўзрадаваў, але незваротнасць страты і ўсведамленне, што тое спатканне перад адпраўкай на катаргу было апошнім, засцілі павалокай вочы.

Тады маці падарыла яму рубінавы пярсцёнак. Сама надзела на адзін з пальцаў:

— Беражы яго, сыночак, — заплакала. — Вельмі дарагі ён. Калі асабліва цяжка будзе, прадасі і неяк пратрымаешся.

Моцна абняла, прыхінулася галавой да яго грудзей і нечакана адарвала яе, прыўзняла. Позіркі іх сустрэліся, і ён зразумеў, што маці хоча сказаць яшчэ нешта, мабыць, самае важнае.

— Міша, сыночак! Зразумей мяне правільна... — адчувалася, што ёй цяжка гаварыць і зусім не з-за слёз і даўкага камяка, які падступаў да горла.

— Мама, супакойся...

— Даруй, Мішачка, калі штосьці скажу не так...

— Гавары, я ўсё зразумею...

— Прабач... — маці плакала, горка, наўзрыд і ён зразумеў, што галоўнае — не перабіваць яе, нічога не гаварыць, даць магчымасць выплакацца.

Так доўжылася нейкую хвіліну, нарэшце маці саўладала з сабой:

— Міша, пад рубінам знаходзіцца маленькая ампулка...

Вытрымала ягоны позірк. Не заплакала:

— З атрутай яна. Калі што...

Далей можна было нічога не гаварыць, бо ён усё ўжо зразумеў. Але маці прадоўжыла:

— Стане нясцерпна цяжка... — заплакала наўзрыд. — Не ўбачыш іншага выйсця, сарві рубін губамі.

Ён абняў маці моцна, пацалаваў у заплаканыя вочы.

— Не пасарамаці, сынок, наш род.

— Не пасарамачу, мама!

Неаднойчы бывалі моманты, калі хацелася раз і назаўсёды пакласці канец усім пакутам. У роспачы прыкладаў руку з пярсцёнкам да вуснаў. Заставалася толькі сарваць рубін... Але ў апошняе імгненне знаходзіў у сабе сілы спыніцца. Аднак і збываць пярсцёнак не збіраўся: ні ў каго з катаржан такіх вялікіх грошай, каб заплаціць за яго, не знайшлося б, а з канваірамі баяўся заводзіць гаворку — забралі б і паскардзіцца за самаўпраўства не было б на каго. Дый стараўся менш насіць яго, а больш перазахоўваў, асабліва не расказваў пра свой «талісман». Хіба ведалі пра яго толькі самыя блізкія сябры.

Цяпер, на волі, пярсцёнак можна было б прадаць, а калі не прадзешавіцца, атрымаць немалыя грошы, якія б спатрэбіліся ў дарозе. Але пра гэта ён падумаў пазней, калі пярсцёнка ўжо не было. Не даючы справаздачу свайму ўчынку, сарваў яго з пальца і шпурнуў. Калі апамятаўся, было позна. Пярсцёнак праваліўся ў некалькіх метрах ад дарогі ў глыбокі снег, і колькі ні шукаў яго, спадзяванні былі марнымі. Магчыма, пошукі далі б жаданы вынік, калі б трымаўся цвёрды наст, але зверху ляжаў свежы снег, якога так шмат выпала ноччу, і ён праглынуў у сабе каштоўны камень.

Аднак Янкоўскі асабліва і не перажываў: што адбылося, тое адбылося. Трэба было як мага хутчэй — дзе пехатой, а дзе на спадарожных санях дабрацца да Іркуцка, каб пачаць новае жыццё. Хоць яно, бадай, пачалося ў яго некалькі гадоў назад, таксама вясной, толькі ў другой палове яе, калі зямля паспела прагрэцца — у канцы красавіка 1863 года.

## БЫЎ ТАПОР ДЫ ПРАПАЎ

Маючы за плячыма 21 год, Міхаіл Янкоўскі вучыўся ў Горы-Горацкім земляробчым інстытуце. Любіў зямлю, хацеў працаваць на ёй, таму, не задумваючыся, і накіраваўся ў такія няблізкія ад роднага маёнтка, што ў Люблянскай губерні, Горкі, дзе працавала вышэйшая навучальная ўстанова, якая давала неабходныя веды тым, хто жадаў умела гаспадарыць. Але Горкі з цэнтра ведаў неўпрыкмет ператвараліся і ў цэнтр вальнадумства. Ва ўсякім разе, сярод студэнтаў і выкладчыкаў аказалася нямала тых, хто выявіў жаданне змагацца з царскім самадзяржаўем, марыў аб свабодзе.

Гэтыя ідэі былі блізкія і Міхаілу Янкоўскаму, які паходзіў з вялікай (акрамя яго было яшчэ трынаццаць сыноў і дачка) патомнай шляхецкай сям'і. Міхаіл ганарыўся тым, што яго прапрадзед Тадэвуш Навіна праславіўся ў барацьбе з тэўтонскімі рыцарамі, а падчас аднаго з баёў праявіў асаблівую мужнасць і выратаваў ад немінучай гібелі польскага караля Лячку, хоць пры гэтым страціў нагу. Добрую славу і памяць пакінулі аб сабе і іншыя прадстаўнікі роду. Таму, калі ў інстытуце ўзнікла падпольная рэвалюцыйная арганізацыя, Янкоўскі адразу ўступіў у яе. Старанна вучыўся і чакаў моманту, калі давядзецца на справе даказаць, што ідэі свабоды для яго — не пусты гук. Спадзяванняў аб актыўнай барацьбе пабольшала, калі ў Горкі прыйшла вестка аб пачатку чарговага паўстання супраць царызму.

Аднак мінаў месяц за месяцам, а ў інстытуце ўсё заставалася па-ранейшаму. Нічога пэўнага не мог сказаць і кіраўнік падпольнай групы, у якую ўваходзіў Міхаіл, студэнт Дамарацкі. Ён спасылаўся на канспірацыю, даводзячы, што пра ўсё паведаміць толькі ў апошні момант, па прыбыцці ў Горкі спецыяльнага ўпаўнаважанага Цэнтральнага нацыянальнага камітэта, а ім павінен быць паўстанцкі ваенны начальнік Магілёўскага ваяводства. Прозвішча ж яго, як і трэба было чакаць, трымалася ў сакрэце. Не паведаміў Дамарацкі і яго падпольную мянушку, што ў некаторых студэнтаў, у тым ліку і ў Янкоўскага, выклікала незадавальненне. Тым не менш, у пачатку красавіка стала вядома, што ўпаўнаважанага Цэнтральнага нацыянальнага камітэта клічуць Тапор, а хутка студэнты даведаліся і яго прозвішча, пакляўшыся паміж сабой маўчаць.

Мянушку Тапор узяў сабе Людвік Звяждоўскі — кадравы афіцэр, які скончыў Акадэмію Генеральнага штаба. Разам з Зыгмунтам Серакоўскім і Яраславам Дамброўскім ён уваходзіў у польскую рэвалюцыйную арганізацыю ў Пецярбургу, пазней служыў у Вільні, з'яўляўся ад'ютантам Віленскага генерал-губернатара.

Звяждоўскі прыбыў раніцай 23 красавіка 1863 года. Усё трымалася ў такой строгай канспірацыі, што студэнты даведаліся пра гэта толькі вечарам. Міхаілу і яго таварышам па студэнцкім пакоі паведаміў аб прыездзе Звяждоўскага той жа Дамарацкі.

У дзве гадзіны на гарадской плошчы сабралася некалькі дзясяткаў чалавек. Тут жа стаялі скрыні са зброяй. Жадаючых атрымаць яе было шмат, таму давялося пастаяць у чарзе. Міхаілу дастаўся пісталет. Але ўсім зброі не хапіла.

— Як ж ваяваць?

— Нічога сабе пачатак!

— Нядобра гэта...

На панікёра засыкалі:

— Не хочаш, ніхто не прымушае, адседжвайся, мамчын сынок…

— Да ціха вы!

Нарэшце падышоў незнаёмы афіцэр. Пачулася:

— Тапор.

Звяждоўскі загадаў пастроіцца:

— Буду шчырым, панове, — пачау ён, — далёка не ўсё адбываецца так, як хацелася б. Знайшліся ў нашых шэрагах здраднікі. Таму некаторых з тых, на каго былі асаблівыя спадзяванні, улады паспелі арыштаваць. Дый са зброяй, як бачыце, нявыкрутка. Спадзяваліся на дапамогу з-за мяжы, аднак і Аўстрыя, і Прусія занялі пазіцыю чакання, — працягваў Звяждоўскі. — Праўда, на падыходзе зброя з Лондана. Але чакаць далей нельга.

Ён разбіў прысутных на два атрады:

— Адзін з маім памочнікам Касым бярэ інстытут. Другім камандую я. Наша задача — узяць казначэйства.

Янкоўскі апынуўся ў другім атрадзе. Казначэйствам завалодалі без асаблівых цяжкасцей, хоць і адбылася перастрэлка з аховай, а гэта каштавала жыцця Дамарацкаму. А вось пры ўзяцці інстытута абышлося без кровапраліцця. Раніцай 24 красавіка 1863 года Горкі цалкам знаходзіліся ў руках паўстанцаў.

— Пахаваць загінуўшага з усімі воінскімі ўшанаваннямі! — загадаў Звяждоўскі, — а нам затрымлівацца нельга. Трэба спешна ісці на збліжэнне з галоўнымі сіламі паўстання.

Пахавалі Дамарацкага, тройчы прасалютавалі над яго магілай і накіраваліся ў шлях, пагрузіўшы грошы і золата ў павозкі, узятыя ў мясцовага насельніцтва. Прабіраліся ў далечыні ад вялікіх дарог і населеных пунктаў, бо не сумняваліся, што следам ідуць карнікі. Але Звяждоўскі ведаў яшчэ і тое, чаго не ведалі іншыя. Літаральна праз дзень пасля ўзяцця Горак да яго паступіла вестка, што ніякай зброі з Лондана не будзе. Капітан парахода, на якім збіраліся даставіць яе, аказаўся здраднікам.

Усё гэта трымалася ў глыбокім сакрэце, інакш атрад зусім выйшаў бы з-пад улады, хоць і так на яго баяздольнасць асабліва разлічваць не даводзілася. У гэтым Звяждоўскі канчаткова ўпэўніўся, калі пераправіліся цераз Проню. На другім беразе, які быў для іх такім чаканым, аказаліся царскія салдаты. Давялося кідаць абоз і ратавацца самім, але многіх насціглі кулі. Тыя, хто ўцалеў, вырваліся наперад. Толькі радавацца было рана. Разведка, праведзеная назаўтра, пацвердзіла самыя горшыя спадзяванні. У лесе знаходзілася шмат салдат і афіцэраў. І не толькі пяхота. Прысутнічалі і кавалерыйскія раз’езды. Апошнія звесткі былі дакладныя, бо і сам Звяждоўскі хадзіў у разведку. Засмучаны, ён прыняў рашэнне, на якое быў здатны толькі валявы камандзір, які дбаў не аб уласным ураtаванні, а аб людзях, якія даверылі яму свой лёс:

— Пачынаць бой ужо няма сэнсу. Я магу здацца ў палон, але я — афіцэр. Зрабіць гэта мне не дазваляе пачуццё гонару. Дый, самі ведаеце, як пасгупаюць з адступнікамі. Тыя ж, хто добраахвотна спыняе барацьбу, падпадае пад амністыю. Таму мы развітваемся. Я паспрабую ўратавацца адзін, а вы, не задумваючыся, складвайце зброю. Калі ж пачнецца следства, заяўляйце, што раскайваецеся ў зробленым. І не памінайце мяне ліхам...

Звяждоўскі падышоў да кожнага, паціснуў руку:

— Не адчайвайцеся, вы яшчэ маладыя, усё ў вас наперадзе.

Не ведаў тады Міхаіл, што жыць іх камандзіру заставалася нядоўга. Звяждоўскаму ўсё ж удалося прарвацца за мяжу. У пачатку 1864 года ён стаў начальнікам Сандамірскага павета ў Польшчы і камандзірам Кракаўскай дывізіі. Але быў схоплены карнікамі і павешаны. Развіталіся ж яны 31 красавіка 1863-га.

## У КІШЭНІ ПІСТАЛЕТ — НА КАТАРГУ «БІЛЕТ»

Вырашылі разбіцца на невялікія групы. Янкоўскі ўвайшоў у тую, якую ўзначаліў Ян Кржысталовіч. Набралася шэсць чалавек. Адразу выкінулі сваю зброю. Гэтаксама зрабілі і ў іншых групах. Ніхто аднак не здагадваўся, што Міхаіл так і не развітаўся са сваім пісталетам. Магчыма, па маладосці не разумеў, што наяўнасць зброі ў далейшым можа шмат у чым паўплываць на яго лёс. А можа верыў, што ўдача ўсміхнецца і ўдасца застацца на свабодзе.

— Паспяшаемся, сябры! — Кржысталовіч дзейнічаў як сапраўдны камандзір, — а спачатку развітаемся.

Пачалі абдымацца, адзін аднаму жадалі поспеху, а затым група за групай, з некаторымі інтэрваламі заглыбіліся ў лес, каб выбрацца на дарогу, дзе, не сумняваліся, напаткаюць царскіх салдат і афіцэраў.

Так і сталася. Не паспелі агледзецца па баках, а яны тут як тут. Пачалі абшукваць і адразу знайшлі ў Янкоўскага пісталет. Афіцэр узрадаваўся:

— Спатрэбіцца, як лішняя ўліка.

Таварышы няўцямна глядзелі на Міхаіла.

— Ты што, з глузду з'ехаў? — запытаўся адзін з іх. — Не разумееш, чым гэта табе абернецца?

Міхаіл цяпер і сам разумеў усю незайздроснасць становішча, у якім апынуўся. Ды было позна.

Усіх пад канвоем даставілі ў Бабруйскую турму, дзе, каб не маглі дамовіцца, што гаварыць у час следства, размясцілі ў розных камерах. Пацягнуліся аднастайныя дні, пакуль 22 мая 1863 года Янкоўскага не выклікалі на першы допыт. Ён памятаў наказ Звяждоўскага спасылацца на тое, што пайшлі на выступленне супраць улад па нявопытнасці ды і былі падбухтораны іншымі. Але нікога не агаворваў. Затым выклікалі на допыты яшчэ некалькі разоў. Ад першапачатковых паказанняў не адмовіўся.

Суд адбыўся ў верасні. Убачыў таварышаў, з якімі разам трапіў у рукі карнікаў. Усе, гэтаксама як і ён, трымаліся мужна, не падалі духам. Моўчкі заслухалі прысуд, падпісаны самім Віленскім генерал-губернатарам на падставе рашэння камісіі палявога суда, спецыяльна зацверджанай у Магілёве «над мяцежнікамі, былымі дваранамі і студэнтамі... асуджанымі за ўзброены ўдзел у дзеяннях Горацкай мяцежнай шайкі і разрабленне казначэйства ў Горках…»

«Па меркаваннях са ступенню віны кожнага з падсудных і больш ці менш дзейснага ўдзелу ў адзначаных злачынствах, вызначаю:

Пазбавіўшы ўсіх адзначаных падсудных дваранскага становішча і ўсіх правоў маёмасці, саслаць на катаржныя работы на тэрмін: Івана Кржысталовіча і Міхаіла Янкоўскага — на восем гадоў; Уладзіміра Рабея — на шэсць гадоў; Яўгена Лятасковіча, Іосіфа Лятасковіча і Эразма Расткоўскага — на чатыры гады. Маёмасць жа ўсіх гэтых падсудных канфіскаваць у казну, а калі маёнткі да іх яшчэ не дайшлі, — накласці забарону на маёнтак іх бацькоў, з тым, каб калі часткі з гэтых, якія будуць перадавацца ім па наследству, былі канфіскаваны. Горад Вільня. Генерал ад інфантэрыі Мураўёў».

Пасля на конях усіх шасцярых адправілі ў Смаленск, дзе ў Міхаіла і адбылася апошняя сустрэча з маці. Далей канвойны шлях ішоў праз Маскву, Уладзімір, Ніжні Ноўгарад, Казань, Цюмень, каб дабрацца, як і прадпісвалася, у «Тобольский приказ о ссыльных».

Пакінулі Смаленск дажджлівым восеньскім днём, а ў Табольску былі ў самым разгары суровай зімы. Наперадзе ўсіх чакаў вялікі сібірскі этап, які ў лепшым выпадку займаў ад паўтара да двух гадоў і звычайна заканчваўся тым, што да мэты прызначэння прыбывалі не ўсе асуджаныя на катаргу. Заставаліся ў безымянных магілах, наспех выкапаных на ўзбочыне тракту тым, каго звалілі холад і голад, шматлікія хваробы, хто не вытрымліваў фізічных нагрузак, пераадолеўшы пешкі не адну тысячу вёрст.

Мусіў развітацца са сваімі таварышамі і Янкоўскі. Яшчэ добра, што бачыў іх жывымі. Але адны, захварэўшы, засталіся ў перасыльнай турме, іншыя, маючы меншы тэрмін, прыбылі да месца свайго зняволення. Яго ж дарога прадаўжалася і доўжылася. Зіма змянілася вясной, вясна — летам, а пасля прыйшла восень, зноў зіма...

Праз нейкія паўтара гады, летам апынуўся ў станіцы Сівакова, што размясцілася на беразе ракі Інгоды. Тут яму, як і многім іншым, трэба было адбываць зняволенне. Яму асабіста — восем доўгіх гадоў. Калі, канечне, улады не амністуюць. Мірыцца з лёсам не збіраўся і асабліва не панікаваў. Заставалася жыць, а жыццё ён любіў.

## СУСТРЭЧА МАЕ ПРАЦЯГ

Так і прайшоў не адзін год, пакуль у Янкоўскага не адбылася сустрэча з Бенядзіктам Дыбоўскім — будучым вядомым заолагам і прыродазнаўцам, якога асудзілі за тое, што на яго кватэры збіраліся кіраўнікі Цэнтральнага нацыянальнага камітэта. З Дыбоўскім хутка пасябравалі. Але неўзабаве Дыбоўскага вызвалілі. Заставалася і Янкоўскаму спадзявацца, што прыйдзе яго час.

На шчасце, ён наступіў яшчэ да заканчэння адведзенага прыгаворам тэрміна, бо прыйшла вестка аб амністыі, паводле якой палітычным ссыльным дазвалялася «вольнае пасяленне» ў межах Усходняй Сібіры. Яму загадалі дабірацца ў Іркуцк, які быў яе сталіцай, а ўжо ў Іркуцку мусіў атрымаць на рукі дакументы, што афіцыйна засведчаць

яго свабоду. Адначасова вырашыцца пытанне і з месцам будучага пражывання.

Нарэшце — чаканы Іркуцк. Адразу ж накіраваўся ў губернскае паліцэйскае ўпраўленне, каб атрымаць афіцыйныя дакументы аб месцы «вольнага пасялення» і — цуд дый годзе! — спаткаўся з Дыбоўскім, які, дзякуючы падтрымцы Геаграфічнага таварыства, атрымаў дазвол займацца вывучэннем падводнага жыцця Байкала.

— Дык можа разам? — запытаўся той.

— Які з мяне вучоны...

— Не трэба, Міхале, заніжаць свае магчымасці. Эрудыраванасці тваёй застаецца толькі пазайздросціць.

— Але ж веды мае не маюць ніякага дачынення да падводнага жыцця. Дый…

— Разумею, спачатку трэба вызначыцца з месцам пасялення. То я пачакаю...

Накіравалі Янкоўскага на Алёкмінскія залатыя прыіскі.

— Далекавата, — засмуціўся Дыбоўскі. — Але не падай духам, пастарайся абавязкова падаць пра сябе вестку.

На тым і развіталіся. Аднак па прыездзе на прыіскі Міхаіл забыўся пра дадзенае абяцанне. Пакуль уладкоўваўся на новым месцы, крыху наладзіў быт, прайшло нямала часу. А затым дзень за днём — глядзіш, і тры гады мінула. Дыбоўскі сам падаў вестку. Паведаміў, што рыхтуе экспедыцыю на Далёкі Усход. Паспеў атрымаць дазвол ад генерал-губернатара, што ў ёй прымуць удзел сам Дыбоўскі, яго таварышы Віктар Гадлеўскі і Міхаіл Янкоўскі.

Апошняе стала асабліва прыемнай нечаканасцю, таму што тым самым знікалі магчымыя цяжкасці з пакіданнем Алёкмы. А яны маглі быць, бо хоць Янкоўскі і знаходзіўся на «вольным пасяленні», быў адноўлены ў дваранстве, яго ўсё ж пастаянна трымалі пад наглядам паліцыі, а значыць, у перамяшчэнні меў абмежаванні. Вырашыў не пісаць Дыбоўскаму аб згодзе — пакуль яшчэ дойдзе той ліст, а, растлумачыўшы начальству прычыну тэрміновага ад’езду, разлічыўся і паспяшаўся на параход, які адпраўляўся ўверх па Лене, каб хутчэй дабрацца ў Іркуцк, бо неабходныя дакументы знаходзіліся ў адказнага сакратара Геаграфічнага таварыства Усольцава.

З Дыбоўскім жа сустрэліся ў станіцы Сівакова. Бенядзікт падрабязна расказаў аб навуковай экспедыцыі. Марыў дабрацца да ўзбярэжжа Японскага мора, даследаваць Прыморскі край. Згадзіліся, што гэта лепш за ўсё ажыццявіць водным шляхам. Толькі як быць з лодкай?

— У мяне, Міхаіл Іванавіч, пазнанні ў пабудове яе мізэрныя, — шчыра прызнаўся Дыбоўскі.

— Дый мне не даводзілася чымсьці падобным займацца, — адказаў Янкоўскі, здагадваючыся, куды хіліць таварыш.

— Але ж ты ў нас на ўсе рукі майстар.

— Паспрабую...

Перш чым выбіраць неабходны лесаматэрыял — балазе, поруч са станіцай знаходзіўся сасновы лес, прыкінуў схему будучага судна ў чарцяжах і толькі пасля гэтага ўзяўся за работу. Шмат дапамаглі Дыбоўскі з Гадлеўскім, хапіла працы і некаторым станічнікам. Лодку назвалі «Надзеяй».

З надзеяй на навуковы поспех і пачалі падарожжа. Праўда, давялося няпроста, бо лета 1873 года было вельмі сухім, рэкі абмялелі, але гэта не магло спыніць тройцу, апантаную прагай адкрыццяў. Да новага, 1874 года, не зважаючы на цяжкасці, дабраліся ў станіцу Казакевічава, што знаходзілася тады за вялікім сялом Хабараўка, а цяперашнім горадам Хабараўск. У станіцы і засталіся зімаваць.

Янкоўскі з сябрамі шмат хадзіў на паляванне, але найчасцей любіў блукаць са стрэльбай адзін — гэтае захапленне ён пранёс праз усё жыццё. І ў паляванні, меткасці вока наўрад ці хто мог з ім паспаборнічаць. І, як Дыбоўскі з Гадлеўскім, чакаў вясны, каб прадоўжыць шлях. Аднак яна ў планы Міхаіла Іванавіча ўнесла вялікія змены, цалкам перайначыўшы ўсё яго жыццё.

Пачатак гэтым зменам быў пакладзены ў адзін з зімовых дзён 1874 года. Вярнуўшыся з палявання, у пакоі заспеў незнаёмага мужчыну. Той назваўся Каятанам Чапляеўскім. Дыбоўскі з Гадлеўскім дадалі, што Чапляеўскі з’яўляецца ўпраўляючым прыіска на востраве Аскольд, які непадалёку ад Уладзівастока.

— З’яўляўся ўпраўляючым, — удакладніў Чапляеўскі. — Я, як і вы, ссыльны. На шчасце, нядаўна атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму.

— Пан Каятан хацеў, каб яго месца заняў прыстойны чалавек, — патлумачыў Дыбоўскі. — І я падумаў, што на гэтую кандыдатуру, як ніхто іншы, падыходзіш ты. Я не памыляюся?

Янкоўскі, не вагаючыся, адказаў:

— Так і быць.

Ён разумеў, што больш такі спрыяльны для яго выпадак наўрад ці надарыцца. Канечне, ён быў не супраць, як той жа Чапляеўскі, вярнуцца на радзіму, але ж пакуль дазволу на гэта няма. Дый невядома, ці будзе ён увогуле, а калі будзе, то куды, да каго вяртацца.

— У такім разе, пан Янкоўскі — сказаў Чапляеўскі, — дачакаемся першага парахода і ва Уладзівасток. Уладальнік прыіска Кусцер даў мне поўную свабоду дзеянняў.

## АСКОЛЬД ЯК СТАРТАВАЯ ПЛЯЦОЎКА

Лёд на Усуры крануўся праз некалькі дзён, неўзабаве з'явіўся і першы параход. А ўжо з Уладзівастока, атрымаўшы згоду Кусцера, Чапляеўскі з Янкоўскім прыбылі на востраў Аскольд, дзе Міхаіл Іванавіч пазнаёміўся з часова выконваючым абавязкі ўпраўляючага прыіска Бабіхам.

Андрэй Пятровіч Янкоўскаму спадабаўся. Дый Міхаіл Іванавіч Бабіху — таксама. Яны лёгка знайшлі агульную мову. Бабіх увёў Янкоўскага ў курс справы, расказаўшы пра жыццё на востраве:

— Людзі ў нас у асноўным сумленныя і працавітыя.

— А астатнія?

— Ёсць чалавек дванаццаць, якім ніякія законы не пісаны...

— Няўжо гэтых людзей нельга паставіць на месца?

— Усе настолькі імі запалоханы, што баяцца запярэчыць.

— Я ж, — умяшаўся ў гаворку Чапляеўскі, — не паспеў як след разабрацца.

— Тады разбяруся я, — рашуча заявіў Янкоўскі і па тым, як гэта было прамоўлена, адчувалася, што ад свайго ён не адступіцца.

Парадак сапраўды на прыіску адсутнічаў. Частка здабытага золата не ўлічвалася. Акрамя таго, знішчаліся пятністыя алені, у якіх адразалі вельмі каштоўныя рогі-панты, а тушы выкідвалі.

— На самаўпраўстве будзе пастаўлены крыж, — давёў Янкоўскі сваё рашэнне рабочым, сабраўшы іх на агульны сход. — Вінаватых пачнём судзіць, а тых, хто падпявае ім, высылаць з вострава.

Прайшло некалькі дзён, аднак ніякіх змен не адбылося. Больш таго, пайшоўшы неяк на паляванне, Міхаіл Іванавіч пачуў, як над яго галавой пранеслася куля — сумнення не заставалася, што хацелі забіць. Гэта абурыла і надало яшчэ большай рашучасці.

Запрасіў да сябе двух старшын арцеляў. Прысутнічаў і Бабіх. Старшыны згадзіліся паказаць зачыншчыкаў беспарадкаў, але прасілі, каб пра гэта ніхто не здагадаўся, бо баяліся за сябе.

— Абяцаю — нікому ні слова, — запэўніў Янкоўскі.

— Тады, — параілі старшыны, — звярніце ўвагу на пальцы рабочых, калі яны вечарам гуляюць у карты.

— Прычым тут пальцы? — нічога не зразумеў Янкоўскі.

— А пры тым, што ў тых, хто працуе, яны каструбаватыя, а ў гэтых — акуратныя. Дый і кіпці доўгія.

— Зразумела... А як адрозніць самага галоўнага?

— А мы ў яго ззаду непрыкметна кіўнём галавой.

— Добра, — задаволена адказаў Янкоўскі і звярнуўся да Бабіха: — А вы, Андрэй Пятровіч, пастарайцеся, каб ахова прыіска была напагатове. Калі я зайду вечарам з вамі ў барак, дзе збіраюцца карцёжнікі, яна павінна стаяць за дзвярыма.

Дванаццаць хунхузаў — так называлі мясцовых разбойнікаў — былі без асаблівай цяжкасці арыштаваны і аддадзены пад суд. Пасля гэткіх рашучых дзеянняў аўтарытэт Янкоўскага сярод рабочых і спецыялістаў прыіска павялічыўся, а сам ён пачаў клапаціцца аб зберажэнні прыроды вострава. Стварыў Аскольдзінскае паляўнічае таварыства. Статутам агаворваліся тэрміны палявання на дзічыну. Асабліва абараняліся аленіхі. Забарона на іх адстрэл спачатку дзейнічала на працягу года. Рабілася гэта для павелічэння пагалоўя. Паклапаціўся Янкоўскі аб завозе на Аскольд фазанаў, якія хутка прыжыліся.

Яго дзеяннямі застаўся вельмі задаволены Кусцер, таму, калі мінула тры гады, абумоўленых першапачатковым кантрактам, прапанаваў дамову прадоўжыць. На гэтым настойваў і Бабіх. Але ў самога Янкоўскага былі іншыя меркаванні.

— Не хочацца мне, Андрэй Пятровіч, больш заставацца тут.

— Гняце памяць аб памерлай жонцы?

— Не толькі...

Хоць і гэта таксама было прычынай, чаму Янкоўскі збіраўся пакінуць Аскольд. У жонкі ён узяў удаву аднаго забітага салдата, але тая, нарадзіўшы сына, памерла. Іншую спадарожніцу жыцця пры ўсім жаданні на востраве было знайсці немагчыма. Да ўсяго Міхаіл Іванавіч пачынаў усур'ёз думаць і аб тым, каб заняцца навуковай дзейнасцю.

Падштурхнула яго да гэтага знаходжанне на востраве. Прырода Аскольда аказалася багатай не столькі на жывёльны, колькі на раслінны свет. Асабліва шмат вадзілася розных матылькоў і птушак. Удалося знайсці многія рэдкія віды і нават такія, пра існаванне якіх дагэтуль энтамолагі і арнітолагі не здагадваліся. Таму Янкоўскі зрабіў шэраг адкрыццяў. Гэта пацвердзілі сусветна вядомыя навуковыя свяцілы, якім ён прапанаваў свае калекцыі.

Першымі адгукнуліся знакамітыя французскія энтамолагі браты Аберцюр, атрымаўшы ад Міхаіла Іванавіча шэраг засушаных матылькоў. Сямнаццаць з іх аказаліся дасюль невядомым падвідам. Ім прысвоілі імя Янкоўскага. Злавіў Міхаіл Іванавіч і адзінаццаць відаў птушак, пра існаванне якіх ва Усходняй Сібіры і на Далёкім Усходзе да яго не ведалі. Можна было працягваць пошукі ў гэтым накірунку і далей. Але ён не збіраўся стаць арнітолагам, не вабіла яго і энтамалогія. Калі нешта і зрабіў, дык толькі з-за звычайнай цікаўнасці, а яшчэ таму, што заставалася нямала вольнага часу. Аднак акурат наяўнасць гэтага вольнага часу і падштурхоўвала заняцца чымсьці больш важным і значным. Ва ўяўленні самога Янкоўскага, бо тыя ж арнітолагі і энтамолагі не сумняваліся ў навуковай важкасці зробленага ім.

Менавіта праз тры гады пасля знаходжання на Аскольдзе Міхаіл Іванавіч загарэўся жаданнем заняцца вывядзеннем новай пароды коней. І прыйшоў да такой высновы не выпадкова, як магло падацца на першы погляд. Конь заставаўся для яго, па сутнасці, адзіным сродкам перамяшчэння ва ўсе поры года. Спрабаваў, праўда, як і мясцовыя жыхары, выкарыстоўваць для гэтага аленяў, а зімой — сабак, аднак не мог прывыкнуць. Мясцовыя коні былі слабымі, з'яўляючыся гібрыдам прывезеных з Еўропы і тамашніх карэйскіх і маньчжурскіх. Янкоўскі бачыў выйсце ў тым, каб вывесці спецыяльнага далёкаўсходняга каня. Для гэтага трэба было завезці лепшыя пароды з цэнтральнай часткі Расіі, стварыць для іх адпаведныя ўмовы.

Першым, з кім вырашыў падзяліцца сваімі планамі, стаў Бабіх.

— Намер варты ўхвалы, — згадзіўся той. — Але, зразумейце, Міхаіл Іванавіч, для гэтага трэба нямала грошай. Нарэшце, адпаведныя ўмовы.

— А гэта я і маю на ўвазе, таму і не буду працягваць кантракт з Кусцерам.

— А далей як жыць?

— Хачу знайсці цалкам неабжытае месца.

— Чаго-чаго, а такіх мясцін яшчэ стае... — Бабіх задумаўся. — Але ж, каб абжыць іх, столькі намаганняў трэба. Вы ўяўляеце сабе, як гэта цяжка?

— Уяўляю, даражэнькі Андрэй Пятровіч. Але ж упадабаную мясцовасць буду абжываць паступова. Не адзін год, а калі на ногі стану, можна будзе падумаць і аб вывядзенні далёкаўсходняга каня.

## КАЛІ ЧАТЫРЫ ВОКІ, ТО…

Шмат дзён вывучаў Янкоўскі пабярэжжа на поўдзень ад Уладзівастока, пакуль не дабраўся да Славянскага заліва. Наўкола было пустынна. Аб бераг біліся марскія хвалі, а ў бінокль бачыліся шматлікія горы з далінамі. Лепшае месца наўрад ці знойдзеш. Таму Міхаіл Іванавіч застаўся задаволены, а калі расказаў пра гэты паўвостраў Бабіху і прызнаўся, што хацеў бы пасяліцца менавіта там, Андрэй Пятровіч яго намер ухваліў:

— Добра, што і да Уладзівастока недалёка.

— Усяго ў нейкіх сарака вёрстах.

— Калі вы паселіцеся там, зразумееце, якая выгода, што горад побач.

— Не разумею вас, шаноўны Андрэй Пятровіч. — Янкоўскі так і не здагадваўся, куды хіліць Бабіх.

— А што разумець? Ва Уладзівастоку ёсць гарнізон, а ў гарнізоне салдаты.

— Прычым тут гарнізон? Прычым салдаты? — яшчэ больш здзівіўся Янкоўскі.

— Няўжо думаеце, што вас пакінуць у спакоі тыя ж хунхузы? Дый іншага зброду хапае. Многія прывыклі беспакарана дзейнічаць у тамашніх мясцінах. А вы ж, я думаю, парадак на паўвостраве ўсталюеце?

— Няўжо сумняваецеся?

— Не сумняваюся, таму ўхваляю ваш намер і раю, калі будзеце ва Уладзівастоку афармляць неабходныя дакументы, папрасіць губернатара, каб той, у выпадку неабходнасці, прысылаў салдат.

Прасіць не давялося. Губернатар Прыморскай вобласці сам разумеў, якой небяспецы падвяргае сябе Янкоўскі:

— На жаль, мушу запэўніць вас, што будзеце яшчэ неаднойчы з хунхузамі сустракацца.

— Яны страшней за тыграў і ваўкоў?

— Сустрэнецеся і з тыграмі, і з ваўкамі. Але з гэтымі драпежнікамі самі справіцеся. А каб разграміць хунхузаў, спатрэбіцца наша дапамога. Калі што — звяртайцеся, салдат дамо. Я і сам зацікаўлены, каб хутчэй навесці парадак.

Аб жаданні вывесці далёкаўсходняга каня, Янкоўскаму давялося на доўгі час забыць. Паколькі на паўвостраве вырашыў жыць пастаянна, разумеў, што трэба заводзіць сям'ю. Падшукаў простую дзяўчыну Вольгу Кузняцову, якая ў сям'і свайго дзядзькі з'яўлялася прыслугай. Круглая сірата, яна вызначалася мяккім і добрым характарам. А што не ўмела ні чытаць, ні пісаць — такой бяды. Калі Вольга згадзілася выйсці замуж, Міхаіл Іванавіч на некаторы час ператварыўся ў настаўніка. Пазнаёміў яе з азамі матэматыкі, даў колькі ўрокаў па гісторыі, геаграфіі. Прайшло не так шмат часу, як Вольга Лукінічна пачала дапамагаць яму весці метэаралагічныя назіранні і запісы. Хутка навучылася і метка страляць, пераняўшы вопыт Янкоўскага. А ў стральбе з ім мала хто мог паспаборнічаць. Міхаіл Іванавіч з першага выстралу разбіваў падкінуты ў паветра невялікі камень.

Радаваўся за Вольгу Лукінічну і Бабіх, які стаў самым блізкім сябрам іх сям'і. Толькі радасць была нядоўгай. Вясной 1879 года Бабіх прастудзіўся і захварэў. Давялося пакласці яго ў шпіталь ва Уладзівастоку. Але стаць на ногі Андрэй Пятровіч так і не змог. Аднак разам з горам прыйшла ў сям'ю і радасць: у красавіку нарадзіўся першынец, якога назвалі Юрыем. Бацька не мог нацешыцца на сына, хоць любіў і хлопчыка, якога нарадзіла яму першая жонка.

У пастаянных клопатах непрыкметна прайшлі два гады. Раптам абрушылася новае гора. Хунхузы, раптоўна наляцеўшы на паўостраў, жорстка расправіліся з рабочымі, забілі жонку шкіпера Гека, з якім Янкоўскі пазнаёміўся яшчэ на Аскольдзе, а яго малалетняга сына захапілі з сабой. Ні самога шкіпера, ні Янкоўскага ў гэты час поруч не было. Даведаўшыся пра ўсё, яны вырашылі арганізаваць праследаванне злачынцаў. Гэты намер ухвалілі і карэйцы, якія жылі непадалёку. Але ад праследаванняў давялося адмовіцца. З-за неасцярожнасці выстралам са сваёй вінтоўкі Міхаіл Іванавіч раздрабіў сабе вялікі палец левай рукі. Выхапіўшы з ножнаў паляўнічы нож, адсек яго.

— Абыдуся і без пальца. Добра яшчэ, што на левай руцэ. А хунхузы нікуды ад нас не падзенуцца. Усё адно яны не супакояцца.

Як у ваду глядзеў. Амаль праз год, у сакавіку 1880 года яны зноў напомнілі пра сябе. Абрабавалі карэйскую вёску, забралі хатнюю жывёлу і ўзялі некалькі старых у палон.

— Збіраем усіх паляўнічых і пачынаем праследаванне, — вочы Янкоўскага палалі агнём, што рэдка за ім назіралася, звычайна заставаўся стрыманым. — Выйсця няма: ці мы іх, ці яны нас.

Хунхузаў узялі ў кальцо ў сопках. Многія з іх загінулі, у тым ліку і атаман. Астатнія спяшаліся здацца ў палон. Янкоўскага ж пасля гэтага ўдалага бою карэйцы пачалі называць нэнуні, што азначае чатырохвокі. Праз некаторы час гэтая мянушка за ім замацавалася назаўсёды.

Падставай для з'яўлення яе стала тое, як мужна паводзіў сябе. У гарачцы бою і не заўважыў, што сам апынуўся пад прыцэльным агнём. Паслаў кулю наўгад, з-за свайго пляча. І паразіў праціўніка.

— У Мікалая Іванавіча — чатыры вокі, — ківалі галовамі карэйцы і ад здзіўлення прыцмокнулі языкамі. — Не толькі, як у кожнага чалавека, а два спераду, і два ззаду. На патыліцы. Няйначай нэнуні.

## МАТЫЛЬКІ
## РАСКОПКАМ НЕ ПЕРАШКОДА

Пасля разгрому хунхузаў на паўвостраве паспакайнела, але не давалі спакою тыгры, ваўкі. Асабліва шмат шкоды наносілі чырвоныя — асобны від ваўкоў, вельмі каварны і хітры. Давялося змагацца з імі не толькі самому Янкоўскаму, а і яго сынам, якія падраслі. А сям'я была вялікая і дружная. Услед

за Юрыем нарадзілася Ганна, пасля Ян, Сяргей, Паўлік. Як некалі жонку, вучыў іх грамаце, розным навукам. А яшчэ прывіваў любоў да працы, таму што на паўвостраве на дапамогу збоку разлічваць не даводзілася. Вялі, па сутнасці, натуральную гаспадарку. Нават насілі саматужную вопратку, а заробленыя грошы старанна збіраліся, бо Янкоўскі не развітваўся са сваёй галоўнай марай, дзеля якой і пакінуў Аскольд.

Пакуль жа па-ранейшаму збіраў матылькоў. Міхаілу Іванавічу пашанцавала злавіць два новых падвіда. А што стаў першаадкрывальнікам, упэўніўся, калі здабычу паслаў французскім даследчыкам і атрымаў з Парыжа віншаванне. Адначасова, як гэта і бывае ў падобных выпадках, матылькам збіраліся прысвоіць назву «Янкоўскі». Але Міхаілу Іванавічу захацелася гэтым разам увекавечыць памяць сваёй жонкі, таму папрасіў адзін з падвідаў назваць «Дасіхіра Вольга», а другі — «Зефірус Міхаіліс». Усяго ж 17 відаў матылькоў атрымалі найменне «Янкоўскі». Знойдзена было каля ста раней невядомых відаў — як начных, так і дзённых. Адкрыў і два новыя падвіды птушак — лебедзя і сарокі. Злавіў таксама і рэдкі від аўсянкі, які сустракаецца толькі на крайнім поўдні Прымор'я. А яшчэ стаў археолагам.

Заняцца раскопкамі збіраўся ці не адразу, калі апынуўся на Далёкім Усходзе, бо хутка пераканаўся, якая багатая гісторыя гэтага краю і разам з тым, наколькі яна мала даследавана. Падштурхоўвалі да гэтага і кнігі, якія паспеў прачытаць. З іх даведаўся, што першым захады па вывучэнню сярэдневяковай гісторыі Прымор'я зрабіў вядомы рускі кітаязнаўца, архімандрыт Паладзій Кафараў. Ён, карыстаючыся не толькі кітайскімі, а і карэйскімі, японскімі крыніцамі, вызначыў месцазнаходжанне старажытных умацаванняў і гарадоў гэтага рэгіёна, архітэктурных помнікаў, высвятляў іх назвы, а ў 1870—1872 гадах па даручэнню Рускага геаграфічнага таварыства на месцы знаёміўся са старажытнасцямі Прымор'я. Але давесці задуманае да канца не паспеў. Шматлікія матэрыялы, адшуканыя Кафаравым, пасля яго смерці бясследна зніклі. Такі незайздросны лёс напаткаў і многія летапісы, гістарычныя творы. І нават «дарожныя нататкі» даследчыка. Засталіся толькі кароткія вытрымкі з выказванняў, сведчанняў першапраходцаў, што трапілі ў працы іншых.

Піянерам жа ў раскопках археалагічных помнікаў Прымор'я давялося стаць Янкоўскаму. Ён, па-сутнасці, ажыццявіў тое, да чаго падступаўся Кафараў, што імкнуўся знайсці сляды старажытных народаў, якія жылі на гэтай тэрыторыі да ўзнікнення першых дзяржаўных утварэнняў.

Пачатак археалагічнай дзейнасці Міхаіла Іванавіча адносіцца да 1880 года, калі ён пачаў раскопкі ракавінных кучаў у бухце Карва. Гэта дазволіла не толькі атрымаць багаты матэрыял, а і выказаць важныя меркаванні аб жыцці першабытных людзей. У дакладной запісцы, пасланай у Рускае геаграфічнае таварыства, Янкоўскі ўпершыню ўзняў шэраг важных пытанняў, што пазней будуць пастаянна знаходзіцца ў полі зроку даследчыкаў Прымор'я. Прынамсі, аргументавана даводзіў свае меркаванні адносна формы гаспадарання ў эпоху ракавінных кучаў, аб характары тагачасных пасяленняў, аб узросце гэтай культуры і аб адносінах яе да культур іншых тэрыторый. Сам таго не ведаючы, павялічыў узрост гісторыі Прымор'я адразу больш як на паўтара тысячагоддзя.

Тады гэтую культуру, адкрытую Янкоўскім, лічылі неалітычнай. Толькі раскопкі, праведзеныя пад кіраўніцтвам акадэміка Аляксея Акладнікава, дазволілі ўпэўніцца, што гэтая культура адносіцца да ранняга жалезнага веку. Тады і пачалі апрацоўваць жалеза плямёны, якія жылі ў Прымор'і і Прыамур'і.

Да ўсяго Міхаіл Іванавіч заняўся паралельным аналізам, а для супастаўлення ўзяў раннія пасяленні на тэрыторыі Даніі. І прыйшоў да высновы, што, нягледзячы на тое, што першабытныя плямёны Далёкага Усходу і Даніі знаходзіліся на вялізнай адлегласці адзін ад аднаго, «аднолькавая ступень культурнага развіцця павінна была выпрацаваць аднолькавыя звычкі жыцця чалавека, без рознасці ў Ціхага і Атлантычнага акіянаў».

У час раскопак былі знойдзены вышліфаваныя каменныя сякеры, розныя касцяныя вырабы, а таксама косці хатняга быка і сабакі, а гэта сведчыць аб тым, што ўжо тады пасяленцы ўмелі прыручаць жывёл.

Вынікамі раскопак Янкоўскі падзяліўся на старонках «Известий Русского географического общества», апублікаваўшы ў 1880—1883 годзе некалькі сваіх навуковых прац. Сярод іх — «Кухонныя астаткі чалавека каменнага века» і «Кухонныя астаткі і каменныя прадметы, знойдзеныя на беразе Амурскага заліва на паўвостраве паміж Славянскай бухтай і вусцем р. Сідземы». Інтарэс выклікала і яго праца «Востраў Аскольд», якая была адзначана сярэбраным медалём Геаграфічнага таварыства.

Адкрыцці Міхаіла Іванавіча падштурхнулі і іншых даследчыкаў. Расійская акадэмія навук камандзіравала для вывучэння прыроды Сахаліна і Японіі вядомага заолага І. Палякова, які ў 1881 годзе адкрыў у бухце Арсеньева вялікую ракавінную кучу, знайшоўшы фрагменты керамікі, каменныя і касцяныя прадметы. Работа па даследаванню рэгіёна прыняла мэтанакіраваны характар, калі ў 1884 годзе быў створаны першы мясцовы навукова-даследчы цэнтр — Таварыства вывучэння Амурскага краю на чале з вядомым грамадскім дзеячам і вялікім знаўцам Прымор'я Ф. Бусе. Праз год член гэтага таварыства В. Маргарытаў запрасіў Міхаіла Іванавіча прыняць удзел у прадаўжэнні раскопак ракавінных куч на беразе Амурскага заліва. І гэтым разам атрымалі неблагія вынікі. Знайшлі косці свінні, сабакі, пятністага аленя, барса, мядзведзя, казулі, а таксама шліфаваныя сякеры, наканечнікі коп'яў, стрэл, грузілы, тачыльныя камяні. Вастрыі, праколкі выраблялі з косці.

Адкрытая культура пачала называцца культурай ракавінных кучаў, а пазней яе прывязалі да месца раскопак і назвалі сідземскай. Маргарытаў дзякуючы гэтым і наступным раскопкам пагадзіўся з асноўнымі меркаваннямі, выказанымі Янкоўскім. Былі прыняты пад увагу і вывады Міхаіла Іванавіча адносна размяшчэння жылля першабытных людзей. Ракавінныя кучы, знойдзеныя Янкоўскім, знаходзіліся далёка ад мора, на паўночным схіле ўзвышша. Выбар месца, даводзіў Міхаіл Іванавіч, вытлумачваўся дзвюма прычынамі: «Узвышэннем берага, у выніку чаго месца табара аддалялася ад сапраўднай марской рысы ці тым, што старажытныя людзі аддавалі перавагу высокаму месцу ў параўнанні з нізінным берагавым пляжам».

## ВЫВЯДУ ДАЛЁКАЎСХОДНЯГА КАНЯ!

Развядзеннем коней Янкоўскі займаўся яшчэ да таго, як прывёз пародзістых. Прыступіў да гэтага ўжо тады, калі больш-менш абсталяваўся на новым месцы. Звярнуў увагу на дзікіх, выпрацаваўшы сваю сістэму іх прыручэння. Калі звычайна ў гэтых мясцінах такую работу пачыналі прыкладна з трохгадовага ўзросту, дык ён загадаў лавіць малалетак. Жарабят, каб не спалохаць, не арканілі, а падпільноўвалі прама ў табуне. Найбольш вопытныя і спрытныя «каўбоі» правай рукой моцна абдымалі жарабя за спіну, а левай прытрымлівалі яго за высачку. Зразумела, жывёліна ўсё адно палохалася, спрабавала ўцячы, але чалавек не адпускаў яе, бегучы поруч да таго часу, пакуль жарабя, стомленае, не спынялася. Толькі пасля гэтага яму на галаву накідвалася вуздэчка.

Злоўленых жарабят прывязвалі да жэрдак у спецыяльным загоне. Паступова яны супакойваліся, пачыналі есці сена ці траву. Калі поўнасцю прывыкалі, іх адпускалі ў табун да малалетак. Там яны гадаваліся да трох-чатырох гадоў, пакуль не прыходзіў час іх аб'езджваць. Маладыя коні добра слухаліся, бо паспелі з даверам паставіцца да чалавека, ад якога ніколі не чулі грубых вокрыкаў. Дый біць іх Янкоўскі забараняў.

Слава пра коней, выгадаваных на паўвостраве, пайшла далёка. Знаходзілася нямала ахвочых прыдбаць іх, папаўняліся імі і вайсковыя часці. А паколькі попыт павялічваўся, Міхаіл Іванавіч стараўся яго задаволіць, павялічваючы пагалоўе сваіх табуноў, якое хутка дайшло да некалькіх соцен. Адно не задавальняла і пакупнікоў, і самога ўладальніка: коні былі нізкарослымі. Асаблівыя прэтэнзіі прад'яўлялі горныя артылерысты. Выйсце бачылася ў адным: трэба было прывесці пародзістых вытворнікаў — здзейсніць тое, пра што даўно марыў Янкоўскі.

Аднак чым больш набліжаўся да ажыццяўлення сваёй даўняй задумы, тым больш упэўніваўся, што патрабуюцца вельмі вялікія фінансавыя выдаткі. Таму, узважыўшы ўсё, вырашыў адмовіцца ад завозу коней з цэнтральнай Расіі і абмежавацца томскай пародай. І так давядзецца пераадолець не адну тысячу вёрстаў і ўсё ж значна менш, чым весці з Еўропы. Але, каб выбрацца ў Томск, неабходна было атрымаць дазвол, бо па-ранейшаму знаходзіўся пад нагля-

дам паліцыі. Справу ўзяўся ўладзіць барон Андрэй Мікалаевіч Корф, які з'яўляўся генерал-губернатарам, Корф паспеў пазнаёміцца з дасягненнем Янкоўскага ў галіне конегадоўлі. Застаўся задаволены. Таму вырашыў яму дапамагчы.

Імператар памілаваў Міхаіла Іванавіча сваім загадам ад 5 ліпеня 1890 года. Чакаючы гэтага, Янкоўскі прадаў многіх сваіх коней, але атрыманых грошай не хапала. Давялося ўзяць і пазыку ў банку. У лістападзе 1890 года, калі ўлёгся снег, развітаўся з блізкімі. А вярнуўся назад толькі праз дзесяць месяцаў, у верасні 1891-га.

Прыдбалі на томскіх конезаводах шэсць высокапародзістых жарабцоў, а ў сялянскіх гаспадарках купіў трыццаць шэсць кабыл. З апошніх у дарозе некалькі загінулі, але гэта асабліва не засмуціла, бо разлічваў на горшае. На зваротным шляху неаднойчы падсцерагала небяспека. Асабліва рызыкавалі, калі перабіраліся праз Селенгу. Ледзь паспелі ступіць на другі бераг, як ззаду раздаўся трэск і шум — гэта лёд скрануўся з месца. Яшчэ б нейкая хвіліна — і разам з коньмі апынуліся б на дне.

Па вяртанні дамоў клопатаў пабольшала, але гэта прыносіла радасць. Трэба было бачыць Міхаіла Іванавіча ў той момант, калі ад пародзістых скакуноў з'явіліся на свет першыя жарабяткі. Радаваўся, як малое дзіця. Яшчэ больш усцешыўся, калі жарабяткі падраслі і пераналі многія рысы сваіх бацькоў, а праз некалькі гадоў яны выглядалі значна вышэй сваіх дзікіх суродзічаў. А за імі падрасталі іншыя. Так паступова з'явіўся першы далёкаўсходні конь, якога пазней назвалі канём Янкоўскага.

Пра Міхаіла Іванавіча пайшла яшчэ большая слава. Іншы супакоіўся б, але ён, хоць гады бралі сваё, заставаўся гэткім жа энергічным. І іншых падбадзёрваў, калі скардзіліся на хваробы, нямогласць. Не любіў сам заставацца без працы і ім не дазваляў. Дасягаў жа многага, таму што нязменна прытрымліваўся строгага распарадку дня. Да гэтага прывучыў жонку і дзяцей, якія, падрастаючы, станавіліся яго памочнікамі. І не баяўся іх адпускаць далёка ад сябе. Ведаў, што даўно ўжо самастойныя.

Атрымаўшы ліст ад прэзідэнта Рускага геаграфічнага таварыства вялікага князя Мікалая Міхайлавіча з просьбай сабраць поўную калекцыю матылькоў Паўночнай Карэі, даў такое заданне сынам Аляксандру і Юрыю. Дапамагалі дзеці і ў вядзенні гаспадаркі. Пачынаючы з 1879 года, у сям'і вяліся спецыяльныя кнігі, у якія запісваліся розныя дадзеныя, у тым ліку і метэаралагічныя. Абыходзіліся без бухгалтараў, прыказчыкаў. І гэта не таму, што Міхаіл Іванавіч ашчадна ставіўся да грошай. Быў перакананы — нельга перакладаць на іншых тое, што можна зрабіць самім. Сам рыхтаваў і штогадовыя справаздачы ва ўпраўленне конезаводаў у Пецярбургу.

## МІХАІЛ ІВАНАВІЧ І ЧАЛАВЕК-КОРАНЬ

У 1910 годзе знайшоў для сябе яшчэ адзін новы занятак, стаўшы, як ужо неаднойчы было, першапраходцам — вырашыў заняцца вырошчваннем жэньшэня, стварыўшы першую плантацыю гэтай вельмі карыснай дзікарослай расліны. Пра жэньшэнь нямала чуў ад карэйцаў, з якімі сябраваў, а яшчэ ад паляўнічых, якія, бываючы ў лесе, сустракалі тых, хто займаўся яго пошукам. Нямала прачытаў пра жэньшэнь і ў кнігах — як навуковых, так і папулярных.

Паводле адной легенды, жэньшэнь з'явіўся ад удару грома, таму і атрымаўся такім здатным лячыць розныя хваробы. Нездарма народы Усходняй Азіі здаўна выкарыстоўвалі яго як важнейшы лекавы сродак, бачачы ў ім панацэю. Як толькі ні называлі яго. І «цудам свету», «боскай травой», і «дарам Багоў», і «дарам усіх траў». Назву расліне ў XVII стагоддзі даў кітайскі фармаколаг Лі-Шы-чжэнь. Жэньшэнь перакладаецца як чалавек-корань.

Бытуе і паданне, што жэньшэнь — гэта хлопчык-пярэварацень. Ён можа ператварацца ў тыгра і іншых звяроў. Маньчжурцы называлі жэньшэнь пан-цуй, альбо банцуй. Яны былі ўпэўнены, што панцуй ніколі не пакажацца на вочы злому, несумленнаму чалавеку.

Аднойчы, блукаючы ў тайзе, напаткаў знаёмага карэйца, які шукаў жэньшэнь.

— Міхаіл Іванавіч, сюды! Такое пакажу…

Янкоўскі прысеў, узіраючыся ў пажоўклую траву:

— Быў пан-цуй, — працягваў карэец, — і няма.

Сапраўды, бачылася толькі «пустая шкурка» ад кораня. Калі ж пачалі разам асцярож-

на раскопваць зямлю, на глыбіні дзесяці сантыметраў убачылі і сам корань.

— Ад мяне не ўцячэ, — узрадаваўся карэец.

— Харошы ты чалавек, — пагадзіўся Янкоўскі.

Міхаіл Іванавіч доўга думаў над прычынай такога нечаканага знікнення жэньшэня, але растлумачыць яе так і не змог. Наблізіліся да ісціны толькі сучасныя даследчыкі. Па адной з версій, прычына ў тым, што вельмі стары корань жэньшэня можа згніць, а надземная частка яго яшчэ некаторы час працягвае існаваць. Але верагодней, бадай, іншае. Заўважана, што корань жэньшэня як бы скарачаецца, уцягваецца ў зямлю. Таму праз некалькі гадоў ён можа апынуцца на глыбіні 10—12, а то і болей сантыметраў ад паверхні. Сапраўды, быццам хаваецца...

Пазней Янкоўскі даведаўся, што вопытныя «панцуйшчыкі» старанна аберагаюць знойдзеную расліну. Знайшоўшы вялізны корань, «замыкаюць» яго. Расліну абвязваюць чырвонай стужкай даўжынёю 70—75 сантыметраў, на канцах якой прымацоўваюць па манеце. А каб стужка не слізгала па сцяблíне і не перашкаджала пры выкапванні, яе вешаюць на рагулькі, размешчаныя на некаторай адлегласці ад сцябла.

Пасля ўсяго Міхаіл Іванавіч загарэўся жаданнем вырасціць жэньшэнь. Хоць і з цяжкасцю, знайшоў насенне і пачаў займацца культывацыяй гэтай расліны. Праўда, ведаў, што кітайцы мелі ў Прымор’і невялікія лясныя плантацыі, на якіх дарошчвалі кволыя асобіны, папярэдне выкапаныя і перанесеныя ў новае месца. Але хацелася пачаць, як кажуць, з нуля. Насенне дало ўсходы, а праз некалькі гадоў змог патрымаць у руках першыя карані.

Плантацыя, створаная Янкоўскім, праіснавала 12 гадоў. Прыйшла яна ў запусценне ў 1922 годзе, калі Міхаіл Іванавіч з-за ўзросту ўжо не мог займацца гэтай клопатнай справай, а новым уладам было не да жэньшэня. Таму ў роспачы знішчыў культываваныя ім запасы. Рабіў гэта з болем, але не рабіць не мог. Балюча станавілася на сэрцы ад усведамлення, што многае, у што ўклаў сваю душу, цяпер не трэба. І яшчэ больш балюча было, калі расчароўваўся ў зменах, якія адбываліся.

Лагічней за ўсё — ён павінен быў іх вітаць. Сам жа ў юнацтве марыў аб лепшым жыцці, прагнуў свабоды. Дзеля гэтага ўзяўся і за зброю. Свабода, як быццам, прыйшла, але радасці было мала.

Не пра такую свабоду думаў ён. Усёдазволенасць прывяла да таго, што ў тайзе, па сутнасці, не было гаспадара. Хто толькі хацеў, браў у рукі стрэльбу, знішчаў рэдкія пароды жывёл, у тым ліку пятністых аленяў. А ў свой жа час яму ўдалося навесці ў гэтым парадак. І не толькі паставіў на месца браканьераў, таёжных бандытаў. Прымаў і іншыя дзейсныя меры па зберажэнню флоры і фаўны. Калі па ўсёй Расіі, напрыклад, асенні сезон у паляванні пачынаўся ў дзень святых Пятра і Паўла, што адпавядала 29 чэрвеня па старому стылю, дык на паўвостраве толькі з 1 верасня. Парушальнікаў пазбаўлялі зброі, а некаторых высылалі на мацярык.

Жыць заставалася не так і шмат. Усцешвала толькі тое, што не марна існаваў на свеце. А памяць, у гэтым не сумняваўся, пакіне пра сябе добрую. І не толькі дзякуючы добрым справам у розных пачынаннях.

У цёплыя дні любіў прагуляцца. Адышоўшы ад дома, часта спыняўся, зачараваны ўзіраючыся ў прыгажосць навакольных краявідаў. Яны даўно былі да болю знаёмымі, але кожным разам яднанне з імі прыносіла задавальненне і радасць. Замілаванне выклікала і тое, што прыжыліся многія назвы, дадзеныя ім яшчэ тады, калі ўпадабаў гэты куток зямлі: горы Просека, Абсерваторыя, Шасцісотная, рэчкі Рубікон, Змейка, бухта Нарва... Не ведаў толькі, што пасля смерці яго паўвостраў атрымае назву Янкоўскі. Як і не здагадваўся, што з пакалення ў пакаленне будзе перадавацца ў Прымор’і легенда пра нэнуні, якому не страшнымі былі ніякія ворагі. Хоць жыццё было цікавае і само па сабе не менш чым легенда.

# СЛОВА ПРА ДЗЕДА

*Усё больш і больш аддаляюцца ад нас падзеі Вялікай Айчыннай вайны... За гэты час на ваенную тэму было напісана шмат грунтоўных навуковых даследаванняў і літаратурных твораў, зняты мастацкія і дакументальныя фільмы. Аднак не меншую, а хутчэй за ўсё большую каштоўнасць уяўляюць успаміны непасрэдных удзельнікаў падзей: тых, для каго паняцце «вайна» — не старонкі з кнігі ці кадры кінахронікі.*



*Камандзір мінамётнага ўзвода лейтэнант С. Шумскі.*

*«Вайну я сустрэў шаснаццацігадовым у вёсцы Парэччы Талачынскага раёна», — расказваў мой дзядуля Станіслаў Іванавіч Шумскі. Неўзабаве ён апынуўся ў далёкай Чувашыі, куды эвакуіравалі калгасную худобу. Парэчанскія хлопцы апынуліся ў цяжкіх умовах, жылі практычна надгаладзь і вясной 1942 года падаліся на Тамбоўшчыну. Тут Станіслаў атрымаў позву з ваенкамата, усяго за месяц засвоіў спецыяльнасць наводчыка і трапіў на перадавую.*

*У пачатку 1944-га Станіслава здымаюць з фронту і накіроўваюць ва Ульянаўскую пяхотную вучэльню: войска адчувала востры недахоп кадраў каманднага складу. Пасля кароткатэрміновага курса навучання малады камандзір мінамётнага ўзвода лейтэнант Шумскі зноў на фронце — вызваляе родную Беларусь.*

*Ад трапнага агню кавалера двух ордэнаў Чырвонай Зоркі Шумскага знайшла сваю смерць не адна сотня гітлераўцаў. Але маладому лейтэнанту не пашчасціла сустрэць Перамогу ў баявых шэрагах. У баях за Кёнігсберг ён быў цяжка паранены. Да канца вайны заставалася 23 дні. Першы дзень Перамогі давялося сустракаць у сартавальна-эвакуацыйным шпіталі № 280 разам з цяжкапараненым камандзірам свайго палка А. А. Булахавым ды іншымі аднапалчанамі...*

*Мой дзядуля не любіў шмат гаварыць пра свой франтавы шлях. Ад яго нельга было пачуць і слоў пра ўласны гераізм, подзвігі. У дзяцінстве ён распавядаў мне пра герояў-панфілаўцаў і жыхароў блакаднага Ленінграда, пра лейтэнанта Кіжаватава і капітана Гастэлу, пра Ягорава і Кантарыю.*

*Калі я падрос, у нашых размовах ён пачаў звяртаць увагу на факты фальсіфікацый ваенных падзей, якім ён, як мог, супрацьстаяў. Так, адны сучасныя «гісторыкі» кажуць, нібыта і не было гераічнай абароны Брэсцкай крэпасці, іншыя, абапіраючыся на самыя «аб'ектыўныя» крыніцы — успаміны былых гітлераўскіх генералаў, войскі якіх неслі паразу за паразай, сцвярджаюць, быццам пад Прохараўкай ды і ў цэлым на Курскай дузе Чырвоная Армія была фактычна парамажана. Асабліва абурыўся дзядуля, калі пачуў пра новую версію штурму Кёнігсберга. У ёй сцвярджалася, што не было кровапралітных баёў («А дзе ж тады я быў паранены?!»): нібыта, як толькі праваслаўныя святары вынеслі на поле бою абраз Казанскай Божай Маці, зброя ў немцаў адмовіла, яны ўсё паднялі рукі і здаліся ў палон... Падобныя «факты», абураўся мой дзядуля, абражаюць*

*як жывых франтавікоў, так і тых, хто ўжо нічога нікому не зможа даказаць…*

*Дзед сабраў вялікую бібліятэку, прысвечаную вайне: успаміны і военачальнікаў, і простых салдат, творы мастацкай літаратуры, часопісы, газеты. На старэнькай машынцы ён перадрукоўваў цытаты з работ, падшываў іх у таўсценныя папкі. На мае просьбы напісаць уласныя ўспаміны пра вайну дзядуля заўсёды адказваў адмоваю.*

*І толькі напярэдадні 60-годдзя Перамогі ён узяўся за гэтую працу, сказаўшы мне, што яго апавяданне будзе не пра вайну, а пра МІР і ПЕРАМОГУ. Так узнікла ідэя распоеду пра Першы дзень Перамогі, дзень, які ён, у адрозненне ад мяне, бачыў на свае вочы. Ён пакутліва і доўга працаваў над тэкстам, увесь час дарабляў, перачытваў, быў незадаволены, але ў той жа час спяшаўся, баючыся не паспець… І не дапісаў: 11 сакавіка 2005 года перастала біцца сэрца яшчэ аднаго франтавіка. Ён не дажыў да 60-годдзя Вялікай Перамогі і ўласнага 80-годдзя.*

*І на вайне, і ў мірным жыцці мой дзядуля кіраваўся толькі адным прынцыпам — служыць Радзіме, служыць мужна, сціпла і аддана. Станіславу Іванавічу Шумскаму не давялося ўбачыць сваё апавяданне надрукаваным. Дык няхай жа гэтая публікацыя раскажа Вам пра майго дзеда — Чалавека, Франтавіка, Патрыёта!*

***Кастусь ШУМСКІ***

Станіслаў ШУМСКІ

# ПЕРШЫ ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ

## *(недапісанае апавяданне)*

Першы дзень Перамогі: якім ён быў? На жаль, не ўсе мае пабрацімы-франтавікі, адступаючы з цяжкімі баямі па роднай, зраненай снарадамі і бомбамі зямлі, дабраліся да прамерзлых, але недасяжных для ворага сцен блакаднага Ленінграда і грозных ваколіц Масквы, да стромкіх волжскіх берагоў пад Сталінградам і няскораных перадгор'яў Каўказа. Каб потым выпаленымі вайной дарогамі рушыць у наступ — да сцен Вены. Горада, дзе за мірным часам Іаган Штраус выконваў свае несмяротныя вальсы вясны і маладосці, услаўляў радасць жыцця на зямлі. Далёка не ўсе дайшлі і да спустошанай у вогненных віхурах Варшавы, да ўмацаваных цвярдынь Берліна, пад якім у глыбокіх жалезабетонных сутарэннях хаваліся ад справядлівай адплаты галоўныя злачынцы, тыя, хто падрыхтаваў і развязаў самую крывавую вайну мінулага стагоддзя. Але той, хто дажыў, дайшоў, данёс нянавісць да фашызму ў самае яго логава, той памятае велічнасць доўгачаканай каманды. Каманды, выспелай у незлічоных, крывавых баях і бітвах: «СПЫНІЦЬ АГОНЬ! ВАЙНА СКОНЧЫЛАСЯ!»

Гэта каманда нарадзіла незабыўныя, першыя на працягу 1418 дзён і начэй вайны, мірныя радасныя імгненні. Вайна і гвалтоўная смерць, здавалася, нарэшце адыходзілі ў нябыт.

Настала сонечная, жывая, выпакутаваная, не азмрочаная чаканнем злавеснага выцця снарадаў і бомбаў ЦІШЫНЯ! У бяздонны блакіт неба над чужой скалечанай зямлёй узляцеў з песняй жаўрук. Дыхаць стала лягчэй, вальней, толькі сэрца білася мацней, памінала пайменна кожнага таварыша, забітага вайной.

«Спыніць агонь! Вайна скончылася!» Змоўклі буйныя калібры цяжкай артылерыі, змоўклі «песні» рэактыўных мінамётаў — «Кацюшаў». Нічога больш не несла смерці.

Распраставўшы стомленыя, скалечаныя вайной плечы, мінамётчык сказаў: «Праклінаю вайну!» і апошні раз з вялікай радасцю тузануў за баявы шнур. Шаснаццацікілаграмовая міна накрэсліла ў небе сваю апошнюю прыцэльную траекторыю, разарвалася ў апусцелых варожых акопах. Гэта была апошняя баявая міна, апошняя, не прызначаная для забойства. Гэта быў салют мінамётчыка ў гонар Перамогі і Міра на зямлі.

Кулямётчык падняўся ва ўвесь рост, строс з сябе парахавы і акопны пыл. Не спяшаючыся агледзеўся, павольна падышоў да леген-

дарнага «Максіма», націснуў на спускавы рычаг і даў доўгачаканую апошнюю чаргу. Чаргу Перамогі! А затым стомлена абапёрся на кулямёт, які адслужыў сваю франтавую службу, і ціха вымавіў: «Мне, брат, дадому час, табе ж у музей яшчэ ранавата, вось падрамантую крышку, падмалюю, дзе трэба, і беражы, родны, МІР на зямлі».

Лётчык-штурмавік апошні раз націснуў на гашэтку слаўнага «Іл-2». Нашы салдаты звалі гэты самалёт паважліва-ласкава «Іллюша» і заўсёды чакалі яго з'яўлення, калі самім даводзілася ўціскацца ў зямлю пад варожым агнём. Пабачыўшы над полем бою «Іл-2», нямецкія салдаты лямантавалі: «Ахтунг! Ахтунг! Шварце тод!», што азначала: «Увага! Увага! Чорная смерць!» А яшчэ немцы звалі яго «паветраны танк», бо бранявой абароненасці, узбраенню, дакладнасці бомбавага, а тым больш рэактыўнага ўдару «Іл-2» зайздросцілі і снайперы, і танкісты.

Пехацінец выбраўся з аплылага акопа і годна, як гаспадар, распраставў скалечаную вайной спіну. Узняў яшчэ не астылы аўтамат і даў апошнюю чаргу ў неба. Агледзеўся, падвёў вынік ВАЙНЕ, ціха сказаў: «Справа зроблена! Час вяртацца дахаты!»

Санінструктар зрабіў салдату-пераможцу апошнюю перавязку. Сказаў, як нажом адрэзаў: «Табе, брат, хваляваца няма за што. Сёння вайна скончылася для ўсіх. А лекары сваю справу ведаюць! На ногі цябе паставяць».

Афіцэры і генералы апусцілі біноклі. Урачыста і асцярожна, не спяшаючыся, склалі апошнія лісты карт і агнявых планшэтаў, якія адслужылі сваю франтавую службу. Сёння гэтыя карты і планшэты захоўваюцца ў музеях і асабістых архівах, як памяць пра ліхалецце. Нечаканая цішыня спарадзіла нерашучасць, здранцвенне. Усе застылі, услухоўваючыся ў раптоўную цішыню ПЕРАМОГІ.

Афіцэры і генералы ўспаміналі жывых і мёртвых, мёртвых і жывых. Ліліся нястрымныя слёзы. Гэта былі іх першыя слёзы радасці і захаплення, слёзы смутку, слёзы памяці па тых, хто не пераступіў парог ПЕРАМОГІ.

9 мая 1945 года. ПЕРШЫ дзень ПЕРАМОГІ! На велізарных прасторах ад Эльбы да Сахаліна стралялі ўсе, у каго была зброя ў руках. Гэта былі найгучнейшыя залпы Вялікай Айчыннай вайны. І разам з тым, гэта былі мірныя залпы, якія славілі радасць жыцця на зямлі, абароненай у смяротным баі за гонар і волю Айчыны. Стыхійная страляніна не аціхала ні на хвіліну. Зеніткі, кулямёты, вінтоўкі, аўтаматы, пісталеты нараджалі аглушальную сімфонію Перамогі!

Калі звечарэла, да вокнаў сартавальна-эвакуацыйнага шпіталя № 280, што ў Каўнасе на Зялёнай Гары, падышлі параненыя — усе, хто мог узняцца з ложкаў і дадыбаць да падаконня.

Ніякія забароны дактароў не маглі спыніць Героя Савецкага Саюза, камандзіра палка Аляксея Анісімавіча Булахава, цяжка параненага ў апошнія дні вайны. Ён асцярожна, крывячыся ад пранізлівага болю, павольі пераступаючы з нагі на нагу, таксама падышоў да акна, за якім сыпаў жарынкамі стракаты салют, у ім ён убачыў і сваю агністую кроплю крыві, пралітую за Радзіму.

У гэтым жа шпіталі санітарка спачатку спрабавала ўгаварыць маладзенькага абгарэлага танкіста легчы ў ложак, але, убачыўшы яго твар, сутаргава заплакала і сама дапамагла падысці да акна. Усё, што на чалавеку можа згарэць, у яго згарэла: валасы, бровы, вейкі, скура. У белай марлі жудасна і злавесна чарнелі цёмныя шкельцы велізарных акуляраў. І гэты чалавек не енчыў падчас штодзённых перавязак, калі ў вачах цямнела ад нясцерпнага болю.

9 мая 1945 года. Франтавікам-пабрацімам добра вядома, што салдат пачынаецца з песні, полк з катла, а старшына займае ў гэтых працэсах не апошняе месца. Ён нібыта мімаходзь запытаўся ў кагосьці: «А гармонік цэлы?» І гэтага было досыць, каб з рэчавага мяшка з'явіўся трохрадны гармонік.

Цяжка, натужліва, нібы залпы далёкіх батарэй, загаварылі-застагналі на ўсе лады стомленыя вайной басы. Нечакана грымнула песня, песня-рэквіем, песня вялікага і цяжкага развітання жывых з мёртвымі…

А потым без просьб, без загадаў, усталявалася ЦІШЫНЯ, якую толькі салоўка парушаў спевам над брацкай магілай. Салдаты апусцілі галовы перад памяццю тых, хто не ўбачыў дзень Перамогі. Гэта была першая вядомая мне хвіліна маўчання — знак НЕЎМІРУЧАСЦІ ўсенароднага подзвігу…

Святлана ЯВАР

# ЁН ЛЮБІЎ ЖЫЦЦЁ



*З дачкой Святланай.*

## УСПАМІНЫ ДАЧКІ СВЯТЛАНЫ ПРА БАРЫСА САЧАНКУ

У сучасным свеце пакаленне «дзяцей вайны», якое паступова адыходзіць у вечнасць, выглядае дзівакаватым, наіўным, але сапраўды чалавечным. Дабрыня — вось вызначальная рыса гэтых людзей. Таму я горка аплаквала адыход у іншасвет тых, хто належаў да названага пакалення, — не толькі маіх бацькоў, але і іх славутых аднакурснікаў: Аляксандра Падлужнага, Янкі Сіпакова і іншых. Іх душы ўжо ў выраі, дзе цесна ад тых, хто намагаўся рабіць пры жыцці добрыя справы. У наш час кожны дбае пра сябе…

Перада мною паўстаюць эпізоды жыцця «дзяцей вайны» (ведаю гэта з аповедаў бацькоў). Цяжкае напаўгалоднае дзяцінства, напоўненае страхам перад фашысцкімі акупантамі, пачуццём нянавісці да ворага, імкненнем адпомсціць за пакуты. Галодныя і няўтульныя юнацкія пасляваенныя гады. Вучоба ва ўніверсітэце, поўная светлых надзей. Вера ў лепшую будучыню беларускага народа, бязмежная любоў да сваёй Радзімы, самаахвярная праца. Сціплае, але годнае існаванне, радасць ад зробленага, сустрэчы з такімі ж наіўнымі сябрамі. Але сучаснага эгаізму — не было! Наадварот, хацелася падтрымаць іншага чалавека, зрабіць яму ласку… Людзі шмат перацярпелі, адпакутавалі. А можа, іх пакуты былі дарэмнымі? Хочацца верыць, што не.

Самымі яркімі, па расповедах бацькі, былі яго студэнцкія гады. Тады жылося хоць бедна, ды весела. Сябравалі, дзяліліся апошнім, разам бавілі вольны час: хадзілі ў тэатр, кіно, на канцэрты, выстаўкі. Жылі цікава, насычана. Куплялі кніжкі, рыхтаваліся да іспытаў у вядомай «Ленінцы» (цяпер Нацыянальная бібліятэка Беларусі). Словам, былі талковымі людзьмі ўжо з маладосці. Разумелі, якія каштоўнасці сапраўдныя, а якія — уяўныя. Імкнуліся да ўзнёслага, пагарджалі нізкім. Эканомілі на ежы, вопратцы, нават на здароўі, дзеля лішняй кніжкі. Цанілі ўсё беларускае, імкнуліся развіваць яго…

Нядаўна на антрэсолях знайшла дзённікавыя запісы маёй мамы перыяду студэнцтва. Прачытала пра тое, як няпроста складваліся напачатку яе адносіны з бацькам. А пазнаёміліся яны на навагодняй ёлцы ў інтэрнаце, дзе мама танцавала з Іванам Данілавічам Сіпаковым (ён быў добрым танцо-

рам). Бацька танцаваць не ўмеў, таптаўся, як мядзведзь, але тым не менш не вытрымаў і запрасіў-такі дзяўчыну на танец. І распачаўся іх доўгі раман, які працягваўся амаль усё жыццё… Яны сустракаліся ў бібліятэцы, у інтэрнат бацька перадаваў маме любоўныя пісьмы, дарыў ёй розныя дробязі, а аднойчы назбіраў грошай нават на залаты гадзіннік і падарыў яго на 8 Сакавіка. Мама не здавалася доўга, але бацька аказаўся ўпартым і настойлівым. І тады мама, нарэшце, асцярожна запісала ў сваім дзённіку: «Кахаю Борку… Здаецца, ён добры. Кахае мяне».

Бацька клапаціўся пра маму, не даваў яе ў крыўду, шкадаваў і бярог. Такому пачуццю шчырага і самаадданага кахання можна толькі пазайздросціць. Мама адчувала сябе абароненай і шчаслівай. Бацьку пашчасціла сустрэць жанчыну з моцным характарам, інтэлігентную, цярплівую, разумную. Мама натхняла бацьку як пісьменніка, выхоўвала яго як чалавека (яна была патрабавальным педагогам). І сямейная ўлада падзялялася, як звычайна бывае ў тых сем’ях, дзе і ён, і яна з’яўляюцца яркімі індывідуальнасцямі.

Але вернемся да студэнцкіх гадоў бацькі. Маці расказвала, што калі бацька жыў у студэнцкім інтэрнаце, ніхто з хлопцаў у іх пакоі прынцыпова не хацеў выносіць смецце. Усе, як кажуць, лунал ў аблоках: пісалі вершы, прозу, кахалі дзяўчат… І тут прыходзіць з аглядам студэнцкая камісія, адчыняе шафу для адзення, а яна… поўная, усё з яе так і пасыпалася на падлогу. Скандал — лепшым студэнтам універсітэта пагражае выключэнне! Добра, што нехта з выкладчыкаў заступіўся за будучых журналістаў і пісьменнікаў, будучы гонар нашай літаратуры.

Яшчэ адзін фрагмент са студэнцкага жыцця Барыса Сачанкі. Купіў ён, наіўны юнак, сабе батон (гэта была адзіная ежа на ўвесь дзень, а мо і на два), паклаў яго ў тумбачку. А сам пайшоў у чытальную залу. Вярнуўся позна ўвечары, галодны, зірнуў у тумбачку, а там ужо нічога няма: хлопцы-аднакурснікі з’елі. Бацька не стаў ні сварыцца з імі, ні крыўдзіцца. Моўчкі лёг спаць. Не спрачаўся з хлопцамі і потым, але батонаў болей ужо ў тумбачку не клаў...

Жыццё бацьку не асабліва песціла. Даводзілася сутыкацца з цяжкасцямі побытавымі, матэрыяльнымі, творчымі. Іншагароднім у Мінску спачатку не было дзе жыць, кавалак хлеба здабываўся напружанай працай. З’явіліся дзеці, якіх трэба было карміць. А яшчэ ж была радня: маці, бацька, браты, якім неабходна было дапамагаць. Добра, што карміла напісанне літаратурных твораў. Тады за прозу добра плацілі… Але існавала цэнзура, «зверху» загадвалася, што і як пісаць. Напрыклад: што ты пішаш, маўляў, пра калгаснікаў? Пішы лепш пра рабочы клас. Каб зрабіць кар’еру, трэба было ўступіць у Камуністычную партыю, а яшчэ лепей — увайсці ў яе ЦК. Усяго баялі-



*З жонкай Тамарай.*

ся, выязджалі на «казённым» патрыятызме. Таму і шматлікія творы беларускіх савецкіх пісьменнікаў сёння проста безнадзейна састарэлі (маю на ўвазе тое, што напісана пра сацыялістычнае і камуністычнае будаўніцтва).

Жыць хацелася, але ўсё стрымлівалася, абмяжоўвалася, уціскалася. Затое можна было развівацца ў культурным сэнсе: збіраць кнігі, цікавіцца мастацтвам. Дазвалялася выступаць перад рознымі аўдыторыямі — ад школьнікаў да вайскоўцаў, чытаць лекцыі, весці літаратурныя вечарыны ў Доме літаратара. Словам, парасткі свабоды паступова прарасталі, каб праз пару дзесяцігоддзяў расквітнець. Бацька, што называецца, «не спаў у шапку»: выступаў на сходах, вёў вечары.

У яго было шмат сяброў і столькі ж, а мо і болей, ворагаў. Ён не замыкаўся ў сабе пры нягодах, а смела ішоў у бой за свае інтарэсы, змагаўся. Яму была ўласціва агромністая прабіўная сіла: мог уладкаваць чалавека на працу, дапамагчы яму з кватэрай, з выданнем твораў. Яго цанілі, паважалі. Але жаданні не заўсёды супадалі, як кажуць, з магчымасцямі. Тады ён хадзіў чорнай хмарай, злаваўся, мог і выказацца па шчырасці, нічога не ўтойваючы.

Але ўсё-такі бацька быў вельмі жыццярадасным чалавекам. Ён імкнуўся ўзяць ад жыцця ўсё: напружана працуючы, умеў і адпачываць. Ездзіў у грыбы, бываў на вясковых кірмашах, арганізоўваў не толькі смачныя, але і цікавыя застоллі. Быў у душы вечным юнаком — рухавым, вясёлым, гасцінным. Не любіў сумаваць, шчодра адорваў дабрынёй, цеплынёй сэрца, артыстызмам.

Пішу гэтыя радкі, седзячы за нашым колішнім сямейным сталом, і нібыта бачу перад сабою бацьку — ружовашчокага, задаволенага, але патрабавальнага. І, каб быў ён жывы, я пайшла б на кухню і прынесла адтуль свайму любаму «бацíку» квашанай капусты і салёных рыжыкаў, якія ён так любіў. Я была проста закахана ў свайго бацьку, з якім амаль заўсёды знаходзіла агульную мову і паразуменне. Я ўдзячна яму за мой прыход на свет. Для мяне ён застаўся самым блізкім чалавекам, які разумеў мяне не проста з паўслова — з аднаго позірку. Безумоўна, я ўжо дарослая і магу не рабіць тое, што мне загадвалі бацькі. Ды чамусьці хочацца, каб яны былі побач… Як без іх складана, горка, нецікава!

Бацька быў высакародным чалавекам. Гэта самая галоўная яго рыса. І яшчэ — у ім не было і следу нездаровага корпання ў сабе, хваравітага імкнення да смерці, лянівага ныцця, песімізму, зайздрасці. Былі — аптымізм, спалучаны з сур’ёзнасцю і абачлівасцю, прынцыповасць, запальчывасць і ўпартасць, часам замкнёнасць і задуменнасць. У глыбіні душы ён заўжды заставаўся паэтам, які тонка адчуваў хараство і вабнасць быцця. Ён захапляўся жыццём, яго непаўторнасцю і неперажнасцю. Найбольш бацьку падабалася вясна, калі прырода абуджаецца і ўсё жывое радуецца росквіту. Хай жа павесялее яго душа, калі Вы чытаеце мае радкі! Да пабачэння, татачка, да сустрэчы…

*Твая малодшая дачка Святлана.*

Таццяна ВЫСКВАРКА

# «НЕ ЗНІКАЙ З НЕБАСХІЛУ МАЙГО...»

## *(да 60-годдзя аўтара «Маладосці» М. Башлакова)*



**Міхась БАШЛАКОЎ найперш вядомы чытачу як паэт пранікнёнага грамадзянскага гучання, а яго паэзія няўхільна застаецца скарбніцай сумлення і лёсавызначальных пошукаў усяго беларускага народа. Але сярод скрываўленых, замоленых, пранізлівых радкоў мільгацiць цiхiм і ўпэўненым святлом *ясная зорка паэта,* «шчымлівая, як песня, і найчароўная, як сон»:**

Не знікай з небасхілу майго,  
Не знікай, мая ясная зорка...  
Між самоты, хлусні і трывог  
Без цябе адзінока і горка...  
Не знікай з небасхілу майго...

Лірычны герой Міхася Башлакова сцінаецца ад непазбежнага ўнутранага болю, народжанага рэаліямі не заўжды квяцістамройнага жыцця. Але глыбокае асэнсаванне штодзённай непрытульнасці адорвае пільнасцю, мужнасцю, ачышчае, вызваляе ад прыгнёту зямных турбот і дазваляе ўбачыць сутнаснае, нязменнае, неўмiручае — каханне зродненых сэрцаў.

Для паэта каханне становіцца ўвасабленнем адзінай святасці, да якой грэшны чалавек можа дакрануцца на ненадзейна-таропкай зямлі. Толькі ў імкненні раствырыцца ў каханым, аддаць яму глыбіні свае, раздзяліць яго крыж, знітаваць сваё жыццё з ім адвеку і навекі — подступы да святасці: «На крыжы нашых горкіх дарог // Ты і грэшная, і святая. // Не знікай з небасхілу майго, // Не знікай, я цябе заклінаю... // На крыжы нашых горкіх дарог...»

У паэзіі Міхася Башлакова каханне гаворыць сваёй зашыфраванай мовай, якая куды больш суадносная з «музыкай дажджу», чым з пустымі чалавечымі словамі:

Нібы сон  
Дзівосны  
Сніцца...  
Дождж шапоча  
Закахана...  
Вечар...  
Лісце...  
Цвет сунічны...

У лірыцы паэта чалавек і прырода сустракаюцца ў пракаветным таемным суладдзі. І ў гэтай еднасці і нараджаецца гармонія.

Прырода лагодная да закаханых, яна расквечвае іх свет, смяецца і маркоціцца разам з імі.

Каханне, зліўшыся з прыродай, робіцца святыняй і блаславеннем.

Навальнічныя спевы, танец месяца, трымценне зор, залатакрылыя чмялі хутчэй, не ачалавечваюцца, а «надчалавечваюцца», паўстаюць над чалавекам у мудрай і спагадлівай велічы:

Які духмень... Уецца п’янкі хмель,  
Пяшчотна абдымае твае ногі...  
І травы сцелюць мяккую пасцель,  
Хоць пахне сенам свежым ля дарогі.

І раптам лёгкі ветрык прабяжыць,  
Кране за грудзі, смагу тваю вып’е...  
І на паляне ляжа адпачыць  
На спелых травах сам спякотны Ліпень...

Адкрыты, даверлівы лірычны герой Міхася Башлакова адчувае непадкупную

блізкасць, адданасць прыроды і прымае яе дарункі як непарушную частку свайго «я»:

«Вясновая» лірыка кахання быццам акроплена чыстым дажджом, напоўнена «перасвістамі залівістых птушак», «веснім водарам», «вішнёвай завеяй», «кветкавым маем» і іскрыцца, зіхаціць, уся вытканая з жыццядайнага святла: «Жаўцеюць коцікі ля рэчкі... // Дыхнула дальняю парой, // Калі ў такі ж вясновы вечар // Ламалі коцікі з табой».

Сонечным настроем мільгаціць і лета — пара «дзяўчынкі з вядзерцам духмяных суніц», «лугавых рамонкаў», «маладой ліпы», «роўных пакосаў», «настою жнівеньскіх начэй»: «Як ты ўся за гэта лета // Нечакана расцвіла. // Ў валасах тваіх, бы ў кветках, // Заблудзілася пчала...»

Але хутка заблукае «у скошаных лугах, па выцвілых палетках» Восень, і ўздыме свае глыбокія вочы «заасененая» каханая: «Самотная, нібыта восень, // Што атавее на лугах, // Глядзела ўслед... // Як неба просінь, // Душу захмарвала туга».

Сум развітання, жаль няспраўджанасці завітваюць да лірычных герояў паэта ў знакавую для ўсёй творчасці Міхася Башлакова пару.

І вясна, і лета, і зіма нібыта толькі прыступкі да Восені. Няхай нараджаюцца, праменяцца і крышталяцца пачуцці, пакуль завітае яна, велічная ў сваёй шматаблічнасці: пара ўспамінаў і забыцця, золата і шэрасці, светлага суму і роспачы, сакральнай музыкі залатога лісця і заўчаснай знямеласці…

Восені найчасцей выпадала быць адзінай сведкай схаваных ад усіх імгненняў — самых таемных, трапяткіх, асуджаных на неўміручасць:

Помніш, як блукалі
У асенніх далях?
І крычала сойка
Ў соннай цішыні.
Мы яшчэ не зналі,
Мы з табой не зналі,
Што мінаюць нашы
Залатыя дні...

І нават зіма са сваім «раннім следам» і мяцеліцай не мае той улады над пачуццямі, якой валодае Восень. Зіма ў лірыцы Міхася Башлакова паўстае хуткаплыннай, імгненнай, часовым кароткім сном: «І няхай між снягоў бясконцых // Шчэ надзеі няма на лета, // Усміхніся ласкавым сонцам, // Закружыся духмяным кветам...»

У паэзіі Міхася Башлакова пераплятаюцца глыбока стоеныя, перажыванні і ўзгадаваная народам фальклорная спеўнасць.

Мары — гэта крылы, якія Бог даў кожнай часова прыкутай да зямлі, але паклікавай у неба душы. У марах чалавек зведвае радасць палёту, веліч свабоды, спатольвае сваю адвечную прагу да ўзнёслага, дасканалага. Прывіды светлага шчасця ў лірыцы кахання Міхася Башлакова — гэта маленькае жыццё, вяртанне ў якое і дае сілы выжываць у жыцці вялікім і часам невыносна рэальным.

Свята мілосці, красы — які век наканаваны табе? Нярэдка прыходзіць яно, агністае, і ўмомант згарае, пакідаючы адвечны знак на апаленым сэрцы.

Каханне не ведае згубнай для кожнай жывой істоты нязрушнай повязі часу, напластавання гадоў, звыклай непазбежнай тленнасці. Наўрад ці яно прыкмячае, як сівеюць бласлаўлёныя ім: «І, быццам забыўшы пра нашы гады, // Шапчу, пасівелы, табе пра каханне... // І зноўку, здаецца, цвіце ля вады // Чаромхавы снег на вясновай паляне...»

Закаханыя паэта жывуць на зломе пачуццяў, і нават словы іх народжаныя на крык і на шэпт адначасова.

Унікальнасць інтымнай лірыкі Міхася Башлакова — ва ўсёпранікальнай, усёўладнай сутнасці кахання. Пачуццё недасягальнай для чалавечага розуму ўзнёсласці прыходзіць, каб узняць на такую ж вышыню ўсе астатнія адценні, зрухі жывой душы, каб дадзенае Богам сумленне, абуджанае каханнем, набыло новы голас.

Закаханыя — гэта птушкі, але зведаць слодыч палёту яны змогуць толькі трымаючы адно аднаго ў абдымках: «…Дзе падзецца мне, // Птушцы параненай? // Я абвугліў крыло, // Абпаліў у агні... // Ты ж на беразе тым // Затуманеным... // Ты маўчыш, // Ты не спіш, // Ты чакаеш мяне... // Мы з табой — // Два крылы // Непадзельныя...»

І ў гэтым зорным мігценні, у адчайным палёце зродненых крылаў нараджаюцца дзівосныя радкі Міхася Башлакова — беларускага лірыка, дыханнем якога была і будзе ціхая малітва:

«Божа,
Пашлі мне радок
Шчыры і светлы…»

Васіль МАКАРЭВІЧ

# ПАЛЕСКАЯ АРАТОРЫЯ

## *Штрыхі да творчага партрэта Міколы Мятліцкага*

**У**явіце сабе белагаловага хлапчука, які жыў сабе на Палессі, у маляўнічай і прыгожай вёсцы Бабчын, што вясною танула ў вішнёвай і яблыневай квецені, зімою — у снягах, бегаў па вуліцы, сваволіў з такімі, як і сам, равеснікамі-сарвігаловамі, хадзіў у школу, з выгляду, здаецца, нічым асабліва не вылучаўся. Хіба што быў часам надта задумлівы, то не ў меру вясёлы. Аднак рос добры памочнік у сям'і, вадзіў на начлег коней. А там, седзячы ля кастра і прыслухоўваючыся да тупацення конскіх ног, падоўгу ўзіраўся ў зорнае неба, пра нешта думаў і марыў, і ў постаці яго мелася штосьці ад птушкі, якая збіралася ўзмахнуць крыллем і ўзляцець. Хто ведае, магчыма, у ноч на Івана Купалу, калі з вясковымі дружбакамі ён выпраўляўся ў лясны гушчарнік на пошукі чарадзейнай купальскай кветкі, у гэтыя хвіліны ў душы хлапчука ажыло нешта такое, што стала трывожыць і непакоіць. А з цягам часу і трывога, і пяшчотная ласка да людзей, птушак і ўсяго свету перайшлі ў жаданне ўзяць ў руку аловак і вывесці на паперы словы, сказаць нешта ў рыфму. Ён зашываўся ў які-небудзь ціхі куток і пачынаў пісаць. І баяўся, каб ніхто з сяброў не даведаўся, чым ён займаецца, нібы ў гэтым было штосьці благое. Але пра яго занятак ведала ўся вёска. Праўда, ніхто асабліва не дзівіўся, не лез з роспытамі, адкуль гэта цяга да вершаў, бо яго дзед слыў на ўсю акругу вялікім майстрам на дасціпнае і трапнае слова, якім мог паставіць на месца любога выскачку і балабона! Унук пайшоў у дзеда. Аднойчы набраўшыся смеласці і рашучасці, ён адвёз вершы ў Хойніцкую раённую газету. Пра гэта паэт напіша пасля з дакументальнай дакладнасцю радкі: «Райцэнтр… Дванаццаць гразкіх вёрст. Сюды, у рэдакцыю газеты, хлапчук-сваавольнік вершы вёз, каб гучна выбіцца ў паэты». А праз нейкі час, разгарнуўшы газету, пабачыў свае радкі. Ці трэба казаць, што рабілася ў душы хлапчука, як білася, заходзілася ад радасці і хвалявання сэрца. Карацей, Мікола Мятліцкі адчуў і зразумеў, што ў яго жыцці адбыўся пералом і яму наканавана звязаць свой лёс з паэтычным словам і творчасцю. Перад ім адкрывалася дарога ў чароўны свет паэзіі, якая і прывядзе яго да жыццёвых і творчых вышынь. Ён стане лаўрэатам прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, Дзяржаўнай



*Студэнт-першакурснік М. Мятліцкі, 1971 г.*

прэміі Беларусі імя Я. Купалы, будзе ўзнагароджаны медалём Францыска Скарыны. Яму давядзецца шчыраваць у газеце «ЛіМ» і ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». І вось ужо колькі гадоў ён узначальвае наш самы «тоўсты» часопіс «Полымя». Але самы дарагі скарб і набытак як для самога паэта, так і для чытачоў — яго кнігі вершаў і паэм, якіх налічваецца больш за паўтара дзясятка.

Сягоння, чытаючы і перачытваючы творы Міколы Мятліцкага, з вышыні часу, як праз павелічальнае шкло, гледзячы і ацэньваючы мастацкую вартасць радкоў, многае бачыцца і ўспрымаецца не так, як гэта было падчас іх з'яўлення ў друку. Асобныя вершы набываюць новае і нечаканае гучанне, большую сілу ўздзеяння на чытачоў. Радуе ўсё тое свежае і каштоўнае, што не блякне і не паддаецца бязлітаснай карозіі часу, а свеціцца бляскам магічнага крышталю, пра які ґаварыў Пушкін. Разам з гэтым больш выразна і ярка высвечваецца творчы шлях паэта, якім ён ішоў да новых адкрыццяў і знаходак. І, безумоўна, каму не цікава яшчэ раз зірнуць на верш, з якога пачаўся паэтычны шлях М. Мятліцкага? Не будзем гадаць, як называўся твор, што пабачыў свет на старонках Хойніцкай раённай газеты. Але чамусьці хочацца, каб гэта быў верш «Бабчын», як, напрыклад, Я. Купала першым апублікаваў верш «Мужык», які стаў своеасаблівым эпіграфам да ўсёй творчасці класіка і прадвызначыў яго жыццё і лёс. Сказана гэта не для таго, каб хоць у нечым параўнаць М. Мятліцкага з Я. Купалам. Гаворка ўсяго толькі пра тое, што верш «Бабчын» значна вылучаецца сярод тых, што выйшлі з-пад пяра М. Мятліцкага ў той час, калі ён рабіў першыя самастойныя крокі ў паэзіі. Твор гэты каларытны, шматфарбны і маляўнічы па сваёй фактуры, прысвечаны роднай вёсцы, у якой паэт з'явіўся на свет і дзе прайшло яго дзяцінства і юнацтва. Далібог, калі чытаеш радкі, узнікае такое адчуванне, што яны даўно існавалі, жылі ў прыродзе сваім жыццём, а малады творца шчасліва напаткаў іх і перанёс на паперу. Чаму такое адчуванне? У вершы, як сказаў другі паэт, «супалі мэта і маршрут». Ужо ў самой назве вёскі, мілагучнай і загадкавай, маецца нешта вабнае магнетычнае, што кладзецца на душу. Самі па сабе ўзнікаюць этымалагічныя асацыяцыі, здагадкі — чаму менавіта так, а не інакш, прашчуры паэта назвалі сваё паселішча? Гэтаму палеска-славянскаму найменню адпавядае і сам верш, з ладна скроенымі радкамі і строфамі.

Пачынаецца ён вельмі проста і ў нейкай ступені нават будзённа, але затое ледзь не з кіношнай выразнасцю і дакументальнасцю: «Тут вырайна юнацтва лямантуе, тут дзед сівенькі, едучы ў раён, у аўтобусе з дзяўчатак пажартуе: «Які ж вам бог даў гэтакі разгон?» У страфе няма кідкіх вобразаў і параўнанняў, якімі паэты стараюцца ўразіць чытачоў, заваяваць іх сімпатыі. Здзіўляе, што аўтар, здаецца, нават і не мае намеру кінуцца ў вочы чымсьці неардынарным і экстравагантным, хаця гаворка ідзе пра Палессе, «край былін, паданняў», дзе хапае мясцовых дзівос і экзотыкі, што мяжуе з фантастыкай і здольна прыводзіць у экстаз і захапленне многіх. І, тым не менш, ужо першы радок звяртае на сябе ўвагу ёмістасцю і значнасцю сказанага: «Тут вырайна юнацтва лямантуе». Вылучанае і вылушчанае з паўсядзённай будзённасці і пададзенае ў метафарычнай абгортцы і ў цесным спалучэнні з іншымі рэчамі і з'явамі, яно становіцца цікавым і значным гібрыдам і дае нечаканы эфект.

А карціна, якую малюе М. Мятліцкі, набывае жывыя рысы, мы бачым дзядка, што едзе ў раён. Але не таго дзяжурнага старога, з рысамі дзеда Шчукара, які пад пяром іншых аўтараў здзяцінеў і выглядае прыдуркаватым клоунам. Перад намі мудры паляшук і, звяртаючыся да дзяўчат, ён умее падмеціць самае важнае і характэрнае, пажартаваць, вядома, дасціпна, па-паляшуцку: «Які вам бог даў гэтакі разгон?» Тут маецца нешта ад крылатага афарызму, ідыёмы, што, як крэсіва, высякае безліч асацыяцый і думак, саграває душу. І ў наступнай страфе, як бы перагукваючыся з дзедавым жартам, не меней выразна і трапна гучыць адказ, заснаваны на фальклорнай эўфімістычнай іншасказальнасці, які даюць «вельмі строга смуглявыя палескія жанкі, што й сёння не заворана дарога, якой у вёску ходзяць прымакі». Радкі настолькі ўмела падагнаны адзін да аднаго, а словы настолькі трывала стаяць у сваіх, толькі для іх прызначаных, гнёздах, што іх, здаецца, нельга скрануць з месца. Мы нават не адразу заўважаем, што насуперак законам арфаэпіі літара «у» зроблена кароткай, там, дзе яе не павінна быць. Пра што гэта гаворыць? А пра тое, што аўтар з першых радкоў верша

настолькі завалодаў нашай увагай, што мы поўнасцю знаходзімся пад яго гіпнатычнай уладай і не заўважаем гэтай неадпаведнасці. Пры гэтым, па строга прадуманай лініі ідзе развіццё паэтычнай думкі, пашыраецца і паглыбляецца сэнс сказанага ў першых строфах, што сталі своеасаблівай прэамбулай да самага галоўнага. А іменна — чаму так названа і адкуль пайшло найменне — Бабчын? Дык вось мы ўжо як на свае вочы пабачылі і пераканаліся, якія прыгажуні жывуць у гэтай палескай вёсцы. Тут, можна сказаць, спакон вякоў існуе жаночае царства, ці па-тутэйшаму — «бабскае царства». Гэтым самым аўтар толькі напалову расшыфроўвае этымалагічнае паходжанне найменне Бабчын. І паставіць на гэтым кропку для М. Мятліцкага было б раўназначна таму, што спыніцца на паўдарозе. Яму хочацца прывесці больш важкія і пераканаўчыя аргументы. Якія? Гістарычныя! Але ж Бабчын не вёска Студзёнка, каля якой былі разбіты рэшткі Напалеонаўскай арміі. І тым не менш, гэта ніколькі не бянтэжыць паэта. І ён гаворыць: «Гісторыя, ты назву ціхай вёскі змагла суровым сэнсам надзяліць». І мае рацыю: яго вёска перажыла не менш пакут, чым тысячы іншых у гады Айчыннай вайны і пасля яе. Такім чынам М. Мятліцкі свядома і ўмела пераводзіць стрэлкі ў прамым і пераносным сэнсе на той час, калі ўсе клопаты і справы ў вёсцы ляжалі на жаночых г. зн. «бабскіх» плячах. Якімі мастацкімі дэталямі і фарбамі паказвае ўсё гэта аўтар? Не сказаць каб яны былі надта незвычайныя. Але для яго, відаць, больш важна прысутнасць горкай праўды, як напрыклад, вось гэтай: «Не выдумка, што правілі жанчыны». Сапраўды, у вёсцы пасля вайны быў поўны матрыярхат. Аднак варта запытаць: як правілі жанчыны і якая ўлада мелася ў іх руках? У вершы даецца адказ скупымі і дакладнымі мазкамі: «Цягнулі плуг — узорвалі лагчыну, з сявенькамі ступалі па раллі… Апоўначы збіралі ў лесе голле і да зямлянак неслі на плячах». Як бачым, паэт не імкнецца да квяцістых параўнанняў і метафар, а карыстаецца, не ў крыўду будзе сказана, ледзь не «суровай прозай». Менавіта такой вось стылістыкі вымагае жыццё, пра якое ідзе гаворка. Калі б аўтар паспрабаваў выкарыстаць нават вытанчаныя эпітэты, яны б выглядалі, як расфарбаваныя цацкі на навагодняй ёлцы, і былі б у вершы лішнімі і непатрэбнымі. Гэта добра адчуваў малады паэт М. Мятліцкі і не паддаўся на танную спакусу.

Заканчваецца верш спакойна, без таго эмацыянальнага ўсплёску і абагульнення, тых атрыбутаў, якія звычайна прысутнічалі на той час у творах такога ладу і накірунку. Пра долю жанчын М. Мятліцкі гаворыць разважліва і памяркоўна, без асаблівага націску і эмацыянальнага экстазу, звяртаючыся да вёскі Бабчын: «Жаночымі рукамі ты касіла і драла мох да новых сцен з балот, на іх плячах да брацкае магілы на стрэчу з бацькам несла ты сірот». Перад намі верш і адначасова жывое сведчанне, што ў паэзію ішоў не чарговы спрактыкаваны рыфмач, а паэт з сур'ёзнымі адносінамі і стаўленнем да жыццёвых рэалій, якія існавалі ў пасляваеннай вёсцы, з усімі складанасцямі і супярэчнасцямі, характэрнымі для таго часу.

Калі на геаграфічнай карце ўмоўна ўзяць за кропку адліку, з якой пачынаецца творчасць паэта, яго родную вёску Бабчын, паставіць там ножку цыркуля і вычарціць круг, то ў яго ўвойдуць навакольныя мясціны, якія знітаваны з ёй не толькі тэрытарыяльна, але яшчэ і чымсьці тым, што надае ім адзінства і непаўторнасць як ландшафту, так і таго, што прысутнічае ў навакольным свеце. Ну, хіба мог абмінуць Мікола Мятліцкі хвоі, што падыходзілі да самай вёскі і, магчыма, заглядвалі ў вокны хаты, у якой ён жыў і слухаў іх гамонку. Хіба ён мог не напісаць пра іх радкі, не ўспомніць тое, што стала для яго родным і неад'емным на доўгія гады! Трэба адразу заўважыць, што дыпціх, прысвечаны хвоям, ужо з самага пачатку не падобны да твораў, у якіх звычайна ўслаўляўся зялёны мацярык лесу. М. Мятліцкага цікавіць не знешні бок гэтага чарадзея і вечнага спадарожніка людзей, не вонкавая яго прыгажосць. Пачынаецца дыпціх са страфы, у якой маецца намёк на трагічна-драматычныя ноткі: «Іх (хвой — *В. Макарэвіч*) вершаліны ў сіняве. Спускай, пілуй на дошкі! Табе патрэбна толькі дзве і трэцяй трошкі». Першы радок чыста інфармацыйнага характару. Другі — энергічны, дзейсны і рухавы. Яны ўспрымаюцца адразу і да іх, як кажуць, у нас няма ніякіх пытанняў і прэтэнзій. А вось два наступныя радкі прымушаюць спыніцца, задумацца, над тым, пра што ў іх ідзе гаворка: «Табе патрэбна толькі дзве і трэцяй трошкі». Калі гаворка ідзе пра дошкі, то яны



*У бярэзніку за Бабчынам з братам Васілём, 1990 г.*

часцей за ўсё звязаны з жалобай і труной для нябожчыка. А калі паэт мае на ўвазе хвоі, то чаму менавіта трэба дзве хвоі і трэцяй трошкі? Загадка? Безумоўна! У такім разе варта будзе спытаць, чаму мы не маем ніякіх прыдзірак да вядомага нам са школьнай парты пушкінскага радка з верша, прысвечанага восені: «Унылая пора, очей очарованье»? Думаецца, калі б гэты радок не належаў генію, а з'явіўся сягоння з-пад пяра любога аўтара, рэдактарскі б аловак пагрозна павіснуў над ім, маўляў, дзе логіка? «Унылая пора» і раптам — «очей очарованье»! Але менавіта ў гэтай, на першы погляд, знешняй неадпаведнасці і алагічнасці тоіцца глыбокая паэзія, тонкае арыстакратычнае адчуванне не толькі карціны восеньскай прыгажосці, але і нечага большага. У чатырох словах пры дапамозе супрацьпастаўлення і кантрапункта перадаецца драматызм сітуацыі, высякаецца тая магічная іскра і святло, што даюць магчымасць, як пры ўзбліску маланкі ўбачыць карціну восені і запомніць больш, чым у тым выпадку, калі б былі сказаны дзясяткі звычайных слоў.

Ці не з падобнай з'явай мы маем справу і ў вершы Міколы Мятліцкага?

Не, пра раўназначнасць яго радка з пушкінскім радком і заікацца не трэба. Але хіба не бывае шчаслівага, хоць і выпадковага, супадзення? Не ў радках і сэнсе, а хаця б у форме. Хіба ўжо гэта не можа не парадаваць як паэта-сучасніка, так і яго чытачоў. Магія мастацкага слова ў большасці выпадкаў застаецца невытлумачальнай, не паддаецца здаровай логіцы і матэматычнаму разліку. Што да верша пра хвоі, то гэта, бясспрэчна, творчая ўдача паэта, з якой яго віншавалі больш вопытныя калегі па пяры, той жа Анатоль Вялюгін, адкрывальнік маладых талентаў, у ліку каторых быў і М. Мятліцкі. У гэтым вершы — свабоднае і нязмушанае дыханне, шырокі дыяпазон аўтарскай думкі і ахопу з'яў, што ўводзіць аўтар у круг гаворкі, якія дапамагаюць выходзіць да пэўных абагульненняў філасофскага гучання. «Усяк было — малы, стары з пакутай і журбою — па звычцы даўняй у бары мы пазычалі хвою…» — сказана ў вершы. Паэт стараецца гаварыць коратка, сцісла. Але

варта прыгледзецца, як далікатна і тонка сказана пра тое, што часам даводзілася хвою браць на свой страх і рызыку, гэта значыць, красці: «Мы пазычалі хвою…». Гэта сведчыць пра высокую культуру не толькі паэтычнага радка М. Мятліцкага, але і пра духоўнае сталенне самога аўтара, яго ашчаднае стаўлення да слова, моўнага багацця. Стварэнне гэтага верша можна параўнаць са здабычай залатых крупінак, дзеля якіх золаташукальнікі перамываюць горы пароды. Не праца, а пеклаванне. Затое як хораша зірнуць на здабытае, ведаючы, што яно не толькі ўсцешыць зрок, але і прынясе душэўную радасць і акрыленасць для тых, хто не раўнадушны да шчодрых россыпаў такога багацця. У вершы нямала мастацкіх бліскавак, што сведчаць пра талент аўтара, пра яго творчыя магчымасці. Але, каб прадэманстраваць іх, трэба было б прыводзіць увесь дыпціх цалкам. І ўсё ж нельга ўтрымацца, каб не паказаць віртуознае ўменне паэта выкарыстоўваць пушкінскі кантраст, пра які толькі шла гаворка вышэй, што і на гэты раз дапамагае паўней высвеціць дыялектычную складанасць нашага жыцця і сказаць пра тое, што побач як жыццядайнае, стваральнае: «І карані — у глыбіні, і ў целе — столькі сілы!», так вычварнае і разбуральнае: «Але ў замшэлай цішыні заскрыгаталі пілы». Радкі такога настрою і кшталту не дазволяць душы ўзяцца бросняй абыякавасці і раўнадушша, дапамагаюць устрапянуцца, пільней прыгледзецца да навакольнага і тых, хто побач з намі.

Другая частка верша не менш глыбокая па думцы і метафарычнай напоўненасці. Праўда, яна крыху больш аўтабіяграфічная, чым першая, у ёй аўтар згадвае: «Сасновы дом. Мая калыска, пад столь падвешаная…» І нечакана, як усё роўна спахапіўшыся, амаль ускрыквае, пярэчыць сабе: «Не! Яна плыла між абеліскаў у здратаванай старане». Справа не толькі ў тым, што аўтар паварочвае гаворку ў іншы бок, ярчэй высвечвае глабальную па сваёй маштабнасці карціну, якая не можа не ўразіць, але гэта яшчэ адзін штрых у дапаўненне да трагедыі вайны, закранутай у вершы «Бабчын». Такім чынам, творы паэта як бы нітуюцца і лучацца адзін з адным, дадаюць новыя адценні і фарбы да асобных малюнкаў і накідаў, перарастаюць у шырокую па свайму ахопу падзей і з’яў гістарычную панараму. Да ўсяго ў творы адчуваецца жывое і здаровае дыханне смольнага лесу, яго нябачная прысутнасць, што перадаецца праз аўтарскае ўспрыманне: «Са сцежкі збочу баравое, прапахлай волкасцю грыбной, — высока страявыя хвоі шумяць і стогнуць нада мной». Жывапіс тут настолькі дакладны і каларытны, што яго, здаецца, можна адчуць на дотык. Па-добраму здзіўляе і тое, што нельга загадзя вызначыць, у які бок павернецца аўтарская думка ў наступным радку ці страфе, што паэт і прадэманстраваў у канцы дыпціха: «Гляджу на вечныя хвіліны. Сабе бяссмерця не малю, бо хтосьці лёг без дамавіны учора ў гэтую зямлю». Паглыбляючыся ў сэнс сказанага, той-сёй з чытачоў можа спытаць аўтара, якім гэта чынам бяссмерце лірычнага героя залежыць ад таго, што «хтосьці лёг без дамавіны… у зямлю». Маўляў, тут відавочная няўвязка. І, канечне, памыліцца. Паэзія на тое і паэзія, што ў ёй паэт часам можа адыйсці ад нейкіх раз і назаўсёды вызначаных канонаў, дазволіць сабе, як выключэнне, пэўны эксперымент з прыцэлам на тое, што ён не толькі здзівіць сваёй навізной і неардынарнасцю як снобаў, так і простых чытачоў, але і засведчыць магічныя магчымасці паэтычнага слова. Нешта падобнае маецца і ў гэтай страфе. Радкі ў ёй звязаны паміж сабой нябачнымі ніцямі глыбокага сэнсу, які ўзнік недзе ў падсвядомасці аўтара і ўражвае нетыповасцю і смеласцю выказвання. У гэтым увесь, як кажуць, смак і каштоўнасць страфы.

Хаця ў творчы актыў Міколы Мятліцкага можа занесці да дзясятка вершаў, якія з’явіліся з-пад яго пяра на пачатку творчага шляху, да папярэдніх двух найбольш блізка стаіць твор «Зоры і зямля». Па тэматыцы ён рэзка адрозніваецца ад іх. Лучыць вершы лірычны герой і ў першую чаргу тое высокае майстэрства, што ў поўнай меры выявіў малады на той час аўтар. Твор гэты, безумоўна, аўтабіяграфічны. У ім гаворка пра пачынаючага паэта, яго мроі і амбіцыі, якія зведалі ўсе тыя, хто ў школьныя гады марыў стаць знакамітым і вядомым на ўвесь свет «властителем дум народных». Мікола Мятліцкі жыва і псіхалагічна дакладна перадае душэўнае ўзрушэнне паэта-пачаткоўца, які ўяўляе, як будзе паводзіць сябе аднакласніца, да якой ён быў нераўнадушны, калі ў газеце з’явяцца яго вершы: «Былі нябёсы ў жаўруках, і, як вясна, гучала б звонка у аднакласніцы ў

руках з ягоным прозвішчам старонка. Хай самалюбства не грызе — за ім пакрочыць за паўсвета. Яшчэ патопчацца ў чарзе, аўтограф просячы ў паэта». Радкі псіхалагічна выверанымя і дакладныя. А з якім досціпам і гумарыстычнай усмешкай гаворыцца пра аўтограф, які на думку пачаткоўца будзе прасіць у яго аднакласніца! А вось гэтаму, удала знойдзенаму штрышку «яшчэ патопчацца ў чарзе» проста няма цаны! М. Мятліцкі вельмі тонка адчувае і малюе душэўны стан наіўнага і даверлівага падлетка, што, як кажуць, задзірае нос вышэй нябёс. Але ідзе ўсё гэта не ад яго зазнайства ці фанабэрыі, а па той прычыне, што дзяўчынка не звяртае на яго аніякай увагі. І за гэта ён марыць адпомсціць ёй, ганарліўцы, паказаць, хто ён на самай справе. М. Мятліцкі знайшоў такія фарбы, якімі здолеў праўдзіва абмаляваць далейшыя паводзіны лірычнага героя. Пачатковец не адступае ад свайго: «Ён дасць дастойны ёй адказ, ён так напіша гэтай Галі: «“А… Гэта Вы… Кахаў я Вас. Вы што ж паэта прамаргалі?”» Думаецца, што вось такой псіхалагічна тонкай карціне пазайздросціў бы любы празаік. Зрэшты, страфа сведчыць пра тое, што пры жаданні М. Мятліцкі (гэта ніколькі не прынізіла б яго статус як паэта) мог бы напісаць неблагія празаічныя рэчы. (Дарэчы, пра гэта сведчыць яго навела, змешчаная ў пачатку гэтага года на старонках штотыднёвіка «ЛіМ».) Тым часам паэт-пачатковец уяўляе заплаканыя вочы дзяўчынкі і сябе: «А слава? Продыху няма. Яна паўсюд, на кожным кроку. Яго настаўніца сама зайздросна хваліць на уроку. Яго здымае ля акна з самой рэдакцыі фатограф». Тут самы высокі градус кіпення пачуцця, кульмінацыйны момант. Цікава, як павядзе сябе гераіня? «Ды не спяшаецца яна прасіць у генія аўтограф. З ім не страчаецца знарок…» — канстатуецца ў вершы. Вынік атрымаўся дыяметральна супрацьлеглы таму, на які разлічваў герой. Ён разумее, што жахліва праваліўся. І цяпер, «каб толькі чуць жаданы крок, аддаў бы ёй усе пяцёркі». Згодзен ён пайсці і на большае: «І там, на вуліцы начной, усхваляваны, да світання ёй прачытаў бы ёй адной радкі пра іхняе каханне». Як сапраўдны псіхолаг, што ведае, якія буры бушуюць у душы закаханых падлеткаў падчас нейкай спрэчкі ці непаразумення, М. Мятліцкі не абрывае верш на паўслове, а дае чытачам магчымасць для фантазіі і роздуму. Але аўтару і самому цікава прасачыць тыя патаемныя зрухі, што адбываліся калісьці з ім: «Ён знаў, што сыдзе на Зямлю, бо па зямлі яна блукае і незвычайнай і зямной, не ім прыдуманай — жывою. І ён па вуліцы начной ступіў спалохана за ёю. Забыўшы ўсе свае радкі, ён чуў, як кроў паліла скроні. І сам пяшчотна, украдкі кранаў дзявочыя далоні». Згадзіцеся, што сказана скупа і ашчадна, але як хвалююча і запамінальна перададзена глыбокае і адначасова наіўнае пачуццё лірычнага героя, і пры гэтым не статычна, а ў руху і дынаміцы. Па-свойму і заканчвае верш М. Мятліцкі: «Адны, адны на ўвесь сусвет яе усмешлівыя вочы… Ды брамкі грук: — Бывай, паэт. Бывай навекі… Добрай ночы…» Нешта балючае і адначасова светлае ёсць у нечаканым расстанні героя і саміх радках. У вершы чуецца баладнае гучанне з ноткамі трагізму і пэўнай доляй гумару, што можна рэдка сустрэць у паэтычных творах. Усё гэта сведчыць пра талент маладога аўтара, які даваў яму права заняць сваё месца сярод паэтаў-равеснікаў.

Тры творы «Бабчын», «Хвоі», «Зоры і зямля», пра якія ішла гаворка, гэта тры своеасаблівыя кіты, на якіх упэўнена трымаўся тагачасны паэтычны набытак М. Мятліцкага. Яны забяспечвалі яго тылы, служылі надзейным апірышчам для далейшага паэтычнага росту аўтара. І сапраўды, з-пад яго пяра з'яўляліся ўсё новыя і новыя знешне не крыклівыя, але значныя па ўнутранай напоўненасці і думцы творы. Ды і сам паэт не любіў мітуслівасці, скандальна-багемнага ажыятажу, які знарок стваралі вакол сябе асобныя паэты, што прывыклі да эстраднай шуміхі і папулярнасці. Не спакушалі яго і тыя вобразы, што маглі ў першы момант асляпіць і аглушыць чытача знешнім бляскам і стракатасцю. Пісаў ён пра тое, што бачыў на свае вочы, пра што чуў ад блізкіх людзей і што глыбока ўвайшло ў памяць. Не мог ён не напісаць пра трагедыю Аксінні, якая «двойчы ў жыцці удавою… была. Хавала свайго Лаўрэя, плакала, як дзіця». А ў другі раз «адплакала і Рыгора — забрала яго вайна». І зноў, па-баладнаму, разгортваецца дзеянне ў вершы: «Доўга чакаў Аксінню там, на кладах, Лаўрэй». І як толькі ён «не клікаў яе з сяла легчы ў пясок угрэты. Толькі яна — не йшла». І канчаецца верш многазначна і сімвалічна: «Як адступілі сілы (старасць — нібы гара) стомлена папрасіла: —

Мне да свайго пара…» Сказана па-народнаму мудра і з фальклёрным адценнем.

Няцяжка здагадацца, што ў лірычнай гераіні маецца прататып, магчыма, аўтар захаваў нават яе імя. Гэта яшчэ раз сведчыць пра тое, што многія творы Міколы Мятліцкага заснаваны на жыццёвай праўдзе і даставернасці. Ён мог бы ўслед за С. Ясеніным сказаць, што яго біяграфія ў вершах. У некаторых з іх мы знаходзім штрыхі з яго жыццяпісу. Калісьці паэта-падлетка ўразіў незвычайны ўраджай збажыны, і ён палічыў патрэбным адгукнуцца радкамі: «Зямля такое ўскаласіла жыта за ўсе свае патравы ўпершыню». Сказаўшы пра патравы, паэт пацвердзіў, што ён мае жыццёвы вопыт і гістарычную памяць. А вось радкі пра ваенную службу: «На кароткім салдацкім прывале пад зялёнаю пахай бяроз мы лісты да каханай пісалі першы раз па-мужчынску ўсур'ёз». На першы погляд нічога асаблівага, апрача ўдалай знаходкі «пад зялёнаю пахай бяроз», у страфе няма. Але хто з чытачоў не заўважыць бадзёрай рытмікі і свабоднага дыхання радкоў, што гаворыць пра жаданне байцоў, як хутчэй і паўней расказаць сяброўкам пра салдацкую службу, падзяліцца навінамі і ўсім тым, што прасілася на паперу. Дэмабілізаванаму байцу-паэту па-новаму бачацца родныя мясціны і прырода, і ён заганяе ўсё гэта ў цеснае сіло вобразнай сістэмы: «Савіным вокам бліскае крыніца, схаваная ў дрымотным гушчары. Над соснамі драпежна навальніца раскінула маланак кіпцюры». Пра абстрактнае і нематэрыяльнае гаворыцца не менш прадметна і зрокава: «У джунглях моў ёсць мова пачуцця, на ўсёй зямлі дваім яна даецца. То мова часу, памяці і сэрца, — святая мова нашага быцця». Нельга не прывесці радкі, што выйшлі з-пад пяра паэта, улюбёнага ў Палессе, якому раптам стала дарагой і роднай іншая геаграфічная з'ява: «Адкуль яна, рака, цячэ? Ды не з-пад каменя ў гаях — з тваіх усмешлівых вачэй пачата Вілія мая». Гэта прызнанне ў каханні і вернасці не толькі суджанай, але і рацэ, каля якой яна расла.

Але як бы паэт не шанаваў Вілію і цудоўныя грыбныя мясціны над ёй, кожны раз ён вяртаўся ў вершах да роднай вёскі Бабчын, яе жыхароў. Чамусьці па-асобаму ўражваюць і кранаюць, здавалася б, няхітрыя радкі з невялічкага безназоўнага верша пра матчыну хату. Паэт, як скульптар, адсякае ў вершы ўсё лішняе і пакідае самае істотнае і неабходнае. Колькі душэўнай цеплыні ў радках: «Пахне спелай канюшынай недакошанае лета». А ўслед за гэтым нечаканае і шматзначнае: «За матулінай хацінай прыталася паўсвета». Паўтор пра хату становіцца рэфрэнам, які кожны раз набывае новае значэнне і гучанне, не губляючы пры гэтым лірычнай задушэўнасці і вабнасці.

Менавіта ў гэтай хаце вядуць гаворку бацька і сын пра тое, што адбывалася за «паўсвета», у горным Гіндыкушы. Паэт не гаворыць, якімі сакрэтамі дзеліцца сын. Але па рэпліцы бацькі, былога франтавіка: «З жадобай іншаю Берлін мы, помню, калісь бралі», — разумеем, яны не вельмі вясёлыя. Ды і войны бываюць розныя. Не толькі водгалас рэквіема, а яшчэ чагосьці іншага чуецца ў аўтарскай канстатацыі: «Ляжаць бязвусыя сыны на горным Гіндыкушы».

Болевыя кропкі і моманты нашага жыцця і веку ў той ці іншай ступені імкнецца закрануць у сваіх творах М. Мятліцкі. Хіба можна застацца раўнадушным да таго, як «ваюе франтавік за дровы ў сельсавеце». Верш напісаны так, што ў ім сапраўды словам цесна, а думцы прасторна. На звычайную адгаворку бюракрата, што дроў няма, лірычны герой усклікае: «Я столькі дроў насек, на ўсё сяло б хапіла! Гарматай ля Дняпра пасек і лес і строму». У радках публіцыстычна-лірычнага напалу аўтар выкрывае і асуджае чыноўнікаў і іх заскарузлыя душы. Адрывіста-чаканная рытміка радкоў нагадвае кароткія аўтаматныя чэргі. Суровым папярэджаннем-прысудам гучыць гнеўнае і рашучае для таго, хто абыякава ставіцца да франтавіка: «Схадзі, іх (дровы — *В. М.*) падбяры і прывязі старому!..»

Хто гэты стары? Магчыма, нават родны бацька паэта, век якога скараціла не толькі вайна, але і не адна недарэчная мітрэнга ў сельсавеце. І ён заўчасна лёг у дол. Непрыхаваны боль адгукаецца ў радках: «Пустынны кут… Тут бацькава магіла на той, сыходнай з вечнасцю, мяжой». І прамым адгалоскам болю гучаць радкі: «Эх, надвор'е на славу! Палавее раса. Бацька косіць атаву — аж шугае каса». Ды гэта ўсяго толькі ўспамін. А рэальнае сягонняшняе, яно перад вачыма: «Там, дзе зрошаны травы, бацька мой не хадок. Пахне звялай атавай надмагільны грудок». Вось яна, повязь жывога і таго, што ўжо адышло.

Не меншым болем працяты і радкі, прысвечаныя памяці матулі, напісаныя крыху ў іншым ключы, але ў адной тужлівай танальнасці: «Ты помніш, брат, як сонца пагасла? Раніца, а яно не ўзышло. Так жыта кладзецца на перавясла, як маміна цела на рукі лягло». І выдыхнутае з грудзей апошняе развітальнае, ужо чутае ў вершах іншых аўтараў, але для М. Мятліцкага сваё крэўнае і балючае: «Спі, родная. Жалобаю бясконца душа мая пад небам апавіта. Магільны груд — тваё цалуе сонца, магільны сон — тваё калыша жыта».

Страта бацькі і маці — сямейная драма. А Чарнобыльская катастрофа стала ўсенароднай трагедыяй. Яна балюча адгукнулася і ў душы М. Мятліцкага. Нукліды засыпалі не толькі Палессе, але і яго родную вёску Бабчын, і настолькі, што для жыхароў спатрэбілася тэрміновае адсяленне. Заплакала, зарыдала сэрца паэта. Але радкі загучалі стрымана і мужна, як гэтага вымагалі абставіны: «Зацярушаны стронцыем, апавіты тугой дамавін, пад лагодаю сонца, любы край, ты адзін». Сказанае паэтам «адзін», трэба разумець як адзіны любы край. Гэта пацвярджаюць наступныя радкі: «Як спакойна, разважна мне сказалі тады: гэты свет неабсяжны, а падзецца — куды?» Гэта былі першыя вузялкі, завязаныя на памяць, першая запеўка да своеасаблівай Чарнабыліяны, якую пачне ствараць верны сын Палесся Мікола Мятліцкі. З жахлівым сэнсам выразы папоўняць слоўнікавы запас і вершы паэта, як напрыклад: «атручаны лёс», «крыніцы, поўныя атруты», «стронцый і цэзій», «бяды ізатопы», «мёртвая зона» і іншыя. Чытаючы асобныя вершы, не, не дый прыходзіць адчуванне, што па сваім драматычным гучанні некаторыя з іх пераклікаюцца са «Словам аб палку Ігаравым», як вось гэтыя: «Век стаяў, пагрозны і раскуты. Як паданні, воблакі плылі. І крыніцы, поўныя атруты, гаварылі праўду аб Зямлі». Не менш душэўнай горычы і стоенай пакуты ў балючай споведзі паэта: «Сягоння мёртваю хмарай неба тваё заплыло, і вочап вецер атрутны кратае. Мёртва, бязгучна зімуе сяло. Мёртвая зона — за матчынай хатаю. У веку, дзе жудасны подых скразны, вусны мае смага першая апякла. Над смерцю тваёй зболена шэпчуць яны, над зоркай, якая згарэла датла».

У большасці чарнобыльскіх вершаў маецца нешта ад замоў і біблейскай малітвы, што павінны аберагаць ад розных бед і напасцей, і адначасова ўмацоўваць чалавечы дух і веру ў лепшае. Хіба гэтыя ноткі не чуюцца ўжо ў самым пачатку безназоўнага верша: «Кут мой забыты, безабаронна зорыш пагаслых крыніц вачыма. Некаму ты ачужэлая зона, сэрцу майму ты да скону — Радзіма!» Журліва-ўзрушаныя мелодыя і рытміка, што нагадвае «Паланез» Агінскага, пранізвае радкі, у якіх гаворыцца пра развітанне паэта з роднай вёскай, падчас свайго ад'езду: «Пакідаю абжыты кут, ціха крочу па жухлай пожні, памінаючы: мамін тут крок апошні і ўскрык апошні». Гэтыя вершы — балючы крык душы М. Мятліцкага. Пасля пэўнага ўтрапення і разгубленасці для яго прыйдзе час роздуму і асэнсавання трагедыі, што вырвала з наседжанага гняздоўя тысячы сем'яў і кінула іх на новыя месцы жыхарства. Але паэт не забываў родны куток. Ён не толькі згадваў яго прыгажосць, але і наведваў родны Бабчын: «Я вуліцай пустэльнаю іду, я слухаю жахотную бяду, выгнанніцкае долі чую крокі. Здаецца, пахіснуся, упаду. Накрыюць белым саванам аблокі». Паэт знаходзіць важкія словы і для «выгнанніка-навасёла»: «Наспех сабраў ты ў хаце рэчы, і толькі сцежкі не сабраў». Голас перасяленца чуецца ў балючых радках: «Радасць вярніце маю, чорныя ветры атруты! Век узамен аддаю сум нечуванай пакуты». А якім болем напоена страфа з пявучай мелодыкай і прачулай пяшчотай: «Сон нязводны, сон нясходны — лёгкі крок на мураве… Кут пакінуты, кут родны даўняй памяццю жыве». Паўтор адных і тых жа слоў з новым значэннем дапамагае больш выразна і ярка перадаць замілаванне паэта да родных мясцін, пражытых гадоў. Такіх запамінальных прыкладаў можна было б прыводзіць безліч, калі б у творчым набытку М. Мятліцкага не мелася вершаваная аповесць «Замкнёны дом», прысвечаная Чарнобыльскай катастрофе, у якой паэт гаворыць пра трагедыю палескага краю, а таксама тысяч паляшуцкіх сем'яў і адначасова выяўляе выдатнае валоданне сакрэтамі сучаснай архітэктонікі пры стварэнні буйнога твора.

Сюжэт аповесці просты. З Краснаярска ў Гомель на «Салют» прыззджае інжынер Акім Кірчэнка, які родам з вёскі Бабчын і, вядома,

пасля нялёгкага роздуму і душэўных пакут вырашае наведаць родныя мясціны і блізкіх сваякоў. Прыехаўшы ў сельскую мясцовасць і ўладкаваўшыся ў гасцініцу, ён ідзе адведаць Сяло і ўспамінае, як «малым стаяў у гурце сябрукоў, калі на Котлас гналі кулакоў… як Восіп, гаспадар, угнуўшы плечы, нясе наўхап якіясь з хаты рэчы». Акім Пятровіч «пазнаў сельмашню, абышоў кругом, згадаў, як Гофман, весялун-яўрэй, шчэ да вайны у кузні вёў тут рэй». Прыпамінае ён і сваю ўласную драму, што звязана з тою, якую кахаў у даваенныя гады і якая падчас адступлення ворага «махнула з немцам», а потым праз колькі гадоў «скуголіла, як вецер у трысці, ўся трэслася ды мовіла: “Прос-с-ти…”», спадзеючыся, што Акім даруе здраду. А ён: «Падсцілка фрыца! — ўсёй душой крычаў, — каго кахаў? Гадзюку прывячаў!» Усё гэта канула ў мінулае. Акіма Пятровіча больш трывожыць тое, што ён бачыць вакол сябе: «Пачуў: задушша ў грудзях расце. — Тут мёртва ўсё… — адно сказаў сабе, глядзеў, як вецер клёна чуб скубе». Але ён пераконваецца, што людзі жывуць і ў чарнобыльскай зоне. Ніякай панікі, страху за сваё існаванне няма. Палешукі паводзяць сябе так, як і Холад з Обнінска, што нясе вахту і не забывае пра адпаведнае «лякарства», якога ён не шкадуе і для Акіма Пятровіча: «Наліў па поўнай. Ды на гэты раз сам-насам, моўчкі, спешліва кульнуў: — Ну во, сябе самога памянуў!» Гэтай дасціпнай рэплікай аўтар знарок падкрэслівае, дзе і ў якім небяспечным месцы знаходзяцца яго героі. І праз маналог Холада апавядае пра ўсё тое, што рабілася і робіцца ў зоне: «Тут грошай закапана — у-уга! І шчэ да чорта ляснецца з бюджэту. Ды аніяк не збіць заразу гэту — наўсцяж плыве атрутная шуга. На новых картах ядзерны віхор на безліч год пакінуў колер гор».

Гаворачы пра цяперашняе і мінулае, М. Мятліцкі настолькі ўмела і па-майстэрску пераплаўляе ўсё гэта ў непадзельнае цэлае, што атрымліваецца нешта падобнае на суцэльны залаты злітак. Яркімі малюнкамі паўстае перад намі прырода і на яе фоне, нібы высечаныя з дубу, постаці тутэйшых палешукоў, якія і не думаюць нікуды з’язджаць з засыпанай нуклідамі зямлі. Адзін з іх — равеснік Акіма Пятровіча ляснік Хрол, з якім яны вучыліся ў школе і сябравалі. Сустрэчу былых аднакласнікаў, іх гаворку паэт падае настолькі жыва, ярка, што перад намі, здаецца, намаляваная фрэска. Іх дыялог цікавы і багаты на трапныя народныя выразы і дасціпныя звароты, як вось гэты, дзе аўтар падае спрэчку Акіма Пятровіча і Хрола: «— Я плюраліст! — А я, от, патрыёт! — Не пенься так, з табой мы — два атопкі. Нас не пачуюць, падышлі да кропкі — Ды што чакаць, калі магільны гнёт накрые зверху? Я, от, не такі… — І Хрол сухія сціснуў кулакі». Аказваецца, што Хрол не лыкам шыты стары. Ён прызнаецца даўняму сябру, што падпёк хату з былым паліцэйскім, які вярнуўся з Сібіры і жыў сабе так, як быццам не па яго даносе загінулі ў вайну аднавяскоўцы: «Дык вось, Акім, адзінаму табе паведаў праўду, што таіў гадамі». На пытанне Акіма Пятровіча пра грыбы: «Ты, што, атруту спажываеш хіба?» — Хрол адказвае: «Бяру, сушу, вязу пасля ў раён. Адтуль упраўна вёрткі меншы сын збывае іх у нейкі магазін». Гэтае прызнанне насцярожвае нас, але недзе ў сярэдзіне гаворкі Хрол рэабілітуе сябе: «А што грыбы сушу — пажартаваў. Хоць іншых знаю — паступаюць так. Калі й бяру — то спажываю ўсмак». Што і казаць, суровая і страхатлівая чарнобыльская праўда!

Запамінаюцца і эпізадычныя персанажы, як, напрыклад, «падстрыжаны хлочык за жэрдкамі калішняе кашары». І не столькі знешнімі рысамі, як гаворкай. Пра матацыклет Хрола ён «хіхікнуў гучна: — С довоенных лет от Кайзера достался дрондулет». Не застаецца ў даўгу і Хрол: «Без дзеўкі тут сядзіш, як той манах. Няйнакш усохла забаўка ў штанах». Прыезджы, схільны да клаунады, гаворыць па-блазенску, але дакладна і трапна, вымалёўваючы характар: «Потолковал бы ты с моим отцом. Тот, как и ты, уж — патриот-фанат, мечту о прошлом, солнечном, лелеет! Как долго в душах пепел чувства тлеет! А родина, как этот вот закат, — не видишь, что ль? — у жизни на краю: живешь в аду, а думаешь — в раю!» Такія вось задзірыста-філасофскія дыялогі ўзбагачаюць твор новымі фарбамі і якасцямі. Каб ярчэй паказаць асаблівасці тутэйшага побыту і жыцця палескай вёскі, глыбей раскрыць характары герояў твора, паэт выкарыстоўвае мясцовыя словы, створаныя

на паляшуцкі лад, якія ў кантэксце нясуць пэўную нагрузку і надаюць сказанаму асаблівы каларыт і афарбоўку. Згадаем некаторыя з іх: «бліскоціўся», «выш», «цьмяная шарата», «вестчына», «чужачая», «цяснеча», «неадрозная», «згубніца», «зацень», «наўхап», «сельмашня», «кмеціна», «сыходны», «сполашна», «шчымотна», «дзяркатая», «выспіна», «п'яны у дрызіну» і іншыя. Няцяжка здагадацца, што назва твора мае пэўны падтэкст. Гэта вынікае з эпізода, пра які апавядаецца ў аповесці. Перад тым як спаліць дом, у якім жыве паліцай, Хрол бярэ яго на замок. Такім чынам здраднік апынаецца ў пастцы і не можа выбрацца з агню. Чарнобыльская зона і людзі, якія вымушаны ў ёй жыць, таксама знаходзяцца ў пастцы і сталі ў нейкім сэнсе заложнікамі катастрофы на АС.

Заканчваецца вершаваная аповесць М. Мятліцкага «Замкнёны дом» тым, што яе галоўны герой самалётам выпраўляецца ў Краснаярск, які стаў яму другім родным домам.

Гэты буйны твор працягвае традыцыі эпапеі Я. Коласа «Новая зямля». Напісаны ён размашыста, энергічна, з размоўна-гутарковай інтанацыяй і ўзвышанасцю, характэрнай для гістарычных былін і добрым веданнем усяго таго, што звязана з Чарнобыльскай катастрофай, якую можна лічыць катастрофай веку, што адбылася ў мірны час і вынікі якой мы адчуваем і сягоння. Паэт гаворыць пра гэта на поўны голас, але не перацiскаючы там, дзе згадваюцца смяротныя дозы бекерэлія і небяспека, у якой жывуць людзі, але і не імкнецца адрэтушыраваць, замаскіраваць тое, што мы называем негатывам. Час ад часу ён заглыбляецца ў далёкае і недалёкае мінулае, згадвае пра тое, якія мітрэнгі адбываліся з сем'ямі і людзьмі ў перадваенны час, прыводзячы столькі падрабязнасцяў, якіх хапіла б яшчэ на адну аповесць. Расказвае аўтар і пра тое, як аднавяскоўцы жылі ў гады фашысцкай акупацыі, як «пятнаццаць сем'яў гналі ранкам тым. Іх горкі май праводзіў чорным цветам, нібы казаў ахвярніцам-кабетам, мужчынам іх і дзецям — вам, святым, павечна жыць у царстве небным Бога. А катам — не даруецца нічога!» Перад намі, як на далоні, драматычныя падзеі палескай вёскі на крутых гістарычных паваротах і зломах, аптымізм і ўменне людзей выбрацца з любой бяды, жыць у самых жорсткіх абставінах. Думаецца, што вершаваная аповесць «Замкнёны дом» — гэта самы значны і дасканалы мастацкі твор з прыкметамі эпічнасці пра Чарнобыльскую катастрофу.

Што тычыцца паэтычнага набытку паэта, можна сказаць, што ён уяўляе сабой калі не мацярык, то архіпелаг са сваёй атмасферай, ландшафтам, фаўнай і флорай, цудоўнымі мясцінамі, якія вабяць вока, лагодзяць і лечаць душу, робяць чалавека чулым і спагадлівым, дапамагаюць яму адклікацца на чужое гора, прыходзіць на дапамогу іншым. Думаецца, што творчасць Міколы Мятліцкага вартая глыбокага вывучэння і ўсебаковага аналізу, навуковых даследаванняў і дысертацый.

Вершаваная аповесць «Замкнёны дом» створана ў традыцыйнай манеры, карціны вясковага жыцця і побыту выпісаны размашыста і ярка і паўстаюць перад намі ў разнастайных фарбах і колерах.

Але памер артыкула вымушае абмежавацца апошнім прыкладам, які дазваляе падвесці пэўную рысу пад сказаным: «Там, дзе сэрца сцiналі пакуты, безнадзейнай тугой не згасаў. У Чарнобыль ахвярна закуты, гэты верш перагорклы пісаў». Думаецца, аўтар не пакрыўдзіцца, калі скажам, што «у Чарнобыль ахвярна закуты» аўтар пісаў не верш, а вялікае эпічнае палатно, прысвечанае ядзернай трагедыі і катастрофе, нязломнасці чалавечага духу і характару.

*Мая прафесія*

Ірына КЛІМКОВІЧ




# ПУНКТ АДПРАЎКІ — СТАЛЬНАЯ МАГІСТРАЛЬ

***Мала хто з нас не карыстаўся чыгункай. Два апошнія стагоддзі чыгунка вызначала лёсы дзяржаў. Нягледзячы на тое, што сучасныя людзі могуць выбіраць розныя транспартныя сродкі, беларуская чыгунка — па-за канкурэнцыяй. Чаму? Яна звязвае дзяржавы, дазваляе хутка і камфортна даставіць пасажыраў або грузы ў самыя аддаленыя месцы. Перасоўванне цягніком максімальна бяспечнае, так вандруюць тыя, хто не рызыкуе карыстацца самалётам — больш хуткім транспартам, але і больш небяспечным.***

***Афіцыйна народзіны Беларускай чыгункі — лістапад 1871 года, калі ў эксплуатацыю ўступіла магістраль — Смаленск—Орша—Мінск—Брэст. З гэтага часу рух цягнікоў у Беларусі пачаў імкліва развівацца, з'явілася запатрабаванасць у чыгуначніках. Карыстаюцца попытам такія прафесіі і сёння. Сфера іх дзейнасці разнастайная — ад цяжкай працы па ўкладцы і рамонце чыгункі і саставаў да высокай кваліфікацыі машыніста і памочніка машыніста. Для таго, каб атрымаць чыгуначныя спецыяльнасці, трэба прайсці навучанне ў адпаведным каледжы. Сёння гаворка пойдзе пра адзін з іх — Мінскі дзяржаўны прафесійна-тэхнічны каледж чыгуначнага транспарту імя Я. П. Юшкевіча.***

## ГАРТАЮЧЫ СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ

Гісторыя МДПТК чыгуначнага транспарту імя Я. П. Юшкевіча бярэ свой пачатак з 1922 года. Пасля заканчэння грамадзянскай вайны на базе Аляксандраўскай, Маскоўска—Балтыйскай і Маскоўска—Віндава—Рыбінскай чыгункі была створана Маскоўска—Беларуска—Балтыйская дарога. Яна ахапіла большую частку тэрыторыі БССР. Увосень 1922 года пры Мінскіх майстэрнях была створана Мінская школа вучнёўства. З моладзі і падлеткаў сфарміравалі дзве групы — сталярную і слясарную. З 1928 года тэрмін навучання ў школе складаў два гады, тут можна было атрымаць сярэднюю адукацыю. З гэтага часу ў школе пачалі рыхтаваць памочнікаў машыніста паравоза. З 1935 года навучальная ўстанова ўжо называлася фабрычна-завадскім вучылішчам чыгуначнікаў. У 1940 г. яна была ўключана ў сістэму Дзяржаўных працоўных рэзерваў і перайменавана ў чыгуначнае вучылішча № 1 г. Мінска. З 1929 па 1940 гады калектыў школы, а затым і вучылішча ўзначальваў адзін з першых выпускнікоў установы **Лаўрэнцій Іосіфавіч Райко**. У 1941 годзе ён добраахвотнікам сышоў на фронт і загінуў пры абароне Магілёва. У 1941—1944 гады навучальная ўстанова знаходзілася ў эвакуацыі на станцыі Бузулук Арэнбургскай чыгункі. Тут навучэнцы не толькі засвойвалі прафесіі, але і рамантавалі рухомы састаў, выпускалі боепрыпасы, дапамагалі на ўбор-

цы ўраджаю, займаліся вайсковай падрыхтоўкай, збіралі сярод мясцовага насельніцтва для франтавікоў цёплыя рэчы.

Многія выпускнікі тых часоў падчас вайны працавалі ў падмаскоўных паравозных дэпо, а затым былі залічаны ў Калоны Асаблівага рэзерву Наркамата шляхоў зносін СССР. Іх асноўнай задачай была дастаўка вайскоўцаў і грузаў на прыфрантавыя ўчасткі. Шмат хто стаў Ганаровым чыгуначнікам, быў узнагароджаны ордэнамі і медалямі. Сярод іх — адна з першых у свеце жанчын-машыністаў **Марыя Гольдштэйн** і яе муж **Леанід Арыстаў**. Звання Героя Савецкага Саюза былі ўдастоены такія выпускнікі, як **Аляксандр Бурак**, **Рыгор Дольнікаў** і **Аляксандр Лабанаў —** усе яны ў гады вайны зрабіліся лётчыкамі-асамі.

Пасля вызвалення Мінска ад нацыстаў у 1944 годзе чыгуначнае вучылішча было адноўлена. Спачатку яно месцілася ў драўляных бараках каля вакзала, а затым пераехала ў двухпавярховы будынак непадалёк ад вагонарамонтнага завода. Павялічылася колькасць навучэнцаў, з'явіліся новыя спецыяльнасці: электразваршчыкі, брыгадзіры па эксплуатацыі і рамонце чыгункі, электраманцёры сігналізацыі, цэнтралізацыі і блакіроўкі. У пасляваенны перыяд некаторыя выпускнікі вучылішча сталі кіраўнікамі прадпрыемстваў, навукоўцамі, міністрамі, военачальнікамі. Сярод іх — міністр прамысловага будаўніцтва БССР у 1950—1960 гады, Герой Сацыялістычнай Працы **Іван Жыжаль**, генерал-палкоўнік авіяцыі, намеснік Камандуючага ВПС Узброеных Сіл СССР у 1980 годзе, Герой Савецкага Саюза **Рыгор Дольнікаў,** прарэктар БДУ у 1970—1980 гг. **Аляксандр Малышаў** і іншыя.

У 1963 годзе ў сувязі з рэарганізацыяй сістэмы прафтэхадукацыі чыгуначнае вучылішча пераўтворана ў ДПТВ № 34. Уводзяцца новыя спецыяльнасці: праваднік пасажырскіх вагонаў, таварны, білетны і багажны касір, слесар па рамонце электраабсталявання вагонаў, агляддчык-рамонтнік вагонаў. Насталі 1970-я гады, час росквіту будатрадаў. Менавіта тады ў вучылішчы былі створаны будаўнічыя атрады «Блакітны экспрэс», «Магістраль», «Беларусь». Пры іх дапамозе былі ўзведзены новыя будынкі вучэбнага корпуса і інтэрнат вучылішча, а таксама мемарыяльныя збудаванні ў Заслаўі, Чырвоным, Станькава, на перагоне Фаніпаль—Койданава. З 1979 года ў навучальнай установе з'явіліся групы на базе васьмі класаў, дзе падлеткі атрымлівалі сярэднюю адукацыю. Увесну 1980 года калектыў вучылішча пераехаў у новы прасторны корпус па вуліцы Сямашка. У 1960—1970 гады тут вучыліся многія будучыя знакамітасці, якія займалі кіруючыя пасады не толькі ў галіне Беларускай чыгункі, але і ў іншых сферах.



*Эмблема каледжа.*

З 1984 года вучылішча называецца ўжо СПТВ № 103. У 1988 яно было прызнана лепшым сярод іншых чыгуначных вучылішчаў СССР і ўзнагароджана срэбным медалём ВДНГ за дасягненні ў галіне адукацыі. У 1991 годзе СПТВ № 103 пераўтвараецца ў Мінскае вышэйшае прафесійнае вучылішча чыгуначнага транспарту. З 1992 па 2000 гады на базе вучылішча дзейнічаў чыгуначны факультэт Інстытута сучасных ведаў, дзе спецыяльна для Беларускай чыгункі рыхтавалі эканамістаў-менеджэраў. З 1997 года ў вучылішчы арганізавана аддзяленне сярэдняй спецыяльнай адукацыі з групамі дзённага і завочнага навучання. У ліпені 2001 года вучылішча пераўтворана ў каледж, тут пачалі весці падрыхтоўку па дзвюх ступенях навучання: прафесійна-тэхнічнай і сярэдне-спецыяльнай. З 2004 года каледж набывае імя былога начальніка Беларускай чыгункі **Яўгена Паўлавіча Юшкевіча.** Гэты выбітны чалавек шмат зрабіў для Беларускай чыгункі. У яго бытнасць былі электрафікаваны важнейшыя яе ўчасткі: Мінск—Барысаў, Мінск—Стоўбцы, Мінск—Асіповічы, пабудаваны Палац культуры і спорту чыгуначнікаў у Мінску. У яго гонар названы электравоз.

Сёння ў каледжы на дзённай форме навучання атрымліваюць веды і прафесію больш за 800 будучых спецыялістаў лакаматыўнай, вагоннай і пуцявой гаспадаркі. Навучальная ўстанова карыстаецца вялікай папулярнасцю сярод абітурыентаў. Штогод сюды прыходзіць шмат маладых людзей, якія мараць пра прафесію чыгуначніка.



*Дырэктар каледжа — Уладзімір Мікалаевіч Русак.*

### IX ЗАДАЧА — ЗАПАЛІЦЬ ЗЯЛЁНАЕ СВЯТЛО

Цяперашні дырэктар каледжа **Уладзімір Мікалаевіч Русак** аддаў сістэме прафесійна-тэхнічнай адукацыі 35 гадоў. А пачынаў свой працоўны шлях з майстра вытворчага навучання ў 31-м вучылішчы, дзе рыхтавалі будучых аўтамабілістаў, аўтаслесараў і аўтакранаўшчыкоў. Трэба сказаць, што тэхніку Уладзімір Русак любіў з дзяцінства, перадалося ад бацькі-кіроўцы. Гэта і паўплывала на далейшы лёс Уладзіміра Мікалаевіча. Ён скончыў тады яшчэ Беларускі політэхнічны інстытут па спецыяльнасці «Аўтамабілі і аўтагаспадарка». У розныя часы двойчы быў накіраваны на працу ў Анголу, дзе дапамагаў рыхтаваць мясцовых спецыялістаў. У 1994 годзе Уладзімір Русак узначаліў 148-е сталічнае прафтэхвучылішча будаўнікоў, дзе адным з накірункаў падрыхтоўкі быў аўтамабільны. Праўда, іншая навучальная ўстанова, якой потым кіраваў У. Русак, спецыялізавалася на прыборабудаўніцтве, але гэта не перашкодзіла яго захапленням. Пэўны час Уладзімір Мікалаевіч нават выкладаў такі прадмет, як «Тэхнічная эксплуатацыя і рамонт аўтамабіляў». Але сумяшчаць выкладанне з дырэктарскімі абавязкамі — складаная і няўдзячная справа. Таму ўвесь свой вольны час, а яго ў дырэктара з-за працы не так і шмат, ён аддае аўтамабілям: уласнаму і службоваму. Заўсёды знойдзецца, што адрамантаваць!

Мінскі каледж чыгуначнікаў Уладзімір Мікалаевіч узначальвае з 2010 года, але ён ужо зарэкамендаваў сябе як дасведчаны кіраўнік і менеджэр, знаўца наземнай транспартнай тэхнікі. Ён прафесійна арыентуецца ў эканоміцы і будаўніцтве, дасканала ведае вучэбны і выхаваўчы працэс, псіхалогію. Цудоўна ўсведамляе, што ад яго залежыць поспех усёй навучальнай установы. У яго планах заняцца рамонтам некаторых карпусоў каледжа і інтэрната, зрабіць усё, каб альма-матэр адпавядала патрабаванням, якія прад'яўляюцца да навучальных устаноў такога кшталту.

**— Уладзімір Мікалаевіч, раскажыце, калі ласка, каго рыхтуе каледж і як можна стаць ягоным навучэнцам?**

— Мы рыхтуем спецыялістаў розных накірункаў. На першым узроўні адукацыі, прафесійна-тэхнічным, можна атрымаць такія спецыяльнасці, як памочнік машыніста цеплавоза і памочнік машыніста электравоза, праваднік пасажырскіх вагонаў, касір, слесар па рамонце рухомага саставу, паяздны электрамеханік і манцёр пуці. На другім узроўні — сярэдне-спецыяльнай адукацыі — рыхтуюць спецыялістаў, якія займаюцца эксплуатацыяй і рамонтам вагонаў, цягавага рухомага саставу, чыгуначных пуцей і пуцявой гаспадаркай. Трэба адзначыць, што групы на гэты ўзровень набіраюцца з ліку тых навучэнцаў, хто мае прафтэхадукацыю чыгуначнага профілю. Скончыўшы каледж, яны могуць працаваць кіраўнікамі сярэдняга ўзроўню або рабочымі высокіх разрадаў.

У апошні час папулярнымі сталі прафесіі памочнікаў машыністаў, праваднікоў пасажырскіх вагонаў (тут больш за ўсё навучэнцаў) і касіраў. Самы маленькі конкурс на



*Будучыя праваднікі.*

пуцейных манцёраў. Цяжкая фізічная праца і патрабаванні па здароўі многіх адпужваюць. Натуральна, што прафесію праваднікоў і білетных касіраў прыходзяць атрымліваць амаль адны дзяўчаты, але трапляюцца і хлопцы. Апошнія выбіраюць больш мужчынскія прафесіі: памочнікаў машыністаў, манцёраў, слесараў, электрамеханікаў. Што да набору, былі розныя формы. Раней мы практыкавалі тэсты па фізіцы і матэматыцы. Хлопцы здавалі фізіку, а хто жадаў стаць праваднікам і білетным касірам — матэматыку. Але сёлета тэсты адмянілі. Па-першае, дэмаграфічная сітуацыя — усё менш і менш робіцца навучэнцаў, па-другое, многіх палохалі самі тэсты. У выніку, цяпер у нас конкурс атэстатаў.

**— Стан здароўя абітурыентаў таксама ўлічваецца пры паступленні?**

— Безумоўна, тут у нас самыя высокія патрабаванні. Праца чыгуначніка, як правіла, звязана са складанымі ўмовамі. Яна ажыццяўляецца на працягу сутак, пры любым надвор'і. Нашым абітурыентам неабходна месць жалезнае здароўе, для пацверджання якога патрабуецца медыцынская даведка. Таму для іх галоўны іспыт — у чыгуначнай паліклініцы. Асабліва гэта тычыцца тых, хто жадае стаць памочнікамі машыністаў, манцёрамі пуці. Яны, апроч стандартнага медыцынскага агляду, павінны прайсці псіхадыягностыку, прынесці даведку з наркалагічнага дыспансэра. У каледжы ёсць педагог-псіхолаг, які правярае абітурыентаў па той жа методыцы, што і машыністаў у дэпо.

**— Шмат гавораць пра адметную методыку выкладання ў каледжы. Што яна з сябе ўяўляе?**

— Адзін з маіх папярэднікаў, доктар педагагічных навук, прафесар **Генадзь Васільевіч Серкуцьеў**, які кіраваў каледжам дваццаць адзін год, распрацаваў і ўвёў у адукацыйны працэс тэхналогію «Паглыблення ў змест вучэбнага прадмета». Сутнасць яе ў тым, што ў кожнай групе праводзяцца чатырохгадзінныя заняткі па двух прадметах у дзень з перапынкамі кожныя 80 хвілін. Паміж вучэбнымі блокамі адбываецца адзін выхаваўчы занятак, падчас якога навучэнцы займаюцца спортам, мастацкай самадзейнасцю, дэкаратыўна-прыкладной і тэхнічнай творчасцю, абедаюць. За чатыры акадэмічныя гадзіны паспяваеш дасканальна раскрыць тэму, застаецца час для замацавання і прымянення вучэбных матэрыялаў, для праверкі і кантрольных. Цяпер і за межамі Беларусі шмат якія ўстановы адукацыі выкарыстоўваюць элементы гэтай тэхналогіі.

Другая асаблівасць нашай сістэмы — штораніцы ў каледжы праводзяцца дзесяціхвілінныя лінейкі. Гэта робіцца для большай арганізаванасці навучэнцаў. Падчас лінейкі правяраецца наяўнасць чыгуначнай формы (яна абавязковая для ўсіх, у тым ліку і для педагогаў), падручнікаў, прысутнасць навучэнцаў. Карацей, высвятляецца падрыхтоўка да заняткаў. Майстры вытворчага навучання ўсё аналізуюць і тут жа аператыўна прымаюць пэўныя меры. Каб павысіць паспяховасць, раз на два месяцы ў каледжы праводзіцца прамежкавая атэстацыя. У гэты дзень скарачаюцца заняткі, у навучэнца з'яўляецца магчымасць сустрэцца з выкладчыкамі, з'арыентавацца ў ведах, скарэктаваць іх, спланаваць вынікі. Калі

ёсць недахопы, атрымаць дадатковае заданне і выправіцца.

Такія моманты ў каледжы адсочвае і ўвогуле кіруе раскладам заняткаў, займаецца арганізацыяй алімпіяд і конкурсаў адметны прафесіянал сваёй справы, намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце **Наталля Эдуардаўна Зімніцкая**.

**— Скажыце, а ці ўсе выпускнікі каледжа знаходзяць працу па спецыяльнасці пасля заканчэння вучобы?**

— Яшчэ адной асаблівасцю навучальнай установы з'яўляецца стопрацэнтнае працаўладкаванне выпускнікоў. Мы працуем па дамове з Мінскім аддзяленнем Беларускай чыгункі. Інакш кажучы, нашым навучэнцам знойдзецца месца не толькі для правядзення вытворчай практыкі, але і для далейшай працы. Штогод мы робім набор па заяўках чыгункі. Таму ўсе нашы выпускнікі запатрабаваны. Нават з метро супрацоўнічаем. Па меры неабходнасці рыхтуем для іх машыністаў. Цяпер практычна ўсе машыністы, якія працуюць у метро — нашы.

**— Навучальны працэс у каледжы насычаны і незвычайны. Прынамсі, яго тэарэтычная частка. А як адбываецца вытворчае навучанне?**

— За гэта адказвае мой намеснік — **Дзмітрый Зігмундавіч Стурліс.** Ён наш выпускнік, вучыўся на памочніка машыніста. Пасля заканчэння Гомельскага ўніверсітэта транспарту працаваў у нас майстрам вытворчага навучання. Сваю справу ведае знутры. Вытворчае навучанне адбываецца ў тры этапы. Пачатковы — у майстэрнях каледжа, з 1-га курса. Потым ідзе асноўны этап, на базавых прадпрыемствах. Як правіла, гэта адбываецца на 2-м курсе. Базавае прадпрыемства ў нас адно — Мінскае аддзяленне Беларускай чыгункі. Яго аддзяленні знаходзяцца і ў Оршы, і ў Маладзечна, і ў сталіцы. У апошняе ўваходзяць Мінскі вагонарамонтны завод, тры мінскія дэпо (лакаматыўнае, вагоннае і маторавагоннае), станцыя Мінск-Пасажырскі, вагонны ўчастак, будаўніча-мантажны поезд і Мінская станцыя сігналізацыі і сувязі. Плюс да ўсяго, шмат практыкі за межамі сталіцы. Практычна па ўсёй Беларусі, апроч Гомельскага рэгіёну — там свае навучальныя ўстановы. Мы стараемся ісці насустрач нашым навучэнцам. Калі хто-небудзь прыехаў да нас на вучобу, мы імкнёмся накіраваць яго на практыку ў родныя мясціны.

Выпускнікі праходзяць заключны этап вытворчай практыкі. Ён дастаткова працяглы. Так, у праваднікоў пасажырскіх вагонаў практыка цягнецца паўгады: пачынаецца ў канцы снежня, а заканчваецца толькі ў чэрвені. А ў памочнікаў машыністаў гэты перыяд расцягваецца на восем месяцаў. Тут яшчэ адна асаблівасць. Мы, напэўна, адзіныя ў СНД, хто рыхтуе памочнікаў машыністаў на два віды цягі — для цеплавозаў і электравозаў. Звычайна іншыя навучальныя ўстановы арыентуюць на нешта адно. А на нашых чыгуначных прадпрыемствах запатрабаваны менавіта тыя, хто можа працаваць як на цеплавозе, так і на электравозе. Дарэчы, усе навучэнцы за сваю працу на заключным перыядзе практыкі атрымліваюць грошы. Гэта стымулюе. А як жа інакш? Калі чалавек не працуе па-даросламу, ён дарослым і не стане.



*Мікалай Ляшкевіч з навучэнцамі ў кабіне электравоза.*



*У слясарнай майстэрні.*

**— У каледжы шмат майстэрняў і спецкабінетаў, дзе навучэнцы здабываюць першапачатковыя навыкі.**

— У кабінеце «Электравозы і электравозная гаспадарка» знаходзіцца вучэбны трэнажор, які мадэлюе працоўнае месца машыніста электравоза. У камп’ютар уведзены рэальны ўчастак ад Баранавічаў да Оршы. Калі садзішся за манітор, ствараецца ўражанне, быццам ты едзеш на цягніку. Можна задаць любыя параметры: вагу электравоза, хуткасць, тармажэнне, надвор’е, сігналы. Нават людзі праз рэйкі бегаюць. Так навучэнцы трэніруюцца і засвойваюць прафесію. Для праваднікоў зроблена спецыяльная вучэбная майстэрня, дзе размешчана ўнутранае абсталяванне пасажырскіх вагонаў. Тут і сапраўдны электрашчыт, і кацёл для нагрэву вады дровамі, і вентыляцыйная сістэма, і вагонныя паліцы. Ёсць у каледжы і сапраўдны пасажырскі вагон, падараваны Беларускай чыгункай. Ён падзелены на некалькі адсекаў, дзе прадстаўлены розныя віды вагоннага сервісу: купэ, плацкарта, ёсць нават нумар на дваіх з больш камфортнымі ўмовамі. Тут будучыя праваднікі адпрацоўваюць запраўку бялізны і абслугоўванне пасажыраў. Раней у вагоне быў вучэбны клас, цяпер майстэрня. Яшчэ тыя, хто вучыцца на памочнікаў машыніста і на паяздных электрамеханікаў, праходзяць вытворчае навучанне ў электрамантажнай майстэрні. Ім пры выхадзе на практыку неабходна мець трэцюю групу допуску па электрабяспецы. Гэта ўзровень, калі чалавек дапускаецца да працы на электраўстаноўцы ў 1000 вольт. А ў цягніках, як вядома, вялікае напружанне. Паяздныя электрамеханікі абслугоўваюць пасажырскія цягнікі разам з праваднікамі. Толькі праваднікоў у кожным вагоне па адным, а электрамеханік — адзін на ўвесь састаў. Ён нефармальна з’яўляецца і памочнікам начальніка цягніка, і адказвае за ўсё электраабсталяванне.

У майстэрні лакаматыўнай гаспадаркі асобна праходзяць вытворчае навучанне памочнікі машыністаў. Майстэрня абсталявана як сапраўдны лакаматыў. Тут знаходзіцца ўся механіка цеплавоза, нават маленькі дызель ёсць. Навучэнцы, каб даведацца, як працуе лакаматыў, падчас практыкі гаечным ключом разбіраюць і збіраюць яго абсталяванне, вывучаюць магчымыя паломкі. Каб стаць памочнікам машыніста, трэба мець трэці разрад слесара. Таму спачатку мы навучаем нашых спецыялістаў слясарным навыкам, а потым вучым і на памочнікаў машыніста. Дзеля гэтага ў каледжы маюцца слясарная і сталярная майстэрні. У апошняй займаюцца будучыя столяры-слесары, якія пасля заканчэння каледжа займаюцца рамонтам унутранага абсталявання пасажырскіх вагонаў. Аглядчыкі — тыя, хто рыхтуе цягнік у дарогу і на кожнай станцыі прастуквае яго малаточкам, — таксама пачынаюць са слясарнай майстэрні. Манцёры пуці трэніруюцца ў майстэрні пуцявой гаспадаркі і на вучэбным палігоне, які знаходзіцца ў двары каледжа. Тут пракладзены сапраўдныя шпалы з рэйкамі і стрэлачнымі пераходамі.

Каб пазнаёміцца з гісторыяй каледжа, яго былымі дырэктарамі і педагогамі, паглядзець макеты паравозаў і лакаматываў, зробленыя рукамі навучэнцаў, будучыя чыгуначнікі могуць наведаць музей. Ім загадвае **Яўген Іванавіч Валасных**, журналіст са стажам, пастаянны аўтар газеты «Чыгуначнік Беларусі».

— **Уладзімір Мікалаевіч, кіравацьскладанай гаспадаркай цяжка, аднаму не справіцца, трэба дапамога.**

— Безумоўна. У каледжы працуюць творчыя і дасведчаныя людзі. Дзякуючы ім, мы ўдзельнічаем у прафесійных конкурсах і спартыўных спаборніцтвах, перамагаем, маем узнагароды. Некаторых сваіх наменікаў я вам ужо называў. Хацеў бы ўзгадаць яшчэ самых заслужаных, хто працуе не адзін дзясятак гадоў. З выкладчыкаў гэта **Ірына Віктараўна Кандрацьева,** яна аддала каледжу каля 40 гадоў і выкладае агульнапрафесійныя прадметы. **Леанід Аляксандравіч Рагалевіч,** выпускнік нашай навучальнай установы, больш за трыццаць гадоў выкладае спецтэхналогію для пуцейцаў. Гэта складана. **Галіна Іванаўна Ганчарэнка** таксама выкладае больш за 30 гадоў, і таксама наша выпускніца. Яна выкладчык, працуе з будучымі праваднікамі, у яе шмат вучняў, якія дасягнулі ў жыцці значных поспехаў.

Шмат зрабілі для каледжа і нашы майстры вытворчага навучання. Усіх пералічыць немагчыма, назаву толькі некаторых з іх. Гэта **Мікалай Харытонавіч Навіцкі, Станіслаў Арсеньевіч Касцюк, Генадзь Уладзіміравіч Варабей, Аляксандр Уладзіміравіч Сосік.** Усе яны нашы выпускнікі і працуюць тут даўно, выпусцілі не адно пакаленне дасведчаных чыгуначнікаў. **Мікалай Уладзіміравіч Ляшкевіч** сам не вучыўся ў гэтых сценах, але працуе ў нас даўно, рыхтуе памочнікаў машыністаў. Мікалай Уладзіміравіч увогуле фігура неардынарная, рацыяналізатар, займаецца з навучэнцамі тэхнічнай творчасцю. Разам яны робяць стэнды, якія потым выкарыстоўваюцца як дапаможнікі ў навучальным працэсе. Адзін з такіх вісіць у майстэрні вагоннай гаспадаркі, па ім будучыя спецыялісты даведваюцца, як у кожным вагоне спрацоўваюць пнеўматычныя тармазы. Другі стэнд уяўляе сабой электронную схему аляплення вагона. Усе стэнды робяцца ў гуртках тэхнічнай творчасці і дапамагаюць навучэнцам лепш засвоіць вучэбны матэрыял.

— **Напэўна, у такіх выдатных педагогаў не менш выдатныя і таленавітыя вучні?**

— Ёсць і такія. У першую чаргу хачу прыгадаць **Аляксея Савіча**, які скончыў наш каледж у снежні 2010 года. Ён з дынастыі чыгуначнікаў, яго бацька працаваў машыністам. Цяпер сын выбраў тую ж прафесію. На дзяржіспытах яго адказы былі самымі лепшымі. Пакуль ён працуе ў лакаматыўным дэпо Мінск, але начальства плануе перавесці яго на пасажырскі рух. А гэта вельмі адказна, усё-ткі вязеш людзей. Выпускнікам давяраюць такое не адразу, а толькі пасля палутарагадовай працы ў дэпо ці на грузаперавозках.

З цяперашніх вучняў хочацца назваць **Аляксея Курмаса** і **Яўгена Фядуру**, таксама вельмі адукаваных і адказных хлопцаў, будучых памочнікаў машыніста. Лепшая з дзяўчынак — **Маша Дарашэнка** — наша будучая праваднiца. Усе яны выбітныя не толькі па прафесіі, але актыўна ўдзельнічаюць і ў грамадскім жыцці. Так, Маша і Яўген не прапускаюць ніводнага канцэрта і конкурса па мастацкай самадзейнасці, займаюць прызавыя месцы.



*У музеі каледжа.*

**— Вашы пажаданні будучым абітурыентам каледжа, што ад іх патрабуецца?**

— Ад выпускнікоў нашага каледжа залежыць бяспека руху цягнікоў. Тут павінны вучыцца вельмі адказныя людзі. Так што адказнасць будучых чыгуначнікаў — самая неабходная якасць. Другое, хто ідзе вучыцца на праваднікоў, хай не думае, што гэта лёгка. Быццам, калі вы апранулі прыгожую форму, то адразу і сталі прафесіяналамі. Трэба заўсёды памятаць, праца праводніка пасажырскага вагона — цяжкая і часам няўдзячная. Трэба і прыбіраць у вагонах, і абслугоўваць пасажыраў. А ў іх розныя характары, псіхалогіі. Да таго ж, гэта праца ўдзень і ўначы. Таму ў будучых праваднікоў павінны быць жалезныя нервы і такое ж здароўе. Дый не толькі ў праваднікоў, жалезнае здароўе павінна быць ва ўсіх чыгуначнікаў. На заканчэнне дадам: той, хто абірае прафесію чыгуначніка, павінен быць тэхнічна адукаваным, ведаць матэматыку і фізіку. Таму што яго праца звязана з электрычнасцю і тэхнікай. А апошняя мае тэндэнцыю ўдасканальвацца і ўскладняцца.

**— Дзякуй за размову**.

*На гэтым можна было б і скончыць. Але, паколькі наш часопіс прысвечаны ў асноўным беларускай літаратуры, хацелася б нагадаць чытачам імёны некаторых айчынных творцаў, якія спачатку мелі справу з чыгункай і толькі потым здабылі літаратурную славу.*

**Вячаслаў Адамчык** — пісьменнік. Нарадзіўся 1 лістапада 1933 года ў вёсцы Варакомшчына Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння сямігодкі працаваў грузчыкам на станцыі Наваельня. Вось як ён успамінаў гэтыя гады ў творы «Крэскі з аўтабіяграфіі»: «На чыгуначнай станцыі Наваельня грузіў цэмент, соль, гарэлку, кавуны. З таго часу люблю пах мазуту, свісток счэпшчыка, раптоўны лязгат вагонаў, белы саладкаваты дым ад чорных паравозаў...»

**Юрый Багушэвіч** — пісьменнік, перакладчык. Нарадзіўся 5 мая 1917 года ў Оршы ў сям'і чыгуначніка. Пісаў пераважна на рускай мове. Аўтар аповесцей «Побратимы» (1955), «Дерево дружбы» (1959), «В городке над Нёманом» (1973) і інш.

**Васіль Барысенка** — пісьменнік, навуковец. Нарадзіўся 25 красавіка 1904 года ў горадзе Барысаве Мінскай вобласці ў сям'і чыгуначніка. Працоўны шлях пачаў рабочым на чыгунцы. Акадэмік АН БССР, доктар філалагічных навук, прафесар.

**Міхась Башлакоў** — паэт. Нарадзіўся 27 красавіка 1951 года ў пасёлку Станцыя Церуха (цяпер вёска Баштан) Гомельскага раёна ў сям'і чыгуначніка.

**Янка Брыль —** народны пісьменнік БССР. Нарадзіўся 4 жніўня 1917 года ў горадзе Адэсе ў сям'і чыгуначніка. Бацька з ранняй маладосці і амаль да самай смерці працаваў на чыгунцы праваднікам.

**Эдуард Валасевіч** — пісьменнік. Нарадзіўся 12 сакавіка 1918 года ў горадзе Магілёве ў сям'і чыгуначніка. Спачатку вучыўся ў чыгуначнай сямігодцы. У 1935—1936 гадах працаваў грузчыкам на чыгунцы. З 1941 года — на фронце. Быў цяжка паранены ў 1943 годзе. З 1944 года выкладаў фальклор і рускую літаратуру ў Магілёўскім педінстытуце. У 1952 годзе пераехаў у Мінск. Працаваў у часопісах «Полымя», «Вожык», у Белдзяржфілармоніі.

**Яўген Васілёнак** — пісьменнік, журналіст. Нарадзіўся 26 снежня 1917 года ў горадзе Оршы ў сям'і чыгуначніка. Сярэднюю адукацыю атрымаў у Аршанскай чыгуначнай школе. У 1934—1935 гадах вучыўся ў Магілёўскім педагагічным інстытуце на літаратурным факультэце. Працаваў у рэдакцыях раённых і гарадскіх газет Шклова, Барысава, Багушэўска, Оршы. Ваяваў. У 1945—1948 гадах быў карэспандэнтам маскоўскай чыгуначнай газеты «Гудок», у 1958—1966 гадах — галоўны рэдактар часопіса «Нёман».




## Старонка мінулага

### БЯРОЗА

*На берагах тваіх мурожных*
*Сузор'ем кветкі расцвілі.*
*Але чаму ж тады трывожна*
*крычаць у небе жураўлі?*

*Няўжо іх сэрцам тое ж блізка,*
*Што стала болем для мяне?*
*Няўжо, як мне, ім абеліскі*
*Напамінаюць аб вайне?*

*Я — на зямлі, а птахі — ў высі*
*Адчулі разам неспакой,*
*Не абмінаем абеліскі,*
*Не абыходзім стараной.*

*Спяць ля бярозы партызаны,*
*Здаецца, пpыляглі на час.*
*О, адпусціце іх, паляны,*
*Дамоў са службы. У запас.*

*Яны за клінам жураўліным*
*Пайшлі б у сонечную даль…*
*Стаю. Не гаснуць успаміны,*
*Як не змаўкае голас хваль.*

**Мікола МЯТЛІЦКІ**

*«Маладосць» № 5 — 1971 г.*

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## МІНСКІ РАЁН

**Гарадскі пасёлак Заслаўе**, цэнтр пасялковага савета

Вуліцы **Коласа Якуба, Купалы Янкі**.

**Будны Сымон,** беларускі гуманіст, асветнік, рэлігійны рэфарматар, філосаф, сацыёлаг, гісторык, ураджэнец в. Буды ў Мазовіі (Польшча) працаваў тут у мінскага кашталяна Я. Глябовіча ў 1570—1571 гг. Можа быць, сюды пасля смерці Мікалая Радзівіла Чорнага перанёс пасля 1571 г. сваю друкарню **Кавячынскі Мацей** з Нясвіжа.

**Кіркор Адам,** гісторык, археолаг, этнограф, выдавец, ураджэнец в. Слівіна Манастыршчынскага р-на Смаленскай вобл. (Расія), саставіў пераказ гісторыі горада ў кнізе «Жывапісная Расія» (т. 3, ч. 1-2, 1882).

**Ласіцкі Ян** (каля 1534 — пасля 1599), польскі гісторык, бібліёграф, пратэстанцкі рэфармацыйны дзеяч апошнія гады жыцця правёў у Заслаўі. Быў настаўнікам і выхавальнікам сыноў мінскага кашталяна Я. Глябовіча ў Вільні. Пісаў на лацінскай мове. Аўтар працы «Пра рэлігію, ахвярапрынашэнне, вясельныя і пахавальныя абрады русінаў, маскавітаў і татараў...» (1582). Яго твор «Пра багоў самагітаў, іншых сарматаў і несапраўдных хрысціян» (1615) прысвечаны язычніцкім вераванням жыхароў тагачаснай Літвы.

**Лянчыцкі Даніэль,** друкар, ураджэнец Польшчы, у 1571—1572 гг. друкаваў кнігі ў Заслаўі. Па запрашэнні Я. Кішкі пераехаў у Лоск.

**Сабаленка Раман,** пісьменнік, ураджэнец в. *Сабалі* Брагінскага р-на Гомельскай вобл., пахаваны на мясцовых могілках. У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла.

**Шпілеўскі Павел,** этнограф, пісьменнік, публіцыст, перакладчык, ураджэнец в. *Шыпілавічы* Любанскага р-на, пакінуў апісанне Заслаўя ў сваёй кнізе «Падарожжа па Палессю беларускаму краю».

* * *

**Станцыя Беларусь** (раней Ізяслаўль)

**Шынклера Хвядоса** (псеўд. Хв. Явар; 22.9.1903—25.10.1942), празаіка, радзіма. Нарадзіўся ў сям'і чыгуначніка. Вучыўся ў Мінскім рэальным вучылішчы. Сем гадоў (з 1919) працаваў на чыгунцы тэлеграфістам, пасля — бібліятэкарам, загадчыкам клуба.

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—7, 9—12 за 2010 г. № 1, 2, 3, 4 за 2011 г.

У 1929—1931 гг. — супрацоўнік бабруйскай газеты «Камуніст», са снежня 1931 г. — сакратар рэдакцыі транспартнай газеты «Ударнік» (Жлобін). У 1935—1941 гг. працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва» і часопісе «Полымя». У пачатку Вялікай Айчыннай вайны эвакуіраваўся ў Свярдлоўск, а ў 1942 г. пайшоў добраахвотнікам у Савецкую Армію. Загінуў пад Сталінградам. Друкаваўся з 1922 г. Аўтар кніг «Ічэ» (1929), «Стрэлачнік Мігай» (1930), «Блок» (1933), «Сонца пад шпалы» (1933), «Запіскі інструктара Томана» (1934), «Пульс жыцця» (1950, выходзіла на рускай мове ў 1942 г. у Маскве), «Выбраныя творы» (1960). Аўтар аповесці для дзяцей «Петрык-завадатар» (1935). Напісаў п'есу «Пачэсны рэйс» (апублікавана ў 1939).

**Вёска Калініна** Міханавіцкага сельсавета

**Запрудскага Ігара** (н. 14.8.1963), літаратуразнаўцы, педагога, крытыка, кандыдата філалагічных навук, радзіма. Закончыў Самахвалавіцкую СШ і філфак БДУ, дзе працуе дацэнтам. Аўтар кнігі «Нарысы беларускай літаратуры XIX стагоддзя». Выступае ў друку як крытык і публіцыст.

**Фальв. Кальзберг** (Калісберг, Карльсберг, Карсберг; сёння не існуе) Рагаўскога сельсавета

Належаў **Андрэю Снітку,** археолагу, бацьку **Ніжанкоўскай Веры**, цесцю **Тарашкевіча Браніслава**, жыхарам г. п. Радашковічы Маладзечанскага р-на. Пры гаспадары дзейнічаў навукова-літаратурны гурток, які арганізоўваў тэатральна-музычныя вечары. На адным з іх тут, у летнім тэатры з земляной сцэнай, была пастаўлена камедыя «Па рэвізію» паводле ўкраінскага пісьменніка М. Крапіўніцкага. Пры фальварку быў прыгожы парк (з часоў Радзівілаў), невялікая школа. Прыязджаючы ў фальварак, рускі мовазнавец Аляксей Шахматаў запісваў тут ад мясцовых сялян народныя гутаркі і байкі.

У Кальзберг двойчы ў 1919 г. прыязджаў з Мінска да сястры Леакадзіі Раманоўскай **Купала Янка**, сустракаўся з яе мужам — арандатарам маёнтка і яго гаспадарамі. Напісаў некалькі вершаў («Не нашым…», «Мая навука»).

**Лучына Янка**, беларускі, польскі і рускі паэт, які жыў у Мінску, у сярэдзіне 1880-х гг. удзельнічаў тут у паляваннях, потым апісаў іх у «Паляўнічых акварэльках», надрукаваных на польскай мове ў варшаўскім друку.

**Ніжанкоўскай Веры** (21.2.1901—7.5.1998), асветніцы, мемуарысткі, радзіма. Нарадзілася ў сям'і гісторыка Андрэя Сніткі. Скончыла Інстытут высакародных дзяўчат у Пецярбургу (1918). Вучылася ў Віленскім універсітэце імя Стэфана Баторыя, належала да Беларускага студэнцкага саюза. У 1923 г. выйшла замуж за беларускага грамадскага і палітычнага дзеяча **Тарашкевіча Браніслава.** Жыла ў Вільні, Радашковічах. Напісала ўспаміны пра Браніслава Тарашкевіча, Аляксандра Уласава, радашковіцкую беларускую гімназію імя Ф. Скарыны, якія друкаваліся ў перыядычным друку.

**Вёска Калодзішчы**, цэнтр сельсавета

Вуліца **Адамовіча Алеся, Броўкі Петруся, Купалы Янкі, Герцэна А., Танка Максіма, Тураўскага Кірылы.** Летам 1924 г. тут жыла М. Д. Міцкевіч у доме Лагуноўскіх.

**Вёска Каралішчавічы** Навадворскага сельсавета

**Дом творчасці пісьменнікаў «Каралішчавічы» імя Якуба Коласа** (імя прысвоена ў 1956 г.). Існаваў у 1950—1990 г. Цяпер тут дом адпачынку ААТ «Мінскпрамбуд» «На ростанях».

На будынку змешчана мемарыяльная дошка: «У гэтым доме жыў і працаваў у 1950—1956 гг. народны паэт БССР Якуб Колас». У чэрвені 1950 г. Колас прысутнічаў тут, калі **Твардоўскі Аляксандр** чытаў урыўкі са сваёй паэмы «За даллю — даль».

**Брыль Янка** ўспамінаў: «Дзядзька Якуб прыязджаў сюды ўпершыню, ён не любіў

гэтай зімовай паляўнічай дачы, зверху аддадзенай пад літаратурную творчасць, называў яе камарышчавічы...» (Брыль Янка. Накіды // Літ. і мастацтва. — 1988. — 1 студз.)

У Каралішчавічах любіў адпачываць **Лынькоў Міхась.** На палянцы ў лесе разводзіў кастры. Для яго карчавалі карчы (на іх месцы пазней разбілі клумбу). Авалодваў мата-цыклам.

У будынку створаны мемарыяльны пакой Коласа Якуба.

Каралішчавічам прысвяціла аднайменны верш **Буйло Канстанцыя. Вольскі Артур** напісаў верш «Восень, Каралішчавічы», **Грахоўскі Сяргей** — **«**Развітанне з Каралішчавічамі», **Каржанеўская Галіна** — «Вяртанне ў Каралішчавічы», **Панізнік Сяргей** — «Каралішчавічы», **Паўлаў Уладзімір** — «Згадка Каралішчавіч», **Пруднікаў Павел** — «Каралішчавічы», **Скарынкін Уладзімір** — «У Каралішчавічах», **Хведаровіч Мікола** — «У Каралішчавічах».

**Пушчы Язэпа** (сапр. Плашчынскі Іосіф; 7(20).5.1902—14.9.1964), паэта, радзіма. Вучыўся ў Каралішчавіцкім народным вучылішчы (1910—1913). Скончыў Ленінградскі ўніверсітэт (1929). Працаваў настаўнікам (1921—1926), у Інстытуце беларускай культуры (1926), Беларускім дзяржаўным выдавецтве (1929—1930). 25.7.1930 па ілжывым абвінавачванні Я. Пушча быў арыштаваны, асуджаны на 5 гадоў высылкі. Гэты прысуд, вынесены Калегіяй АДПУ 10.4.1931 г., быў адменены Вярхоўным судом БССР (30.1.1956) У 1931—1936 гг. працаваў на Урале і ў Анапе, затым ва Уладзімірскай вобласці (1937—1956). Друкаваўся з 1922 г. (ранні псеўданім Лясун). Адзін з заснавальнікаў літаб’яднанняў «Маладняк» і «Узвышша». Аўтар зборнікаў «Раніца рыкае» (1925), «Vita» (1926), «Дні вясны» (1927), «Песні на руінах» (1929), «Крывавы плакат» (1930), «Вершы і паэмы» (1960), «Пачатак легенды» (1963), «Вершы і паэмы» (1966), «На Бабрыцы» (1977), «Сады вятроў» (1982). Пахаваны на вясковых могілках. На чорным граніце — партрэт і надпіс: «Паэт Язэп Пушча (Плашчынскі) 7.5.1902—14.9.1964».

**Вёска Лысая гара** Юзуфоўскага сельсавета

Тут жылі браты Антон, Ян і Ясь Бычкоўскія, з якімі сябраваў **Купала Янка**. Спыняўся ён звычайна ў Антонія або ў старым доме Бычкоўскіх, што стаяў на самай вяршыні лысагорскага пагорка, дзе жылі Ян, Ясь і іх сястра Анэта. Купала быў у гэтай вёсцы ў маі 1906 г., калі іх арыштавалі за ўдзел у рэвалюцыйных падзеях 1906 г. У Бычкоўскіх захаваліся фота і кніга з аўтографам паэта. На фотаздымку — надпіс: «На добрую память уважаемому другу Антону Николаевичу Бычковскому посвящает Иван Доминикович Луцевич. Вильно 20/XII—1908 года», і кніга «Шляхам жыцця» з надпісам: «На добрую память Петрусю Бычковскому, Янка Купала. 29/VI—13 года, Акопы». Зараз яны знаходзяцца ў Літаратурным музеі Янкі Купалы.

У Лысую гару паэт прыязджаў з сёстрамі амаль штогод 29 чэрвеня на традыцыйны кірмаш. У святочныя дні Купала ахвотна ўдзельнічаў у розных гульнях, прысутнічаў на нелегальных сходках лысагорцаў, прывозіў забароненыя кнігі, часопісы, чытаў свае вершы і запісваў песні, паданні.

Аднайменны пасёлак, у якім знаходзяцца дачы творчай інтэлігенцыі, увекавечаны ў сатырычнай паэме «Лысая гара», напісанай яшчэ ў пачатку 1970-х гадоў і распаўсюджванай у спісах. Надрукавана яна толькі ў пачатку 1990-х гадоў мінулага стагоддзя. Да аўтарства паэмы прызналіся Ніл Гілевіч і Мікола Аўрамчык.

**Пасёлак Лясны,** з 1966 г. цэнтр Бараўлянскага сельсавета

***Бараўлянская СШ № 2***

У студзені 1972 г. тут адкрыты музей **Коласа Якуба.** У фондах — больш за 300 экспанатаў.

**Вёска Міханавічы** Кайкаўскага сельсавета

У 1960—1980-х гадах тут існаваў літгурток, на заняткі якога запрашаліся паэты Бачыла Алесь, Броўка Пятрусь, Ставер Алесь, Станіслаў Шушкевіч.

**Вёска Новы Двор** Рагаўскога сельсавета

У маладыя гады **Купала Янка** часта прыязджаў сюды да Р. Грычына.

**Вёска Паперня,** цэнтр сельсавета

**Лужанін Максім**, паэт, празаік, кінадраматург, ураджэнец в. *Прусы* Салігорскага р-на, пахаваны на мясцовых могілках. **Пфляўмбаўм Яўгенія,** паэтэса, жонка Лужаніна Максіма, пахавана там жа. На могілкі можна прайсці па пешаходным мосціку праз раку Вячу. Дарэчы, у XVII—XVIII стст. тут выраблялі паперу ў звычайным вадзяным млыне.

**Вёска Патрэба,** злілася са Ждановічамі

Летам 1925 г. **Колас Якуб** адпачываў там разам з сям'ёй у селяніна Рыгора Маркевіча, напісаў два апавяданні. Летам 1930 г. пісьменнік правёў адпачынак на хутары Івана Шыманскага, які і знаходзіўся паблізу вёскі Патрэба.

**Вёска Прылукі** Сенніцкага сельсавета

На мясцовых могілках пахаваны **Бечык Варлен** (25.6.1939—13.11.1985), крытык, літаратуразнавец.

Месца прабывання рускага празаіка **Конанава Івана.** Нарадзіўся 5.10.1942 г. у таёжным сібірскім сяле Уюк Пій-Хемскага раёна Тувінскай АССР. Пасля заканчэння сярэдняй школы (1961) быў прызнаны на службу ў Савецкую Армію, у канцы службы паступіў у Ленінградскі інстытут сувязі, пасля чаго яго размеркавалі на Мінскую станцыю тэхнічнага радыёкантролю (1969). Потым быў паўторна мабілізаваны ў армію (1971), служыў у Прыбалтыцы камандзірам узвода сувязі, затым паехаў на Далёкі Усход, дзе да выхаду на пенсію (2004) працаваў на Уладзівастоцкім заводзе «Радыёпрыбор». Вярнуўся да сына ў Беларусь, Прылукі пад Мінскам, пражывае там і цяпер. Яго першая кніга «Непрыдуманыя апавяданні паляўнічага-прамыславіка» была выдадзена «Беллітфондам» у 2006 г. Творы І. Конанава змяшчаліся ў беларускіх часопісах, перадрукоўваліся ў Маскве.

Вёсцы прысвяціла верш з аднайменнай назвай **Янішчыц Яўгенія.**

Гэта ўсё — як праз дзіўныя сны:
Не было ж ні сустрэч, ні разлукі.
Ды ў зялёным канверце вясны
Прысылалі мне сонца Прылукі.
Гэта ўсё — як праз лісце і дождж:
Пераззвоны гадоў, перастукі.
...Бы па снезе іду басанож —
Скрушна сцелецца сцежка ў Прылукі.

**Вёска і двор Пятроўшчына,** з 1978 г. у складзе Мінска

**Чурлёнітэ-Зубавене Данутьы Соф'і** (12.6.1910—?), польскай пісьменніцы, драматурга, празаіка, перакладчыцы, радзіма. Дачка літоўскага мастака Мікалаюса Чурлёніса.

**Вёска Пяцеўшчына** Крупіцкага сельсавета

**Быкоўскага Ігнацыя** (1750—1817), польскага асветніка, гуманіста, літаратара, радзіма. Вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Мінску і піярскай школе ў Віцебску. Удзельнічаў у руска-турэцкай вайне 1768—1774 гг., выйшаў у адстаўку, жыў на радзіме. Аўтар філасофскага эсэ «Праблема, якую трэба даследаваць...» (Мінск, 1790).

**Фальв. Раговічы,** не існуе, знаходзіўся ў Старасельскай воласці, за 8 км ад Ратамкі

Сям'я Луцэвічаў у 70-я гады XIX ст. арандавала гэты фальварак. Тут Дамінік Луцэвіч, Бацька **Купалы Янкі**, у 1879 г. ажаніўся з Бянігнай Валасевіч.

**Пас. Ратамка** Ждановіцкага сельсавета

Сюды прыязджаў у канцы 1916 г. **Багдановіч Максім,** працуючы сакратаром Мінскай губернскай харчовай камісіі, разам з Л. Сівіцкай (**Верас Зоськай**). Наведваў прытулак, арганізаваны для дзяцей бежанцаў. Свае ўражанні выказаў у артыкуле «Беларускі бежанскі прытулак».

Разам з бацькамі апынуўся ў бежанстве будучы рускі пісьменнік **Салагуб Фёдар.** Жылі ў Ратамцы.

**Вёска Саламарэчча** Папярнянскага сельсавета

У Саламарэцкім манастыры з 1601 г. жыў **Сматрыцкі Мялецій,** грамадска-палітычны і царкоўны дзеяч, пісьменнік-палеміст, ураджэнец мяст. Смотрыч (цяпер Дунаявецкі р-н Хмяльніцкай вобл., Украіна), быў законанастаўнікам дзяцей князя Саламарэцкага. Тут напісаў свой «Плач» супраць уніі. Каля 1607 г., вярнуўшыся з Еўропы, некаторы час жыў у гэтым маёнтку.

**Вёска Сенніца**, цэнтр сельсавета

**Жанчака Барыса** (н. 20.9.1937 г.), паэта, педагога, радзіма. Скончыў філфак БДУ (1962), настаўнічаў у Брэсцкай вобл. і Мінску, працаваў галоўным рэдактарам радыёчасопіса «Таварыш» Беларускага таварыства інвалідаў па зроку. Многія яго вершы пакладзены на музыку Ларысай Сімаковіч. Аўтар зборнікаў паэзіі «ВераГОДнасць», «Хлеб веры», «Жменя насення», «Прысутнасць», «Некалі потым», «Падарунак», «Дальняй сцяжынай».

У 1889—1890 гг. сям’я бацькоў **Купалы Янкі** Луцэвічаў арандавала ў гэтай вёсцы зямлю ў пана Турчынскага. У 1889 г. будучы паэт вучыўся ў Сенніцкім двухкласным вучылішчы, якое існавала пры царкве, у настаўніцы А. Сонцавай. Адсюль у 1896 г. Луцэвічы пераехалі ў Мінск. У 1982 г. **Сенніцкай СШ** прысвоена імя Купалы Янкі, на будынку ўстаноўлена мемарыяльная дошка, у чэрвені 1982 г. адкрыты музей. У экспазіцыі — 500 экспанатаў. У 1996 г. была створана новая экспазіцыя ў новым будынку школы.

У мясцовай школе вучыўся **Шушкевіч Станіслаў**, паэт, ураджэнец в. *Бакінава* Дзяржынскага р-на. Ён падараваў мясцовай школе свае зборнікі твораў, рэдкія здымкі, успаміны пра Янку Купалу.

**Бровар Сёмкава** Папярнянскага сельсавета

Восенню 1905 г. сюды паступае практыкантам **Купала Янка** да вінакура Сарнецкага на бровар памешчыка Р. Хялхоўскага. Фактычна ён тут быў чорнарабочым. У аўтабіяграфіі 1926 г. паэт успамінаў: «Зазнаў там такога пекла, якога яшчэ дагэтуль не меў». Незадаволены абставінамі і ўмовамі працы, вясной 1906 г. Купала пакінуў Сёмкава і перайшоў на бровар у Яхімоўшчыну, цяперашняга Маладзечанскага р-на.

З 20.4. па 1.6.1922 г. **Колас Якуб** сюды быў «звольнены ў водпуск» з Акадэмічнага цэнтра Наркамасветы БССР. Да 1 кастрычніка 1922 г. ён знаходзіўся на пасадзе бухгалтара вучэбнай фермы «Сёмкава».

**Вёска Сёмкаў Гарадок** Папярнянскага сельсавета

**Стэфановіча Пятра** (псеўд. П. Вядомы, П. Старко; 22.6.1922—13.6.2006), перакладчыка, празаіка, драматурга, радзіма. З сям’і рабочага. З Сёмкавага Гарадка ён пераехаў ў Ашмяны, на радзіму маці, дзе ў яе быў невялікі кавалак зямлі. У 1939 г. П. Стэфановіч скончыў агульнаадукацыйную гімназію. У канцы 1930-х гадоў пачаў пісаць вершы на польскай мове, а потым і на беларускай. Друкуецца з 1941 г. У 1941 г. працаваў да вайны літсупрацоўнікам ашмянскай раённай газеты «Знамя свабоды». У час вайны эвакуіраваўся ў Тамбоўскую вобласць, адкуль быў прызваны ў армію. У 1942 г. скончыў курсы малодшых лейтэнантаў у Забайкальскай ваеннай акрузе. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1944 г. ваяваў у складзе 1-й пяхотнай дывізіі Польскай арміі. Дэмабілізаваны ў 1950 г. У 1950—1969 гг. працаваў на розных будоўлях, быў начальнікам аддзела капітальнага будаўніцтва ў Мінскім аблвыканкаме, інжынерам у Беларускім аддзяленні Літфонду (1969—

1979), прымаў удзел у будаўніцтве Дома літаратара ў Мінску, праектаванні Дома творчасці «Іслач». Працаваў літрэдактарам у часопісе «Вожык» (1979—1984). З 1984 г. пенсіянер. Сістэматычна друкаваўся з 1964 г. у перыядычным друку Беларусі і замежжа. Пахаваны на Кальварыйскіх могілках.

**Вёска Слабодка** Рагаўскога сельсавета

Сюды з Прудзішча хадзіў вучыцца **Купала Янка**. Тут другую палову зімы (пасля Аўгустова) жыў Купала ў бацькавага знаёмага Ляскоўскага (1891—1892).

**Вёска Тарасава** Ждановіцкага сельсавета

**Астрожскія**, асветнікі і друкары, калісьці валодалі гэтай вёскай. Адзін з іх — **Астрожскі Канстанцін** (у хрышчэнні Васіль; 1527. г. Тураў — 21.3.1608). У яго гонар у 2008 г. тут была адкрыта мемарыяльная дошка, асвечаны звон ў гонар 400-годдзя ягонай маці (самы вялікі на Міншчыне). Побач з храмам закладзена алея ў гонар князя. Які заснаваў школы ў Слуцку і Тураве, друкарню ў Астрогу (Украіна).

**Вёска Хацянаўшчына** Рагаўскага сельсавета

**Гарэлік Любові** (н. 16.03.1941), літаратуразнаўца, крытыка, радзіма. З сялянскай сям'і. Скончыла Ракуцевіцкую СШ (1958), філфак БДУ (1964). Працавала настаўніцай у пасёлках Краснасельскім і Радашковічах. Пасля заканчэння аспірантуры ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР (1971) працавала там жа навуковым супрацоўнікам. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар кніг «Аляксей Пысін» (1981), «Зямля бацькоў дала мне права» (1983), «Сатыры слова гнеўнае» (1989).

* * *

Родам з Міншчыны быў архімандрыт Спаса-Яраслаўскага манастыра **Іоіль** (Іаан Быкоўскі), які перадаў спіс «Слова аб палку Ігаравым» Мусіну-Пушкіну. Быў адукаваным чалавекам, валодаў асноўнымі еўрапейскімі і старажытнымі мовамі. Напісаў трактат (1787) аб ісціне, дзе з пазіцый гуманізму асудзіў войны, бесчалавечнасць эксплуатацыі.

## Мядзельскі раён

### г. Мядзел

**Вул. Ленінская, 1**

**Сярэдняя школа № 1**

З верасня 1990 г. школа носіць імя беларускага паэта, празаіка, перакладчыка **Дубоўкі Уладзіміра**, ураджэнца в. *Агароднікі* Пастаўскага р-на Віцебскай вобл. З 1912 да 1914 г. ён вучыўся ў Мядзельскім двухкласным вучылішчы. У школе ёсць літаратурна-мемарыяльны музей, які з'яўляецца філіялам Мядзельскага музея народнай славы. Сярод экспанатаў — асабістыя рэчы пісьменніка (касцюм, гальштукі, вытканыя ў беларускім нацыянальным стылі, кіёк і інш.), копіі разнастайных дакументаў. Залу ўпрыгожвае бронзавы бюст (скульптар Г. Мурамцаў). У кніжцы апавяданняў-успамінаў «Пялёсткі» (Мн., 1973. С. 60) Дубоўка сцвярджаў: «У ліку дзвюх найлепшых школ дарэвалюцыйнай Віленшчыны была Мядзельская». Шмат цікавага аб вучобе У. Дубоўкі можна прачытаць у яго аўтабіяграфіі (Пяцьдзясят чатыры дарогі: аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. Мн., 1963. С. 197—198). Родным мясцінам прысвяціў верш «Ля Мядзела ёсць возера адно».

**Вуліца В. Шаранговіча, 1**

**Мядзельская цэнтральная раённая бібліятэка імя Максіма Танка**

У бібліятэцы ёсць краязнаўчы куток, дзе прадстаўлены творы мясцовых аўтараў

**Мядзельскі музей народнай славы**

Створаны ў пачатку 1968 г., адкрыты для наведвальнікаў 18.3.1969 г. Пасля ўзвядзення для музея новага будынка зноў адкрыты ў маі 1989 г. Асноўны фонд налічвае (2008) 18 948 адзінак захоўвання. Агульная плошча экспазіцыйных памяшканняў складае 563 $м^2$. У экспазіцыі «Сучаснасць і людзі» прадстаўлены жыццё і творчасць ***Танка Максіма*** і іншых пісьменнікаў, якія нарадзіліся і жылі на мядзельскай зямлі. Філіял музея, прысвечаны спадчыне ***Дубоўкі Уладзіміра,*** знаходзіцца пры гарадской сярэдняй школе № 1, якая носіць імя паэта.

***Плошча В. Шаранговіча***

На ёй знаходзіўся будынак, дзе ў 1912—1914 гг. разам з бацькамі і братамі жыў беларускі паэт, празаік, перакладчык **Дубоўка Уладзімір**.

* * *

**Казапалянскай (Капы) Наталлі** (н. 17.8.1973), паэтэсы, радзіма. Скончыла БДУ (1995). Працуе ў часопісе «Нёман». Літаратурнай работай займаецца з 1989 г. Аўтар зборніка вершаў «Панна Каханка» (1998).

**Кручэнка Тамары** (н. 30.5.1955), паэтэсы, радзіма. Яе бацька Віктар, шафёр і гарманіст, прышчапіў ёй любоў да чытання, казаў, што іграў на вяселлі **Танка Максіма.** У 1972 г. скончыла Мядзельскую СШ, затым філалагічны факультэт БДУ. З 1977 г. жыве і працуе ў Гомелі. Цяпер — у газеце «Гомельская праўда». Друкуецца з 1975 г. Падборкі вершаў змяшчаліся ў калектыўных зборніках «Вёсны», «Край непаўторны», «Прайсці праз зону» і інш. Лаўрэат у жанры публіцыстыкі Гомельскага абласнога літаратурнага конкурсу «Памяці Івана Мележа». Аўтар паэтычнай кнігі «Край бацькоўскі» (Мазыр, 2007), «Ад берагоў Дзясны да Сожа» (разам з Ліліяй Бандарэвіч-Чарненкай, Чарнігаў, 2007). Большасць вершаў паэтэсы прысвечана Мядзельскаму краю.

***Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС***

***Працяг у наступным нумары.***